Алесь Белакоз

# МУЗЕЙ
## у Гудзевічах

*Гісторыка-краязнаўчыя артыкулы*
*Кніга першая*

Мінск
«Кнігазбор»
2012

УДК 391/395(476)+929 Белакоз
ББК 63.5(4Беи)
Б43

Укладанне і прадмова
Сяргея Чыгрына

**Белакоз, А.**

**Б43** Музей у Гудзевічах : гісторыка-краязнаўчыя артыкулы. Кніга першая / Алесь Белакоз ; уклад. і прадм. С. Чыгрына. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 200 с.

ISBN 978-985-7057-12-2.

Пра родную зямлю, пра людзей і добрыя справы, пра Гудзевіцкі дзяржаўны літаратурна-краязнаўчы музей Мастоўскага раёна разважае ў сваёй кнізе заслужаны работнік культуры Беларусі Алесь Мікалаевіч Белакоз.

Кніга разлічана на шырокае кола чытачоў.

**УДК 391/395(476)+929 Белакоз**
**ББК 63.5(4Беи)**

**ISBN 978-985-7057-12-2**

# УСПАМІНЫ АЛЕСЯ БЕЛАКОЗА

Кнігу, якую вы, сябры, трымаеце ў руках, напісаў заслужаны работнік культуры Беларусі Алесь Мікалаевіч Белакоз — чалавек, якога ў Беларусі ведаюць усе. Не бывае дня, каб людзі не тэлефанавалі яму альбо не прыехалі да яго ў Гудзевічы, што на Мастоўшчыне, каб асабіста пабачыцца і пагутарыць з ім. Гэта кніга не толькі пра лёс дзяржаўнага літаратурна-краязнаўчага музея, створанага на базе школьнага літаратурна-краязнаўчага музея ў Гудзевічах. Гэта кніга пра тыя падзеі, якія адбываліся ў вёсцы на працягу некалькіх стагоддзяў, пра тых людзей, якія дапамагалі і стваралі разам з Алесем Мікалаевічам і вучнямі гэты музей. А таксама пра тых, хто шкодзіў музею, хто не хацеў, каб ён быў, існаваў, дзейнічаў.

Школьны музей у Гудзевічах прыняў сваіх першых наведвальнікаў 2 лютага 1968 года. Яго адкрыццё было прымеркавана да 130-годдзя з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. Першыя экспанаты датуюцца 1965 годам. Менавіта тады дзеці пад кіраўніцтвам Алеся Мікалаевіча Белакоза пачалі пісаць лісты пісьменнікам, мастакам, дзеячам навукі і культуры з просьбай даслаць выказванне пра беларускую мову, чарнавік ці рукапіс свайго твора, кнігу з аўтографам. Калі назбіралася многа матэрыялаў — і быў адчынены школьны літаратурна-краязнаўчы музей. Спачатку музей размяшчаўся толькі ў адным пакойчыку, а калі ў 1981 годзе пабудавалі новую двухпавярховую школу, тады пад музей аддалі цэлы будынак старой школы, які размясціў чатыры экспазіцыйныя залы і калідор. Яны былі адчынены ў 1984 годзе.

Яшчэ ў 1980 годзе мясцовы калгас дапамог перавезці з вёскі Семярэнкі да музея хатку, пабудаваную ў канцы XVIII стагоддзя. Першая экскурсія ў ёй была праведзена 6 студзеня 1981 года. А пазней калгас дапамог перавесці да хаткі свіронак. У 1990 годзе загадам Гродзенскага ўпраўлення культуры № 10 ад 12 лютага 1990 года на аснове рашэння Мастоўскага раённага Савета народных дэпутатаў № 269 ад 17 студзеня 1990 года музей у Гудзевічах стаў дзяржаўным.

Тады ж пад музей быў перададзены другі школьны будынак, дзе ў гэты ж год была адчынена зала «Народная медыцына», праект якой бясплатна зрабіў мастак Алесь Ступень. У гэтым жа будынку ў 1990 годзе былі афармлены дзве залы «Лёну і народнага ткацтва», дзе сабраны ўсе прылады, якія патрэбны для таго, каб лён ці воўна ператварыліся ў тканіну, паказаны ўсе ўзоры тканін, якія вырабляліся ў тамтэйшай мясцовасці, а таксама ўнікальная калекцыя падвойных дываноў. Потым адчыніліся экспазіцыйныя залы. А ў 1997 годзе была зроблена зала «Гісторыя Гудзевіч у дакументах і фотаздымках» і г. д.

Так паціху музей пашыраўся і жыў. Хаця ў стварэнні яго, у пошуках матэрыялаў існавала нямала перашкод. Але іх змог адолець няўрымслівы і апантаны справай Алесь Белакоз. Чалавек-легенда, якім мы павінны заўсёды ганарыцца. І мы ганарымся ім — народным настаўнікам, збіральнікам, музейшчыкам, краязнаўцам, літаратарам, вялікім беларусам XX — пачатку XXI стагоддзя. Алесь Мікалаевіч — шчыры і мужны беларус, патрыёт, чалавек, для якога Беларусь — сэнс усяго жыцця.

Кніга «Музей у Гудзевічах» — доказ таго, як няпроста і нялёгка ствараліся падобныя беларускія музеі. Колькі папахадзіў, паабіваў парогаў Алесь Мікалаевіч дзеля свайго музея! Яму запісвалі вымовы, наладжвалі ў школе праверкі, абзывалі нацыяналістам, цягалі ў КДБ, а ён рабіў сваю справу, рабіў упарта і натхнёна, спакойна і… заўсёды. Не ўсё задуманае ім спраўдзілася, адбылося, захавалася для нашчадкаў. Але ён вытрымаў, перажыў, адолеў.

Гэта кніга — жменька праўдзівых успамінаў мудрага настаўніка з Гудзевічаў. Каб мы жылі, каб жыла ў свеце Беларусь, каб жыла наша мова, каб захавалася наша багатая спадчына. Верыцца, што кніга Алеся Белакоза прачытаецца з цікавасцю. Яна навучыць многіх з нас не спыняцца перад цяжкасцямі, перад сваімі марамі і задумкамі, не здавацца перад тымі, хто хоча знішчыць нашу беларускасць.

*Сяргей ЧЫГРЫН*

## ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА ПРА МУЗЕЙ



Гудзевіцкі дзяржаўны літаратурна-краязнаўчы музей быў заснаваны ў 1965 годзе ў Гудзевіцкай сярэдняй школе Мастоўскага раёна. Адчынены для наведвання 2 лютага 1968 года. Статус дзяржаўнага набыў у 1990 годзе. Мае 12 экспазіцыйных залаў (пл. 729 кв. м), больш за 12 тыс. экспанатаў (1992). У музеі ёсць аддзелы: сялянская хата XVIII ст., літаратурна-краязнаўчы, этнаграфічны, лёну і ткацтва, народнай медыцыны, жывапісу, графікі, скульптуры. У час стварэння літаратурна-краязнаўчага аддзела кансультантамі музея і ахвяравальнікамі былі С. Александровіч, Я. Брыль, З. Верас, В. Вітка, А. Вярцінскі, Л. Геніюш, Н. Гілевіч, У. Караткевіч, Г. Кісялёў, А. Мальдзіс, І. Мележ, П. Панчанка, М. Прашковіч, А. Пяткевіч, Ю. Семяняка, У. Сцяцко, Ю. Тарасевіч, М. Ткачоў, Ю. Туронак, Ф. Янкоўскі, С. Яновіч.

У экспазіцыі музея — сялянская хатка з абпілаванага дрэва, накрытая саламяным дахам, прадметы сялянскага побыту, у тым ліку куфар, калыска з лазы, самаробныя цымбалы, выцінанкі, вырабы з саломкі, жорны, драўляны плуг, барана, каменны рукамыйнік паганскага часу. Сярод экспанатаў літаратурна-краязнаўчага аддзела — лісты, успаміны беларускіх пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, археолагаў, гісторыкаў, у якіх аўтары даюць трактоўку сваіх твораў, апавядаюць пра літаратурных герояў, дзеячаў навукі, культуры, літаратуры, выказваюць свае адносіны да роднай мовы, гісторыі роднага краю; захоўваюцца творы, фотаздымкі М. Багдановіча, М. Гарэцкага, У. Дубоўкі, У. Караткевіча, Я. Коласа, М. Лынькова, М. Машары, Цёткі, літаратараў Балгарыі, Польшчы, Расіі, Украіны, Чэхіі. Экспануюцца: грамата караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста, пісаная ім 6.5.1793 у Гродне да стольніка Шукевіча з прычыны склікання апошняга сойму Рэчы Паспалітай, матэрыялы пра беларускіх першадрукароў, лісты Алеся Адамовіча, Генадзя Кісялёва, кнігі з аўтографамі Ляваса Уладзіміраваса «Франциск Скорина —

первопечатник вильнюсский», Я. Парэцкага «Сымон Будны», Алеся Петрашкевіча «Напісанае застаецца», буклет «Чэшскія першадрукары і асветнікі», дасланы ў 1970-х гадах М. Забэйдам-Суміцкім, юбілейны медаль «Да 450-годдзя беларускага кнігадрукавання». Ёсць тут матэрыялы, якія распавядаюць пра ўдзел мясцовых сялян у паўстанні 1863 года, успаміны паўстанца Язэпа Шэмета з вёскі Дубляны Гудзевіцкай воласці, беларускі рукапіс даследавання прафесара Варшаўскага ўніверсітэта У. Стохаля «Дзе выдавалася "Мужыцкая праўда"»; патрыятычныя творы М. Арла, які ў 1910–1912 гадах працаваў настаўнікам у вёсцы Струга Гудзевіцкай воласці; падшыўка газеты «Наша Ніва» за 1909 год, арыгіналы першых выданняў твораў Ф. Багушэвіча з ягоным здымкам XIX стагоддзя, В. Дуніна-Марцінкевіча, Цёткі, выданні твораў вуснай народнай творчасці пачатку XX стагоддзя, часопісы «Беларуская борць» і «Заранка» з аўтографамі Зоські Верас, яе ўспаміны пра Гарадзенскі гурток беларускай моладзі і арыгіналы фотаздымкаў гэтага гуртка, беларускія календары пачатку XX стагоддзя, адрыўныя календары 1930-х гадоў, лемантар «Зоркі» Аркадзя Смоліча (Менск, 1918), «Беларуская граматыка для школ» Браніслава Тарашкевіча (Вільня, 1919), матэрыялы пра пісьменнікаў, артыстаў, нумары машынапіснага альманаха «Праменьчык» літаратурнага гуртка Гудзевіцкай школы і рады музея, у якім сярод іншых ёсць раздзелы фальклору, тапанімікі, антрапаніміі, этнаграфіі, гісторыі Гудзевіцкага рэгіёна. У аддзеле народнай творчасці экспануюцца вырабы з косці, каменя і крэменю (часоў неаліту), вырабы мясцовых кавалёў XVIII–XX стагоддзяў, калекцыя падвойных дываноў, перабірыстых, паласякоў, прылады для апрацоўкі лёну і рэчы з яго (посцілкі, абрусы, ручнікі, адзенне), вырабы з саломкі, лазы, дрэва, ганчарныя вырабы (кафля XVII–XX стагоддзяў, дахоўка, посуд, грузілы. У аддзеле жывапісу, графікі, скульптуры — творы А. Багустава, Я. Куліка, А. Кашкурэвіча, У. Кіслага, М. Купавы, А. Ліпеня, Г. Лойкі, Г. Мазурава, А. Марачкіна, А. Масяйкова, Б. Сергавіцкага, П. Сергіевіча, Л. Трахалёвай, У. Церабуна. У аддзеле народнай медыцыны сабраны зёлкі і апісанне іх вы-

карыстання, спосабы народных прыёмаў лячэння. Афармляецца зала народнага адзення. У бібліятэцы музея больш за 2 тысячы экзэмпляраў кніг разнастайнай тэматыкі, з іх 462 — медыцынская літаратура са збораў Я. Геніюша, М. Марцінчыка, І. Нічыпарука. У адной з залаў музея на 6 кроснах супрацоўніцы музея і вучні 5–11-х класаў Гудзевіцкай СШ ткуць падвойныя дываны, посцілкі, абрусы, узорыстыя ручнікі, фартухі, паясы, гальштукі, закладкі і г. д.

*1992*

## ПАХОДЖАННЕ НАЗВЫ ВЁСКІ ГУДЗЕВІЧЫ

Вялікія князі літоўскія, асабліва Вітаўт, узмацняючы сваю ўладу, абапіраліся на старыя беларускія гарады. У сувязі з гэтым утварылі некаторую колькасць асад літоўскіх і беларускіх баяраў для службы ў замку і пры двары. Іх вёскі знаходзіліся паблізу гарадоў і каля шляхоў зносін, ля пераправаў цераз рэкі. На Гродзеншчыне асадніцтва развіваецца ўздоўж Свіслачы і адзінай у той час дарогі, якая злучала Літву з Падляшшам. На гэтым шляху змешчаны, відаць, пры Вітаўце на абодвух берагах ракі шнур вёсак дробных баяраў, пераважна літоўскага паходжання: пачынаючы ад поўначы Кузьмічы, Занявічы, Станявічы, Цідзікі, Гліндзічы, Едкавічы, Глебавічы, Пачабыты, Уснар, Ігнатавічы, Кудрычы, Палуяны, Вялікія і Малыя Эйсманты, Генюшы, Габяты, Нятупа.

Асаднікі літоўскіх баяр у нашай мясцовасці даходзілі да Эйсмантаў. З архіўных дадзеных вядома, што яшчэ ў 1820 годзе Ляткі (суседняя з Гудзевічамі вёска) належалі да маёнтка Эйсманты. Вядома, што беларусаў тут называлі гудамі.

Верагодна, што мясцовая шляхта, якая жыла ў Эйсмантах, магла нашу мясцовасць называць гудаямі (беларусамі) або Гудзевічамі (беларусець — гудзеці).

У грамаце, пісанай у 1539 годзе, біскуп Віленскі, князь Павел Кежан сцвярджае, што ў Гудзевічах даўно існавала царква.

У 1852 годзе была пабудавана мураваная царква, якая захавалася да нашых дзён.

Школа ў Гудзевічах была адчынена ў 1863 годзе ў грамадскім будынку. Тут у 1919–1920-х гадах вучылася беларуская пісьменніца Ларыса Геніюш.

У 1812 годзе каля Гудзевічаў адбыўся бой казакоў Платава з перадавымі атрадамі конніцы Жэрома Банапарта. У вёсцы ёсць помнік 166 землякам, якія загінулі падчас Другой сусветнай вайны.

*1991*

## З ГІСТОРЫІ ГУДЗЕВІЦКАЙ ПРАЧЫСЦЕНСКАЙ ЦАРКВЫ

У архіве Гудзевіцкай царквы да 1960 года захоўваліся дзве копіі даравальных грамат каралёў Сігізмунда III і Уладзіслава IV, у якіх гаварылася пра надзяленне Гудзевіцкай царквы «Святое Пречистое» (так указана ў граматах) ворнай і сенакоснай зямлёй.

Гэтыя граматы больш як тры стагоддзі знаходзіліся ў царкоўных справах у самім храме, а дзе яны цяпер знаходзяцца ці кім знішчаны — невядома.

Ва ўсялякім выпадку гэтыя дакументы сведчаць пра існаванне ў пачатку XVII стагоддзя ў Гудзевічах храма (праваслаўнага, а пазней уніяцкага), а пры ім парафіі.

Храм быў драўляны, трухлявы, ён да канца XVIII стагоддзя быў заменены новым, таксама драўляным, які прастаяў на гэтым месцы да канца 1940-х гадоў. Побач з гэтым будынкам быў пабудаваны новы каменны храм, высвенчаны ў верасні 1852 года.

Вакол храма знаходзіўся старажытны могільнік, слядоў якога не захавалася.

Стары драўляны храм быў перанесены ў Семірэнкі і лічыўся прыпісной царквою (пасля Першай сусветнай вайны, пры польскай уладзе, згарэў ад невядомай прычыны).

Новая царква ў Гудзевічах, высвенчаная ў 1852 годзе, патрабавала капітальнага рамонту: былі выяўлены расколіны ў

сценах — вынік нядобрасумленна выкананых пры мураванні сцен работ.

Стараннем парафіян і руплівасцю настаяцеля протаіерэя Віктара Абрамовіча былі выкананы работы па перабудове сцен храма, затым зроблены дзве прыбудоўкі, дзякуючы чаму царква прыняла крыжападобную форму. Пра гэта сведчыць надпіс на мармуровай табліцы ў сярэдзіне царквы, умураванай у сцяну. Гэты рамонт быў зроблены ў 1877 годзе. Здаўна ў Гудзевіцкай царкве знаходзіцца шанаваны абраз Божай Маці «Адзігітрыі», у асаблівым кіёце, упрыгожаны вызалачанай рызай. Пра гэту ікону ў дакументах царквы на польскай мове запісана: «образ Маткі Боскей в Гудзевічах, цудамі слынонцы».

Усе гэтыя звесткі пра Гудзевіцкую царкву былі запісаны пераемнікам айца В. Абрамовіча протаіерэем Міхаілам Кузьмінскім у складзеным ім на падставе старажытных рукапісных дакументаў «Летапісе Гудзевіцкай царквы», які таксама да 1960 года захоўваўся ў царкве.

У 1909 годзе да царквы з уваходнага боку была прыбудавана стройная трох’ярусная званіца, з цэглы, на фундаменце з часанага каменю, вельмі прыгожай архітэктуры.

Гэта прыбудоўка змяшчае ў сабе прытвор, сходы на званіцу і справа два пакоі ў два паверхі.

На званіцы размешчаны вялікі, вельмі мілагучны звон, які важыць каля 50 пудоў.

Унія Праваслаўнай царквы з Рымам, прымусова ўведзеная ў 1596 годзе польскім урадам на землях Украіны і Беларусі, не адразу і не ўсюды была прынята праваслаўным насельніцтвам нашых зямель: у многіх месцах ішла барацьба праваслаўных з прыхільнікамі царкоўнай уніі на працягу амаль усяго XVII стагоддзя. У гісторыі Украіны і Беларусі падрабязна апісаны этапы гэтай няроўнай барацьбы, якая ўсюды скончылася перамогай уніятаў.

Праваслаўныя храмы сталі ўніяцкімі з дамамі і зямельнымі надзеламі.

Такі ж лёс спаткаў і прыход Гудзевіцкай царквы: храм стаў уніяцкім.

Пасля ліквідацыі уніі на ўсёй Беларусі ў 1839 годзе, калі былыя ўніяты вярнуліся ў праваслаўе, зноў стаў праваслаўным і Гудзевіцкі храм.

У архіве царквы захоўваліся і дакументы часоў уніі, на рускай і польскай мовах: метрыкі, вопісы маёмасці і іншыя на старой, пажоўклай ад часу шэрай паперы з выцвілым чарнілам.

У 1929–1930 гадах, падчас польскай улады ў Заходняй Беларусі, каталіцкі епіскап тагачаснай Польшчы пачаў судзіцца з Праваслаўнай царквой з мэтай забраць каля 700 храмаў з будынкамі, з зямельнымі «ўгоддзямі», матывуючы гэта тым, што большая частка храмаў у час уніі ў 1596–1839 гадах была ўніяцкай. Гэта неразумнае дамаганне каталіцкага епіскапату на нашыя храмы не знайшло спачування і падтрымкі вышэйшых судовых уладаў Польшчы і было асуджана на правал.

Гудзевіцкай царкве таксама пагражала небяспека ператварэння яе ў касцёл і перадача ў карыстанне мясцовых католікаў, хаця каменны храм пабудаваны ў 1852 годзе, г. зн. праз 13 гадоў пасля ліквідацыі уніі ў нашай краіне.

Акрамя могілак, якія існуюць на тэрыторыі парафіі, былі вясковыя могілкі, і пры іншых вёсках парафіі. Сляды такіх магільнікаў ёсць каля вёскі Струга (захавалася шмат магільных камянёў), на ўзгорку каля Пілкоў, недалёка ад Ляткоў (слядоў не захавалася, дзе цяпер свінарнік), заўважана мною, пры ўездзе ў лес з боку вёскі Міткавічы, поблізу вёскі Семірэнкі, дзе знаходзілася калісьці прапісная Пакроўская драўляная царква, пра якую гаварылася вышэй. На гэтых могілках і цяпер жыхары вёскі Семірэнкі хаваюць памерлых. Ёсць шмат магіл, крыжы і помнікі.

Побач з царквой у Гудзевічах знаходзяцца магілы святароў, былых настаяцеляў парафіі: каменны надмагільны надпіс протаіерэя Іаана Гладкоўскага, помнік на магіле протаіерэя Віктара Абрамовіча (з жалезнай агароджай), помнікі на магілах з жалезнымі агароджамі протаіерэя Міхаіла Кузьмінскага і протаіерэя Уладзіміра Кавэцкага. Акрамя гэтага ёсць помнікі на магілах жонак былых настаяцеляў царквы, пахаваных каля царквы, а таксама магілы іншых асоб.

Протаіерэй Міхаіл Гапонік быў настаяцелем Гудзевіцкай царквы ў 1947–1956 гадах. Пасля выхаду на пенсію жыў у вёсцы Кулёўшчына. Протаіерэй Міхаіл Гапонік цікавіўся гісторыяй Гудзевіцкай царквы. Яшчэ ў 1949 годзе ён паказваў мне граматы польскіх каралёў, напісаныя на старажытнай беларускай мове. Летапіс Гудзевіцкай царквы ўдалося знайсці ў Ваўкавыску.

*1970*

## ДРУГАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА І ГУДЗЕВІЧЫ

Акупацыя Польшчай Заходняй Беларусі была не менш цяжкаю за нямецкую ці савецкую: расстрэлы і зняволенне беларускіх патрыётаў, паступовае знішчэнне беларускіх школ. Апошняя віленская беларуская гімназія была зачынена літаральна за некалькі дзён да пачатку Другой сусветнай вайны, у канцы жніўня 1939 года.

Побач з Гудзевічамі былі маёнткі Гудзевічы, Радзявічы, Барысаўшчына, Духаўляны, Масаляны, Сямашкаўшчына, Сучакі, Суцькі, Воля. Калі выпусціў кароўку папасвіцца, то яна адразу трапляе на панскае поле. Польскія ўлады не дазвалялі беларусам працаваць на зносных пасадах у дзяржаўных установах, на фабрыках, заводах. Таму нашы юнакі і дзяўчаты мелі магчымасць працаваць толькі служанкамі, парабкамі, пастухамі. Нават калі беларус меў грошы, то зямлі не мог купіць, бо «польска земя для полякув». Вучыцца дзеці беларусаў таксама не маглі: іх не прымалі ў гімназіі ды ўніверсітэты. Таму калі 1 верасня 1939 года немцы аб'явілі вайну Польшчы, то ўва ўсіх нас было і пачуццё страху, што вайна — гэта людскія ахвяры, пажары, голад, эпідэміі, але цешыла, што ненавісныя акупанты будуць выгнаны з нашай зямелькі. Хоць нашых братоў ды бацькоў мабілізавалі ў польскае войска, але паміраць за Польшчу беларусы не збіраліся.

У некаторых былі дэтэктарныя радыёпрыёмнікі са слухаўкамі. Такое радыё маглі слухаць адначасова два чалавекі: адзін у адну слухаўку, а другі ў другую. Янушчыкі з вёскі Ляткі (тры

сям'і) купілі радыё з глоснікам, якое маглі слухаць усе прысутныя.

17 верасня 1939 года савецкае радыё аб'явіла, што Чырвоная Армія ідзе вызваляць Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну. Гэта выклікала велізарную радасць: нарэшце прыйдуць свае. Сяляне з Ляткоў адразу рушылі ў гміну забіраць уладу. Там знайшлі такую-сякую зброю. Мой тата, як былы кавалерыст, узяў сабе шаблю. Праўда, назаўтра ўсю зброю зноў сабралі ў гміну (сельсавет). Калі мы даведаліся, што сюды ідзе Чырвоная Армія, то мая сястра Вера пачала танцаваць. Мама ёй казала:

— Дурнічка, чаго цешышся? Гэта ж ідуць зладзеі, жулікі: тут пачнецца голад, расстрэлы, арышты, злачынствы. Я бачыла бальшавікоў у Харкаве, калі была ў бежанстве. Прыходзяць чырвоныя: усюды голад, на рынках ні душы. Горад галадае, а вакол арышты, расстрэлы, вісельні. Прыходзяць белыя: на рынку можна купіць усё, што ёсць у свеце, а арыштаў хапала і ў іх, і яны вешалі, расстрэльвалі. На шчасце, бежанцаў амаль не чапалі ні белыя, ні чырвоныя.

А Вера пярэчыць:

— Цяпер будзем вучыцца па-беларуску, сяляне атрымаюць панскую зямлю, на фабрыках, заводах, ва ўстановах будуць працаваць і беларусы, і палякі, і габрэі, нікога беспадстаўна не будуць звальняць з працы.

— Усё так гладка на паперы, а ў жыцці інакш. Сама ў гэтым хутка пераканаешся, — не здавалася мама.

Вільню савецкая ўлада аддала Літве, а беларускую гімназію перавялі ў Навагрудак. Паехала туды і Вера. Цешылася, што матэматыку ў іх, як і раней, выкладае Барыс Кіт. Гімназісты захапляліся ім і як выкладчыкам, і як кіраўніком, і як чалавекам. У інтэрнаце страшэнны холад, есці няма чаго. Прывезлі ад кулакоў, якіх вывезлі ў Сібір, бульбу, аблітую газай. Але голад не цётка: елі нафтабульбу і цешыліся, што хоць такая ёсць. У інтэрнаце — злачынствы. А тут давераныя людзі нам паведамілі, што за нашай хатай устаноўлена патаемнае назіранне, бо нас павязуць у Сібір. Да нас часта заходзіў вечарам, каб ніхто не

бачыў, упаўнаважаны па Гудзевіцкім сельсавеце, украінец. Ён падзяляў патрыятычныя погляды маіх бацькоў, распавядаў, як штучна зрабілі голад на Украіне, як там расстрэльвалі невінаватых людзей, як у калгасах людзі працуюць дарам, без ніякай аплаты, як кожнага трэцяга зрабілі стукачом, як усюды віжуюць юды, што прадаюць людзей.

— Я буду старацца адцягнуць тэрмін вашага вывазу, але адстаяць вас зусім не здолею. Вас, Мікалай Язэпавіч, арыштуюць і пасадзяць у турму, а там лёс ваш вырашыць суд, а сям'ю вывезуць у Сібір. Падрыхтуйце, каб узяць з сабой каларыйную яду, — раіў ён, — цёплае адзенне, бо ў Сібіры ў мароз вас высадзяць на голым месцы, калі пашанцуе, то паселяць у хлеў ці барак.

Мэблю мы раздалі суседзям, а ўсё неабходнае спакавалі ў мяшкі ды чакалі, калі арыштуюць тату, вывезуць нас. Я, адзінаццацігадовы хлапчук, спакаваў і сваю торбу, у якую паклаў сваю бялізну, стары швэдар, палапленыя нагавіцы, сардачок, аловак, ручку, чатыры сшыткі і падручнік па арыфметыцы, бо больш ніякіх падручнікаў не меў. На ўвесь клас (21 вучань) былі два падручнікі прыроды, адна гісторыя, некалькі граматык рускай мовы, адзін падручнік беларускай мовы, адзін падручнік геаграфіі. Бывала, калі ў нас гісторыя будзе паслязаўтра, то сёння збіраемся ў Хведаркі Ваўчка ці ў Толіка Мельнікавага (Рудніка) і там адзін вучань чытае, а ўсе слухаюць. Тады расказваем, пасля дапаўняем. А праз гадзіны паўтары падручнік забіраюць у Міткавічы, а пад вечар ён ужо будзе ў Пачуйках. Беларускую мову ў нас выкладала Лідзія Васільеўна Ткачова, якая мела сем класаў адукацыі і трохмесячныя курсы. Сама яна была ўкраінка. Я яе палюбіў за тое, што размаўляла з намі па-беларуску. З усходу прыехала і Алена Рыгораўна Сцяпанава, і піянерважаты Цітоў. Па-беларуску з намі размаўляла і Францішка Мацвееўна Пяжынская, якая вучыла нас і пры Польшчы, і Зінаіда Львоўна Баламут, якая пры царызме ў Пецярбургу скончыла гімназію, бо яе бацька працаваў рабочым на Пуцілаўскім заводзе. Яе дзявочае прозвішча Руднік. Прыезджыя з усходу настаўніцы імкнуліся пасадзіць мясцовых настаўніц. Яны прыдумлялі ўсялякія

правакацыі. Так і жылі мы на чамаданах, кожную ноч чакаючы арыштаў і вывазу.

Напрадвесні 1940 года ў маёй роднай вёсцы Ляткі арганізавалі калгас. Людзі ўжо былі запалоханы, то ўступалі без спрэчак: арыштавалі Валодзю Міклашэвіча, роднага дзядзьку Ларысы Геніюш, ягонага пляменніка, Віталя Рыгоравіча Міклашэвіча, арандатара Утку, Аляксея Пракопчыка з маёнтка Радзявічы, Бельскага з Кавалёў.

Матуля на арганізацыйным сходзе калгаса выказалася:

— Людзі, няўжо вы не бачыце, на вас хамут хочуць адзець, зрабіць вас парабкамі!

За гэта нашу сям'ю і яшчэ дзве сялянскія сям'і не прынялі ў калгас. Нашых сяброў і сваякоў папярэдзілі, каб з намі спынілі ўзаемаадносіны. Тата ў суседняй вёсцы Міткавічы згадзіўся пасвіць сельскіх кароў, бо нашу зямлю і сенажаць забралі ў калгас, нам прапанавалі пясчаную зямлю ў Гостраве. Тата разумеў, што там ураджаю быць не можа, і ад зямлі адмовіўся.

У 1941 годзе тата згадзіўся вазіць пошту на ровары з Гудзевічаў да Воўпы. Даводзілася і мне і пасвіць сельскіх кароў, і вазіць пошту ў Воўпу.

22 чэрвеня 1941 года тата павёў кароўку, каб папасвіць каля дарогі, бо на выгане нам забаранілі пасвіць. Прыбягае тата ды будзіць маму:

— Уставай, уставай: пачалася вайна!

За кіламетры тры ад Ляткоў знаходзіўся ваенны аэрадром, на якім было, можа, з 80 самалётаў. Немцы ў 4 гадзіны скінулі некалькі бомбаў на гэты аэрадром, нават загарэлася цыстэрна з бензінам. Першая думка, якая ўзрадавала мяне, што нас ужо не вывезуць у Сібір, тату не арыштуюць.

Але ж вайна — гэта смерць, пажары. Было радасна і трывожна адначасова. Цешыліся і суседзі. Прыбег узбуджаны дзяк Пётр Язэпавіч Жук.

— Больш саветы нікога не вывезуць, — цешыўся ён.

Прыйшла дырэктар школы Зінаіда Львоўна Баламут:

— Вайна — гэта дрэнна, але і так жыць, як мы жылі, таксама немагчыма: ці падводы затарахцелі, ці сабака забрахаў — усе да

акна: ці не ідуць арыштоўваць. Хоць клунак, які сабрала сабе ў турму, распакую.

Машыніст млына Міхал Матысік цешыўся:

— Больш нкусаўцы цягаць мяне не будуць: то самі прыязджаюць, то ў Ваўкавыск выклікаюць: расказвай пра Янушчыкаў, Белакоза, Лагонду, Саўку, Навіцкага. І ўсе мучаць, каб ганьбіў іх, заўдаваў, прыдумляў, нагаворваў.

Уся вёска цешылася, што цяпер раскідаецца калгас.

Начальства — і ваўкавыскае, і мясцовае — сцвярджала: гэта не вайна, а ваенныя вучэнні…

Прыкладна ў 9 гадзін раніцы над Барысаўшчынскім аэрадромам кружылася каля 70 нямецкіх самалётаў. Яны кідалі бомбы, стралялі запальнымі кулямі, снарадамі. Загад ваенным лётчыкам: не падымацца, на правакацыю нямецкай ваеншчыны, якая прагне вайны, не паддавацца: даведаецца Гітлер пра напад і папросіць прабачэння, адкліча свае войскі.

Родны брат маёй матулі Кастусь Петрашэвіч тады быў начальнікам пошты ў мястэчку Луна. Побач з Лунай быў Чарлёнскі ваенны аэрадром, значна большы за Барысаўшчынскі. Гэта каля 9 кіламетраў да Барысаўшчыны. Камандзір Чарлёнскага аэрадрома не мог звязацца з ваеннай акругай, з генеральным штабам: не было сувязі.

Прыйшоў ён на пошту ў Луну і просіць сувязі з Генеральным штабам. Там яму сказалі, што вайны няма, што гэта правакацыя нямецкай ваеншчыны, самалётам не адказваць на напады немцаў. А тут бомбы сыплюцца на Барысаўшчыну, на Чарлёну, на Рось (там было некалькі сот самалётаў), на Шчучыскі аэрадром, на аэрадром каля Скідаля. Гэта ж каля тысячы самалётаў. Усе яны засталіся на аэрадромах. І гэта ў той час, калі нямецкі пасол у Маскве перад чацвёртай гадзінай раніцы паведаміў Міністэрству замежных спраў СССР, што Нямеччына аб'яўляе вайну Савецкаму Саюзу. Ды дзе там! Сталін верыў, што Гітлер не дазволіць напасці на СССР.

Адзін лётчык не паслухаў загаду і ўзляцеў з Барысаўскага аэрадрома. Імчаў над самым жытам, я думаў, што зачэпіць за вугал

нашай хаты. За ім тут жа кінулася некалькі нямецкіх самалётаў, і яго праз кіламетраў шэсць збілі. Паспрабаваў узняцца і другі лётчык, але і ён быў збіты.

Тады ўсе пераканаліся, што гэта вайна. Аднак і цяпер Масква не верыла рапартам з аэрадромаў, гарадоў, пагранічных застаў. Толькі ў 12 гадзін выступіў Молатаў і аб'явіў, што пачалася вайна. Радыё слухала ўся вёска, нават я ўбіўся ў хату да Ігнася Янушчыка. Памятаю, што тады ж пераключылі на Нямеччыну, і Гітлер скардзіўся, што Англія паабяцала падтрымаць напад на СССР, а цяпер не хоча аб'яўляць вайну Савецкаму Саюзу.

Калгаснікі адразу запатрабавалі, каб разбіраць калгас. Міхась Янушчык і мой тата даказвалі, што вайна можа зацягнуцца, тады ўсіх, хто прыме ўдзел у разрабаванні калгаса, расстраляюць. Нават у мірны час за жменю ўкрадзенага калгаснага жыта засуджвалі на 10 гадоў савецкіх канцлагераў, а ў вайну дзейнічаюць іншыя законы. Нічога не дапамагала. Усе рвануліся да стайні, да вазоўні: забіралі сваіх коней, запрагалі іх у свае вазы, на якія складалі свае плугі, драпачы, бароны, спранжыноўкі, маняжы — усё, што забралі бальшавікі ў калгас. У свірнах збожжа не было. Мы хоць не былі ў калгасе, але ў нас забралі вялікую вагу, парнік, ацынкаваную бочку, якая і цяпер ужываецца ў нашай гаспадарцы. Тата пазычыў у Сырая тачку і павёз дахаты вагу і парнік, а я пакаціў бочку. Так калгас, які стваралі больш за паўгода, расхапалі за дзве гадзіны. Божа, як цешыліся людзі, што ў хляве свой конік! Піліп Лагонда як запрагаў свайго каня, то нават пацалаваў яго ў пысу. Завёзшы свой набытак дахаты, кожны спутаў свайго коніка і вывеў пасвіцца на Плянт. Міша Ваўчок цешыўся:

— Цяпер мы не парабкі, а гаспадары!

Жанчыны, перабіваючы адна адну, сакаталі:

— Заўтра не пайду на трудны дзень, а буду гарод палоць, бо ўсё ж трэ было гібець на калгасным полі. А мы з Міхасём паедзем ды пазбіраем сухія вярхі торпы (торфу), прывязём у шопку ды пойдзем перакладаць. А я хоць крапіву за хатаю пазжынаю, бо за гэтымі труднымі днямі не было часу гароду папалоць.

«Божа, — думаў я,— якая дарагая ўласнасць для кожнага працоўнага чалавека, як яна ажывіла, натхніла, усцешыла людзей. Не, не можа быць камунізму».

А тата ў гэты час праводзіў інструктаж:

— Ты, Волечка, не агітуй чырвонаармейцаў, каб кідалі зброю, бо гэта табе не палякі.

У 1939 годзе спыніліся афіцэры кавалерыйскай часці ў нашай хаце: яна каля дарогі, і тады гэта была найлепшая з навакольных хат. Матуля адразу пачала сваю лекцыю:

— Немцы захапілі ўсю Еўропу. Ці ж вы можаце іх перамагчы? Здавайцеся ў палон, бо ўсе загінеце.

Самы старшы афіцэр паўшчуваў маму:

— Мамусю, невольно так мувіць: за таке гадане можэ быць арэшт.

— Але ж у немцаў танкі, самалёты з усяе Еўропы, а вы толькі шаблі маеце ды карабіны. Ці ж здолееце разбіць такога магутнага ворага?

— Мільч, стара, бо зараз заарэштуен! — крыкнуў афіцэр у чырвоных ботах, якога называлі «пане поручніку».

Матуля працягвала сваю антываенную прапаганду, а афіцэры спачувалі маме, але і слухаць такое не мелі права.

А тут высока ў небе з'явіўся нямецкі самалёт. Паручнік схапіў рэнчны карабін мажыновы (большы за аўтамат, але меншы за станкавы кулямёт) і пачаў цэліцца ў крылатага пірата. Мама павісла на кулямёце:

— Што вы робіце? Зараз прыляціць іх сюды шмат, і ад нашай хаты нават шчэпак не застанецца.

— Мільч, стара, бо застшэлен.

Праўда, старшы афіцэр падтрымаў матулю:

— Опусць бронь! Самолёт не збіеш, а нашэ мейсца дыслёкацыі выявіш.

У 1941 годзе ў Чырвонай Арміі кухня ўсю вайну чамусьці адставала ад воінскай часці. Савецкія салдаты заўсёды жабравалі ў насельніцтва: выпрошвалі хлеба, бульбы, сала, малака. Матуля спякла пуды два хлеба, парэзала на вялікія кавалкі, да кожнага

такога акрайца прыкладала кавалак сала. Кожны чырвонаармеец забягаў пажывіцца, а матуля гасцінна частавала свежым хлебам з салам. Праўда, хутка хлеб скончыўся. Мама зноў рашчыніла. На жаль, цяпер акрайцы рэзала меншыя і сала клала меншыя кавалкі, бо ў скрынцы засталіся толькі два польцы.

Убачыў я каля моста на сенажаці чырвонаармейца, які спаў непрабудным сном. Расказаў пра гэта сястры Веры. Яна адразу зварыла некалькі яек, узяла хлеба, сала і нават шынкі, ды панеслі мы гэтыя прысмакі чырвонаармейцу. Колькі мы яго ні калацілі, а збудзіць не здолелі. Ён быў накрыты шынелькай. Рассовалі правізію па кішэнях ды стаім, бядуем, што рабіць. А тут па гасцінцы на вялікай хуткасці імчыць танк. Выйшлі мы на дарогу ды не сходзім. Можа, за два ці тры метры ад нас танк спыніўся. Выскачыў лейтэнанцік ды лае нас апошнімі словамі:

— Что вам, жить надоело? Ты же, шлюха, взрослая! Сама лезешь под танк и ребёнка подставляешь!

— Там чырвонаармеец. Ён хворы. Забярыце.

— Ты видишь, что танк облеплен людьми. Куда я его заберу?

— Забярыце, бо ён загіне.

Не ведаю, што паўплывала на лейтэнанта: ці наша настойлівасць, ці прыгажосць Веры, ці ён адчуў яе патрыятызм, але соннага салдата ўсунулі ў танк, а лейтэнант прымасціўся над гусеніцай.

Пазней выявілася, што ў Міткаўскім лесе ў іх скончылася салярка. Яны з усіх бакаў пазлівалі ў адзін, пасадзілі на браню ўсе экіпажы і працягвалі адступаць. Я часта хадзіў з хлопцамі да тых танкаў.

Там было шмат снарадаў, патронаў, розных балтоў, шрубак. Усё, што можна было выдраць, пазабіралі дарослыя. Мы адкручвалі ўсё, што здолелі. Пазней немцы прыгналі да нас габрэяў, якія разбіралі гэтыя танкі ды маторы, браню, гусеніцы адпраўлялі на нямецкія заводы.

Да нас падсялілі маладога габрэя. У 1934 годзе канкурэнт габрэй Янкель Зута пачаў пагражаць, што ў нас можа згарэць хата, што можа хто-небудзь з сям'і загінуць, што ўлады могуць тату арыштаваць. Яны казалі:

— Два каты ў адным мяшку не жывуць. Выбірайцеся адсюль.

Мама запярэчыла:

— То чаго вы лезлі ў гэты мяшок? Мы тут першыя пасяліліся.

— Я вас папярэдзіў, а вы самі вырашайце, як быць, — казаў Зута.

Праз тыдзень падпалілі наш хлеў, але тата і не думаў выбірацца. Тады габрэі падклалі пад жолаб нашага хлява два літры прыгарэлай і зусім без градусаў самагонкі. Пазней служанка Занеўскага, у якога Янкель і Юдаль гналі гарэлку, паведаміла, што Янкель сказаў Юдалю, свайму брату:

— Зрывай шланг, бо ўжо вада цячэ.

— За гэтую ваду Белакозу дадуць тры гады турмы.

Пра ўсё гэта служанка расказала на судзе, суддзі ведалі, што тата не гнаў самагонкі, але яны былі падкупленыя. Таму засудзілі Мікалая Белакоза на 9 месяцаў турэмнага зняволення.

Калі тата вярнуўся з турмы, то часам папросіць у хлопцаў, каб папужалі Янкеля. Пазней хто-небудзь з іх раскажа Янкелю, што Белакоз іх падгаварыў папужаць Зуту. Янкель скардзіўся каменданту, а той казаў:

— Белакоз невінаваты з-за цябе сядзеў у турме. Каб я так пацярпеў, як ён, то не быў бы лепшы. Ты заварыў гэтую кашу, ты яе і расхлёбвай.

Калі да нас немцы падсялілі габрэя (яны жылі і харчаваліся ва ўсіх хатах), то тата папрасіў матулю:

— Ты даглядай яго так, як даглядала б сына, бо цяпер габрэям цяжка, цяпер б’ецца белы жыд (немцы) з чорным жыдам, таму мы не маем маральнага права ў гэты цяжкі час нікому помсціць. Няхай ён жыве ў самым лепшым пакоі, у калідоры пастаў яму ўмывальнік, на пасцель пакладзі новую прасціну, чахол, падушнік, ручнік. Есці насі яму ў ягоны пакой, з сабой на абед давай столькі, каб заставалася.

Габрэй Моўша тады казаў:

— Як мяне прызначылі жыць у вас, то жыдкі казалі: «Белакоз цябе замучыць, ён будзе кожны дзень біць цябе. Я вельмі баяўся заходзіць у ваш дом, а вы прынялі мяне, як сына: я сплю ў мяккай,

чыстай пасцелі, маю асобны пакой з асобным выхадам, вы мяне так корміце, што нават у мірны час так не харчаваўся. На абед вы даяце вараныя яйкі, паляндвіцу, булку з маслам, курацiну, катлеты. Я сваім абедам дзялюся з жыдкамі, яны зайздросцяць мне: ім даюць на абед па некалькі вараных бульбін або лустачку хлеба. Калі я выжыву, то абавязкова аддзякую вам за вашу дабрыню, а пакуль няхай Бог вам аддзякуе.

Калі іх адпраўлялі ў Луну, то матуля дала яму вялікі бохан хлеба, кавалак сала ды некалькі дзясяткаў яек. Ён баяўся, што немцы не дазволяць усё гэта пранесці ў гета.

Яшчэ раз вернемся да першага дня вайны. Каля нашай хаты адступала невялікая група салдат, чалавек з 30.

Камандзіры папрасіліся, каб далі ім падсілкавацца. Салдаты разышліся па вёсцы. Кожны частаваў чым мог: гэта ж нашы. У некаторых сялян сын ці брат служыў у войску. Ён жа таксама недзе галадае.

Матуля афіцэрам пачала варыць бульбу.

— Некогда нам ждать. Если есть, то дайте хлеба, молока.

Матуля падала малака, хлеба, чаю, цукру, варэння, насмажыла яек, нарэзала сала ды кумпяка, нарабіла гурочкаў са смятанай ды шчыпярамі. Я ў спальні чытаў. Чую:

— Вот живут, видимо, кулаки. А вдруг еда отравлена?!

— Брось. Ты что, не видишь, как хозяйка-старается?

— А, была не была — попробую и я.

Афіцэры паабедалі, пачалі дзякаваць, а мама зноў:

— Хлопчыкі, такая сіла ў немцаў, здавайцеся. Оля немцы бамбілі Барысаўшчынскі аэрадром, так толькі адзін самалёт падняўся, і таго збілі.

Відаць, той, што баяўся атручанай ежы, залямантаваў:

— Да я тебя, сука, должен расстрелять за антисоветскую пропаганду! Ты издеваешься? Да?

— Не надо, Ваня. Мамаша напугана бомбёжкой. Пойдём отсюда.

Тата папракаў матулю:

— Я ж прасіў цябе не выступаць супраць вайны. Памаўчы ты!

Ляцелі ў бок Эйсмантаў на конях два грузіны, праз нейкія паўгадзіны імчалі назад. Так праімчаліся яны каля нашай хаты разы чатыры.

Тата кажа:

— Пайдзі ты да бацюшкі ды пазыч пілу, бо наша вытупілася, а напільнікаў у магазінах нідзе няма.

Пазычыў я пілу ды іду насустрач грузавой машыне, у кузаве якой ехала чалавек шэсць ваенных. Бачу: на хаду чырвонаармеец выкінуў вялікі чамадан. Я прыйшоў дахаты ды расказаў пра чамадан тату, а ён кажа:

— Сынок, нічога чужога ніколі не чапай.

— Але ж яны чамадан выкінулі.

— Ён не наш, не бяры!

Трываў я, можа, з гадзіну, але ўсё ж прынёс той чамадан дахаты. У ім былі медыцынскі халат, лекі, шпрыцы, кнігі па ветэрынарыі. Больш каля нас ніякія ваенныя фарміраванні не адступалі.

Ці не 23 чэрвеня каля нашай хаты праходзіла нямецкая дывізія. У калону па шэсць ці, можа, нават па восем ішлі маладыя, вясёлыя хлопцы ў расшпіленых гімнасцёрках, з закасанымі рукавамі, з аўтаматамі, зусім не страшныя. Аднак што гэта? Адзін з немцаў, які ішоў наперадзе калоны, уталопіўся ў мяне, а сам дастае рэвальвер. Я хуценька ўцёк у хату.

Каля стала размаўляюць матуля з Верачкай, аж бачу: гэты ж немец, ужо з рэвальверам у руцэ, адчыняе дзверы ў сені. Я выскачыў з хаты праз парадны ход ды полем пабег у вёску.

Немец, зайшоўшы ў хату, прывітаўся і запытаўся:

— Во іст кляйн юдэ?

— Дас іст майн брудэр, — адказала Верачка. — О найн, дас іст кайн юдэ.

Сястра мая вучылася ў віленскай беларускай гімназіі і ўмела размаўляць па-нямецку. Нават чытала і тут жа перакладала нямецкія газеты, раманы на нямецкай мове. Яна мела валасы попельнага колеру і блакітныя вочы, была вельмі прыгожая. Ёй удалося пераканаць, што я не габрэй. Такое было маё першае

знаёмства з немцамі. Пасля гэтага як дзе ўбачу немца, то стараюся схавацца, бо нічога добрага ад такіх сустрэч не чакаў. Аднак сустракацца з імі даводзілася.

Неяк жалі мы ячмень. Матуля кажа:

— Ты там, на таку, учора накруціў пярэвяслаў, то схадзі прынясі, бо гэтыя ўжо канчаюцца.

Снапы ячменю звязваюць перавясламі з жытняй саломы і рыхтуюць іх перад жнівом у гумне. Я паклаў серп на нажатую жменю ячменю, бо серп на зямлю кідаць нельга, і адагнуўся. З-за царквы выязджалі тры падводы немцаў.

— Немцы едуць, — сказаў матулі, а сам паралельна дарозе пайшоў у напрамку свайго гумна.

Немцы пагналі коней, і калі параўняліся са мной (я ішоў недалёка ад дарогі), пачалі страляць. Кулі каля майго вуха свісталі адна за другой. Я вырашыў, што яны падумалі, быццам я адагнуўся, убачыў іх і ўцякаю, калі пачну ўцякаць — заб'юць. Я павярнуўся на 180 градусаў, падышоў да постаці (так называецца той кавалак палоскі, перад якім ты стаіш, калі жнеш яе), узяў серп і пачаў жаць. Немцы пастаялі нейкі час ды паехалі: яны зразумелі, што я не ўцякаў. У час вайны смерць за кожным ходзіць па пятах.

Зімой 1942 года яшчэ ў нашай мясцовасці партызан не было чуваць, таму немцы ездзілі нават вечарам. Ужо добра ссутонела. Тата захацеў схадзіць да аднавяскоўцаў. Наша хата была ад вёскі метраў за 350.

Тады дарог не чысцілі, і там, дзе ездзілі, снег убіваўся, а на абочынах ён ляжаў высокім пластам, намярзаў, станавіўся цвёрдым, па ім хадзілі, нібы па асфальце. Чуе: едуць нейкія п'яныя, бо моцна крычаць. Калі ён апусціцца на набой, то яго будуць абганяць. Давядзецца вылазіць з гэтага глыбокага рова.

«Лепш пачакаю, каб праехалі». Калі немцы праязджалі каля яго, то яму здалося, што ў возе чуе голас Васіля Рудніка. Тата быў гасцінны чалавек, а таму тыя, што любілі выпіць, паважалі яго. Вось у апошні момант ён вырашыў пад'ехаць з аднавяскоўцамі і зверху кінуўся ў сярэдзіну воза. Немцаў як ветрам здула.

Спыніліся заднія падводы, заляскалі затворы, загарлалі спуджаныя немцы. Тата зразумеў, што не туды папаў, і кінуўся ўцякаць да саду Лявона Рудніка. Па ім пачалі страляць, але ў цемры цяжка было патрапіць. Ён забег за сад, які быў абкапаны глыбокім ровам, і кінуўся ў гэты роў, замецены снегам. Снег абсыпаўся з берагоў ды засыпаў яго. Усе тры падводы гналіся за ім. Тройчы яны аб'ехалі вакол саду, а тады заехалі ў вёску, заходзілі ў кожную хату і білі ўсіх прысутных у хаце гумовымі кіямі: гэта была жандармерыя.

Тата, калі яны паехалі ў вёску, вярнуўся дахаты, хуценька раздзеўся, лёг у ложак і накрыўся коўдрай.

— Калі б заехалі сюды немцы, то скажыце, што я чацвёрты дзень хвараю на тыф і зусім не ўстаю.

Немцы вельмі баяліся тыфу.

Калі б не расстрэлы, не знішчэнне цэлых вёсак, калі б была нейкая свая ўлада, то акупацыя была б мякчэйшая. А так кожны быў не ўпэўнены ў заўтрашнім дні. Аднойчы рана мы заўважылі, што вёска акружана нямецкімі салдатамі. Да нашай хаты ішло чалавек з 10 немцаў на чале з камісарам, якога празывалі Памідор, бо быў надта чырвоны. Ён ведаў толькі нямецкую мову, але за кожным словам ужываў брудную рускую лаянку. Адзін немец застаўся на дарозе, другі забег ад поля, трэці стаяў на дарозе ад царквы. Так і ёсць: будуць расстрэльваць — во як акружылі хату. Выйшла мама. Памідор закрычаў па-нямецку:

— Паказвай хлявы… тваю маць.

Перакладчык апошняга ўстойлівага словазлучэння не перакладаў, аднак Памідор у кожным сказе ўжываў самую брудную лаянку. Верачка кажа:

— Пайшлі ў хлеў партызан шукаць.

Яны ж шукалі, ці ёсць у сялян не запісаная солтысам жывёла. У нас вялікі парсюк быў схаваны, яго кармілі ў шэсць гадзін раніцы. Ён якраз пад'еў ды спакойна адпачываў, не адзываючыся. І ўсё ж аднаго парсюка лішняга знайшлі.

— Тваю маць, заўтра прывязеш парсюка ў Эйсманты.

Выявілі тры незапісаныя авечкі. Назаўтра пад'ехаў Піліп Лагонда. Матуля нейкага здохлага парсючка пазычыла ў дзяка,

якому пазней аддала свайго паўпарсюка. На гэтай камбінацыі выйгралі і мы, і дзяк, а вось авечак павязалі ды адправілі ў Эйсманты. Пазней завезлі іх у Саколку. Там яны прастаялі тыдзень без корму і вады ды пачалі здыхаць. Солтыс загадаў тэрмінова забіраць сваіх авечак. Паехалі забіраць. А як ты іх, схуднелых, ледзь жывых, пазнаеш у гэтым кагале? Узялі трох любых авечак ды прывезлі дахаты. Напаілі, далі крыху сянца. Паступова авечкі вылюдзіліся.

А вось у 1943 годзе зноў напужалі нас немцы: прыехала, можа, падвод з шэсць. Першы зайшоў у хату рыжы камендант. Была субота, памылі падлогу, павысцілалі ходнікі. Усюды парадак.

— О гут! Гір люкс, — спадабалася каменданту.

Салдаты кінуліся ў пакоі, на гарышча, у склеп, у хлявы, у гумно: шукалі партызан. Нічога не знайшлі, а камісар загадаў:

— У вас чыста. Я люблю парадак. Вы для мяне заўтра аддасце гэты ложак і два крэслы. У нас хутка будзе многа мэблі, то мы вам вернем усё.

Прайшоў нейкі час, солтыс кажа, што ў Эйсманты навезлі многа шафаў, сталоў, крэслаў, ложкаў, канапаў. Паехала Верачка ды кажа каменданту:

— Вы ў нас забралі ложак і два крэслы, то аддайце. Вы маеце сваё.

— Гэтая мэбля жыдоўская. Выбірайце, што хочаце.

— Я не хачу чужой мэблі, вярніце нашу.

— Я не буду спаць на жыдоўскім ложку, — абурыўся камендант.

— Я таксама не хачу спаць на чужым ложку, — адказала Верачка і ні з чым паехала дахаты. Так і прапалі ложак і два крэслы.

Ужо адступалі немцы. Усе кудысьці зніклі, а адзін просіць, каб яму аддалі ручнік, якім завешаны пячуркі каля печы. «Усё роўна Саветы ўсё ў вас забяруць!»

Мама аддала яму ручнік. Ён тут жа парэзаў яго на парцянкі.

— Здавайцеся вы ў палон, бо ўсё роўна немцы ўжо вайну прайгралі.

Немец размаўляў па-польску, то зразумеў маміны словы і заківаў галавой: «Так, так, так!» Куды ён падзеўся, не ведаю.

У ліпені 1944 года немцы вакол нашай хаты выкапалі акопы, у хаце размясцілі штаб і пасялілі нейкага важнага палкоўніка. Ён сказаў матулі:

— Тут будзе бой, ідзіце вы ў Кулёўшчыну.

Пайшлі, пераначавалі. Верачка гаворыць:

— Непрыгожа атрымліваецца: мы тут ратуемся ад смерці, а мама хату пільнуе. Пойдзем і мы ў сваю хату.

Прыйшлі дамоў, а тут каля хаты акопы, поўна немцаў. Пачалі мы прасіць матулю, каб разам ратавацца ад вайны ў Кулёўшчыне.

— Не, я са свае хаты нікуды не пайду.

Не пайшлі і мы. Хутка выяснілася, што немцы арганізавалі лінію абароны па рацэ Бурчак і далей па Верацейцы. Сцёпу Маршалка, майго аднакласніка, які шукаў сваю цялушку, немцы дахаты ў Гудзевічы не пусцілі. Ён прыйшоў да нас ды просіць, каб разам перачакаць тут, у Лятках, вайну. Паабедалі мы ды ў садзе на матрацах прылеглі адпачыць. Ноччу немцы згружалі ў кухню масла, шакалад, віно, кансервы. Тады ішлі салдаты з акопаў і разбіралі правізію. Заснулі мы моцна, бо калі прачнуліся, то не было танкаў, немцаў і нават нікога з хатніх. Я палез на хату, каб разгледзецца, дзе немцы, дзе Саветы, але тут жа каля мяне заціўкалі кулі. Я зразумеў, што бальшавікі палічылі мяне нямецкім назіральнікам. Я хуценька скаціўся з даху, ды пайшлі мы са Сцяпанам да Баламутаў: у іхнім двары быў надзейны склеп, у якім хаваліся людзі. Адышлі ад хаты метраў сто, а тут нешта ляціць: «Шух-шух». Аблятае лісце, але тут жа: «Бух!» — разарваўся снарад. Савецкія артылерысты, відаць, палічылі нас за немцаў. А можа, яны стралялі па нямецкіх танках, якія ад’ехалі ўжо з паўтара кіламетра. Другі снарад разарваўся каля Міткевічаў, а трэці каля нямецкага танка, бо нават кагосьці з пехацінцаў параніў, і той упаў. Танк спыніўся, забралі параненага і паехалі далей. На гэтым вайна ў Гудзевічах скончылася. Яе на левым беразе Бурчака і не было. А вось па правым беразе немцы вялі працяглы артылерыйскі абстрэл, каб знішчыць бу-

дынкі ў Гудзевічах, бо яны быццам бы перашкаджалі ім бачыць пакінутую тэрыторыю. Немцы ў той дзень спалілі вельмі стары будынак воласці, школу, пошту, чварак, у якім жылі былыя парабкі пана Міклашэвіча, хату Карпейчыка. На шчасце, гэтым абмежаваліся ўсе страты ў нашай мясцовасці. Праўда, загінула Маршалкава цялушка: яе разарвала ўзрывам снарада. Ніхто з людзей не загінуў. Не было і іншых страт. Узарвалася некалькі снарадаў каля Кулёўшчыны: відаць, немцы захацелі напужаць мясцовых людзей, каб яны не швэндаліся, а сядзелі ў скляпах ці акопах. Тыя людзі з Ляткоў, што хаваліся ў Кулёўшчыне, пачалі перабірацца цераз Бурчак, які быў лініяй фронту, і вяртацца на «нямецкую тэрыторыю». Старыя жанчыны паўзлі па-пластунску. Немцы качаліся ад рогату, але па людзях не стралялі, бо бачылі, што гэта нямоглыя жанчыны ды дзед.

Недзе каля 16 гадзін 16 ліпеня 1944 года гудзевіцкая зямля была ачышчана ад немцаў. 16 ліпеня 1944 года ў склеп да Баламутаў зайшоў гімназіст Віталь Янушчык і гукнуў:

— Чаго хаваецеся? Няма ўжо немцаў. Пойдзем матаць на шпулю нямецкую сувязь, чырвоны кабель: у гаспадарцы спатрэбіцца.

Матуля прынесла поўную вялізную шпулю нямецкага кабелю, частку якога разам са шпуляй я перадаў у Гудзевіцкі музей. Нас, дзяцей, цікавіла зброя. Мы пабеглі да нямецкіх акопаў. Там засталіся недапітыя бутэлькі з віном ці, магчыма, нейкім іншым напоем, шакалад, масла, бляшанкі ад кансерваў. Так у Гудзевічах скончылася вайна.

Назаўтра я пагнаў кароў пасвіць на Бацюшкава балота. Сталі складзеныя капіцы. А тут па дарозе праз метраў 400 ідуць танкі. Цікава мне паглядзець на іх. Залез на капіцу дыназіраю, а тут кулі ціў-ціў-ціў. Я скаціўся ды за капіцу. «Ого! І савецкія салдаты хочуць забіць мяне!»

З таго часу я пераканаўся: бойся чалавека са зброяй. І няважна, ці гэта паляк, ці немец, ці рускі: крыважэрныя дурні ёсць у кожнай нацыі-захопніцы.

Салдат, які страляў па мне, не мог не бачыць, што дзіця пасе каровак. Здавалася б, навошта яго забіваць? Захопнікі разважа-

юць інакш: забі ворага, пакуль ён не вырас. І забівалі. Памятаю, летам 1943 года прыбягае да нас цётка Саша, татава сястра, ды пытае:

— Ці часта бываюць у вас партызаны?

— Бывае, што заходзяць то ўдвух, то ўтрох, то ўчатырох.

— Ці ведаеце вы іх?

— Усіх то не, але аднаго ці двух, то пазнаем.

— Незнаёмых партызан не пускайце ў хату.

— Чаму? — дзівіцца матуля.

— У Лашы да бацюшкі Бароўскага прыйшлі партызаны. Папрасілі есці, кужалю на парцянкі ды пайшлі. А назаўтра прыехалі немцы з тымі «партызанамі», арыштавалі ўсю сям'ю бацюшкі ды расстралялі: гэта былі не партызаны, а ўласаўцы.

Праз некалькі дзён тата пайшоў касіць сенажаць. Касец ён быў выдатны і звычайна за дзень скошваў аж гектар. А ў той дзень каля 12 гадзіны вяртаўся ад сястры з Гострава Ёзік Цімахоў (Саўка ягонае прозвішча).

— Сястра мая, як і ўсе гастраўляне, набрала на бровары спірту, наліла і бочачку, і балею, і цэбар, і вёдры, але ён вытыхае. За пустую шкляную бутэльку дае бутэльку спірту. Як маеш тару, то заўтра занясём ёй бутэлек, а набярэм спірту.

— Чаму ж, пустых бутэлек у нас многа, — прызнаўся тата.

— То заўтра мы сходзім да майго швагра Яся, а цяпер давай знімем пробу, ці хоць добры спірт, толькі закускі не маю.

— Та я ж касіць без абеду не ішоў, — абнадзеіў яго тата.

Мужчыны да вечара памаленьку раскаштавалі гэты спірт, Мамуля прала бялізну, а я ёй дапамагаў. Вярнуўся тата, а мама пачала чытаць натацыі, што сенажаці ўсяе не скасіў.

— Бяды ў гэтым няма. Заўтра, як і кожны ранак, устану нацямочку ды скашу да гадзіны дзясятай.

Леглі спаць. Каля 12 гадзіны стукаюць у акно.

— Хто там? — пытае тата.

— Полиция, — кажуць невядомыя.

— Не адчыню: ходзяць тут усялякія, а потым нас за гэта расстрэльваюць.

— Открой! Мы партизаны!

— А чорт вас ведае, хто вы. Не адчыню!

— Будем стрелять.

— Страляйце. Я не адчыню.

Пачалі страляць, кінулі гранату. Тату забілі. Дзверы адчыніла сястра. Ускочылі. Убачылі забітага.

— Убили человека, убили человека! Почему не открывали?

— А чорт вас ведае, хто вы! То паліцыя, то партызаны!

Пачалі рабаваць. Забіралі ўсё. Пакінулі голыя сцены. Быў кормны парсюк, то застрэлілі і забралі. Мама бяліла маткі прадзенага лёну, то павесіла сушыцца, можа, з трыццаць маткоў, то яшчэ мокрыя забралі. Нейкі хлапчук кажа:

— Мама казала, каб і матке бралі!

— Каб ты, сынок, здароў знасіў тую кашулю, што маці вытча з крадзеных маткоў.

— Маўчы, старая б… , бо застрэлю!

— Чаго ж чакаеш? Страляй! — зазлавала матуля.

Здарылася так, што ў кастрычніку 1944 года ішлі на фронт партызаны. А вечарам да нас зайшлі два савецкія афіцэры і папрасілі, каб чаго з'есці. Матуля насмажыла яек, былі звараныя варэнікі, якія мама пакідала на снеданне. Парэзала сала, паляндвіцы і нават бутэльку самаробнага віна.

Падзякавалі афіцэры і папрасілі дазволу пераначаваць у гумне.

— Цяпер холад. Змерзнеце там. Спіце ў пакоі, толькі я замкну дзверы з вашага пакоя, бо баюся.

— Мы такія стомленыя, што хоць звязвайце нас: нам абы паспаць.

Ноччу стук у дзверы:

— Открой, так твою!..

— Хто тут?

— Партизаны!

— Не адчыню!

— Будем стрелять!

Матуля адчыніла. Зайшлі двое. Адзін з іх быў, як нас пры немцах рабавалі. Гэты ўзвіўся:

— Фашисты! Теперь мы расправимся с вами.

Мама адамкнула пакой, у якім спалі афіцэры. Тыя выйшлі з рэвальверамі ў руках. Пасля размовы на высокіх нотах бандыты пайшлі.

У тую ж ноч прыходзілі яшчэ раз, зноў выратавалі афіцэры.

Раніцай афіцэраў частавалі, як самых дарагіх гасцей, нават з сабою матуля надавала гасцінцаў ім.

Пазабіралі мясцовых мужчын на вайну. Амаль палавіна з іх не вярнулася, а тыя, што вярнуліся, былі без рук, без ног, параненыя, пакалечаныя, многія з іх рана паўміралі.

Пытаюся ў дзядзькі Івана Ігнатавіча Кібіка:

— Дзядзю Іване, раскажыце, як ваявалі?

— Няма чаго расказваць… — шматзначна паведаміў Іван.

Аднойчы ішоў я з працы і дагнаў дзядзьку Івана. Пайшлі разам. Разгаварыліся, што мала на працадзень даюць, што ўраджаі ў два-тры разы меншыя, як былі ў аднаасобных гаспадарках… Запрасіў яго ў хату. Выпілі мы бутэльку, я прынёс другую. Бачу: павесялеў мой аднавясковец. Вось я і папрасіў:

— Раскажыце, калі ласка, як ваявалі?

— Мы не ваявалі, нас гналі на ўбой, як гоняць кароў на рэзню: ніякіх ваенных хітрасцяў, без артпадрыхтоўкі, бо ўсю вайну снарадаў не было. Адну каманду ведалі савецкія камандзіры: «Вперёд!» Клалі трупамі роту за ротай, батальён за батальёнам, полк за палком, дывізію за дывізіяй, пераграваліся нямецкія кулямёты, стамляліся немцы, а мы «вперёд!» ды «вперёд!». Мяне выратавала, што страціў руку, але бег наперад, бо калі спынюся, то застрэліць свой афіцэр або заградзіцельны атрад прыкончыць. Саша, гэта была не вайна, а знішчэнне свайго народа. Вышыні, траншэі, гарады браліся не тактыкай, не стратэгіяй, а чалавечым мясам, бясконцымі ахвярамі.

Прыкладна гэтае ж распавядалі і іншыя ўдзельнікі апошняй вайны. Бывала, калі вінтоўка ці аўтамат прападзе, то канца няма следству. Як? Чаму? А як чалавек загіне, то гэтым ніхто не цікавіўся, бо аўтамат каштуе грошай, а людзі дармавыя, як смецце.

Калі я служыў у арміі, то ў нас быў вельмі добры камандзір роты: меў каля 50 гадоў, а хадзіў усё ў капітанах. Пазней яго

забралі выкладчыкам у Ленінградскае ваеннае вучылішча. Ён нам казаў:

— Ребята, не бойтесь вражеской пули. Бойтесь своей…

У пачатку 1951 года ўсіх з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй збіралі ў спецыяльныя ўзводы і рыхтавалі малодшых лейтэнантаў запасу. Я сказаў, што згубіў атэстат сталасці, то месяцы паўтара не забіралі, а пазней выклікалі ў Тэрмезе ў штаб дывізіі і там палкоўнік запытаўся ў мяне:

— Хотите ли вы быть офицэром?

— Не, не хачу, — катэгарычна адказаў я.

— Хотите ли вы быть инженером?

Я адказаў тое ж.

Тады палкоўнік усхапіўся, ударыў кулаком па стале і крыкнуў:

— Так твою мать! Я тоже не хочу быть офицером, но бухаю 25 лет, и ты будешь бухать. — І загадаў майму камандзіру: — Оформляйте документы и высылайте в Джамбул!

Божа мой! З якой тупасцю я там сустрэўся! Мы, як і ўсе тады, вывучалі «Гісторыю ВКП(б)». Памкамузвод ст. сяржант Шушакоў загадаў прынесці яму мой падручнік ВКП(б), бо ягоны згубіўся. Я прынёс.

Лекцый мы не слухалі, і мне прыйшла фантазія на лекцыі напісаць ліст да каханай на старажытнаславянскай мове. Вось ён і ўчапіўся за гэты ліст. Шушакоў пастроіў узвод, прачытаў мой ліст і пачаў чытаць мне мараль, прышываць палітыку…

Не вытрымаў мой зямляк з Ваўкавыска Павел Шашкевіч і сказаў так:

— Товарищ старший сержант, вы вместо того, чтобы гордиться, что командуете людьми, которые после среднего образования могут даже письмо написать на древнеславянском языке, читаете Белокозу мораль. А ответьте, кто вам дал право читать чужие письма?

Шушакоў нічога больш разумнага не мог прыдумаць, як распусціць строй.

Я заўсёды, на ўсіх занятках, затыкаў вушы, каб не чуць гэтай агіднай навукі, як забіваць людзей. Экзамена на афіцэрскае званне рашыў не здаваць.

Нам аб’явілі, што хто не здасць экзамен на званне малодшага лейтэнанта, будзе служыць яшчэ тры гады. Гэта мне не спадабалася, і я тэрмінова напісаў, каб матуля прыслала копію атэстата сталасці. Усе рыхтуюцца да здачы экзамену па гісторыі ВКП(б), а я чытаю два аб’ёмістыя тамы рамана Шпанава «Поджигатели». Старшына бегае вакол, вырывае з рук кнігу, патрабуе, каб я чытаў падручнік, а я яму:

— Гэта ж дадатковая літаратура. Ты сам не разумееш, то запытайся ў камандзіра роты, ці можна нам чытаць дадатковую літаратуру па «Гісторыі ВКП(б)».

Пасля гэтага ён ад мяне адчапіўся, і я ўвесь час, перад усімі экзаменамі, чытаў мастацкую літаратуру.

Я быў адзіным ва ўзводзе і ў роце не камсамольцам і не членам ВКП(б). Камсамольцы прынялі пастанову здаць усе экзамены на выдатна.

На першым экзамене па гісторыі ВКП(б) мне папала пытанне «Международная обстановка 1935–1939 гг.» Старшынёй камісіі быў камандуючы інжынерных войск Туркестанскай ваеннай акругі генерал-лейтэнант Пятроў.

Я выйшаў да стала і расказаў больш за 1000 старонак рамана Шпанава «Поджигатели». Там было, як Гітлер здолеў за кароткі тэрмін так узброіцца, што стаў захопліваць адну краіну за другой, распавёў, як Круп і іншыя выкарыстоўвалі амерыканскія крэдыты ды хутка адрадзілі ваенную прамысловасць. Кніга вялікая, і хоць многае прапускаў, аднак адказ атрымаўся вельмі разгорнутым. Відаць, адказваў больш за гадзіну. Калі скончыў, то генерал сказаў, што на другое пытанне няма патрэбы адказваць, бо ён бачыць, што малодшы сяржант Белакоз надзвычай добра падрыхтаваны. Выйшаў з-за стала, павіншаваў мяне з бліскучым адказам і з першай пяцёркай ва ўзводзе і запытаўся:

— Откуда у вас такие данные?

Думаю, як пачаў лгаць, то трэба фасон трымаць да канца. Вось і кажу:

— У нас у школе гісторыю выкладаў работнік генеральнага штаба Мікалай Адамчык. Вось ён нам усё гэта паведаміў.

— Ну и память у вас… Феноменальная память!

— На память не жалуюсь!

— Спасибо вам за прекрасный ответ. Можете отдыхать.

Пасля гэтага экзамены мне здаваць было лёгка.

На экзамене па сродках інжынернага ўзбраення першым пытаннем мне папала счапленне нейкай грузавой машыны. Цяпер я хоць крыху ведаю гэты прынцып, бо меў матацыкл, а тады паняцця не меў пра гэта. Замест 180 гадзін аўтасправы нас бясконца пасылалі то ў каравул, то рабочымі на кухню. Калі аднойчы ў час інспектарскай праверкі ў мяне палкоўнік запытаўся, што я ведаю пра грузавую машыну, то я адказаў, што нічога не ведаю.

— А мы проверим. Что это?

— Кабина, — адказваю яму.

— А это?

— Колесо.

— А это?

— Кузов.

— А это?

— Радиатор.

— Так вы же прекрасно знаете машину. Четвёрка.

А тут, на экзамене, перад генералам ды трэба распавядаць пра счапленне. На сцяне вісеў плакат са счапленнем, я там плёў такое, што зампатэх стаяў за генералам ды за жывот браўся. А генерал, відаць, счапленне ведаў так, як і я, то толькі мычэў. Але як адказаць на другое пытанне «Устройство и работа мотопилы»?

— Каб завесці мотапілу, патрэбны два чалавекі. Дазвольце запрасіць для дапамогі малодшага сяржанта Каўша, — звярнуўся я да генерала.

— Приглашайте, — згадзіўся Пятроў.

— Малодшы сяржант Коўш, пацягніце, калі ласка, рэзка за завадны шнур.

Мотапіла завялася, а я газануў ды павярнуў выхлапам да генерала.

— Хватит, хватит! — закрычаў Пятроў.

— Слушаюсь, — павінаваціўся я, заглушыў пілу і сеў на месца, бо што далей гаварыць, я не ведаў.

Генерал паставіў пяцёрку, а ўсе астатнія столькі ж.

Уставаў я ніколі не чытаў, а калі вывучалі іх, то затыкаў вушы, каб не чуць. А тут трэба здаваць экзамен.

Першае пытанне было лёгкае: падрыхтоўка да разводу і развод. Гэта я добра ведаў. А другое пытанне — «Вынос знамени части». Я быў сцяганосцам, а таму мог распавесці, як выносіцца сцяг. Але мне захацелася крыху правучыць камандзіра часці палкоўніка Ярчанку, які вельмі часта здзекаваўся з нашага ўзвода: на разводах абражаў, часта асабіста выводзіў нас у пустыню і ганяў да сёмага поту. Таму запытаўся ў генерала:

— Расказаць, як трэба выносіць сцяг па ўставу ці як мы яго выносім?

— А вы расскажите и то, и другое, — дазволіў Пятроў. Чаму я гэтае пытанне ведаў па ўставу? Была такая гісторыя. Пераскокванне праз каня мне не ўдавалася: калі рукамі дакрануся да яго, дык я пералятаў праз яго, як снарад. І, вядома ж, пераляцеўшы, падаў. Камандзір узвода, каб я не зламаў рукі ці пазваночніка, заўсёды ставіў на страхоўку чатыры чалавекі, якія лавілі мяне.

А тут прыехаў генерал, і нам трэба было скакаць праз каня. Калі падышла мая чарга, то старшы лейтэнант Саломчанка пахваліўся правяраючаму, што зараз праз каня будзе скакаць самы геройскі малодшы сяржант Белакоз. Усе падрыхтаваліся глядзець, як на спектакль. А ў мяне ў той час балела ў клубе нага. Вось я, кульгаючы, кінуўся да каня. Генерал закрычаў: «Отставить», усе пачалі дубліраваць каманду правяраючага. А тут каманда:

— Младший сержант Белокоз, к проверяющему!

Кульгаючы, падышоў да генерала, а ён пытаецца:

— Вы почему хромаете?

— Нога болит, товарищ генерал.

— Были в санчасти?

— Так точно! Был!

— Что вам сказали?

— Побольше бегать.

— Фамилия врача?

— Подполковник Усанбеков!

— Идите в казарму и отдыхайте.

— Слушаюсь, товарищ генерал!

Прайшоў нейкі час, бачу: ідзе камандзір роты Старчак. Добры гэта быў чалавек. Мне сорамна, што, хоць і не хочучы, я і яго падвёў.

Каб не мазоліць яму вачэй бяздзейнасцю, узяў устаў, але не цікавы ён. Ага, вось тэма «Вынос знамени части». Цікава, ці правільна мы выносім? На экзамене генералу я адрапартаваў, як трэба выносіць знамя часці і як мы выносім.

— Это правда, товарищ полковник?

— Так точно, товарищ генерал.

— Отвечали вы отлично. Можете быть свободны, — адпусціў мяне Пятроў.

На тактыцы мне зноў пашанцавала. У выніку здаў экзамены лепш за ўсіх і набраўся бяды: камандаванне вырашыла пакінуць мяне ў кадрах. А я не хацеў заставацца: не любіў прымушаць салдат займацца непатрэбшчынай.

Адмовіўся перад камандзірам узвода, перад камандзірам роты. Выклікаў асабіст.

— Вы почему не хотите защищать Родину?

— Што вы? Я вельмі хачу бараніць Радзіму!

— Так почему не хотите оставаться в кадрах?

— Які ж я ваяка, калі мне ад бегу баліць сэрца?

(Сёння я маю амаль 77 гадоў, аднак не ведаю, дзе ў мяне сэрца: я ніколі не адчуваю яго.)

— Вы будете проходить медкомиссию, там определят, служить ли вам в кадрах.

Ён яшчэ крыху памучыў мяне ды адпусціў.

Пайшоў я дзяжурным па 423-м асобным армейскім інжынерна-сапёрным батальёне. Аж тут рана, яшчэ хвілін 10 да разводу, бачу: па алеі ідуць палкоўнік Ярчанка і начальнік штаба маёр Іваноў. Я падаў каманду:

— Смірна!

А Ярчанка:

— Вольно! Майор Иванов, проводите развод, а я поговорю с товарищем Белокозом.

Узяў мяне пад руку і павёў па алеі.

— Кем вы работали на гражданке?

— Учителем.

— Сколько получали?

— 400 рублей в месяц.

— Это же гроши! За такие деньги даже ботинок не купишь! А в армии вы будете иметь 700 рублей за должность, 400 рублей за звёздочку, 150 пайковых, 150 квартирных. Это же 1400 рублей, почти в четыре раза больше, чем у учителя. Питаться можете в части. Вы бесплатно получите шинель, мундир рабочий, мундир парадный, сапоги яловые, сапоги хромовые, две пары портянок летних, две пары зимних, шапку, фуражку. Да у вас получка останется на рестораны да на женщин!

— Дзякую вам за прапанову, але ў мяне ў хаце старэнькая матуля, яна хворая. Я мушу вярнуцца дахаты.

— У вас же такое образование. Не будете вы работать в деревне.

— Буду: за 400 метраў ад маёй хаты школа

(Тады Гудзевіцкая школа была ў царкоўнай плябаніі.)

— Ну, если так, то, конечно, мы вас отпустим.

Пасля гэтага мяне больш не прымушалі заставацца кадравым афіцэрам. А камсамольцы ды партыйцы падавалі рапарты, каб застацца ў кадрах. Многім з іх адмовілі. Я армію лічыў той жа турмой. Не хацеў стаць папіхачом, не хацеў папіхаць іншых. І з працы завуча вызваліўся толькі таму, што трэба было алкаголікаў, стукачоў, гультаёў прыганяць да працы, а яны не рыхтаваліся да ўрокаў, прапускалі заняткі, з вучнямі курылі, пілі гарэлку. Нават сярод настаўніц выдараліся такія асобы.

І ўсё ж я задаволены, што не застаўся ў кадрах: у школе я меў магчымасць уплываць на выхаванне вучняў, фарміраванне іхніх поглядаў. Праўда, 24 настаўнікі выхоўвалі з вучняў манкуртаў, алкаголікаў, гультаёў, зладзеяў, але калі хоць палавіну мне ўдалося вырваць з-пад іхняга ўплыву, то і гэта перамога.

***2005***

# ГІСТОРЫЯ ГУДЗЕВІЦКАГА ГЛЫЖАВІКА-МАНАЛІТУ

У канцы верасня 1979 года самадзейны гродзенскі кампазітар Яўген Петрашэвіч прыехаў у Гудзевічы, каб дапамагчы нам выбраць бульбу, бо я тады ўжо хварэў, і такая дапамога была вельмі патрэбна.

Частку бульбы, якая была выарана зранку, выбралі, а другой часткі, баразён восем, не было магчымасці выараць. Атрымаўся вымушаны перапынак, у час якога мы (Яўген Канстанцінавіч, Міхасёк і я) пайшлі ў лясок, што каля свінарніка, і пачалі аглядаць каменне з мэтай выбару манументальнага глыжавіка, які можна было б паставіць каля дарогі, які неяк зрушыў бы справу захавання і ўліку выдатных глыжавікоў. Пра гэта мы і раней часта гутарылі, мы ўжо ведалі, што ў Літве якісьці лекар збірае музей камянёў.

Пасля працяглага і ўважлівага агляду вялікай колькасці камянёў удалося адшукаць адзін даволі вялікі глыжавік, 5,41 м у абводзе (акружнасці), вышыня якога склала 2,21 м, шырыня 1,17 м. Аднак не гэта прыцягнула нашу ўвагу. Глыжавік чымсьці напамінаў асадзістага здаравеннага дзеда, а ў верхняй частцы каменя падковай ці паўмесяцам выдзялялася на шэрым граніце белая, нібы адлітая спецыяльна, каб акрэсліць бараду волата, жыла шырынёй 10 см і даўжынёй 47 см. Тады было вырашана, што калі гэты камень паставіць так, каб ён амаль увесь быў над зямлёй, і высекчы ў ніжняй частцы (сантыметраў 90 над зямлёй) шырокі пояс, то ўражанне дзеда ад гэтага будзе яшчэ большае. На поясе тады пастанавілі выбіць слова ГУДЗЕВІЧЫ і першы год успамінання пра Гудзевічы — 1539. Тады ж дамовіліся пра такія дэталі: ад пояса збоку будзе звісаць нешта накшталт ручніка, на якім і будзе выбіта 1539.

У хуткім часе мне пашанцавала атрымаць на такую работу дазвол у старшыні калгаса «Іскра» Міхася Сцяпанавіча Пронькі. Тым больш гэтага было лёгка дабіцца, таму што Петрашэвіч абяцаў выканаць усе работы на грамадскіх пачатках.

Неяк у лістападзе камень быў прыцягнуты на спецыяльна падрыхтаванае месца, на якім быў выкапаны фундамент, што засыпалі на 1,5 м дробнымі камянямі. Камень устанавілі.

У лютым прыехаў Петрашэвіч, каб пачынаць працу, аднак быў мароз каля 15 градусаў. У такіх умовах працаваць было цяжка, і ўся праца была адкладзена да вясны. Некалькі разоў мы гутарылі пра пачатак працы па апрацоўцы глыжавіка, але справа не рухалася. Пачаў цікавіцца і Міхась Сцяпанавіч, чаму Яўген Петрашэвіч не едзе ў Гудзевічы. 15 чэрвеня вучаніца 10-га класа Аленка Навіцкая выслала яму афіцыйнае запрашэнне прыехаць у Гудзевічы, а 17 чэрвеня 1980 года раненька Петрашэвіч нарэшце прыехаў.

Камень давялося вывернуць.

Пакуль я з вучнямі працаваў у музеі над выданнем восьмага нумара «Праменьчыка», школьнага літаратурна-краязнаўчага альманаха, Яўген Петрашэвіч вырашыў змяніць першапачатковую задуму. Яму камень нагадаў галаву якойсьці жывёлы, можа барана ці зубра. Захацелася на гэтую галаву адзець аброць.

Прыехаў я да каменя і ахнуў. Праз усю даўжыню была вырубана даволі шырокая палоска.

Пачалася спрэчка. Давялося даказваць, што паколькі камень будзе стаяць на ўездзе ў Гудзевічы, то чаму ён павінен нагадваць галаву барана, чаму гэта галава павінна быць закілзана у аброць.

Пасля працяглых спрэчак Яўген Петрашэвіч пачаў рубаць перпендыкулярную да першай палоску, а таксама афармляць канты каменя.

Паводле апошняй задумы перпендыкулярная палоска, якая падымаецца аж да сярпка-месяца і нават над месяцам, увасабляе час, што імкліва ляціць, а гарызантальная палоска — сімвал статычнасці, трываласці. Коратка гэта фармулявалася так: час імкне, а Гудзевічы стаяць. На гарызантальнай палосцы выбіта ГУДЗЕВІЧЫ, а на вертыкальнай — 1539. У гэтых элементах і ўвасоблена ідэя вечнасці Гудзевічаў і імклівасці часу.

Кожны дзень Яўгену Канстанцінавічу дапамагалі два чалавекі: 17 чэрвеня Мікалай і Міхась Белакозы, 18 чэрвеня Юрый

Трацяк і Міхась Белакоз, 19 чэрвеня Эдзік Трайгель і Тадэвуш Багдан.

І мне пашчасціла хоць крыху папрацаваць над паглыбленнем вертыкальнай палоскі, хоць гэтая праца больш мела для мяне сімвалічнае, чым практычнае значэнне.

У цэлым камень набыў даволі ўнушальны выгляд, хоць ён і ў першабытным стане выглядаў даволі цікава.

Яўген Канстанцінавіч паабяцаў у бліжэйшы час (калі ўдасца вырвацца з працы) прыехаць у Гудзевічы для працягу пачатай справы. Павінен адзначыць, што працаваў Яўген Петрашэвіч самааддана, з патрыятычнай апантанасцю: уставаў а палове шостай гадзіны рана і адразу ехаў на ровары да каменя, а дзявятай снедаў — і зноў за глыжавік, у 15 гадзін — абед і каля 16 гадзін — зноў за працу. Канчаў працу каля 21-й ці нават каля 22-й гадзіны. Працаваў у час дажджоў, якія тады часта праходзілі, не кідаў працы.

Дзіўлюся, адкуль у чалавека ўмысловай працы, музыканта, інтэлігента, столькі фізічнай вытрымкі, загартоўкі, сілы.

Працаваць даводзілася ў даволі цяжкіх умовах, бо амаль увесь дзень каля глыжавіка збіралася нямала людзей, якія рабілі свае заўвагі, давалі парады. Магчыма, не вельмі тактоўна паводзіў сябе і я, даючы свае парады, а часам і выказваючы папрокі, хоць у гэтай справе я зусім не кампетэнтны чалавек, а значыць, і голасу тут падаваць не павінен.

Што ж, хай даруе Яўген, калі можа, за маю нястрыманасць і нетактоўнасць.

На капанні фундаменту і падвозцы камення, зямлі, а таксама на перавозцы каменя працавалі Валодзя Навіцкі, Павел Шайнога, Павел Кібік, Жорж Цянкуш. Даўжыня гарызантальнай палоскі 93 см, шырыня 17,5 см.

Даўжыня вертыкальнай палоскі 174 см, шырыня 17 см.

Даўжыня канта 150 см, шырыня 8 см, у 25 см ад гарызантальнай палоскі.

Бакавая палоска ідзе па паламанай лініі ад вертыкальнай. Даўжыня бакавой каменнай палоскі 229 см, шырыня — ад 5 да 14 см.

На камені шмат іншых элементаў, што падкрэсліваюць белыя скразныя лініі, якія часам даволі роўныя, а іншыя — ламаныя. Тут нямала кантаў, якія падкрэсліваюць той ці іншы выступ маналіту. Паўмесяц, які выстае над каменем, падкрэсліць равочкам, які яшчэ больш выдзяляе гэты цікавы прыродны сімвал вышыні, імклівасці, вечнасці і пекнаты.

Камень праляжаў каля могілак 5 гадоў (з 23 чэрвеня 1980 года да ліпеня 1985 года).

Да 40-годдзя з Дня Перамогі (9.V.1985) старшыня калгаса вырашыў арганізаваць адкрыццё мемарыяльнага комплексу. Уладзімір Церабун яшчэ ў 1982 годзе зрабіў праект мемарыяльнага комплексу для Гудзевічаў. На фоне разбуранай хаты (Гудзевічы ў кожную вайну гарэлі датла) стаіць з сярпочкам жанчына: разбураная хата — бетон, а жанчына абліцавана ліставой меддзю. У 1982 годзе помнік быў зацверджаны Міністэрствам культуры, але скульптар не меў часу рабіць. А ў 1983 годзе ўсе мемарыяльныя пабудовы былі замарожаны. У пачатку 1985 года было дазволена пачынаць мемарыяльныя збудаванні. Аднак старшыні калгаса Міхасю Сцяпанавічу Проньку паказалася, што 19 тысяч за помнік — гэта дорага. Тым больш што скульптар не забяспечваўся рабочай сілай.

Нейкія «шабашнікі» ўзяліся зрабіць комплекс за 16 тысяч. Праўда, яны ўсё рабілі з бетону. Паводле іх плана, на стэле павінны быць паказаны салдаты, якія змагаюцца з ворагам, а ў цэнтры ўзвышаецца жанчына з аўтаматам, молатам і сярпом у паднятых руках. Я запярэчыў, што нельга так нагружаць жанчыну. Аднак мяне не паслухалі. Праўда, удалося дабіцца, каб злева ад жанчыны далі словы з верша Панчанкі «Белыя яблыні»:

Вякамі глядзелі жанкі з-пад рукі,
Чакалі мужоў і сыноў.
І падалі зоркі, нібы светлякі,
У прорвы бязрадасных сноў.
І самі касілі, і самі аралі,
А іх дарагія за іх паміралі…

Не змог дабіцца, каб прозвішчы загінуўшых далі па-беларуску. Мастакі казалі:

— Что будет, если приедет русский: он же не поймёт фамилий на белорусском языке.

3 ліпеня 1985 года ў Гудзевічы прыехала камісія прымаць комплекс. Узначальваў камісію Аляксей Марачкін. У гэты дзень мы перацягнулі камень да комплексу і ўстанавілі за метр ад цэнтральнай дарожкі, за 6 м ад тракта. Камень паставілі наспех, без фундамента.

Марачкін і іншыя комплекс вельмі скрытыкавалі. Калі падышлі да каменя-глыжавіка, то Марачкін запытаўся:

— А гэта што такое?

— Гэта Алесь Мікалаевіч прыдумаў, — адказаў старшыня калгаса.

— Добры камень… Вельмі добры камень, — сказаў Марачкін.

5 ліпеня старшыня калгаса прапанаваў камень паставіць на развілцы дарог на Луну і на Нацавічы.

11 ліпеня старшыня змяніў думку і параіў паставіць камень паміж аўтобусным прыпынкам і комплексам..

Жонка Вера Ігнатаўна мне сказала:

— Сёння Верка Янушчыкава запыталася ў мяне: ці праўда, што гэты камень каля помніка Алесь Мікалаевіч прывёз з могілак? Я адказала: «Не. Яны яго ўзялі дзесьці ў полі ці ў лесе». Верка Янушчык працягвала: «У нядзелю на Яна (свята Яна Купалы, або Купалле) ехала я да фермы і бачыла такое: даволі старая кабета з Валотынь падышла да гэтага каменя, пералжагналася і пацалавала яго тры разы. Памалілася, зноў пералжагналася і зноў пацалавала. Людзі сказалі моліцца каля каменя, бо ён з могілак. Гэта святы камень».

Пазаўчора, 11 ліпеня 1985 года, трэці раз пайшоў да старшыні, каб даў машыну прывезці вешалку з карча, якую для музея зрабіў бясплатна мой былы вучань Дзіма Грабавіцкі, і старажытную каменную вазу з Дубенскага старога могільніка.

Дубенскія камсамольцы вырашылі на старажытным могільніку зрабіць стадыён. Прыйшоў бульдозер і пачаў спіхаць

помнікі. Людзі запратэставалі. Часова работы спынілі, але ўсё роўна могільнік знішчаць. А там, ужо засыпаная зямлёй, ляжыць каменная ваза.

Прачнуўся каля пятай гадзіны. Шуміць дождж. Устаў. Трэба схадзіць да старшыні перад нарадай. Сёння надвор'е дрэннае, то, можа, дасць машыны. Сена вазіць нельга.

Міхась Сцяпанавіч Пронька прыехаў у праўленне калгаса ў 7 гадзін 25 хвілін.

— Чаго чакаеце?

— Хачу машыны папрасіць, каб прывезці тую вазу і вешалку.

— Добра. Чакайце тут, можа, машыну дамо.

Пасля нарады сказалі, што машына будзе са Стругі. У 10 гадзін 15 хвілін яна падышла да музея. Паехалі…

Знайшоў гэтую вазу Васіль Мікалаевіч Валковіч. Жадаючы выратаваць яе ад гібелі, паведаміў у Гудзевіцкі музей. Ён, хворы, адзеўся і паехаў з намі ў Дубна. Там папрасіў дапамогі ў свайго сябра. Камень напалавіну завалены зямлёй, аднак відаць, што гэта ваза. Пры дапамозе лома і рыдлёўкі вызвалілі яго з зямлі. Учатырох ледзь ускацілі па лагах на машыну. Калі заехалі ў Масты, то Васіль Мікалаевіч Валковіч ахвяраваў нам шэраг экспанатаў: цікавую самаробную трапачку, сукала, ключ ад мастоўскага бровара, серп работы мікелеўскага каваля 1920-х гадоў, сякеру таго ж каваля, сякерку для лячэння каровы, як абдуецца, касу дарэвалюцыйнага часу, кацялок, якім карыстаўся ў 1914 годзе ягоны дзядзька Мікалай Мікалаевіч Валковіч, салдат 336-га Чалябінскага палка, склюд для цясання бярвення, бронзавую ступу дарэвалюцыйнага часу, кій з надпісам «Алесь» і многае іншае.

Дзмітрый Васільевіч Грабавіцкі перадаў вешалку з карча, 230 × 148 см, якая нагадвае страуса, ці павука, ці крата, ці іншую істоту. Зроблена вешалка вельмі цікава і добра.

Старажытная ваза (X–XI стст.), што знайшлі на могільніку ў Дубне, служыла рытуальным рукамыйнікам. На вазе захаваўся такі надпіс «XI.P.P.D». Цікава, што ён абазначае?.. Памеры вазы: вышыня 80 см, шырыня ў верхняй частцы 59 см, у ніжняй частцы 22 см…

15 ліпеня 1985 года былі мастак Анатоль Анікейчык з сакратаром РК КПБ Нэляй Мікалаеўнай Абрамовіч.

Мастак вельмі зганіў мемарыяльны комплекс.

— Самае важнае, што гэты помнік не будзе стаяць. Ён пачне калоцца, развальвацца, будуць адколвацца асобныя кавалкі.

Калі падышлі да каменя, Анатоль сказаў:

— Вот это прелесть. Где вы взяли такую прелесть?

Пронька паведаміў:

— Думаем пераставіць яго бліжэй да аўтобуснага прыпынку.

Абрамовіч запярэчыла:

— Нікуды яго не трэба перастаўляць. Ён тут глядзіцца вельмі добра.

Музеем захапляўся Анікейчык не як патрыёт, а як мастак. Ён сказаў:

— Музей каштоўны сваёй адметнасцю, асаблівасцю. Тут нельга нічога мяняць, бо ён страціць сваю самабытнасць.

Вельмі хваліў Анатоль Анікейчык вучнёўскую працу Сашы Рыжка «Ляткоўскія ветракі»:

— Гэтай рабоце няма цаны. Яна свежа, праўдзіва дае карціну мясцовасці, паказвае тутэйшы пейзаж. Тут шчырасць і непасрэднасць дапамаглі стварыць каштоўны твор. Беражыце гэты твор.

Абрамовіч і Пронька вельмі захапіліся вешалкай Дзмітрыя Грабавіцкага. Пронька сказаў:

— Вешалка цудоўная. Тут не проста мэбля, а цікавая задума. Кожны сучок мае сваё значэнне, а ў цэлым бачу павука.

Абрамовіч дадала:

— Это очень хорошая вешалка…

*1980–1987*

## ЦІ БЫЛА ГУДЗЕВІЦКАЯ ШКОЛА БЕЛАРУСКАЙ

У кнізе Васіля Быкава «Доўгая дарога дадому» двойчы ўпамінаецца Гудзевіцкая школа. Вельмі зацікавіў мяне ўспамін пра Гудзевіцкую школу на старонцы 451.

Ён апісвае, што мастакі Яўген Кулік і Мікола Купава запрасілі яго да сябе ў майстэрню і папрасілі падпісаць ліст-скаргу пра

знішчэнне беларускай мовы генеральнаму сакратару ЦК КПСС Міхаілу Гарбачову. Прыехала камісія з ЦК КПСС, каб разабрацца, ці пацвердзяцца факты. Паводле іхніх меркаванняў, факты не пацвердзіліся. Васіль Быкаў запярэчыў. Тады высокія чыноўнікі паабяцалі, што паедуць па абласцях і выявяць сапраўдны стан рэчаў. Праз нейкі час камісія вярнулася і неўзабаве паклікалі зноў. Другі раз Антановіча не было, у кабінеце сядзелі толькі масквічы. Яны бадзёра паведамілі, што ездзілі на Гродзеншчыну, асабіста зайшлі ў выпадковую на іхнім шляху школу, і тая школа аказалася цалкам беларуская.

— Якая гэта школа? — запытаўся я. — Напэўна, у Гудзевічах?

Чыноўнік збянтэжана ўставіўся на мяне:

— А вы адкуль ведаеце? Хто вам сказаў?

— Каму ж невядома, дзе ў нас беларуская школа напаказ? У Гудзевічах. Там і настаўнік такі — беларускі энтузіяст Белакоз.

Тыя два зірнулі ў паперку.

— Так, Белакоз, ага…

Калі я прачытаў гэтае адкрыццё Васіля Быкава, то падумаў: а можа, і праўда кадэбісты так тонка падладзіліся пад нашу беларускасць? Прааналізаваўшы ход рэчаў, прыйшоў да высновы, што беларускасць Гудзевіцкай школы заўсёды была косткай у горле маючым уладу.

У сярэдзіне пяцідзясятых гадоў XX стагоддзя я напісаў заяву выкладчыку беларускай літаратуры Гродзенскага інстытута, пазаштатнаму інспектару Міністэрства асветы Браніславу Ржэўскаму пра тое, што ў Гудзевіцкай школе гісторыя, геаграфія, біялогія, фізкультура, замежная мова і іншыя прадметы выкладаюцца па-руску. Спадар Ржэўскі пачаў расследаванне. Яму далі сем гадоў турмы.

Калі б тады ўладам патрэбна была беларуская паказальная школа ў Гудзевічах, то задаволілі б патрабаванні спадара Ржэўскага, аднак гэтага не зрабілі, а яго асудзілі.

У 1963 ці, магчыма, 1970 годзе на прафсаюзным сходзе завуч школы Юлія Іванаўна Асмалавец прапанавала закупіць для школы ўсе падручнікі гісторыі на рускай мове, бо выкладчык

Аляксандр Кузьміч Шабаль размаўляе па-руску, а вучні ўпарта адказваюць па-беларуску. А вось калі ў іх падручнікі будуць рускія, то яны вымушаны будуць адказваць па-руску.

Я быў старшынёй мясцкама прафсаюза, вёў сход і адразу запярэчыў:

— А калі б Аляксандр Кузьміч быў не рускі, а турак, няўжо мы выпісвалі б падручнікі са Стамбула?

— Што вы раўняеце? — абурылася Юлія Іванаўна.

— А чым турэцкая мова горшая за рускую? Па вашай логіцы патрэбна б прымусіць вучняў адказваць па-турэцку.

З курсаў павышэння кваліфікацыі вярнуўся ў тым годзе выкладчык гісторыі, стукач, які хваліўся сваёй здрадніцкай дзейнасцю, падрыхтаваў шэраг вучняў да стукацкай дзейнасці, навучыў іх піць гарэлку, курыць, змагаўся з усім тым, з чым я вёў непрымірымую барацьбу. Аднойчы вучні майго класа на пяці аўтобусных прыпынках паставілі лавачкі. Яму, стукачу, стала агідна, што людзі могуць адпачыць, пасядзець перад прыходам аўтобуса. Ён на добрым падпітку пачаў разбураць лавачку, але гэта яму не ўдавалася. Тады загадаў прысутным вучням:

— Чего смотрите? Помогите уничтожить эту белокозовщину!

Ніхто з дзяцей не дапамог настаўніку-вандалу. Лавачка засталася на месцы.

Гэты «педагог» з Мінска прывёз перакананне, што ЦК КПБ ставіць задачу татальнага знішчэння беларускай мовы. Ён прапанаваў:

— Трэба напісаць у Міністэрства асветы і запытацца, ці можна ў беларускую школу купляць рускія падручнікі.

Я таксама ведаў палітыку генацыду ў адносінах да беларускага народа, але мне хацелася мець адказ з ЦК КПБ, а таму прапанаваў:

— Давайце напішам у ЦК КПБ, бо міністэрства выконвае загады ЦК.

З гэтым усе згадзіліся. Засталося вырашыць, хто павінен пісаць. Той жа выкладчык гісторыі прапанаваў, каб пісаў у ЦК Белакоз. Прапанову падтрымалі аднагалосна.

Жонка параіла мне не пісаць у ЦК, бо б'юць таго, хто напіша. Я мучыўся з месяц, аднак патаемна ад жонкі напісаў у ЦК КПБ.

Што тут пачалося! Паднялі гвалт на ўсю вобласць. Мяне паслалі ў камандзіроўку, а ў гэты час у Гудзевіцкую школу прыехаў загадчык аддзела методыкі і нагляднасці Міністэрства асветы Ярмоленка, які выклікаў па чарзе ўсіх прысутных на тым прафсаюзным сходзе і кожнага прымушаў сказаць, што такога сходу не было, усё гэта выдумаў Алесь Белакоз. І ніхто не даручаў яму пісаць у ЦК.

Усе сцвердзілі, што ніякай прапановы пра закупку рускіх падручнікаў па гісторыі завуч не ўносіла, а таму ніхто не мог даручаць Белакозу пісаць пра гэты факт.

Гісторык сцвярджаў, што ён нічога не прапаноўваў, бо такое пытанне не разглядалася. Сакратар прафсаюзных сходаў Пётр Пятровіч Шэўчык даказваў, што ён пратакола не пісаў, бо такога сходу не было.

— Бачыце, — сказаў правяраючы, — прапановы закупляць падручнікі па гісторыі на рускай мове Юлія Іванаўна не рабіла, пісаць у ЦК КПБ ніхто Белакозу не даручаў, а таму і разбіраць няма чаго.

Вера Ігнатаўна, мая жонка, запярэчыла:

— Як гэта не было? Юлія Іванаўна, вы ж прапаноўвалі закупіць рускія падручнікі па гісторыі, а цяпер адмаўляецеся. Чаму?

— Што вы, Вера Ігнатаўна? Я не прапаноўвала рабіць гэтага.

Усе сцвердзілі, што такога пытання не было. І ніхто Белакозу нічога не даручаў.

Тады Вера Ігнатаўна запярэчыла:

— Усе кажуць няпраўду. Арганізавана пагалоўная мана. І чаму вы з міністэрства прыехалі ў школу тады, калі Алесь Мікалаевіч у камандзіроўцы?

— Я прыеду яшчэ раз, — паабяцаў спадар Ярмоленка, загадчык аддзела методыкі і нагляднасці Міністэрства асветы БССР.

Калі ўладам хацелася зрабіць у Гудзевічах паказальную беларускую школу, то арганізоўваў бы прадстаўнік міністэрства палітычную справу не супраць Белакоза, а супраць русіфікатараў…

Праз нейкіх пару тыдняў мяне з урока выклікаюць у настаўніцкую. Дырэктар Іосіф Ігнатавіч Радзевіч прадстаўляе мне:

— Гэта загадчык аддзела методыкі і нагляднасці Міністэрства асветы БССР Ярмоленка, а гэта інспектар аблана.

Ярмоленка адразу заяўляе мне:

— Мы прыехалі вас праверыць і знойдзем многа недахопаў.

— Я ў гэтым упэўнены, — адказаў я.

— Як гэта? Калі добра працуеце, то якія ж могуць быць недахопы? — здзівіўся Ярмоленка.

— Не мае значэння, як я працую. Важна, чаго вы прыехалі, — запярэчыў я. — Недахопы ёсць у кожнага. Кім вы працуеце?

— Я — загадчык аддзела методыкі і нагляднасці Міністэрства асветы.

— Вось бачыце, у мяне такое ўражанне, што вы там нічога не робіце. Мне даручылі, каб на секцыі выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры распавёў, як я праводжу кінаўрок па роднай літаратуры. Я аб'ездзіў амаль усе суседнія раённыя фільматэкі, абласную, інстытуцкую, — нідзе ніводнага фільма па беларускай літаратуры. Чаго ж вы там месца займаеце? Гэта ж ваш абавязак — распаўсюдзіць вучэбныя фільмы.

— Фільмы каштуюць мільёны, а мы такіх грошай не маем.

— Мільёны каштуюць мастацкія фільмы, а мы маем шэраг навучальных фільмаў па беларускай літаратуры. Бяда ў тым, што іх выпушчана толькі па 36 копій. Іх можна знайсці ў Мінску, Маскве, Ленінградзе, Ташкенце, Рызе, а вось на ўсю Гродзенскую вобласць ніводнага экзэмпляра: няма каму заказаць для Беларусі яшчэ 200 копій. Да чаго мы дажыліся? На ўсю Гродзенскую вобласць прывезлі ў Гродна восем дыяфільмаў «Якуб Колас». Я кожны з іх ахвяроўваў сябрам як самы найлепшы падарунак. Гэта не проста гультайства, а шкодніцтва!

— А вы ведаеце, што каб заказаць дыяфільм, трэба ехаць у Маскву? — абурыўся мінчук.

— Калі вы не маеце часу ехаць, то пашліце мяне! — зазлаваў і я.

— Пакіньце нас адных, — закамандаваў Ярмоленка дырэктару і інспектару аблана.

Калі яны выйшлі, Ярмоленка сказаў:

— Сынок, я не прыехаў вас правяраць.

— То для чаго ўся гэта камедыя? — зноў абурыўся я.

— Вы напісалі ліст у ЦК КПБ, і там быў такі сказ: «Ім, саратаўцам, лягчэй размаўляць па-руску, але ж чым вінаваты беларускія дзеці, чаму іх трэба прымушаць вывучаць гісторыю па-руску…» Вы ж абразілі завуча і гісторыка.

— Чым? Яны ж сапраўды з Саратава! Калі б мяне хто-небудзь назваў гарадзенцам, то я ганарыўся б гэтым.

— За гэты сказ у вас будзе шмат непрыемнасцяў. Ці будзеце пісаць у Маскву? — пацікавіўся Ярмоленка.

— Калі б Масква хацела, каб у нас усё было па-беларуску, то шмат непрыемнасцяў мелі б саратаўцы, а так няма сэнсу звяртацца ў Маскву.

— Вы цалкам правільна разважаеце, — згадзіўся Ярмоленка.

Пасля гэтага нас правярала РАНА амаль два тыдні. Да гэтай татальнай праверкі быў падключаны апарат Дома піянераў, РК ЛКСМБ, райкам партыі, дырэктары школ і многія іншыя. На кожны ўрок ішлі тры-чатыры правяраючыя, чапляліся да ўсяго і кожнаму настаўніку казалі:

— Калі б не Белакоз, то мы да вас так не чапляліся б, але ўсё гэта з-за Белакоза.

Некаторыя настаўнікі папракалі мяне, што працую не так, як усе. На радзе РАНА загадчык Мікалай Іванавіч Рында распінаўся:

— Да чаго давялі школу — ні ў аднаго настаўніка на ўроку не было нагляднасці!

Мне далі слова на чатыры хвіліны. Я сказаў, што мушу сам апраўдацца і апраўдаць калег. У выкладчыцы матэматыкі запытаўся, ці была ў яе нагляднасць на ўроку. Што была, пацвердзілі і правяраючыя. Пытаюся ў Рынды:

— Чаму гаворыце няпраўду?

— Калі б мы прыехалі вас узнагароджваць, то казалі б інакш, але мы прыехалі праверыць вас з марксісцка-ленінскага пункту гледжання.

— Не прыкрывайцеся гэтым: марксісцка-ленінскі пункт гледжання не патрабуе, каб вы хлусілі, — настойваў я.

— Да мы, да вы… — запыкаў Рында і не здолеў растлумачыць, чаму ён хлусіць.

— Галоўная мая віна ў тым, што я за сваю зарплату купіў для школьнага музея скульптурны партрэт Міхася Явара.

— Чаму, — пытаецца спадар Рында, — вы за свае ўласныя сродкі набылі гэты бюст і ўстанавілі яго ў школьным памяшканні?

— Калі б я гэтыя грошы ўкраў, то растлумачыў бы вам, чаму я дапусціўся да такога ганебнага ўчынку (я тады падумаў, што злодзей злодзея зразумее). Я ж аддаў на школьную справу сваю і жончыну зарплату. Чаму я так зрабіў? Вам гэтага не зразумець. І больш нічога я тлумачыць не буду.

Праўда, перад сваім апраўданнем я звярнуўся да членаў рады РАНА. Сказаў тады так:

— Член КПЗБ, польскі пісьменнік Бруно Ясенскі да свайго твора «Чалавек мяняе скуру» ўзяў такі эпіграф: «Не бойся свайго ворага: ён хоча тваёй гібелі. Ты ведаеш пра гэта, — у гэты час зрабіў рытарычны жэст у бок загадчыка РАНА. — Не бойся сваіх сяброў: яны рана ці позна прададуць цябе, — пры гэтым паказаў на настаўнікаў, старшыню сельсавета, якія ўсе тады прадалі мяне, адмовіліся, што галасавалі за тое, каб я пісаў у ЦК КПБ. Утулілі ў каўняры яны свае галовы, апусцілі вочы. — Бойся людзей абыякавых: яны прададуць цябе, ім усё роўна, ці прапануюць цябе ўзнагародзіць, ці павесіць. Яны прагаласуюць за любую прапанову». Гэта да вас звяртаюся, члены рады РАНА. Вы сёння будзеце галасаваць за маю гібель. Перад тым, як падняць руку, падумайце, за што вы галасуеце.

Раду РАНА вывелі ў іншы пакой, каб я не чуў іхніх выступленняў. На прапанову загадчыка РАНА аб'явіць Белакозу суровую вымову дырэктар трэцяй школы сп. Арцімовіч сказаў:

— Не разумею, за што мы сёння судзім Белакоза? Ён на школьную справу аддаў больш за сваю месячную зарплату, а мы збіраемся яму за гэта аб'явіць суровую вымову. Ды калі б у маёй

школе такое зрабіў настаўнік, то я дайшоў бы да міністра асветы і дабіўся б прысваення яму заслужанага настаўніка Беларусі.

Інспектар РАНА Мікалай Іванавіч Ваглай сказаў так:

— Я рашуча не згодны з таварышам Арцімовічам: я сорак гадоў адпрацаваў дырэктарам і інспектарам школ і таксама не чуў, каб хто з настаўнікаў аддаў сваю зарплату на школьную справу, аднак я катэгарычна не згодны з прапановай дырэктара трэцяй школы прысвоіць Алесю Мікалаевічу Белакозу званне заслужанага настаўніка БССР: яму трэба прысвоіць заслужанага настаўніка ўсяго свету.

Пасля гэтага і іншыя набраліся смеласці заступіцца за непаслухмянага Белакоза. Аднагалосна вырашылі Белакозу ўказаць на самавольныя дзеянні, бо не запытаўся ў Рынды, ці мае права купіць для школьнага музея статую за свой кошт. Дырэктару школы аб'явіць суровую вымову за тое, чаму не пільнаваў Белакоза, чаму дазволіў бунтарнаму Белакозу «ўстанавіць у школьным памяшканні бюст якогасьці Явара». Завучам — па вымове, бо працуюць нядаўна, яшчэ не ведалі, што Белакоз такі небяспечны для савецкага грамадства чалавек. Беларускасць школы адстойвалася ў жорсткім змаганні. Пасля рады РАНА загадчык аддзела прапаганды райкама КПБ Лебедзеў і загадчык РАНА Рында выклікалі мяне і загадалі, каб я са школьнага будынка, гэта значыць з музея, забраў скульптурны партрэт Міхася Явара. Я заспрачаўся:

— Не буду я красці са школы такі каштоўны экспанат.

— Вы ж за яго заплацілі свае грошы, значыць, ён ваш, — даказваў Лебедзеў.

— Ён запісаны ў кнігу паступлення экспанатаў асноўнага фонду. Я не толькі не маю права яго забраць дахаты, але не магу без дазволу міністра культуры нават перадаць у іншы музей.

— Мы вам приказываем убрать бюст из школьного помещения…

— Добра, заўтра на вялікім перапынку вынесу гэты бюст на ганак школы, збяру вучняў і скажу, што загадчык РАНА і загадчык аддзела прапаганды Мастоўскага РК КПБ загадалі

знішчыць скульптурны партрэт беларускага паэта Явара. І тут жа разаб'ю гіпсавы бюст.

— Не делайте этого! — абурыліся душыцелі беларускасці. — И не вздумайте на могиле Михася Явара устанавливать памятник: это можно сделать только с разрешения Верховного Совета БССР…

На летніх вакацыях я паехаў у Саюз пісьменнікаў БССР да Максіма Танка. Зайшоў у Саюз, а там кажуць:

— Танк у Нямеччыне, то як хочаце, заходзьце да Шамякіна.

Зайшоў.

У кабінеце Шамякіна сядзеў і Мікола Ткачоў, таксама сакратар Саюза пісьменнікаў.

Распавёў я пра нашы беды, а Шамякін кажа:

— Бо вы і зрабілі такі па-партызанску. Задумаў, заказаў бюст, заплаціў, прывёз. Хто ж так робіць?!

— А як трэба было зрабіць? — пытаюся я.

— Трэба было напісаць нам. Мы б выслалі Вам грошы, вы заказалі б бюст. Як ён быў бы гатовы, паведамілі б. Прыехала б дэлегацыя ад Саюза пісьменнікаў, ад абкама, ад райкама партыі, урачыста адкрылі б бюст, а вам была б слава і ўдзячнасць РАНА.

— А што? Гэтыя грошы і цяпер у вас ёсць? — пытаюся.

— Так, — кажа Шамякін.

— Якое шчасце: на магіле Явара ні крыжыка, ні абеліска. Я ўжо сабраў шмат медзі і цынку. Цяпер за вашы грошы адальём прыгожы металічны помнік. Як добра, што прыехаў да вас.

Тады ўмяшаўся ў размову Ткачоў:

— Ніякіх грошай мы не мелі і не маем. І на партрэт ці бюст мы нічога не далі б. Таму і на помнік нічога пералічыць вам не здолеем. Давай лепш думаць, Іван, як захаваць скульптурны партрэт паэта, а то і праўда тыя дурні яго знішчаць.

Іван Шамякіч пакрыўдзіўся і, амаль адвярнуўшыся, працадзіў:

— Міхась Явар — заходнік. Я іх не ведаю.

Ткачоў дадаў:

— Я таксама ўсходнік. Трэба, каб гэтае пытанне вырашаў Максім Танк.

— Я ж да Танка і прыехаў.

— Ён цяпер у Нямеччыне, вы апішыце ўсё і пакіньце. Я перадам, — паабяцаў Ткачоў.

Я прадбачыў такі варыянт, што Танка можа не быць на месцы, а таму ў хаце надрукаваў эпапею пра скульптурны партрэт Явара. А потым даслаў Танку. Але адказу ад Максіма Танка не было. Праўда, РАНА і райкам КПБ ад Явара адчапіліся. За пяць ці шэсць гадоў па маёй персоне адбыліся чатыры саветы РАНА. Перад кожным саветам праводзіліся татальныя праверкі маёй працы. Чамусьці недахопаў знайсці не маглі. Чапляліся па дробязях: вучань над у нескладовым не паставіў значка кароткасці, а я не паправіў, а іншы вучань пакінуў не чатыры сантыметры чырвонага радка, а пачаў пісаць пад чацвёртай літарай (так і трэба). Мяне дапытвалі, чаму дзіця не пакідае чатыры сантыметры. Я адказаў:

— Адгарніце любую кнігу, і вы ўбачыце, што чырвоны радок пачынаецца пад чацвёртай літарай.

Інспектар Аляксандра Мікалаеўна Сасноўская на савет РАНА вынесла пытанне, ці меў я права за тое, што дзяўчынка напісала ліст да пісьменніка Ніла Гілевіча, паставіць ёй пяцёрку. Я адказаў так:

— У праграме ёсць такі пункт: напісаць ліст да брата, сябра ці кагосьці іншага. Напісаць ліст да пісьменніка цяжка не толькі нам, настаўнікам, але і інспектару Сасноўскай, а дзяўчынка бліскуча справілася з гэтым заданнем. Я Аленцы паставіў не адну пяцёрку, як далажыла савету РАНА Аляксандра Мікалаеўна, а дзве: па мове і літаратуры. Добра было б, каб усе настаўнікі вучылі дзетак, як пачаць ліст да такога знакамітага пісьменніка, паставіць значную праблему, паведаміць пра нашы задумы, папрасіць дапамогі, пажадаць поспехаў у творчасці і працы для роднай Беларусі.

Мне таксама ставілася ў віну, што на тэму «Францыск Скарына» я затраціў пяць урокаў, значыць, працую не па савецкіх праграмах. Гэта была фальсіфікацыя, бо я затраціў на названую тэму толькі адзін урок. Праўда, на гэтым жа ўроку па праграм-

ме я павінен быў закрануць яшчэ дзве тэмы. Астатнія чатыры ўрокі былі ўзяты з урокаў для развіцця мовы. Гэта падрыхтоўка да сачынення «Францішак Скарына — патрыёт, першадрукар, асветнік». Пазней мы на двух уроках пісалі гэтае сачыненне, затым разбіралі яго.

Хоць я даказаў, што патраціў на тэму толькі адзін урок, аднак загадчык РАНА Рында заявіў:

— Белакоз працуе не па савецкіх праграмах. Трэба мяняць або савецкія праграмы, або Белакоза.

Аб'яўлена мне была суровая вымова з апошнім папярэджаннем. Вялікай маёй віной было і тое, што на ўроку мовы Аленка Ягнешка звярнулася з прапановай надрукаваць яе верш у органе гуртка беларускай літаратуры і рады Гудзевіцкага літаратурна-краязнаўчага музея. Гэта было класіфікавана інспектарам як занятак на ўроку беларускай мовы пабочнымі справамі.

Я пытаюся ў Аляксандры Мікалаеўны Сасноўскай, чаму яна так падыходзіла тады да ацэнкі маёй дзейнасці. Яна адказала:

— Перад праверкай нам давалі загад, што шукаць, як правяраць. У кожнага настаўніка ёсць плюсы і мінусы. У вас даводзілася шукаць мінусы.

— А калі мінусаў не знаходзілі, то трэба было прыдумаць іх?

— Здаралася і такое.

Бараніцца ад такіх прыдуманых недахопаў было лёгка, але на апраўданні ніхто не звяртаў увагі, таму і каралі за відавочную фальсіфікацыю.

Апошні савет РАНА па маёй персоне быў у 1975 годзе. Вынес мне суровую вымову з апошнім папярэджаннем.

Вечарам неяк прыйшоў Валодзя Цянкуш, выкладчык беларускай і рускай мовы, ваеннай справы, стукач. Ён прапанаваў:

— Або вы будзеце працаваць так, як усе, або я перадам у КДБ на вас данос, які падпісалі ўжо 12 чалавек. Я напісаў, што ваш бацька амерыканец, што яго забілі партызаны, што вы не ўступалі ні ў піянеры, ні ў камсамольцы, ні ў камуністычную партыю, што вы выхоўваеце нацыяналістаў.

Абурэнню майму не было мяжы. Не памятаю, як гэта здарылася, што я схапіў крэсла і кінуўся да яго. Ён рвануўся да дзвярэй.

Здаецца, ножкай крэсла ўсё ж я яго зачапіў. Усё тое, што казаў Цянкуш, КДБ ведаў.

Яшчэ ў 1965 годзе пра гэты орган, створаны савецкай уладай для знішчэння свайго народа, часта распавядала Ларыса Геніюш. Аднойчы ў канцы 1960-х яна распавяла мне, што збольшага ў гэтых органах працуюць тупыя людзі. Чаму я так думаю? Відаць, можа, міністр ці якісьці лектар паўшчуваў іх, што апранаюцца, як у 1917 годзе: скураныя курткі, боты… «Чаму б вам не заказаць сабе прыгожае паліто кававага колеру?» Кадэбісты ўспрынялі гэта, як загад, і ўсе адзеліся ў ясёнкі кававага колеру.

Аднойчы прыносіць мне пасля ўрокаў вучань дахаты павестку ў ваенкамат. Я быў афіцэрам запасу. Праўда, зорачкі мне да пагонаў сілай прышпілілі, нават доўга цягалі, каб застаўся ў кадрах, бо экзамены я заўсёды здаваў лепш за ўсіх, гарэлкі ў арміі ў рот не браў. Вось і цягалі мяне з месяц, каб падаваў рапарт на службу ў кадрах. Я ўпарта адмаўляўся, матывуючы сваё нежаданне служыць у кадрах слабым здароўем. Служыў я ў асобным армейскім інжынерна-сапёрным батальёне. Апошніх паўгода мы, будучыя афіцэры запасу, хадзілі дзяжурнымі па часці.

Яшчэ мінут 15 да разводу, а тут на алеі паказаліся камандзір батальёна палкоўнік Ярчанка і начальнік штаба маёр Іваноў. Я падаў каманду:

— Батальён, смір-р-рна! — і падышоў страявым крокам дакладваць начальству.

Палкоўнік так лагодна:

— Вольна!

— Вольна! — паўтарыў я ўсяму батальёну.

— Маёр Іваноў, вы праводзьце развод, а я пагутару з таварышам Белакозам, — кажа Ярчанка, а сам мяне пад руку ды павольна рухаемся па алеі. Пытаецца: — Вы кім працавалі ў цывілі?

— Настаўнікам.

— Колькі зараблялі за месяц?

— Чатырыста рублёў.

(У 1952 годзе гэта было вельмі мала: за такія грошы нават прыстойнага плашча набыць нельга было.)

— Ужо ў першы год кадравай службы вы атрымаеце кожны месяц 400 рублёў за зорачку, 700 рублёў за пасаду камандзіра ўзвода, 150 рублёў пайкавых, 150 рублёў кватэрных. Вам дадуць абмундзіраванне летняе, абмундзіраванне зімовае, фуражку, шапку зімовую, боты хромавыя, боты ялавыя, тры пары парцянак летніх, тры пары парцянак зімовых. Вы ж атрымаеце амаль у чатыры разы больш, а ўсё дарам. Усе грошы можаце расходаваць на прапой. Кідайце вы настаўніцтва. Адно слова «афіцэр» чаго варта! За вамі дзяўчаты будуць роем хадзіць!

— У мяне ў хаце адна матуля. Яна хворая. Хто яе дагледзіць?

— А вы вышлеце ёй пяцьдзясят рублёў кожны месяц, то яна сябе паняй будзе адчуваць.

— Не, паеду дахаты, — не здаваўся я.

— Ну, добра. А дзе ж вы працаваць будзеце?

— Школа ад хаты за 400 метраў, там і буду працаваць.

— Глядзіце, каб не шкадавалі!

Ніколі не шкадаваў, што застаўся працаваць настаўнікам. А афіцэрам быць не хацеў, аднак давялося. Часта выклікалі ў ваенкамат, на зборы, але павестку прысылалі праз сельсавет ці па пошце. А неяк вучань разам з павесткай прынёс камандзіроўку. Я зразумеў, што гэта незвычайны выклік.

Заходжу ў ваенкамат, а ў вестыбюлі справа на лавачцы сядзіць чалавек у ясёнцы кававага колеру. «Ага! Гэта па мяне…» Падыходжу да акна дзяжурнага і пытаюся:

— Выклікалі?

У гэты час каваvы кадэбіст кажа:

— Гэта мы вас выклікалі.

— А хто вы? — пытаюся.

— Давайце выйдзем, — прапануе кававы мужчына.

— Чаго вы хочаце? — дапытваюся я.

— Пройдзем у міліцыю: тут недалёка, — прамармытаў кадэбіст.

У будынку міліцыі завёў мяне ў маленькі пакойчык, у якім стаяў стол, чатыры крэслы і нейкая металічная скрынка, у якой, відаць, быў магнітафон, бо ніякага пратаколу не пісалі.

— Наместнік начальніка абласнога КДБ, — прадставіў мне маёра кававы кадэбіст, які назваўся Салаўём.

— Мы пра вас чулі як пра выдатнага педагога, ведаем, што былі найлепшым у раёне завучам, што адмовіліся ад пасады дырэктара сярэдняй школы. Яно і зразумела: вам бы кіраваць адукацыяй раёна, вобласці ці нават рэспублікі. Вашы вучні пішуць вершы, артыкулы па этнаграфіі, фальклоры, тапаніміцы, па гісторыі раёна. Ва ўсіх газетах і часопісах друкуюцца вашы вучні. Мы можам дапамагчы вам заняць самую высокую пасаду: вы б справіліся.

— Дзякую, але я хачу працаваць выкладчыкам беларускай мовы.

— Мы пра гэта ведаем, ведаем, што вы выдатны матэматык, але закаханы ў родную мову.

— Кожны абавязаны любіць родную мову, як сваю матулю.

— Вядома, мы цэнім ваш патрыятызм. Можа, вы раскажаце пра сваё жыццё?

Калі скончыў апавядаць сваю біяграфію, маёр абурыўся:

— Вы не сказалі, як загінуў ваш бацька.

— Вы ж прасілі выкласці маю біяграфію, а не бацькі. А бацьку ў чэрвені 1943 года забілі бандыты.

— Ну што вы! Гэта былі партызаны.

— Пазней яны назвалі сябе партызанамі, а тады прыйшлі да нас, каб абрабаваць. Тата быў смелы чалавек, ён не пускаў іх у хату. Яны пачалі страляць, кінулі гранату і забілі невінаватага чалавека. Хіба гэта не бандытызм?

— Вы нічога на сказалі, што часта сустракаецеся з пісьменнікамі.

— Так. Я выкладчык беларускай мовы і літаратуры, мой абавязак — арганізоўваць сустрэчы вучняў з пісьменнікамі.

— Вы часта арганізуеце сустрэчы пісьменнікаў з настаўнікамі?

— Я кірую раённай секцыяй выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры Мастоўскага раёна. Трэба, каб секцыі праходзілі цікава.

— Вы нават у Мінску ў 1965 годзе арганізавалі сустрэчу ўсіх кіраўнікоў беларускіх раённых секцый з пісьменнікамі.

— Так, я тады быў на курсах, і з Броўкам ды Шамякіным арганізавалі такую сустрэчу.

— Вы тады патрабавалі ў сваім выступленні, каб 80 працэнтаў школ былі беларускімі, каб ВНУ працавалі па-беларуску, каб ва ўстановах усё было па-беларуску?

— Што ў гэтым дзіўнага? Мы ж жывём у Беларусі, — апраўдваўся я.

— У Гудзевіцкай школе ўсе вучні размаўляюць і вітаюцца па-беларуску.

— Вядома, у нас жа беларуская школа.

— Але ж усе мовы павінны зліцца ў адну.

— Няхай зліваюцца.

— Але ж вы павінны на ўроках казаць, што руская мова прыгожая, магутная, вялікая.

— Як гэта я, выкладчык беларускай мовы, буду прапагандаваць нейкую іншую? Што, мне казаць, каб вучні не вучылі беларускай мовы?

— Не, вы скажыце, што рускую мову павінен ведаць кожны жыхар нашай планеты, а беларуская мова з часам знікне.

— «Калі яна знікне, то навошта яе вывучаць?» — скажуць вучні.

— Правільна скажуць. Многія ўжо цяпер не вывучаюць беларускай мовы, — даказвалі кадэбісты.

— Ды не дзеля гэтага мы вас выклікалі, — прызнаўся маёр.

— А дзеля чаго? — пацікавіўся я.

— Вы сустракаецеся з пісьменнікамі, мастакамі, кампазітарамі. Нас цікавіць, пра што з імі размаўляеце.

— Лічу вялікім нікчэмствам распавядаць пра тое, з кім пра што размаўляў.

— Нас цікавіць, пра што вы размаўлялі з Петрусём Броўкам, з Іванам Шамякіным, з Ларысай Геніюш.

— Нічога я распавядаць не буду, тым больш што ў гэтых размовах нічога цікавага для вас няма.

— Вы добра падумайце, бо потым будзе позна.

— Я падумаў.

Пасля некаторых угавораў маёр выйшаў. Салавей пачаў:

— Што тут такога? Мы ж нічога незвычайнага не патрабуем. Самі ж кажаце, што ў гэтых размовах нічога важнага не было.

Я працягла ва ўпор паглядзеў яму ў вочы.

— Вось бачыце, вам самому сорамна, што прапануеце мне стаць сабакам, а мяне агітуеце на гэты ганебны крок.

— А чаму вы думаеце, што я саромлюся прапаноўваць супрацоўніцтва?

— Бо пры гэтым не можаце глядзець мне ў вочы.

— Калі ласка, магу глядзець бясконца.

Паглядзеў Салавей секунд з сорак і вочы апусціў. Больш нічога не прапаноўваў.

Зайшоў маёр:

— Ці згадзіліся?

— Не, — адказаў я.

— Вам будзе вельмі цяжка: вас пакінуць сябры, адмовяцца ад вас сваякі, асудзіць грамадскасць. Падумайце, не адмаўляйцеся.

— Я ўжо падумаў.

— У вас яшчэ будзе многа непрыемнасцяў з-за таго, што пісалі ў ЦК КПБ, — папужаў маёр.

— То гэта ЦК праз вас адказвае мне?

— Не, адказ вы атрымаеце.

Тры з паловай гадзіны апрацоўвалі мяне кадэбісты. Урэшце паведамілі, што магу ісці. Вядома ж, узялі падпіску, што нідзе пра допыт не буду распавядаць. Я набраўся нахабства, каб паказаць, што не спужаўся іхніх пагроз, ды запатрабаваў:

— Завярайце камандзіроўку: я ж павінен на працы апраўдацца, дзе прагуляў дзень.

— Камандзіроўку вам выпісваў ваенкамат. Мы патэлефануем, каб паставілі пячатку.

Прапусціў яшчэ такое пытанне:

— Вы чаму рускіх называеце кацапамі?

— Вашы сабакі схлусілі вам: я ніколі не кажу на рускіх «кацапы».

— Можа, забыліся?

— Не мог я такога сказаць, бо ў нас каталікі праваслаўных называюць кацапамі. Усё жыццё мяне шляхцюкі называюць кацапам.

Усё тое, што кадэбісты паабяцалі, здзейснілі. Настаўнік Барэйша, які прыкідваўся маім шчырым сябрам, без ніякіх прычын перастаў са мной размаўляць, пачалі цурацца настаўнікі, пабойваліся наведваць сваякі, толькі жончын стрыечны швагер, які хваліўся, што добра зарабляе на даносах, пачаў часцей наведваць нашу хату: то нам вокны памаляваць, то калідор парамантаваць, а сам усё капаўся ў кнігах, у шуфлядах, шафах. У час інспектарскіх праверак калегі па працы імкнуліся ўкусіць балюча, моцна, то абвінавацiўшы ў нацыяналізме, то ў тым, што завышаю адзнакі вучням, што на іхніх уроках вучні вучаць беларускую мову, то што дзеці не вучацца, а вершы складаюць, то што ў музеі бясконца сядзяць, а на ўрокі часу не застаецца.

Я адказы на іхнія пытанні ператвараў у жарт або так адказваў, што другі раз пытацца не хацелася. Таму, хто папракнуў мяне за празмерную працу дзяцей у музеі, адказаў:

— Вядома, калі вучні вам выбіраюць бульбу, то ў гэты час, як заходзяць у музей, урокаў не робяць.

Калі завуч папракнула, што вучні сёмага класа напісалі за самую кароткую трэцюю чвэрць толькі тры сачыненні, адказаў так:

— У мяне ў сёмым класе на мову і літаратуру толькі тры ўрокі, а ў вас па рускай мове дзеляцца на групы. Вы маеце восем урокаў, то адпаведна павінны вучні сёмага класа напісаць 8 сачыненняў, а напісалі яны толькі адно. Дык хто дрэнна працуе, я ці вы?

Больш яна мяне не чапала.

Аднойчы кадэбіст Салавей, сустрэўшыся ў Мастах 7 студзеня (настаўніцкія канферэнцыі абавязкова рабілі на першы, другі і трэці дзень Вялікадня ці Каляд), запытаўся:

— Ці спраўлялі ўчора куццю?

— У вас столькі сабак, а вы хочаце, каб я сам на сябе даносіў.

— Пабойцеся Бога, што вы кажаце!

— Кажу тое, што ёсць. Давялі да таго, што нельга захоўваць спрадвечных традыцый, і цешыцеся. Саромеліся б.

Аднойчы сядаю пасля канферэнцыі ў аўтобус, каб вярнуцца дахаты, а тут прыходзяць загадчык ці начальнік Ваўкавыскага аддзела КДБ Данільчык ды Салавей. Кажуць, каб выйшаў з аўтобуса (яны ж звычайна не з хаты арыштоўваюць, каб менш шуму было). Выйшаў.

— Чаго хочаце? — пытаюся.

— Прыедзьце заўтра ў Ваўкавыск: нам трэба з вамі пагутарыць.

— Прыеду, толькі выпісвайце павестку. Бо нам прызначылі новага дырэктара. Як будзе выглядаць: чалавек першы дзень працуе, а я прашуся адпусціць? Куды? Чаго?

— Мы хочам, каб вы без павесткі прыехалі.

— Можаце цяпер арыштаваць, а без павесткі не паеду.

— Добра, паслязаўтра мы прыедзем у Гудзевічы.

Паслязаўтра быў Дзень мужнасці. Павялі ўсю школу строем пад сцягамі на мітынг да помніка загінуўшым воінам. Іду я збоку каля свайго класа, а мяне нехта за палу турзь. Бачу — кадэбісты.

— Астаньцеся: пагутарыць трэба.

— Як я застануся? У мяне клас. Мушу быць разам.

Вярнуліся ў школу.

— То давайце пагутарым.

— Не магу: я абавязаны даць вучням расклад урокаў на заўтра, раздаць падручнікі, вырашыць шмат іншых пытанняў.

Нарэшце дзетак адпусціў.

— Нам каб у які клас.

— А чаго хавацца? Кажыце, чаго хочаце, тут. Вунь пад ліпаю лавачка стаіць.

Толькі селі — прыходзіць матуля аднаго з вучняў, які захварэў, і просіць, каб выдаў яму падручнікі. Пайшлі.

Вярнуўся. Толькі пачалі размову, а тут падыходзіць Ягнешка, калгасны каваль, і просіць, каб яго дачушцы, якая вучыцца ў трэцім класе суседняй школы, далі падручнікі. Нельга даваць кніг вучням іншай школы, але калі летам я з вучнямі працаваў на калгасным полі, то ён нам зрабіў дваццаць грасачак. Пайшоў я да дырэктара, растлумачыў далікатную сітуацыю, і дырэктар

дазволіў выдаць яму падручнікі. Вярнуўся да кадэбістаў, а яны кажуць:

— Тут у нас нічога не атрымаецца. Пойдзем у класны пакой.

Зайшлі. Дастаюць яны ліст чэшскіх эмігрантаў да Гітлера з падзякай за вызваленне Беларусі ад савецкай акупацыі.

— Во, бачыце, гэта падзяка Гітлеру, а падпісала ліст Ларыса Геніюш. А вы сябруеце з ёю.

— Я яе подпіс ведаю. Гэта не яна падпісвала.

— Ну, можа, яе муж, але ж Геніюш.

— Калі рабілі фальшыўку, то ўзялі б які цямнейшы ліст, а гэты ліст вы ўчора дасталі з пачка новай паперы, і вось напісалі гэтую бязглуздзіцу.

— То вы нам не верыце?

— А як жа вам верыць: на допыце вы казалі мне, што «белорусский язык должен исчезнуть, а вы нам мешаете».

— Гэтага я не казаў, — запярэчыў Салавей.

— Калі не вы, то маёр, а сёння вы сцвярджаеце, што гэта на допыце не гаварылі. То як вам верыць?

Кадэбісты махнулі рукой і паехалі дамоў.

Прайшло два гады. Быў сутонак асенняга дня. Я ў музеі штосьці друкаваў. Заходзіць Данільчык і кажа:

— Усё працуеце?

— Працую.

— А як жывяце?

— Як вы арганізавалі, так і жыву.

— Мы вас больш чапаць не будзем.

— Як гэта не будзеце? Ваша праца ў тым, каб чапаць людзей.

— Працуйце спакойна: больш ніколі выклікаць не будзем.

— За гэта дзякуй, — кажу яму.

— Дазвольце пачытаць школьны літаратурна-краязнаўчы часопіс «Праменьчык»: так яго хваляць у друку.

— Калі ласка, чытайце.

— Я прасіў бы даць мне з сабою.

— Давайце санкцыю пракурора і забірайце, — запатрабаваў я.

— Не, мне для сябе. Вельмі хачу пачытаць.

— Без санкцыі пракурора не дам, — катэгарычна адмовіў я.

З таго часу сустракацца з кадэбістамі мне больш не даводзілася. Праўда, недзе ў 1985 ці 1986 годзе музей наведаў начальнік КДБ Гарадзенскай вобласці. Здаецца, ягонае прозвішча было Хамутоў. Абгледзеў музей і запытаўся, што сеялі ў 1930-х гадах. Я адказаў так:

— Мой тата меў тры гектары ворнай зямлі, а таму прытрымліваўся трохпольнай сістэмы: на адным гектары садзіў бульбу, на другім сеяў ячмень і гарох, часам сачэўку, а на трэцім — жыта. Хто меў больш зямлі, то сеялі грыку, авёс, лубін, боб, віку, сырадэлю, канюшыну, буракі, а часам нават кукурузу.

Хамутоў пераканаўся, што на гэтым мяне не зловіць, то пачаў дапытвацца, чаму мы не ўшанавалі працаўнікоў калгаса, удзельнікаў вайны.

— Пачынаем афармляць экспазіцыю «Гісторыя вёскі Гудзевічы», то там будуць і працаўнікі, і ўдзельнікі войнаў, — адказаў я.

— Не, вы разбурыце залу народных рамёстваў і залу гісторыі і літаратуры ў выяўленчым мастацтве і там пакажыце працаўнікоў і ўдзельнікаў апошняй вайны.

Аднак мы пасля такой парады аформілі дзве залы лёну і народнага ткацтва, потым залу народнай медыцыны, тады выставачную залу, затым залу «Гісторыя Гудзевічаў у выяўленчым мастацтве» і залу «Гісторыя Гудзевічаў у дакументах і фатаграфіях», нарэшце і залу практычнага ткацтва.

Быў нейкі перыяд, калі СМІ не друкавалі твораў нашых вучняў. Ганначка Салтан, вучаніца сёмага класа, паслала ў «ЛіМ» нізку вершаў гудзевіцкіх вучняў і свае заўвагі да гэтых твораў. Загадчык літаратурнага аддзела Каршукоў прыслаў станоўчы водгук і паабяцаў, што вершы ў бліжэйшых нумарах надрукуюць. Доўгі час нашых матэрыялаў не друкавалі, а пазней загадчыца аддзела культуры газеты «Літаратура і Мастацтва» прыслала мне ліст, што яны не могуць друкаваць толькі нашы і нашы матэрыялы. Аўтар допісу, сямікласніца Аня Салтан, хвалявалася, чаму не друкуюць яе матэрыялаў. Я паказаў дзяўчынцы ліст Данской. Дзяўчынка пытаецца:

— Колькі часу не будуць нас друкаваць?

— А ты напішы ёй ды запытайся, праз які тэрмін мы маем права зноў друкавацца, бо «ЛіМ» змяшчаў вершы нашых вучняў толькі адзін раз і даволі даўно. І яшчэ запытайся, чаму яны не друкуюць вершы вучняў з іншых школ, бо варта, каб «ЛіМ» выхоўваў новае пакаленне пісьменнікаў, каб была пераемнасць.

Лічу, што не друкавалі гудзевіцкіх вершаў за іхнюю патрыятычнасць: у іх дзеткі пісалі пра беларускую мову, пра Беларусь, пра родную матулю, пра дрэвы, якія каля хаты пасадзілі дзяды ці прадзеды.

Адказваць прыехала Данская асабіста. Скончыліся ўрокі, я пайшоў абедаць, бо трэба было яшчэ папрацаваць у музеі. Прыбягае вучань і кажа:

— Прасіў дырэктар, каб вы тэрмінова прыйшлі да школы.

Там ужо чакалі загадчык РАНА Рында, інспектар Сасноўская, Данская ды дырэктар.

Данская кінулася да мяне цалавацца:

— Я столькі чула добрага пра вашу працу, пра музей! Ці можна паглядзець экспазіцыі?

— Калі ласка! Сардэчна запрашаем!

Ідзём у музей, я вырваўся наперад, каб, пакуль падыдуць «госці», адамкнуць дзверы, бо заядаў замок, і адамкнуць яго было нялёгка. Падбегла да мяне Ганначка Салтан, вучаніца, якая пісала да Данской, і спехам кажа:

— Алесь Мікалаевіч, яна прыехала з дрэннымі намерамі.

Я экскурсію вёў, як заўсёды, у патрыятычным духу. Данская запісвае ўражанні, а Рында выходзіць з музея.

— Мікалай Іванавіч, пачакайце! Запішыце свае ўражанні!

— Я вам запишу! Я так запишу, что всю жизнь будете помнить!

Данская тады запісала: «Ведаю, як многа працы ўклалі вучні і настаўнік у збор экспанатаў. Але шкада, што малавата матэрыялаў, у якіх адлюстраваны наш сённяшні шчасны дзень. Данская. 22.XI.74».

Пасля гэтага сабралі ўсіх настаўнікаў. Рында паведаміў, што гудзевіцкія вучні напісалі ў газету «Літаратура і Мастацтва»

ліст, у якім абразілі рэдкалегію, патрабавалі, каб іхнія вершыкі друкавалі ў газеце. Усё гэта рабілася пад дыктоўку Белакоза. Данская паведаміла, што «ЛіМ» не можа бясконца друкаваць вершы гудзевіцкіх вучняў, а Белакоз прымусіў Ганну Салтан пісаць ёй абразлівы ліст.

Выступіў малады настаўнік-камуніст, настаўнік-стукач Уладзімір Аляксандравіч Цянкуш, які ў хуткім часе памёр ад гарэлкі:

— Белакоз замыкае ў музеі вучняў і прымушае іх там пісаць вершы, друкаваць на машынцы і г. д.

Пасля гэтага выступіла Галіна Іосіфаўна Азарка і сказала:

— Да сённяшняга дня я паважала Алеся Мікалаевіча як настаўніка, а ад сёння не паважаю яго як чалавека і як настаўніка…

Вера Ігнатаўна Белакоз, мая жонка, сказала:

— Цяпер можна і не паважаць Алеся Мікалаевіча: здымаць вас з грушы ды вазіць у школу няма патрэбы.

Галіна Язэпаўна вельмі слаба вучылася, а таму часта не ішла ў школу, а залазіла на высокую грушу ды там хавалася. Я ў яе некалі быў класным кіраўніком. Ехаў за кіламетры чатыры на матацыкле да грушы, здымаў вучаніцу і вёз у школу. І так амаль кожны дзень.

Пасля гэтага прыезду — зноў была інспектарская праверка, зноў пасяджэнне рады РАНА па выніках праверкі выкладання беларускай мовы ў Гудзевіцкай СШ.

Прыехала інспектар Аляксандра Мікалаеўна Сасноўская ды пачала хадзіць да мяне на адзін, другі, трэці, чацвёрты ўрок. Маладая настаўніца Леакадзія Міхайлаўна Бакун (Палавеня) пытаецца ў інспектара:

— Чаму вы не ходзіце да мяне на ўрокі, а ўсё да Алеся Мікалаевіча? Я працую першы год, вы б дапамаглі мне, распавялі б пра мае памылкі. Можа, вы правяраеце не стан выкладання беларускай мовы ў Гудзевіцкай сярэдняй школе, а працу Алеся Мікалаевіча? Калі так, то кажыце.

— Добра, добра! Схаджу да вас на ўрок.

Пасля ўрока раскрытыкавала маладую настаўніцу, а назаўтра зноў ідзе да мяне на ўрок.

— То гэта ўсё? Больш не пойдзеце да мяне? Мне патрэбна ваша метадычная дапамога! — казала маладая настаўніца. Гэта называецца выклікаць агонь на сябе.

Выратаваў выпадак. У Мастоўскім раёне быў мудры старшыня райвыканкама Уладзімір Іванавіч Вашко. Ягонымі стараннямі да кожнага сельсавета, да кожнага праўлення калгаса быў пракладзены асфальт, калгасы забяспечаны тэхнікай, наладжана выдатнае абслугоўванне насельніцтва, у Мастах пабудаваны лепшы ў вобласці стадыён, самая прыгожая і багатая бібліятэка, новы шпіталь, новая сярэдняя школа. І не толькі ў Мастах, а і ў вёсках. Жонка старшыні райвыканкама, настаўніца Аляксандра Ягораўна Вашко, расказала мужу, што прычапіліся райкам КПБ і РАНА да выкладчыка беларускай мовы і літаратуры з Гудзевічаў Белакоза. Хоць ягоныя вучні займаюць першыя месцы на раённых ды абласных алімпіядах, добра здаюць экзамены ў ВНУ, а яго ўсё правяраць, зачыняюць выдатны школьны музей, які ён арганізаваў, стварыў з вучнямі. Дайшло да суровай вымовы з апошнім папярэджаннем, проста тэрарызуюць чалавека. Старшыня Вашко даўно з райкамам не ладзіў: выклікае яго новы першы сакратар райкама на інструктаж, а ён кажа:

— Будзеш спускацца на абед, то зайдзі да мяне, а то надта часу не маю.

Так раз, другі… І пачаў першы сакратар райкама хадзіць на нарады да старшыні райвыканкама, што ў той час не дапускалася. Але Вашко карыстаўся вялікім аўтарытэтам у міністэрствах. Ён мог сабе многае дазволіць. Заходзіць да яго старшыня калгаса ды хваліцца:

— А мне першы сакратар райкама выдзеліў новы трактар.

— Маладзец сакратар. А чаго ж ты да мяне прыйшоў?

— Хачу запытацца, калі трактар можна атрымаць?

— Які трактар? — дзівіцца Вашко.

— Той, што сакратар даў?

— Так, той, — нецярплівіцца старшыня калгаса.

— Калі сакратар табе даў, то ў яго і забірай. Мы тыя трактары, што выбілі для раёна, ужо размеркавалі.

Паступова кіраўнікі перасталі хадзіць у райкам: яны пераканаліся, што кіраўніцтва раёнам — у дасведчаных руках Вашка. Раёнам і павінен кіраваць райвыканкам. Аднойчы сяку я дровы, а тут пад'язджае шафёр старшыні калгаса Міхася Сцяпанавіча Пронькі і кажа:

— Прасіў Вашко, каб са мной пад'ехалі ў праўленне.

— Я прыеду на ровары: лягчэй будзе дахаты вярнуцца.

— Я прывязу, — абяцае шафёр.

— Дзякую, але свой транспарт больш надзейны.

Уладзімір Іванавіч запытаўся, як здароўе:

— Калі вам патрэбна лячэнне ў абласным цэнтры, то магу паспрыяць.

— Не, дзякую. У мяне дысбактэрыёз. Гэтае захворванне абавязкова канчаецца смерцю. Быў я і ў абласным шпіталі, і ў Трускаўцы, і ў Есентуках, і ў Друскеніках — ніхто дапамагчы не можа.

— Можа, якія лекі патрэбны, то дапамагу.

— Няма ад майго захворвання лекаў, так сказалі дактары.

— Мне вельмі спадабаўся ваш музей: тут праўдзіва паказана гісторыя Беларусі, наша літаратура, здабыткі беларускай культуры. Гэта вельмі патрэбна нашаму народу. Што трэба для таго, каб ваш музей стаў сапраўдным музеем? Можам хоць заўтра пачаць рамонт будынка.

— Цяпер, пакуль тут школа, немагчыма ствараць музей: для гэтага маем толькі адзін пакойчык. Сёння варта падумаць, каб захаваць адну са старэйшых хат у раёне, якая мае амаль 200 гадоў. Добра было б перавезці сюды вятрак з Залюбічаў Крошынскага сельсавета Баранавіцкага раёна. Мне старшыня калгаса «Перамога» ў Крошыне паабяцаў прадаць вятрак за 300 рублёў. Бухгалтэрыя дала рахунак, але мясцовы калгас грошай не пералічыў…

Сялянскую хату, пабудаваную пры Кацярыне II, з вёскі Семірэнкі ў вёску Гудзевічы перавезлі. Хатку падбіралі (бо ў Семірэнках было многа старажытных хат) старшыня калгаса Міхаіл Сцяпанавіч Пронька, архітэктар-патрыёт Юрый Рыгора-

віч Тарасевіч і я. У перавозцы сялянскай хаты да музея дзейсны ўдзел прымаў калгаснік-пенсіянер Іван Клімуць з вёскі Вострава. Перасыпалі сцены Уладзімір Маляўка, Віталь Валюшка і іншыя калгаснікі з будаўнічай брыгады. Вымазвалі глінай столь і сцены вучні пад кіраўніцтвам Веры Ігнатаўны Белакоз. Архітэктар Тарасевіч і я з вучнямі ўбівалі ў хаце і каморы гліняны ток. Першы плот (пляцень) з вучнямі запляталі галіны розных дрэў у жэрдкі. Брук каля хаткі складаў Іван Ігнатавіч Клімуць, разам з ім складалі прызбу, сходкі. Жыта для парак жалі сярпамі старэйшыя жанчыны, а паркі вязаў Алёша Саўка. Ён разам з Ігнатам Караноўскім крыў хату саломай.

Рамонт будынка для музея пачалі рабіць у 1982 годзе, бо да гэтага наш літаратурна-краязнаўчы музей знаходзіўся ў адным класным пакоі. У час рамонту нават з самымі дробнымі патрэбамі ішоў да старшыні калгаса або райвыканкама.

Памятаю, прапала ўсюды дыкта (фанера). Паехаў я да Уладзіміра Іванавіча Вашка. Ён выклікаў загадчыка будаўнічага аддзела райвыканкам Бярнацкага і запытаўся, дзе ў нашым раёне ёсць фанера.

Калі загадчык адзела назваў калгас, у якім ёсць фанера, то праз некалькі дзён патрэбная колькасць лістоў была ў музеі.

Калі Уладзімір Іванавіч Вашко пачынаў дапамагаць нашаму музею, то райкам партыі спачатку рабіў выгляд, што забыўся пра нас, а пазней люты мой вораг Нэла Мікалаеўна Абрамовіч, прыязджаючы, пачала паводзіць сябе больш прымірэнча. Хоць я ніколі не быў ні піянерам, ні камсамольцам, ні членам партыі, аднак яна імкнулася не забывацца пра мяне. Памятаю, бегаюць настаўнікі па школе ды шукаюць мяне, бо хоча сустрэцца Абрамовіч. Прыйшоў. Пытаюся, у чым справа.

— Ці павінна быць дата выпуску насценгазеты? — пытаецца сакратар РК.

— Так, — адказваю, — абавязкова.

— А ў вашай школьнай насценгазеце няма даты выпуску, — пераможна заяўляе Нэла Мікалаеўна.

— Вы задаволены? — пытаюся.

— А ў чым справа?! — пытае яна.

— Школьная насценгазета выдаецца па-руску, а выкладчык беларускай мовы адказвае толькі за правільнае афармленне беларускамоўных дакументаў. У нашай школе пяцёра выкладчыкаў рускай мовы, а вы па ўсіх будынках шукаеце Белакоза, каб пачытаць мараль за тое, што нехта не выконвае сваіх абавязкаў.

— Я больш не буду вас чапаць, — паабяцала Нэла Мікалаеўна.

— І не чапайце без патрэбы!

Свайго абяцання яна не выканала, бо часта імкнулася ў чымсьці перашкодзіць, штосьці забараніць. Аднак больш размовы пра закрыццё музея не вяла. Першым сакратаром Мастоўскага райкама КПБ быў нейкі Фокін, як пазней выявілася, немец, які ў 1980-х гадах выехаў на жыхарства ў родную Нямеччыну. Прывёз яго аднойчы ў наш музей спадар Вашко, відаць, адпаведна падрыхтаваўшы, бо сакратару музей вельмі спадабаўся. У такіх умовах прыкусіў язык і Рында. Да апошняга часу дырэктар Гудзевіцкай СШ Уладзімір Лаўрэнцьевіч Барэйша быў амаль не знаёмы са мною. Хоць да дырэктарства ён прыкідваўся вялікім маім прыхільнікам, але як толькі стаў кіраўніком школы, то ні разу не адказаў на мае прывітанні, і мы сталі незнаёмымі, спрабаваў мяне ігнараваць як настаўніка, чалавека. Да стагоддзя Якуба Коласа, паводле плана, павінен быў праводзіцца вечар «Якуб Колас — патрыёт, пісьменнік, педагог». Хоць вечар унесены ў план працы школы, але кожны павінен пытацца яшчэ раз дазволу ў дырэктара на яго правядзенне.

— Ці можна ў суботу правесці вечар, прысвечаны творчасці Якуба Коласа? Ён ёсць у школьным плане.

Дырэктар паварочваецца на 180 градусаў і пачынае размову з завучам. Заходжу з другога боку і паўтараю пытанне. Рэакцыя тая ж. Зноў абыходжу вакол яго і кажу:

— Прыямней мне было б звяртацца да самай агіднай істоты, чым да цябе, але пакуль ты тут дырэктарам, а я настаўнікам, то адказвай на пытанне.

— А! Вечар? Калі ласка, праводзьце…

Пасля гэтага, як і раней, мы не віталіся, але абодва паводзілі сябе па-дзелавому вельмі карэктна. Пабочны чалавек не зда-

гадаўся б, што ён стукае на мяне, імкнецца зганьбіць. Рабіў свінствы патаемна або адкрыта, але карэктна.

Кожны раз, калі ў Гудзевіцкую школу мела прыехаць праверка, на педсавеце казаў:

— Таварышы, у нас ёсць музей: да нас едзе праверка.

Многія настаўнікі адварочваліся і з нянавісцю глядзелі на мяне. Але ж правяралі і тыя школы, у якіх не было музеяў.

Кожны год вызначаўся пераможца ў сацыялістычным спаборніцтве настаўнікаў школы. Хоць начальства мела сваю кандыдатуру, але настаўнікі выбіралі двух сваіх калег у кандыдаты, а загадчык РАНА Рында дазваляў аднаго з іх зацвердзіць пераможцам. Можа, у 1972 ці 1973 годзе была прапанавана і мая кандыдатура. Мяне, вядома, Рында не дазволіў лічыць пераможцам. У наступным годзе настаўнікі прапанавалі кандыдатуру маёй жонкі Веры Ігнатаўны. Рында забараніў і яе кандыдатуру. Праз год настаўнікі дамовіліся даць кандыдатуры Алеся Мікалаевіча і Веры Ігнатаўны Белакозаў. Цяпер у РАНА паслалі дзве кандыдатуры і абое — Белакозы. Каго зацвердзяць пераможцам? У тым годзе ў Гудзевіцкай школе пераможцаў не было.

У 1950 годзе дырэктар школы Аляксандр Аляксандравіч Галавач пачаў прымушаць мяне, каб я згадзіўся стаць намеснікам дырэктара школы па навучальнай частцы (завучам). Я катэгарычна адмаўляўся, бо ведаў, што завуч рэальнай улады не мае, але абавязаны не толькі арганізаваць навучальны працэс, але і сачыць, каб кожны настаўнік выконваў свае абавязкі. А сярод іх былі і тупіцы, і гультаі, і стукачы, і алкаголікі. Навошта мне адказваць за іхнюю працу? Аднак намеснік загадчыка Ваўкавыскага РАНА (тады мы былі Ваўкавыскага раёна) Мікалай Галаван прыпугнуў мяне так:

— Калі ты не згодзішся на пасаду завуча, то я назначу ў Гудзевічы завучам выкладчыка беларускай мовы з іншай школы, а цябе перавяду туды.

А ў мяне жонка, дзеці… Куды мне ехаць са сваёй хаты? Давялося згадзіцца.

Працавалі мы добра, бо дырэктару тады прысвоілі званне заслужанага настаўніка, а мне — выдатніка народнай асветы.

Аднойчы дырэктар паехаў у санаторый, а я выконваў абавязкі дырэктара. Тэлефануюць мне з РАНА:

— Да вас едуць высокія чыны з Міністэрства асветы.

І праўда, праз якуюсьці гадзіну зайшлі два чалавекі, адзін гадоў 50, а другі — каля 35. Яны папрасілі дазволу пагутарыць са мной у кабінеце дырэктара. Там запыталіся:

— Як працуе ў вас выкладчык нямецкай мовы Франц Браніслававіч Вільчэўскі?

— Веды ён мае, але чамусьці вучні яго не паважаюць, хоць яны ў нас выхаваныя, але яму кажуць: «Ты, Франак, лепш ішоў бы ў калгас гной выкідаць, то больш было б карысці». Я лічу, што яму б лепш уладкавацца перакладчыкам, то адчуваў бы сябе чалавекам, — распавёў я.

— А ці можна яго пасылаць перакладчыкам за межы Саюза?

— Не, пасылаць яго нават за межы Беларусі нельга, — катэгарычна запярэчыў я.

— Чаму ж вы так не давяраеце яму?

— Я яму давяраю, бо ён добры чалавек, але вялікі дзівак. Я не хацеў бы, каб за межамі Беларусі пра нас думалі дрэнна. Так могуць падумаць, што ў нас усе такія дзівакі.

— А ў чым жа ягонае дзівацтва? — пытаюцца госці з міністэрства.

— А хоць бы такое: вязём мы на грузавых машынах вучняў на экскурсію ў Мінск. Я на першай машыне з шостым «А», а Франц Браніслававіч — на другой з шостым «Б». Машыну, на якой ён з'яўляецца адказным, затрымлівае ДАІ за тое, што Лёдзя Палавеня ўстала з лаўкі, каб надзець плашч. «Хто адказны за машыну?» — пытаецца аўтаінспектар. «Я», — бадзёра прызнаецца Франц Браніслававіч. «З вас пяць рублёў штрафу за тое, што дзяўчынка ў час руху машыны ўстала, каб надзець плашч. Яна не мела права ўставаць у час руху машыны. Вы павінны былі спыніць машыну». Калі мы вярнуліся з экскурсіі, то Франц Браніслававіч запатрабаваў, каб я вярнуў яму тыя пяць рублёў. «Не на маёй машыне ўстала дзяўчынка, чаму я павінен плаціць штраф?» — здзівіўся я. «Калі б вы з вучнямі на калгасным полі

не вырасцілі вялікі ўраджай цукровых буракоў, то калгас не даў бы машын, і я не паехаў бы на экскурсію. Я штраф заплаціў па вашай віне».

— Вядома, дзіўная логіка ў гэтага чалавека. А можа, яшчэ якія дзіўныя разважанні яго вы заўважылі?

— Я як завуч наведаў ягоны ўрок. Выявіў, што ён ніколі не правярае вучнёўскіх сшыткаў. Пытаюся: «Чаму вы не правяраеце вучнёўскіх сшыткаў? Вам жа дзяржава плаціць кожны месяц каля 15 рублёў менавіта за гэта. Згодзен, што мала, але ж вы хоць часам заглядайце ў гэтыя сшыткі». — «Я не маю часу на праверку сшыткаў, бо вару сабе снеданне, абед, вячэру, пішу рабочыя планы…» — «Вам кожны месяц школа аплачвае 10 рублёў за кватэру. Вы ж заплаціце гаспадыні не 10, а 30 рублёў, дык яна будзе са сваіх прадуктаў варыць вам ежу». Ён абурыўся: «Я што, конь?» — «Прычым тут конь? Не дае яна вам сена?» — «Яна мне налівае поўную міску супу!» — «А вы ешце столькі, колькі лічыце патрэбным». — «А яна бярэ з мяне грошы за ўсю талерку!» Ён вёў больш за трыццаць урокаў тыдзень, атрымліваў немалыя грошы. Гэтая ягоная неабмежаваная сквапнасць не робіць гонару.

— Ці знаёмы вам гэты чалавек? — запытаўся старэйшы.

— Гэта Данільчык, ён быў старастам рускага аддзялення Гродзенскага педагагічнага інстытута ў 1950-х гадах. Я ў той час вучыўся на беларускім аддзяленні.

— Хто ў вас выкладае гісторыю? — зноў пацікавіўся старэйшы.

— Шабаль Аляксандр Кузьміч.

— Запрасіце, калі ласка, яго сюды.

Я перадаў Шабалю просьбу незнаёмых. Ён пайшоў у кабінет дырэктара, пабыў там хвілін 10–15. Незнаёмыя папрасілі, каб я зноў зайшоў у кабінет.

— Можа, у вас ёсць нейкія пажаданні ці просьбы ў РАНА?

— Я падаў заяву, каб мяне вызвалілі з пасады завуча. Папрасіце ў РАНА, каб маю просьбу задаволілі.

— А чаму вы не хочаце працаваць завучам?

— Хацелася б больш часу прысвяціць выкладанню роднай беларускай мовы.

— Мы вашай просьбы ў РАНА не перадамо, бо калі мы папросім, каб вас вызвалілі з пасады завуча, то вас зусім звольняць з працы.

Калі незнаёмыя з Міністэрства асветы паехалі, то Шабаль запытаўся:

— Вы ведаеце, хто прыязджаў?

— Не, не ведаю.

— Гэты старэйшы — намеснік начальніка КДБ па Гродзенскай вобласці, а маладзейшы — начальнік КДБ па Ваўкавыскай зоне.

Недзе ў пачатку 1970-х кадэбісты мяне папракалі:

— Вы раней не былі такім антысаветчыкам. Гэта на вас паўплывала Ларыса Геніюш.

Мушу прызнацца, што я імкнуўся знешне не паказваць сваіх адносін да савецкай улады. Больш таго — на людзях я часта прыкідваўся п’яным: алкаголікі савецкай уладзе не страшныя. Калі рабіў якіясьці антысавецкія справы, то пра гэта не распавядаў нават матулі.

Памятаю, у 1948 годзе выразаў на гуме заклік: «Беларусы, змагайцеся супраць савецкай улады», паклаў гуму ў прэс-пап’е і аддрукаваў некалькі сот пракламацый.

Едучы ў Мінск, раскідаў лістоўкі праз вокны вагонаў, а ў Мінску раскладаў за кіёскамі, каля будынкаў, заходзіў у пад’езды. На шчасце, мяне з гэтым не злавілі. У 1949 годзе дастаў з газеты «Гродзенская праўда» шрыфты і аддрукаваў верш «Беларусь учора і сяння», які спісаў з гісторыі.

У 1979 годзе я пра здзекі з мяне кадэбістаў напісаў Ларысе Геніюш. Яна пра ўсё напісала Машэраву і да свайго ліста паклала мой. Я нічога добрага ад гэтага не чакаў, аднак Машэраў прыслаў у Зэльву інструктара ЦК Жука. Хутка я адчуў, што кадэбісты ад мяне адчапіліся. Пачалося пашырэнне музея.

*2002*

## СТВАРЭННЕ МУЗЕЯ

У 1965 годзе за тое, што я арганізаваў на курсах кіраўнікоў раённых секцый беларускай мовы і літаратуры дзве сустрэчы курсантаў з беларускімі пісьменнікамі, мяне загадчык аддзела кадраў Міністэрства асветы Якімовіч тры з палавінаю гадзіны пратрымаў у сваім кабінеце, абяцаў, што вызваляць з працы. Я нават баяўся, што арыштуюць, і зразумеў, што ЦК КПСС, а значыць і ЦК КПБ, і Міністэрства асветы паставілі перад сабой задачу, каб знішчыць беларускую мову, а значыць, і беларускі народ. Трэба было неяк ратавацца.

Тады, у 1955 годзе, ад 1 верасня пачаў працаваць інакш. Імкнуўся выхаваць у вучняў беларускі патрыятызм. Дзеля гэтага вучні пачалі пісаць патрыятычныя вершы, апавяданні, нарысы пра родную вёску, драматычныя творы, шукаць карані сваіх вёсак, сваіх родаў, збіраць дыялектызмы, тапонімы, мікратапонімы, беларускі фальклор, нашу этнаграфію. Вучням і мне гэта прыносіла задавальненне, мы разумелі, што робім патрэбную справу. Усё сабранае трэба было захоўваць, друкаваць. Мы выжабравалі спісаную пішучую машынку і пачалі выдаваць машынапісны часопіс «Праменьчык», для якога друкавалі вучні 4–10-х класаў, усе, хто меў па беларускай мове не менш за чацвёрку і жадаў дапамагаць гуртку беларускай літаратуры. Мы перапісваліся з пісьменнікамі, мастакамі, кампазітарамі, артыстамі, ветэранамі з Беларускай сялянска-работніцкай грамады, КПЗБ. У гуртка беларускай літаратуры сабраўся вельмі багаты і салідны матэрыял. Чаго вартыя лісты, кнігі, рукапісы, чарнавікі, успаміны, выказванні пра родную беларускую мову! Чаго варты матэрыялы ад Ларысы Геніюш, Зоські Верас, Паўліны Мядзёлкі, Юліі Бібілы, Канстанцыі Буйло, Уладзіміра Караткевіча, Пімена Панчанкі, Івана Мележа, Янкі Брыля, Уладзіміра Дубоўкі, Янкі Скрыгана, Станіслава Шушкевіча, Максіма Танка, Васіля Быкава, Аляксея Карпюка, Уладзіміра Дамашэвіча, Пётры Сергіевіча, Юрыя Семянякі і соцень іншых беларускіх патрыётаў, патрыярхаў беларускага адраджэння!

Школе загадана стварыць гісторыка-краязнаўчы музей. Мы, настаўнікі і вучні, прыносілі самыя каштоўныя экспанаты, але яны кудысьці знікалі. Музея не было. Тады я папрасіў у дырэктара Язэпа Ігнатавіча Радзевіча, таленавітага ды разумнага педагога, добрага чалавека, даць мне дазвол на стварэнне ў Гудзевіцкай СШ музея беларускай літаратуры. Дырэктар баяўся, што ўлады запішуць яму вымову за тое, што стварылі не такі музей, як загадана. Я даказваў, што гэта будзе апошняя вымова, бо музей у нас будзе багаты. І Язэп Ігнатавіч дазволіў.

Ужо першыя стэнды выклікалі шаленства ў райкаме партыі і ў раённым аддзеле адукацыі. А гэта ж былі такія святыя для кожнага беларуса тэмы — «Францішак Скарына — наш першадрукар», «Наш зямляк Кастусь Каліноўскі», «Ларыса Геніюш вучылася ў Гудзевіцкай школе», «Паэты Мастоўшчыны» (Міхась Явар, Агата Тарасевіч, Сяргей Крывец), «Гісторыя Гудзевіцкай школы» (праўда, мы дыпламатычна гэты стэнд называлі «Асвета і Гудзевічы»), «Беларуская сялянска-работніцкая грамада», «КПЗБ у нашай мясцовасці». Ужо першыя стэнды былі райкамам КПБ катэгарычна забаронены. Дырэктар школы загадаў выкладчыку працы больш стэндаў не рабіць. Міхась Пятровіч Янушчык (усе да апошняга дня жыцця гэтага чалавека называлі Міхась Пятровіч або дзядзька Міхась), выкладчык працы, былы кіраўнік гуртка Беларускай сялянска-работніцкай грамады ў маёй роднай вёсцы Ляткі (якая ўжо злілася з Гудзевічамі, бо сёння мая хата ў Лятках, а сад ды хлеў у Гудзевічах), вязень польскіх і савецкіх турмаў, стэнды рабіў патаемна ад дырэктара, а калі яго выклікалі ў Масты, то мы хуценька афармлялі наступны стэнд. Калі гэта выяўлялася, Язэп Ігнатавіч крыўдзіўся:

— Я ж казаў больш стэндаў не рабіць і зробленыя зняць!

— Язэп Ігнатавіч, паглядзіце, якія гэта стэнды, імі ганарыцца будзем: Скарына — не толькі беларускі першадрукар, гэта першадрукар усяго Савецкага Саюза, бо ён першы ў Вільні ў 1522 годзе выдаў друкаваную кнігу. Гэта быў «Псалтыр». Далей — Кастусь Каліноўскі. Нядаўна ў Маскве выйшла кніга пра Кастуся Каліноўскага. Да нашых кадэбістаў не дайшлі гэтыя

звесткі. Ларыса Геніюш вучылася ў Гудзевіцкай школе — увесь раён павінен гэтым ганарыцца. Нашы паэты Міхась Явар, Сяргей Крывец праследаваліся польскімі ўладамі. Не ад добрага жыцця Міхась Явар у 1933 годзе застрэліўся. Сяргей Крывец таксама арыштоўваўся палякамі, у 1945 годзе, абараняючы Гдыню, ён страціў абедзве нагі і памёр. Што ж тут антысавецкага? Беларуская сялянска-работніцкая грамада змагалася за беларускія школы, за зямлю для сялян, за ўз’яднанне Беларусі. У 1936 годзе і Грамада, і яе арганізатар камуніст Браніслаў Таршкевіч рэабілітаваны. Чаму ж мы павінны хавацца з гэтым? Стэнд «Гудзевічы і асвета» не мае ніякай палітыкі. Чаму ж яго забараняюць? А стэнд «Камуністычная партыя Заходняй Беларусі»? Чым камуністы не дагадзілі Савецкаму Саюзу? Ці, можа, камуністычная партыя ў СССР ужо забаронена? Няхай прыязджаюць ды паглядзяць, што ў нас антысавецкае.

— А! — махнуў рукой дырэктар. — Хай будзе музей.

Пазней яму зноў загадвалі разбурыць музей. Ён загады перадаваў мне, а мы не спяшаліся. У 1985 годзе прыехаў да нас у музей дырэктар Сухініцкай школы Язэп Ігнатавіч Радзевіч. Тады ў нас ужо было аформлена 4 залы. Абгледзеў ён іх і папрасіў у сына Андрэя, каб той паглядзеў школу Гудзевічы. Калі хлопчык адышоў, Язэп Ігнатавіч папрасіў:

— Такі каштоўны музей, гэта проста цуд! А я яго забараняў. Алесь Мікалаевіч, як можаце, то даруйце.

— Што вы, Язэп Ігнатавіч! Вам загадвалі, каб вы зачынілі музей, але вы не выканалі гэтага ганебнага загаду. Дзякуй вам, што дазволілі захаваць музей, вы ж яго выратавалі.

— Вы ў мяне камень з сэрца знялі, бо я ўсё мучыўся, чаму загадваў разбураць музей…

Чаму ж улады не зачынілі гэты шкодны «антысавецкі», як яны казалі, музей?

У праграме па беларускай мове быў пункт: «вучыць вучняў навыкам публіцыстыкі, напісанню заметак у газеты, часопісы». Мы вельмі добра выконвалі гэты пункт: амаль у кожнай газеце, у кожным часопісе, а часта і па радыё і нават па тэлебачанні

выступалі нашы выхаванцы. У Гудзевіцкі музей пачалі ехаць з усёй Беларусі, Украіны, Літвы, Польшчы, Расіі, Еўропы, Амерыкі, Аўстраліі, Афрыкі. Ужо пра Гудзевіцкі музей пісалі не мы, а карэспандэнты, вучоныя, гісторыкі, пісьменнікі, мастакі, настаўнікі…

У канцы 1975 года быў чацвёрты савет РАНА па персоне Алеся Белакоза. Мяне абвінавацілі, што не пішу рабочых планаў (я друкаваў на пішучай машынцы), працую не па савецкіх праграмах. Загадчык РАНА Мікалай Іванавіч Рында сказаў:

— Надо менять или советские программы, или Белокоза.

Запісалі суровую вымову з апошнім папярэджаннем. Даведаўся пра штрафніка з Гудзевічаў новы старшыня райвыканкама Уладзімір Іванавіч Вашко. Ён тэрмінова правёў у Гудзевічах пасяджэнне Мастоўскага райвыканкама, усе старшыні і сакратары раёна і апарат райвыканкама наведалі Гудзевіцкі школьны музей. Я зацікавіўся, што нейкі інтэлігентны чалавек вельмі ўважліва слухаў экскурсавода і ставіў надзвычай разумныя пытанні, якія сведчылі пра веданне гэтым чалавекам гісторыі і літаратуры Беларусі. Пытанні ставіліся добразычліва, са стараннем ухваліць нашу працу, паказаць яе значнасць, патрэбнасць.

Пазней я запытаўся, хто гэта так добра разбіраецца ў гісторыі і літаратуры Беларусі.

— Гэта старшыня Мастоўскага райвыканкама Уладзімір Іванавіч Вашко, — адказаў старшыня Гудзевіцкага сельсавета Аляксей Бобрык.

— Калі ў Мастах такі адукаваны старшыня райвыканкама, то справы пойдуць на лад.

І сапраўды, тады справы ў нашым раёне палепшыліся.У нас тады кожны калгасны цэнтр і цэнтр сельсавета быў злучаны з раёнам асфальтавай дарогай, усе школы перабраліся ў тыпавыя будынкі. У Мастах быў лепшы спартыўны комплекс, як у некаторых абласных цэнтрах, у Мастах з’явіліся новая бібліятэка, шпіталь, пачалі будаваць тыпавы раённы Дом культуры. Пайшлі справы на лад у калгасах.

Аднойчы я сек дровы, як убачыў, што да варот нашай хаты падкаціла «Волга». Шафёр ветліва папрасіў пад’ехаць у

праўленне калгаса: са мной хоча сустрэцца Уладзімір Іванавіч Вашко. У час сустрэчы старшыня райвыканкама запытаўся, як маё здароўе (тады я хварэў на дысбактэрыёз), прапанаваў уладкаваць мяне ў абласную чыгуначную бальніцу, якая тады была найлепшай у вобласці.

Я падзякаваў, сказаў, што гэтая хвароба не вылечваецца.

Тады Уладзімір Іванавіч запытаўся, што патрэбна для таго, каб наш школьны музей стаў сапраўдным цэнтрам, можа, нават музейным комплексам.

Я сказаў, што для гэтага патрэбен мастак, які б параіў, як афармляць тую ці іншую залу, бо нашы стэнды — гэта лісты фанеры, памаляваныя цэментным растворам, фарбы мы не мелі.

Я папрасіў, каб, пакуль не перабярэмся ў новую школу, ніякіх рамонтаў не рабіць, бо для размяшчэння нашых экспанатаў спатрэбіцца некалькі будынкаў. Для гэтага можна будзе выкарыстаць старыя школьныя будынкі. А цяпер добра было б выратаваць хоць адну сялянскую хату, якая мае больш за дзвесце гадоў: няхай нашы ўнукі бачаць, што ў XVIII стагоддзі нашы сяляне жылі не горш за еўрапейскіх хлебаробаў. Вашко паабяцаў абмеркаваць гэта. І праўда, у хуткім часе Уладзімір Іванавіч, старшыня калгаса «Іскра» Міхась Сцяпанавіч Пронька і я вызначылі месца, на якое будзе перавезена хата з вёскі Семірэнкі, а ў адным са школьных будынкаў, як толькі вучні перабраліся ў новы будынак, пачаўся рамонт.

Перад тым як вырашыць, якую са старажытных хат перавозіць у Гудзевічы, Міхась Сцяпанавіч Пронька, архітэктар з Горадні Юрый Рыгоравіч Тарасевіч і я з’ездзілі ў Семірэнкі і выбралі самую старажытную хату. Дапамагаць у перавозцы гэтай хаты я папрасіў Івана Ігнатавіча Клімуця з вёскі Гострава: ён меў пяць класаў адукацыі, меў час, бо быў на пенсіі. Я з ім напісаў шэраг артыкулаў, у тым ліку і па гісторыі Гудзевічаў. З друкаваннем маіх артыкулаў былі праблемы, бо я варагаваў з райкамам партыі, а вось пад ягоным прозвішчам рэдакцыя ахвотна друкавала нашы артыкулы. Пісалася гэта так: я яму даваў заданне напісаць пра таленавітых сялян і сялянак з вёскі

Гострава. Ён звычайна прыносіў паўстаронкі з вучнёўскага сшытка са сваім вырашэннем тэмы.

Я друкаваў на пішучай машынцы, і ўжо па гэтай тэме атрымлівалася 5–10 аддрукаваных лістоў: тут ужо апісваўся талент і маіх аднавяскоўцаў, сваякоў, знаёмых. Ён, Клімуць, спрабаваў дзяліцца са мной ганарарамі, але я ад гэтага катэгарычна адмовіўся. Калі я яму паабяцаў, што калгас яму кожны месяц будзе плаціць 30, а то і 40 рублёў у месяц, што ён застанецца экскурсаводам у гэтай сялянскай хаце, то чалавек з радасцю згадзіўся дапамагаць на такіх умовах. Узначаліў перасыпанне гэтай хаты здольны сталяр, муляр, каваль, цясляр Уладзімір Георгіевіч Маляўка. Ягонага бацьку ў вёсцы называлі Юрком. Гэта таксама быў здольны і разумны селянін. Вызначаўся ён сумленнасцю, праўдзівасцю, працавітасцю, спрыяннем людзям. Сялянская хата XVIII стагоддзя ў Гудзевічах выглядала дакладна гэтаксама, як і ў Семірэнках. Апісанне гэтай хаты дадзена дакладна ў маёй кнізе «Каб жыла Беларусь». Адчынена для агляду гэтая хата ў самым пачатку 1981 года. Вось што ў час экскурсіі распавядаем пра гэтую хату.

Гаспадары гэтай хаты Анатоль і Іван Хомкі распавядаюць, што яшчэ ў 1953 годзе ў гэтай хаце жыло 14 душ. Усім хапала месца, усе былі задаволены. Хаце цяпер, у 2004 годзе, больш за 200 гадоў, бо будавалі яе пры Кацярыне ІІ, а гэта XVIII стагоддзе. У 1980 годзе я пытаўся ў самага старога чалавека з Семірэнкаў, які нарадзіўся ў 1899 годзе:

— Ці старая гэтая хата?

— Я ў дзяцінстве пытаўся ў бабулі, колькі гадоў гэтай хаце. Бо тады ўжо яна была самая старая ў вёсцы, — паведаміў Сяргей Леська. — Бабуля адказала: «Як я была маленькая, то гэтая хата была такая ж старая, як і дзісь (сёння)».

Іншыя жыхары Семірэнкаў сцвярджаюць тое ж. Сцены, з якіх яна складзена, вельмі смольныя. Калі перасыпалі хату, то памянялі падрубы. Яны былі такія смольныя, што нагадвалі пчаліныя соты разам з мёдам, у некаторых месцах, асабліва каля сукоў, смала была цямнейшая. Здавалася, што гэта добра

пасалятраваны кумпяк ці паляндвіца. Так апетытна выглядалі гэтыя сніты (зрэзы), што ў галоднага чалавека слінка збіралася ў роце. Доўга мы захоўвалі гэтыя старыя падрубы, але пазней, калі менталітэт нашага народа змяніўся, іх пакралі. Да 1992 года на плоце каля хаты зімой і летам віселі збанкі. Ніколі нікому не прыйшло ў галаву, каб збанкі пабіць, хоць школа была побач. А вось у 1992 годзе хтосьці пабіў іх. Мы зноў павесілі. Зноў пабілі. Цяпер збанкоў на плот не вешаем. Усё наша, беларускае, ненавісна акупантам. Яны заўсёды імкнуліся знішчыць патрыятызм у нашым народзе. Нават любоў да сваіх вёскі, раёна, вобласці называлі месніцтвам, а гэта было такое ж абвінавачанне, як патрыятызм ці нацыяналізм. Ім, знішчальнікам народаў, дазвалялася здзекавацца, высмейваць, знішчаць усё беларускае, а нам, беларусам, забаранялася нават выпісваць газеты на роднай мове. На адным з саветаў РАНА Мікалай Рында, загадчык РАНА, запытаўся ў мяне:

— Какие печатные издания вы выписываете?

— «ЛіМ», «Звязду», «Полымя», «Маладосць», «Зару над Нёманам», «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», «Родную прыроду»…

— Почему не подписались на русские издания?

— Я — беларус.

— Мы заставим вас выписывать русские издания!

— Кароткія рукі, каб прымусіць мяне вырачыся роднай мовы.

Яшчэ некалькі слоў пра беларускі менталітэт. У 30-х гадах XX стагоддзя ў маіх бацькоў была крама. Калі, бывала, селянін прадасць свінабою парсюка ці суседу карову, то кожны даваў па злоту і прыходзілі да нас выпіць барыш. У маёй роднай вёсцы Ляткі былі тры п’яніцы: Пятрук Пазняк, Ясь Сырэй і Піліп Лагонда. Яны раз у тры-пяць тыдняў прыходзілі да нас, куплялі паўбутэлькі гарэлкі (250 г), селядца, паўбуханкі свежага пацітковага хлеба і пілі гадзіны дзве. На кожнага прыходзілася па 83 грамы гарэлкі, па цяперашнім гранёным кілішку. А пасля, абняўшыся, ішлі праз вёску і спявалі «Гадзінкі». Жанчыны хрысціліся і з агідай казалі:

— У-у, п’янюгі! Зноў набраліся, як жабы калу.

Цяпер гэтых людзей лічылі б самымі лепшымі цвярэзнікамі ў вёсцы. Гэта савецкая ўлада прынесла нам, беларусам, алкагалізм, зладзейства, нецэнзуршчыну. Мая матуля часам ужывала слова «халера», бабуля Марыля абуралася:

— Грэх, Волечка, ужываць такія брыдкія словы. Каб я больш не чула ад цябе такой непатрэбшчыны.

Каб бараніць беларускі народ ад гэтых з’яў антыкультуры ў народзе, патрэбны патрыятычная школа, беларуская царква, нацыянальны музей. Відаць, у 40–90-х гадах XX стагоддзя Гудзевіцкая сярэдняя школа была адзінай у Беларусі, дзе заўсёды і для ўсіх гучала: «Добры дзень, добры вечар, да пабачэння, дзякую, калі ласка, прабачце, даруйце» і г. д. Здараецца, што настаўніца прывозіць вучняў на экскурсію і з парога заяўляе:

— Посмотрите, в каких антисанитарных условиях жили люди раньше.

У адказ на гэта распавядаю, што ў той час, як будавалася гэтая хата, у такіх жа пабудовах жылі сяляне Францыі, Нямеччыны, Швейцарыі, Даніі і іншых еўрапейскіх краін. Нашы прапрадзеды жылі па сярэднееўрапейскіх стандартах. У тым, што сёння мы жывём горш за еўрапейцаў, віна буржуазнай Польшчы, Савецкага Саюза, віна майго пакалення і мая асабістая, сённяшняга грамадства. Распавядаю, як тут цёпла ды ўтульна ў зімовы час, калі «трашчыць мароз, завейка вее, у блочных хатах люд дубее» (урывак з верша Уладзіміра Зубка).

Да нас, у гэтую музейную хату, зімою прыбягаюць пагрэцца чорныя ад холаду настаўнікі, пасінелыя работнікі пошты, дрыжачыя супрацоўнікі сельсавета, работнікі гандлю, і ўсе захапляюцца:

— Якія разумныя былі нашы прапрадзеды: хаткі будавалі нізенькія, вокны маленькія. Тут цёпла ды ўтульна, як у мядзведжым вушку! Як тут прыемна!

Хата пачынаецца з покуці. Тут павінна вісець ікона. І мяне папярэдзілі, што калі будзе ікона, то побач будзе вісець Белакоз. Тады я падумаў: Францішак Скарына ведаў, што, друкуючы

Біблію на зразумелай для беларусаў мове, рызыкуе ўсім, нават лёсамі самых блізкіх людзей. Фіёль Швайполь за тое, што ў пачатку XVII стагоддзя надрукаваў дзве кнігі ў Кракаве на царкоўнаславянскай мове, быў кінуты ў турму. І толькі калі прысягнуў, што больш такога рабіць не будзе, быў вызвалены. Ён тут жа ўцёк у Венгрыю. Нягледзячы на велізарную небяспеку Скарына друкуе Біблію на зразумелай для беларусаў мове.

Гэта быў патрыятычны і рэлігійны подзвіг. Ён, Скарына, быў глыбока веруючы чалавек. Калі б была незалежная Беларусь, незалежная ад маскоўскага патрыярхату беларуская царква, то Францішак Скарына даўно ўжо быў бы кананізаваны, але ні рускай праваслаўнай царкве, ні польскаму каталіцкаму касцёлу не патрэбен святы Францішак Скарына, беларускі патрыёт.

Мы вырашылі, што ва ўмовах акупацыі Беларусі маем права кананізаваць Францішка Скарыну. У нашай старажытнай хацемузеі на покуці павесілі ікону. Гэта рэпрадукцыя абраза Аляксея Марачкіна «Пачатак». Тут Францішак Скарына дастае першы надрукаваны на зразумелай для беларусаў мове ліст Бібліі. Ікона абгорнута ўзорыстым вышываным ручніком. Тут жа на покуці стаіць першая зжатая ў гэтым годзе жменя жыта. У нас такое права мела толькі матуля. Бывала, прыходзім на поле, а матуля кажа:

— Сядзем, дзеткі, каб спех прыбег.

Я такі задаволены, што яшчэ нейкі час можна адпачыць. Праз пяць-восем секунд другая каманда:

— Уставайце, пачнём.

Мы з асалодай назіраем, як спрытна матуля зжынае першую жменю, якая прастаіць на покуці ўвесь год. Гэтая жменя сімвалізуе пашану да вынікаў працы. Яна — як доказ дастатку ў хаце.

На вокнах надзвычай прыгожыя выцінанкі. Гэта вынік працы Веры Ігнатаўны Белакоз, Людмілы Міхайлаўны Станеўскай. Яны выразалі некалькі камплектаў выцінанак, ім не церпіцца павесіць новыя, яшчэ прыгажэйшыя выцінанкі, а мне цікава, як доўга яны паслужаць у нашых умовах, калі многія экскурсанты лічаць сваім абавязкам пацягнуць за выцінанку, паглядзець, ці парвецца яна. Шэсць гадоў ужо гэтым выцінанкам.

Сялянскі стол. Яго з адной дошкі зрабіў прыгонны селянін з вёскі Нацавічы Міхась Кажэцкі. Гліцы тут не ўпушчаны ў дошку, а выцесаны з тае самай дошкі, бо злучаць тут няма чаго. Многія экскурсанты хваляцца:

— Я за гэтым сталом гуляў вяселле Зоі…

— А я за гэтым сталом памінаў Васіля: разумны і добры быў чалавек…

— А я за гэтым сталом гуляў на хрысцінах Валодзі. Цяпер ён настаўнік, майстар, а тады быў зусім маленькі, кволенькі.

На ўроку беларускай мовы я папрасіў шасцікласнікаў напісаць сачыненне на тэму «Самы старажытны прадмет у нашай гаспадарцы». Саша Шайнога тады напісаў: «У нас яшчэ захоўваецца стол, які ў 1953 годзе рабіў мой прадзед Міхась Шайнога. Стол пачарнеў, пакалоўся, бо ўжо, можа, гадоў з 15 як купілі новы стол, ён ляжыць на падворку, на яго падае дождж, неміласэрна паліць сонца. Ён то намакаў, то рассыхаўся, але не гніў, бо надта смольная дошка. Тут тапчан, сланы з канца XIX стагоддзя. На цымбалах, што справа ад акна, іграў Іван Улановіч, а брат ягоны, Мікалай, — на гармоніку. Гралі яны вяселлі, хрысціны, гулянні. Гулянні праводзіліся па вёсках амаль у парадку чарговасці, а на Зелну ў Гудзевіцкай царкве быў фэст (28.VIII), то ў гэты дзень госці былі ў кожнай хаце не толькі ў Гудзевічах, але і ў Лятках, Кулёўшчыне, Пачуйках, Гостраве, Дублянах і многіх іншых навакольных вёсках. Моладзь прыходзіла і прыязджала з паўсвету.

Хлопцы тае вёскі збіралі з кожнага кавалера па два злотых. За гэтыя грошы наймалі музыканта, хату. Для далёкіх хлопцаў ды дзяўчат рыхтавалі пачостку. У 80-х гадах XX стагоддзя моладзь захоўвала традыцыі Беларускай сялянска-работніцкай грамады: гасціны, вяселлі, частаванкі праводзілі без алкагольных напояў. На сталах быў квас, ліманад, закускі, але нічога алкагольнага. Калі на вяселлі ці гулянні з'яўляўся хлапец нападпітку, то да яго падыходзілі два-тры арганізатары танцаў і добразычліва казалі:

— Ты добры хлопец, разумны, рослы, прыгожы, працавіты, але сёння крыху падпіў. Няхай Бог бароніць, каб гэтага не заўважылі нашы дзяўчаты, бо тады твой аўтарытэт знізіцца да нуля.

Хадзем, хлопцы, да мяне, — казаў адзін з арганізатараў, — пачастуем Міхася, самі падмацуемся, а пасля і на танцы вернемся.

Гаспадар з запрошаным заходзілі ў хату, пілі квас ды ліманад і вялі размову пра шкоднасць алкаголю, пра велізарныя даходы, якія мае акупанцкая Польшча ад гарэлкі ды тытуню, пра байкот алкагольных ды махорачных вырабаў, пра строгасць дзяжурных на танцах, якія прылюдна могуць з хаты пад рукі вывесці, пра тое, што мы, беларусы, — еўрапейскі народ і павінны паказваць прыклад усяму свету цвярозымі паводзінамі, высокай культурай, добразычлівасцю, працавітасцю, дабрынёй.

— Пайшлі б яшчэ на танцы, але, баюся, што дзяжурныя цябе вылічаць, тады бяды не пазбегнуць. Давай прыляжам ды падрэмлем, а праз гадзіны дзве пойдзем на танцы. Тады ўжо я над табой вазьму шэфства.

Другі раз калі б хлапец і пакаштаваў гарэлкі, то ўжо на танцы ў Ляткі ці Пачуйкі не пойдзе і іншым раскажа, як там глядзяць на выпівохаў. А часта такі хлапец сам запісваўся ў гурт безалкагольшчыкаў.

А ў сялянскай хаце каля сцен — лавы, паміж сталом ды запечкам — куфар. Тут гонар гаспадыні — сувоі белага, як снег, кужалю, дываны, вышываныя ручнікі, фартухі, кофты, паясы, спадніцы, саматканае сукно на касцюмы для гаспадара ды сына.

Запек — памост паміж шчытавой сцяной ды печчу, ляжайка. Велька печ, у якой варылі бульбу свінням, пражылі капусту, варылі солянку на снеданне (солянка — абскрабаная, пасоленая ды звараная бульба), куццю на палудзень, а прысвяткам і пражылася качка ці певень у казане ці гліняным гаршку, побач пазалочаная ад сценак гаршка бульбяная каша, якая аж скварчэла ў тлушчы. Велька печ добрая і тым, што на ёй у самы люты мароз цёпла, утульна. Гэта царства бабулі ды ўнучак. На ляжайцы любіў пагрэць старыя косці дзед.

Паміж велькай печчу ды вушаком дзвярэй — кут гаспадыні. Тут драўляная качарга, якою папраўляюць ды падгортваюць жар. Перад тым, як падгарнуць жар, яе мочаць у спецыяльным вядры з вадою. Яна, мокрая, не гарыць і не гніе, бо кожны раз пара забівае

мікробаў. Тут жа вялікі і малы рагачы. Большы на калёсіках, каб жанчына па подзе печы не цягала вялікіх саганоў, не падымала іх, а вазіла на калёсіках: і лёгка, і зручна. Побач чапяла — гэта выключна жаночая зброя, бо жанчыны чапялой не толькі ставяць патэльню ў жар, ёю яны выхоўваюць мужчын, калі тыя не надта паслухмяныя. Каля вушака вісіць кацуба. Многія стравы трэба часта мяшаць, а жур ці кісель з аўсянай мукі мяшаць трэба амаль бесперапынна. Як жа гэта рабіць, калі ў печы палае агонь? Мае чаранок і мяшалку. Для гэтага падбіраецца з лісцёвых парод дрэў кій, які прыродай сагнуты пад прамым вуглом. Кацубай мяшаць вельмі зручна, бо жанчына стаіць зводдаль ад печы, а ў полымі толькі чаранок кацубы.

Вось на доўгім чаранку мятла, ёю вымятаюць попел з напаленай печы: жар ужо выбраны і вынесены. На чысты под печы садзяць з лапаты вялікія боханы хлеба, пад якія звычайна матуля падкладала на лапату лісце аеру. У нас гэтае лісце называлі паннамі.

Увосень мы, дзеці, збіралі шмат жоўтага кляновага лісця. На ім таксама пёкся смачны ды духмяны хлеб. Звычайна хлеб пяклі рэдка, найчасцей перад вялікімі святамі. Вялікія хлябы пяклі з той мэтай, каб іх менш расходзілася: чорствы хлеб не такі смачны, а таму ягоны расход меншы.

Над сталом-шафкай паліца. Яе зрабіў Міхась Аскірка ў 1919 ці 1920 годзе, калі вярнуўся з бежанства. Меў толькі сякеру і нож, якія выкарыстаў, каб змайстраваць гэтую прыгожую ды зручную паліцу, якая мае аддзелы для лыжак, глячкоў, місак, збанкоў, мяліцаў і інш. Каля самага вушака цэбар, таўкач: зімой тут захоўвалася цеста для свіней: ежа свінням налівалася цёплая. Побач на драўляным круку вісяць драўляныя вядро і карэц, якія перадаў музею настаўнік з мястэчка Луна Уладзімір Дубіцкі. У пачатку ХХ стагоддзя яшчэ сустракаліся і драўляныя вёдры, і драўляныя карцы. Цяпер гэта вялікая рэдкасць.

На сталe-шафцы стаіць гаршчок-спарыш — гэта разам злепленыя тры гаршкі: у іх зручна ў поле насіць палудзень для касцоў ці ратаёў або жанцам. У такіх гаршках ежа не стыла, грэлася адна

ад другой. У адным гаршку была кіслая ежа (шчаўе, капуста, бурачкі), у другім прэсная (лакшыны (г. зн. макароны), забеленая куцця, крупнік, куцця з фасоляй, зацірка), у трэцім — каша (бульбяная, ячменная, грычаная, панцачная (куцця)).

Побач мухалоўка: тады мух не труцілі і не білі, а ў сонечны дзень адчынялі акно, і ўсе хатнія хусцінкамі, фартухамі, ручнікамі махалі, каб мушкі ўцякалі на сонейка.

Часам да вечара мух зноў набівалася ў хату. Тады на цвіках, што ўбіваліся ў бэлькі, развешвалі галінкі бэзу, квітнеючай ліпы, далікатнай бярозкі. Мухі з прыемнасцю абсядалі гэтыя галінкі. Калі прыцямнее, двое хатніх бралі мяшок і асцярожна падводзілі яго пад галінку. Мяшок каля бэлькі сціскаўся і выносіўся на двор. Там мухі выпускаліся.

Аднак і пасля гэтага часта заставалася ў хаце крыху мух. Гэтых упартых асобін каралі такім чынам: на ўлюбёным месцы мух ставілі шкляную мухалоўку, якая знізу мела шырокую адтуліну, вакол якой налівалася сыроватка ці прыбеленая вада. Пад адтуліну на стол ці акно насыпалі крыху цукру, тварагу ці іншага ласунку. Мухі ахвотна спажывалі пачастунак і, падсілкаваўшыся, падымаліся ўгору, трапляючы ў закрытую прастору. Палятаўшы і стаміўшыся, яны сядалі ў сыроватку ці забеленую ваду і тапіліся. Такіх мухаловак у нашым музеі захавалася аж дзве.

Побач апалушкі — невялічкае плыткае карытца — імі апалалі крупы. Матуля пякла вельмі смачныя аладкі з грыкі (цяпер чамусьці называюць грэчка). Каб зрабіць муку, матуля падымала ў жорнах камень, які ледзь дакранаўся да грыкі, аднак гэтага дакранання было дастаткова, каб шалупінне адскоквала ад грычаных круп. Пасля гэтага крупы і шалупінне высыпаліся ў апалушкі, хвалістападобнымі рухамі крупы і шалупінне апалаліся то ўніз, то ўверх. Крупы цяжэйшыя, таму яны апускаліся на дно апалушак, а шалупінне збіралася зверху. Матуля шалупінне выкідала ў памыйнае вядро для свіней, а крупы малола на муку.

А гэта бойка — у ёй са смятаны збіваюць масла. Здавалася б, няхітрае прыстасаванне, а яно значна аблягчала працу чалавека. Вось прыклад.

У 1945 годзе да Сцяпана Цахны прыехаў брат Міхась з жонкай Ганнай. Міхась не вярнуўся на родную Гарадзеншчыну з бежанства: на Саратаўшчыне ці Тамбоўшчыне ажаніўся, а жонка пабаялася ехаць з хаты. Так там і гаспадарыў. Пачаставаліся дні тры, а пасля Міхась кажа:

— У цябе гаспадарка, а мы ўсё гуляем. Цяпер восень, трэба працаваць.

— Ой, Міхасёк, ды так трэба, што проста пад зарэз: жыта змалаціў, а звеяць не паспеў, а тут мус сеяць.

— То давай звеем, — падахвоціўся Сцяпан.

Пайшлі яны ў гумно.

— У цябе тут як у святліцы: ток замецены, абмалочанае жыта сабрана ў горбу каля дзвярэй, радзюжкі падрыхтаваны, мяшкі складзены, побач завязкі.

Пакуль Сцяпан абвешваў астаронкі радзюжкамі, каб ніводнае зярнятка не заляцела ў якую шчылінку ды не згубілася, Міхась каля гумна разаслаў радзюжку і сыпле з сявенькі жыта. Мякіну ветрам крыху адносіць убок, а ўсё жыта і каласы падаюць у горбу. Убачыў гэта Сцяпан ды абурыўся:

— Што ты робіш?

— Вею жыта, — спакойна адказвае Міхась.

— Паглядзі, як у нас жыта веюць.

Узяў Сцяпан шуфельку (у нас яе называюць веялкай), набраў поўную нявеянага жыта і кінуў у канец току. Пасля другі, трэці… І тлумачыць:

— Бачыш, што атрымліваецца: самае буйное жыта найцяжэйшае, яно ляціць у самы канец току. Гэтае жыта я буду сеяць. Крыху бліжэй падае слабейшае збожжа. Яго я змялю на хлеб, некалькі мэтраў (цэнтнераў) прадам, бо нагвалт трэба плаціць падаткі. Самае лёгкае жыта — заморанае, з’езнае, перабітае — падае даволі блізка, яго я змялю на восыпку. Яшчэ бліжэй падаюць пустыя каласкі. Там-сям відаць каласок над азаддзем, лёгкім жытам. З яго каласкі я змяту мятлой. Разам з каласкамі змяцецца крыху гэтага заморанага жыта. Усё гэта — і каласкі, і азаддзе — мы называем смецямі. Іх я зрэжу ў сячкарні на аброк (сечка са

збожжам) каню. Найбліжэй асядае мякіна — гэта вельмі добры корм для свіней. А што атрымалася з твайго веяння? І самае буйное збожжа для сяўбы, і крыху меншае на хлеб, і заморанае для свіней, і каласы — у адной горбе.

— У нас так усе веюць, — збянтэжана апраўдваўся Міхась.

Жонка Міхася Агрыпіна таксама падахвоцілася дапамагаць Ганначцы.

— Давай хіба і мне якую работу: і так тры дні такога пагоднага часу мы прабіндавалі, прагультаявалі.

— Будзем масла біць, бо смятаны назбіралася ўжо збанкоў дзесяць, — заявіла Ганначка ды пабегла да калодзежа, бо там замакала бойка.

Ганначка ваду з бойкі выліла, наліла свежай, папашаравала пыраем, яшчэ спаласнула ды пабегла ў хату. Там Агрыпіна наліла смятаны ў міску ды боўтае яе драўлянай лыжкай.

— Што ты робіш?! — здзівілася Ганначка.

— Масла б'ю, — з гонарам аб'явіла Агрыпіна.

— У нас масла б'юць у бойцы.

Сказаўшы гэта, Ганначка выліла смятану з некалькіх збанкоў у бойку ды пачала біць масла.

— Добра вам жывецца: нават для біцця масла маеце спецыяльную машыну: адно слова — цывілізацыя. А мы ўсё яшчэ б'ём масла лыжай. Ды якое там масла: на ўсю вёску адна карова засталася. Хто калі бачыў тое масла, — сказала ды спахапілася, зразумела, што гэтага паведамляць нельга, бо на Яраслаўшчыне за гэта — 10 гадоў катаржных работ.

А вось вешалка. Карова збіла рог, але Лявон Руднік рога не выкінуў, а зрабіў з яго прыгожую вешалку на ручнік каля рукамыйніка. Ягоная дачка Зінаіда Лявонаўна, выязджаючы ў горад, аддала гэты рог мне. Мы таксама на гэтай прыгожай вешалцы вешалі ручнік каля ўмывальніка. Пазней я гэты рог перадаў у музей і зразумеў, што шмат страціў: замест рога я ў сценку ўбіў цвік, на які мы пачалі вешаць ручнік. Ад цвіка на белай тканіне з'явіліся рыжыя плямкі. Цяпер у нас амаль усе ручнікі з плямкамі.

На сцяне вісіць вучнёўская сумка, пашытая з саматканага палатна. Праўда, мы называлі такую сумку торбачкай. Не дзіўна, што ў нашай школе быў такі выпадак: настаўніца выклікала першакласніка Міколку чытаць. Той пачаў:

— Сы-у-мы-ка.

Склаў у памяці прачытанае і радасна паведаміў:

— Торбачка.

У мяне таксама была такая торбачка. Толькі мая матуля — надзвычай таленавітая пралля ды ткачыха. Ейныя палотны, ручнікі, фартухі, сукно, дываны, посцілкі і нават сеннікі ды мяшкі выдзяляліся і роўнасцю прадзіва, і выбеленасцю ды прыгожымі колерамі нітак, і непаўторным узорам, таму я сваю торбачку з гонарам насіў нават тады, калі ўжо многія мелі дэрмацінавыя ці нават скураныя сумкі.

Побач з сумкай вісіць грыфельная дошка. Да 20-х гадоў XX стагоддзя класныя заданні кожны вучань выконваў на грыфельнай дошцы, а пасля праверкі задання напісанае сціралася. І чарнавікі нават у хаце выконваліся таксама на грыфельнай дошцы. Гэта давала велізарную эканомію паперы. Я падумваў, каб вярнуцца да грыфельных дошак, але цяпер пераканаўся, што ў хуткім часе пяройдзем не на грыфелі, а на камп’ютары.

На сцяне пры запеку развешаны прыгожы саматканы дыван, світка, бурка, якая зімой ці нават восенню ці вясной у непагадзь адзявалася на кажух ці паліто. Кожная бурка была з балыком, які бараніў галаву ад дажджу, ветру і холаду.

З хаты выходзім у прымен (сені). Тут у левым кутку пры супрацьлеглай ад дзвярэй сцяне стаяць жорны, у якіх малолі збожжа на хлеб ды на восыпку жывёле. Прыемна папакруціць млён, пакратаць рукой першыя жменькі мяккай мукі, але калі трэба змалоць некалькі дзясяткаў ці нават соцень кілаграмаў збожжа, то забаляць і рукі, і спіна. Таму звычайна большую колькасць збожжа малолі ў ветраках або ў вадзяных млынах.

У нас тут была процьма ветракоў: у Лятках два (Янушчыка і Ваўчка), у Ганасаўцах, Пачуйках, Духаўлянах, паміж Гудзевічамі і Стругай, паміж Гудзевічамі і Радзявічамі. Усе яны былі

спалены казакамі ў 1913 годзе, калі царскі ўрад праз царкву ды воласць выганяў мясцовае насельніцтва ў бежанства, каб людзі выязджалі. Казакі ўсе вёскі, нават тыя, якія катэгарычна адмаўляліся выязджаць, палілі. Надыходзіла восень, насельніцтва амаль пагалоўна вымушана было выязджаць. Нашы сяляне і рамеснікі вельмі многа зрабілі для ўзняцця агратэхнікі і развіцця промыслаў Расіі. З кожнай сям'і тады загінуў адзін або і некалькі чалавек. У выніку бежанства памёр ад тыфу, калі вярталіся ў 1919 годзе, мой дзядуля, тата маёй матулі Кастусь Міхайлавіч Петрашэвіч. Ён пахаваны на станцыі Негарэлае каля Мінска. Меў каля пяцідзесяці гадоў. Памерлі дзед Язэп і бабуля Рэгіна, бацькі майго таты. Былі сем'і, якія амаль поўнасцю вымiралі. Расстралялі бальшавікі братоў майго таты Гальяша і Івана.

У Гудзевічах на рачулцы Бурчак яшчэ ў XVII стагоддзі пабудавалі вадзяны млын. Тут вада, падаючы з вышыні цераз плаціну, цурчэла і днём, і ноччу. У час майго дзяцінства вадзянога млына ўжо не было, але там, дзе калісьці была плаціна, засталося мноства рамянёў. Таму Бурчак бурчэў несціхана аж пакуль не спраставалі дарогі і не пабудавалі мост у іншым месцы. Аднак назва Бурчак і цяпер бытуе ў народзе. На жаль, у 2004 годзе з абодвух бакоў моста паставілі надпісы, якія сведчаць, што гэта рака называецца «Гудзевка». Хто даў права нейкім дурным валацугам мяняць нашы спрадвечныя тапонімы і гідратапонімы на рускі лад ды нават зусім інакш?! Сведчылі старыя людзі, што і ветракі пры добрым ветры, і вадзяны млын пры дастатковай колькасці вады маглі малоць нават па тоне збожжа за гадзіну.

Побач з жорнамі стаіць драўляная барана, у ёй няма ні грама металу. Калі яе разабраць, атрымаецца бярэмя дроў. Аднак каштоўнасць яе нават сёння велізарная. І не толькі музейная, а і практычная, апрацовачная.

Паабяцаў мне селянін з вёскі Семірэнкі Багдан ахвяраваць для музея драўляную барану. Папрасіў я ў конюха падводу ды паехаў у Семірэнкі. Вынеслі мы кросны, слончыкі.

Сабралася шмат народу: мае былыя вучні, аднакласнікі, бацькі маіх вучняў дапамагаюць. Але калі вынес я драўляную барану, падышоў да мяне Сяргей Леська і кажа:

— Алесь Мікалаевіч, усё дамо, што трэба для музея, але бараны гэтай не аддамо: мы ўсе па чарзе вясной ёю барануем бульбу. Адна на ўсю вёску толькі і засталася. Жалезных баронаў прынясём хоць дваццаць, а драўлянай не аддамо. Жалезная барана вынішчае і пустазелле, і бульбу, а драўляная толькі пустазелле. Вось гэтым яна і каштоўная.

Сёння мы ў музеі маем дзве драўляныя бараны і вельмі ганарымся імі.

З дзяцінства чуў па радыё і тэлебачанні, што беларусы да рэвалюцыі не ведалі плугоў, а аралі драўлянымі сохамі. Гэта лухта, выдумка савецкіх прапагандыстаў. Мы маем драўляную саху. Яна барозніць бульбу не горш за жалезную, а вось побач драўляны плуг. Такімі ў нас карысталіся не толькі ў пачатку XX стагоддзя, але і раней. Канструкцыя ягоная вельмі складаная і прадуманая. Перадок плуга складаецца з двух калёсаў і металічнай (раней была драўляная) восі. На перадку ляжыць тоўсты (каля 10 см) драўляны дышаль плуга, які мацуецца рухома тоўстым ланцугом, цягаю. У самім плузе ўсё драўлянае. Металічныя толькі лямех ды нож.

Пытаюся ў паважанага селяніна з вёскі Пачуйкі Ігната Габрусевіча (1965 г.):

— Які плуг лепшы: драўляны ці жалезны?

— У мяне, — кажа дзядзька Ігнат, — былі два плужкі: драўляны і жалезны. Звычайна я гараў жалезным, бо ён таннейшы і больш трывалы. У драўляным адзін перадок чаго варты: гэта ж паўвоза, дадайце да гэтых двух колаў і восі яшчэ два колы і вось, устаўце разворку — і воз гатовы. У драўляным плузе амаль усё з дрэва, ён гадоў праз дзевяць разваліцца.

— То чаму вы захоўваеце і драўляны плуг?

— Калі я прыхварэў, а араць пад азіміну трэба, альбоператомлены, бо кожны дзень вазіў гной ці малаціў, каб пасеяць маладым жытам, то выношу драўляны плуг: ім араць лёгка, бо ён вельмі ўстойлівы ў баразне. У нас на полі шмат камянёў. Калі пад лямех драўлянага плуга пападзе вялікі камень, то ён яго абыдзе, а калі малы, то выверне, а жалезны плуг нават пры невялікім камені

выскаквае з баразны, коням становіцца лёгка, яны па інэрцыі прабягуць метраў з пятнаццаць. Тады кожны раз трэба цягнуць назад коней, плуг. За дзень так нацягаешся, што ні рук, ні ног не чуеш. Калі лубін для ўгнаення прыгараць жалезным плугам, то палавіна раслін будзе наверсе, а драўляным плугам — воссю колаў яго нагне, ланцугом нахіліць, лемяхом прыкрые ды так, што ніводнага лісціка зверху не ўгледзіш.

— А каб забаранілі мець у гаспадарцы два плугі, які б вы пакінулі?

— Вядома, драўляны: не ў мае гады цягаць жалезны плуг.

На жаль, у музеях Беларусі не захавалася ніводнага драўлянага плуга. Ганарымся, што ў Гудзевіцкім музеі іх аж тры. На сцяне вісіць ярмо, якое адзявалі валу, калі запрагалі. А побач ярмо на пару валоў, тут жа вісіць страмак. Ім капалі торф (у нас кажуць «торпу»). Капанне торпы было для нас святам. Працавалі ў гэты дзень вельмі цяжка, але цікава было адчуваць сябе паўнацэнным работнікам, слухаць цікавыя гісторыі з сялянскага жыцця, палуднаваць тук жа, у багне, адчуваць прыемную стому, адпачываць пасля палудня побач з дарослымі.

Рэзгіны — гэта два лукі (найчасцей з арэшніку) дыяметрам каля метра, а часам і больш, якія пераплецены вяроўкай, змацаваны паміж сабой. У рэзгіны складалі сена ці салому, калі іх трэба было перанесці з аднаго месца ў другое.

Пад рэзгінамі — формы на вытворчасць цэглы-сыроўкі. Большая для будаўніцтва хаты, гумна ці хлява і меншая для таго, каб зрабіць печ ці ляжайку. А вось і такая цэгла. Гліняныя будынкі стаялі па сто і больш гадоў.

Драўляная вось, на якой драўлянае кола. Воз на драўляных колах быў не горшы за сучасныя. Калі ехалі на кірмаш, то закладалі далікатныя драўляныя драбінкі, часта нават з падножкай. Спераду і ззаду закладалі палукашкі (у нашай вёсцы казалі «калупашкі»). Гэта для таго, каб з воза нічога не згубілася. Насцілалася з саломы ці сена высокае сядзенне, якое накрывалася посцілкай, а ва ўрачыстых выпадках (вяселле, хрысціны, госці і інш.) самым прыгожым дыванам. Ганарымся, што ў нас

захаваліся і воз, і палукашкі. На жаль, воз яшчэ не склалі, аднак гэта хутка зробім.

Каса з лукам таксама ў прымне. Ёю касілі збожжа. Лук спрычыняўся да таго, што скошанае жыта ці пшаніца клаліся ў роўненькія прадольныя пракосы. Іх лёгка было збіраць у снапы. А побач звязаная ў 1980 годзе парка з саломы. Такімі пакрыта наша музейная хата. Вязаў паркі селянін з Ляткоў Алесь Саўка. Цяпер, перакрываючы хату, навучыліся вязаць паркі і супрацоўнікі музея, аднак у Саўкі яны мацнейшыя, прыгажэйшыя, даўжэйшыя.

Часта дзеці пытаюцца:

— Ці гэтай лапатай Баба Яга садзіла ў печ Пілiпку-сынка?

— Магчыма, і гэтай, але я гэтага не бачыў. А вось што суседка хлеб ды пірагі садзіла ў печ гэтай лапатай, то магу засведчыць.

Драўляныя вілы-двухрожкі. Імі падавалі снапы на воз. Яны значна лягчэйшыя за жалезныя. Шкада, што ў іншых музеях не відаць такіх цікавых прыладаў.

Камора. У камору выносілася ўсё тое, што сёння ці нават заўтра не спатрэбіцца ў хаце. Уражвае вялізны кош з векам. Чаму такі вялікі? Сем'і былі вялікія, укормлівалі вялізных парсюкоў. Памятаю, матуля ў 1930-х ды 1940-х гадах рабіла па семдзесят каўбас. Аднойчы закалолі вепра, які важыў 365 кг. Вядома, з такога парсюка паляндвіцы, кумпякі, лапаткі, бочкі, кілбасы нават у яшчэ большы кош не змесцяцца. Звычайна такі кош вешалі ў цяжкадаступным месцы. Толькі старэйшыя людзі, дзеці якіх пайшлі на свой хлеб, маглі дазволіць сабе часам паласавацца каўбаскай ці паляндвіцай. Бабуля Зоя заўважыла, што нявестка Настулька любіць часам пакаштаваць, ці не перасохлі шынкі, каўбаскі. Яна папрасіла сына Міхася павесіць жэрдачку з кілбасамі на пояскі над прымнам, у якім не было столі. Таму кілбасу дастаць адтуль незвычайна цяжка. Настулька ўхітралася касой зразаць кілбаску за кілбаскай. А ў Зоі кілбасы называліся чужым мясам: яны падаваліся на стол толькі для гасцей. У нас быў такі звычай: у свята ці ў дзень цяжкай працы матуля, бывала, кажа, каб я адрэзаў паляндвічкі, каўбаску зняў ды парэзаў ружаватага

сала. У хаце адчувалася свята. А так найчасцей варылі тры разы за дзень і кожны раз была прэсная і кіслая стравы, а то і бульбяная, ячменная, грычаная, а часам нават манная ці рысавая каша. Часта пяклі бабку, бульбяныя ці мучныя аладкі, яечню, бонды, а на свята пірагі, бісквіты, сырнікі, варэнікі, наліснікі. Мая матуля гатавала вельмі смачныя стравы: пра капусту Белакозіхі ведалі ўсе ўжэнднікі Горадні. Прыехаў аднойчы староста. Прывялі да нас абедаць (у нас была крама). Мама падавала закускі, а староста пытаецца:

— А як зобачыць панян Бялокозован?

— А ото пані Бялокозова, — пазнаёміў войт.

— То така пані Бялокозова?! Я мысялэм, жэ она важы 100 кіло, а она така худзютка!

Мама важыла 43 кілаграмы: вельмі многа працавала.

У каморы заўсёды вісеў кош з сушанымі сырамі. Яны вельмі смачныя, але ласункамі не лічыліся: каровы ў нас былі малочныя, малака многа, а таму і сыроў на зіму збіралася шмат. Дый зімой каровы запускаліся не больш як на месяц. У самым халодным кутку стаяла карыта або скрынка для засолкі сала. Каля сцяны, насупраць дзвярэй — ложак. Сем'і былі вялікія, а святліца адна. Да дарослых дачок прыходзілі сяброўкі, да сыноў — сябры. Вось яны вялі моладзь у камору. Тут акрамя ложка былі сланы, слончыкі, калодкі. Гэта было штосьці накшталт невялічкага сучаснага клуба.

Побач з ложкам зноў куфар, у ім захоўвалася штосьці менш каштоўнае. У каморы звычайна было многа полак, на якіх размяшчаліся збанкі, слоікі, глячкі, каробкі для захавання гароху, фасолі, куцці, круп, пытляванай мукі. Тут жа стаялі кадаўбцы з мёдам, у начоўках ляжалі рамкі з мёдам у сотах. На сцяне запасны хамут, лятарня, з якой зімой гаспадар хадзіў у хлеў ці гумно. Побач з хатай свіронак першай паловы XX стагоддзя. Ён быў разгароджаны на засекі, у якія ссыпаліся жыта, ячмень, пшаніца, гарох. У вялікія саламяныя корабы ссыпаліся авёс, грыка. Ужо ў той час (1930-я гады) перадавыя сяляне на добрых глебах у зацішку сеялі кукурузу, якая нават выспявала на

насенне. Тата раз у тры-чатыры гады сеяў сачэўку. Гэта бабовая культура з зярняткамі, якія маюць форму лінзаў у дыяметры 3–4 міліметры. У нашай сям'і ўсе вельмі любілі супы з сачэўкі: яна смачнейшая за гарох. Тут, у свіронку, сабрана каля дзясятка меншых і вялізных карабаў. Ля ўвахода справа стаіць вялізны дубовы чан — бочка, зробленая з дубу. Калісьці ў ёй рашчынялі брагу ў Барысаўскім бровары.

Барысаўшчына — маёнтак Нямцэвічаў паміж Гостравам і Радзявічамі. Бочкай карысталіся ўжо ў XIX стагоддзі. Пашырацца Гудзевіцкі музей пачаў у пачатку 1980-х гадоў: у той час з'явілася больш дысідэнтаў, камуністычная партыя не так люта распраўлялася з імі. Ужо нават у перадавых газетах можна было прачытаць прагрэсіўныя артыкулы, пачуць нейкую крамольную думку па радыё, а Гудзевіцкім музеем заапекаваўся старшыня Мастоўскага райвыканкама Уладзімір Іванавіч Вашко, чалавек мудры і прагрэсіўны. Ён нават знайшоў магчымасць паўплываць на КДБ. У Гудзевічы перасталі ездзіць кадэбісты, перасталі мяне выклікаць, спыніліся бясконцыя праверкі працы Белакоза, у друку, на радыё і тэлебачанні пачалі адзначаць станоўчыя вынікі нашай краязнаўчай дзейнасці. Выкладанне беларускай мовы і літаратуры зноў, як і ў першай палове 1960-х гадоў, стала найлепшым у рэспубліцы. У 1982 годзе пачалі рамонт залаў аднаго са школьных будынкаў. Рамонт рабілі калгасныя майстры.

Мала плацілі — не за зробленую працу, а больш-менш раўнамерна размяркоўвалася зарплата на кожны страўнік.

Кажу старшыні калгаса: скардзіўся Іван Дзямбіцкі, што група будаўнікоў робіць за дзень па 35 карыт, а гастраўскае звяно толькі 5. Будаўнікі Дзямбіцкага атрымалі па 135 рублёў за месяц, а гастраўскія цесляры — па 105.

— Хопіць Ваньку грошай, — адказаў старшыня.

— Грошай-то яму хопіць, але ягонае звяно пачало таксама рабіць па 5 карыт за дзень. Іван кажа, што яны цяпер на калгаснай працы адпачываюць, а пасля рабочага дня і ў выходныя пабудуюць каму хату ці хлеў і заробяць за месяц па некалькі соцень рублёў на кожнага.

У музеі рамонт рабіўся павольна. Заходжу ў літаратурную залу, а майстры там п'юць самагонку.

— Чаму, хлопцы, не працуем? — цікаўлюся я.

— А чаго нам улягаць, калі ў мінулым месяцы мы атрымалі толькі па 117 рублёў?

— Не разумею, за што вам мог інжынер налічыць такую вялікую зарплату? За сённяшні дзень вы ўтрох адпілавалі кавалак рэйкі 60 пагонных сантыметраў. Нават калі вам за гэта заплаціць па сем капеек на кожнага, то за месяц атрымаецца не больш за два рублі. Вам жа заплацілі 117 рублёў кожнаму.

Пасля гэтай размовы праца пайшла крыху хутчэй. У 1982 годзе рамонт быў скончаны.

Першую літаратурную залу згадзіўся аформіць мастак Яўген Шунейка. Былі зроблены прыгожыя вітражы, але сакратару райкама Нэлі Мікалаеўне Абрамовіч не спадабаўся намаляваны над стэндам «Паўстанне 1863–1864 гадоў» вершнік на баявым кані. З-за стэнда гэтага мы даўно змагаліся з ідэалагічнымі работнікамі. Яны ўжо прызвычаіліся да яго, але іх абурыла «Пагоня».

— Якая ж гэта «Пагоня»? — абураўся я. — Тут вершнік не мае пікі, шчыта, вакол яго раскіданы нумары газеты, якую выдаваў Кастусь Каліноўскі «Мужыцкая праўда». Тут паказана паўстанне 1963–1964 гадоў.

Неяк угаварыў, вершнік застаўся.

А вось малюнкі над стэндам, дзе былі беларускія календары пачатку XX стагоддзя (1911, 1913, 1914, 1935 гг.), вельмі абурылі спадарыню Абрамовіч:

— Што гэта за даты на лістках календара намаляваў Яўген Шунейка — 11 лютага 1934 года, 23 студзеня 1934 года, 20 жніўня 1929 года, 2 верасня 1929 года? Якім падзеям з гісторыі Беларусі яны прысвечаны?

— Ды ніякім падзеям яны не прысвечаны, проста ў фондах музея ёсць такія лісткі, іх і намаляваў мастак.

— Не, у гэтых лістках нешта ёсць! — настойвала Нэла Мікалаеўна.

У той жа дзень яна прычапілася і да герба Гудзевічаў. Гэты герб ніякай гістарычнай каштоўнасці не меў, мы яго самі пры-

думалі, бо як жа такой старажытнай вёсцы ды жыць без герба. У нас было мноства ветракоў, былі яны і па ўсёй Беларусі. Нам захацелася ўвагу начальства, якое часта наведвала наш музей, звярнуць на дармавую энергію сілы ветру, які пакуль бясклапотна гуляе па нашай роднай Беларусі. А чаму б не прымусіць яго круціць млынарскія камяні? Вось і выбралі мы гербам Гудзевічаў вятрак на пясчаным узгорку, а знізу некалькі каласкоў, далікатна-блакітных кветачак лёну, ружаватых кветачак канюшыны, з якой тады ўсё яшчэ савецкая ўлада вяла бязлітасную вайну. Вятрак — асаблівасць нашага рэгіёна, які так дбайна выкарыстоўваў сілы прыроды. Узгорак залаціста-пясчанага колеру — бо ветракі будавалі на ўзгорках: на іх лепшы доступ ветру да крылаў ветрака. Каласы — увасабленне хлеба, бо дзеля таго, каб змалоць зерне, і будаваліся ветракі, а зерне, мука, хлеб — увасабленне нашага харчовага багацця. Канюшына — як акцэнт на жывёлагадоўчую дзейнасць беларускага селяніна, а лён на працягу стагоддзяў адзяваў наш народ. Улады адразу скрытыкавалі пясчана-залацісты колер узгорка: сцяг БССР мае зялёны колер, таму і ўзгорак мусіць быць зялёны. Даказваў, што на пяску нічога не расце, таму і зялёнага колеру тут амаль ніколі не было. Вакол ветрака ездзілі фурманкі памольшчыкаў, то каб і расла якая травінка, дык яна засохне. Мясцовае начальства вырашыла, што вятрак стаіць на зялёным узгорку. Каласкі, кветачкі канюшыны і лёну пярэчанняў не выклікалі. Праўда, калі мы ў 1984 годзе аформілі на больш прафесійнай аснове першыя чатыры залы літаратурна-краязнаўчага музея, то зноў прыехала Нэла Мікалаеўна Абрамовіч, сакратар Мастоўскага РК КПБ, каб яшчэ раз пераканацца, ці няма ў музеі антысаветчыны. Ёй чамусьці не спадабаліся кветачкі лёну, бо, бачыце, цяпер у Гудзевіцкім калгасе не сеюць лёну.

— Але ж лён тысячы гадоў апранаў наша насельніцтва, і калі сёння калгас не сее лёну, то праз два, пяць ці пяцьдзясят гадоў будзе сеяць, бо гэта вельмі даходныя культура.

Мы пры ёй знялі герб, і райкамаўка задаволеная паехала ў Масты. Я цешыўся, што не загадала зняць матэрыялы пра Ларысу Геніюш, Уладзіміра Караткевіча, Сакрата Яновіча і іншых.

Яшчэ ў 1985 годзе Вера Ігнатаўна і я выбіралі бульбу. Прыехаў дапамагчы нам кампазітар Петрашэвіч з сястрой і шваграм. Іхні бацька быў родным братам маёй матулі. Зранку калгасная капалка вытрасла ўсім па праходцы бульбы і паехала ў Радзявічы. Там на полі было пяць капалак, а тут, у Гудзевічах, ніводнай. Рабіць не было чаго, дык мы пайшлі ў лясок, што рос побач. Там сярод сцягненых з палёў камянёў убачылі велізарны глыжавік, які меў больш за два метры ў вышыню і цікавы прыродны знак: у верхняй частцы яго перасякала белая выпуклая паласа, якая вельмі нагадвала бараду дзеда. Петрашэвіч захацеў паказаць нашага прапрапрадзеда, прадзеда кожнага беларуса, падпяразанага ўзорыстым поясам, аднак у працэсе працы задума змянілася: вырашылі выбіць на камені вертыкальную паласу, якая імкнула б уверх, на ёй выбіць год першага ўпамінання пра Гудзевічы — 1539, а на гарызантальнай паласе высекчы слова «Гудзевічы». Камень паведамляў: «Час ідзе, а Гудзевічы стаяць». Спадарыня Абрамовіч прычапілася, што атрымаўся крыж, а ўсе кіраўнікі таго часу вельмі баяліся крыжоў. Камень пакуль не быў узаконены, але і не было каманды, каб яго выкідалі. Пазней побач устанавілі помнік на скрыжаванні дарог дзедам Ларысы Геніюш. На ім было выбіта: «Господи! Заступи и спаси насъ и наши земли от града и всех напастей. П. Миклашевич. 1908 г.»

Гэты помнік камуністамі быў скінуты ў лужыну. Вернікі паставілі яго на ранейшае месца, але нелюдзі зноў скінулі яго ў лужыну. Тады давялося схаваць яго ў музейным гумне. Толькі ў 1988 годзе ўдалося паставіць яго на новым скрыжаванні, бо ранейшыя дарогі былі зааraны.

Ля помніка, што стаіць на магіле Паўла Міклашэвіча, дзядулі Ларысы Геніюш, у 1968 годзе зламыснікі пабілі фатаграфію.

Ларыса Антонаўна дала мне новы здымак Паўла Міклашэвіча і папрасіла, каб я гэтую фатаграфію ўмураваў у помнік. Фатаграфія была большая за ранейшую. Трэба было ў камені вырубаць большае гняздо, але зрабіць трэба так, каб ніхто не ўбачыў гэтага, бо такое спрыянне заможнаму маянткоўцу ў той час каралася. Я папрасіў Міхася Пятровіча Янушчыка, былога

актыўнага барацьбіта за беларускасць, каб ён дапамог зрабіць гэта. На могільнік прыйшлі мы а палове чацвёртай раніцы, бо ў гэты час яшчэ няма руху на дарозе, а помнік каля самай дарогі. Да сёмай гадзіны фатаграфія была ўстаноўлена.

Прыехаў у музей Аляксей Марачкін. Я запытаўся:

— Што ў нас не так?

Ён адказаў:

— У вас усё не так, але вы нічога не мяняйце, бо вы не паўтараеце ніводнага музея Беларусі: у вас усё сваё, мясцовае. Не мяняйце, калі ласка, нічога: няхай хоць адзін музей будзе адметны ад іншых.

У першай літаратурнай зале мы захавалі ўсё, што было ў ёй з дня заснавання музея (2 лютага 1968 года). Але некаторыя экспазіцыі дапоўнілі новымі матэрыяламі. Пачынаецца экспазіцыя лістом Міхася Чарняўскага да Аленкі Навіцкай (бацька Віталь з вёскі Гострава), вучаніцы 10 «А» класа Гудзевіцкай СШ, ад 10.VI.1980, у якім археолаг-патрыёт раіць збіраць цікавыя камяні, назвы ўзгоркаў, палеткаў, палёў, сенажацяў, лесу, рачулак і інш.

Не сам я да многага даходзіў, а ліставанне маіх вучняў з беларускімі патрыётамі ўзбагачала і вучняў, і мяне. Мушу са скрухай прызнацца, што многія парады намі выкананы не надта дакладна: нам часам здавалася, што ёсць важнейшыя справы, а на ўсё не хапала ні сіл, ні часу, ні сродкаў. Сёння бачым, што многае не зроблена, і гэта засмучае, мучыць. Але цешыць, што ўсё ж многа ўдалося зрабіць. Гэта вынік парад тых жа пісьменнікаў, археолагаў, мастакоў, кампазітараў. Няхай даруюць усе тыя добрыя людцы, якія дапамагалі ствараць Гудзевіцкі музей, але якіх мы не адзначылі, не выслалі падарункаў, часам нават не адказалі на ліст.

Другім экспанатам нашага музея з'яўляецца ліст Міколы Улашчыка да Ганны Клімуць (дачкі Віталя з вёскі Гострава), вучаніцы 10-га класа, у якім аўтар паведамляе, што не можа выслаць 32-і том «Рускіх летапісаў», у якім змешчаны хроніка Быхаўца, Літоўская і Жамойцкая, Баркалабаўскі летапіс, Аверкі

і Панцырнага, бо том гэты выдадзены ў 1974 годзе і яго тут жа раскупілі. Але высылае нам 35-ы том «Рускіх летапісаў», які складаецца з беларуска-літоўскіх летапісаў. Пазней, калі Мікола Улашчык пераканаўся, што мае справу з вучнямі-патрыётамі, то прыслаў сігнальны экзэмпляр 32-га тома з уласнаручнымі праўкамі. Гэтыя тамы экспануюцца тут жа. У экспазіцыі ёсць шэраг лістоў Міколы Улашчыка да Ірыны Раманчук, Марыны Чвярток, Рэні Антушэвіч. Побач запрашальны білет на вечар, прысвечаны 500-годдзю з дня нараджэння Міколы Гусоўскага, з аўтэнтычнымі подпісамі членаў сакратарыята Саюза пісьменнікаў БССР Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага, Вячаслава Адамчыка, Барыса Сачанкі, Аляксея Гардзіцкага, Івана Чыгрынава і іншых, выпісаны 22.01.1981, першыя выданні паэмы «Песня пра зубра» з аўтографамі перакладчыка, мастака Яўгена Куліка, які шмат зрабіў для Гудзевіцкага музея. Мы яму амаль не аддзячылі. Мастак Алесь Ступань да 500-годдзя М. Гусоўскага адліў медаль, на якім выбіты партрэт М. Гусоўскага, лічба 500, кніга, «Пагоня». Гэты медаль у свеце адзін: пасля таго, як мастак адліў першы медаль, форма распалася.

На гэтым жа стэндзе выява Каложскай царквы работы Грабавіцкага, энцыклапедыя «Бярозкі» з партрэтам М. Гусоўскага, карта Беларусі XV стагоддзя, выява «Пагоні», фотакопія граматы ад 4 ліпеня 1539 года, у якой сцвярджаецца, што Гудзевіцкая царква здаўна існавала, фотакопія Гудзевіцкай царквы XV стагоддзя, лісты ад Вячаслава Чамярыцкага, Ігара Чарняўскага, Міколы Ермаловіча пра летапісную Літву, веліч Полацкага княства, беларускую дзяржаўнасць і шэраг іншых экспанатаў, якія збіралі вучні, вывучалі іх, дзякавалі ахвяравальнікам, якія пакінулі добры след у свядомасці кожнага вучня, бо перапісваліся, збіралі экспанаты, пісалі ў «Праменьчык» усе вучні. Працы было шмат, але яна была радасцю, адпачынкам ад бясконцых прычэпак, допытаў, перашкод.

У нас больш за 12 тысяч экспанатаў асноўнага фонду. Няма магчымасці апісваць кожны з іх, бо гэта атрымаліся б дзясяткі тамоў. Спынюся на тых, пра якія мы паведамляем у час экскур-

сіі, якія маюць і будуць заўсёды мець велізарнае выхаваўчае і пазнавальнае значэнне.

Мяне ў канцы 1950-х гадоў выклікалі ў КДБ і запыталіся:

— Адкуль ішла культура ў Беларусь: з усходу ці з захаду?

Ім хацелася, каб я сказаў, што з захаду, тады была б падстава звольніць мяне з працы ці нават арыштаваць. Я тады адказаў:

— Да нас культура ішла з усходу і з захаду, і ад нас на ўсход і на захад. Першую кнігу — Псалтыр — надрукаваў беларус Францыск Скарына, першую кнігу ў Маскве ў 1564 годзе надрукавалі беларусы Пётр Мсціславец і Іван Фёдараў. З Масквы яны вымушаны былі ўцякаць і вярнуліся ў родную Беларусь, у мястэчка Заблудаў, што недалёка ад Гудзевічаў, хоць цяпер яно ў Польшчы: чужога не шкада, спрадвеку гандлявалі нашай роднай Беларуссю. У 1574 годзе першую кнігу на Украіне, а менавіта ў Львове, надрукаваў беларус Іван Фёдараў, першую кнігу ў Лондане — беларус Ян Ліцвін. На жаль, пакуль не ведаю, у якім годзе.

На гэтым стэндзе таксама шмат арыгінальных экспанатаў.

Фатаграфія помніка «Францыск Скарына», які ўстаноўлены ў Вільні. Здымак з аўтографам Зоські Верас. Гэтую фатаграфію яна ахвяравала нашаму музею. Фатаграфія кнігі «Францыск Скарына», якая выдадзена ў Парыжы, з аўтографам аднаго з аўтараў кнігі Вячаслава Чамярыцкага. Лісток з «Беларускага календара» 1917 года (арыгінал). Тут ушаноўваецца 400-годдзе беларускага друку. Паштоўка да 450-годдзя беларускага кнігадрукавання з аўтографам ахвяравальніка Станіслава Пятровіча Шушкевіча (перапісвалася вучаніца Марына Улановіч). Юбілейны медаль да 450-годдзя беларускага друку, работа Арлена Кашкурэвіча. Ліст Алеся Адамовіча пра фрэску «Францыск Скарына» ў Падуанскім універсітэце (перапісвалася вучаніца Марына Багдан). Ліст ад Генадзя Кісялёва да вучаніцы Дзіны Кушнярук пра скарыназнаўства. Рукапіс Ларысы Геніюш у лісце да Ганны Янушкі — верш «Францішак Скарына». Ліст Міхася Судніка да Ганны Салтан пра юбілейны медаль «Францыск Скарына» і медаль, хрэстаматыя Максіма Гарэцкага з аўтографам Мікалая Марцінчыка (Міхайлавіча), палітычнага дзеяча 1920–1930-х

гадоў. Кніга Ляваса Уладзіміраваса «Францыск Скарына — першадрукар вільнюскі» з аўтографам аўтара, 1975 год. Кніга Я. І. Парэцкага «Сымон Будны» (1975) з аўтографам аўтара. Паэма Міхася Машары «Кастусь Каліноўскі». «Смерць Кастуся Каліноўскага» на двух лістах з «Беларускага календара» 1934 года (арыгінал). Каля гэтага стэнда я распавядаю вучням, што загадчык кафедры Гродзенскага дзяржуніверсітэта Чарапіца ў 2002 годзе выступаў па радыё. Я сам чуў, як ён даказваў, што Кастусь Каліноўскі не беларускі нацыянальны герой, а польскі, бо ён хацеў адарваць Беларусь ад Расіі і перадаць яе Польшчы. Гэта не так, бо наш зямляк з вёскі Мілявічы Мастоўскага раёна Міхась Біч, намеснік дырэктара Інстытута гісторыі АН Беларусі, у сваёй навуковай працы (яна тут жа, на стэндзе, з аўтографам аўтара), спасылаючыся на дакументы XIX стагоддзя, даказвае, што адзін з душыцеляў паўстання генерал Ратч у сваіх мемуарах сцвярджае, што Кастусь Каліноўскі быў супраць перадачы Польшчы Літвы, як тады называлі Беларусь, за незалежніцкія тэндэнцыі папракае яго Гейштар, адзін з кіраўнікоў паўстання. Сакратар варшаўскага паўстанцкага камітэта Яноўскі таксама сцвярджае, што Кастусь Каліноўскі хацеў незалежнасці Літвы. Гэтае важнае даследаванне М. Біча называецца «Беларускае адраджэнне ў XIX — пачатку XX стагоддзя». Адзін экзэмпляр змешчаны на стэндзе «Паўстанне 1863–1864 гадоў», а другі — у фондах Мастоўскага музея «Лес і чалавек», абедзве брашуры з аўтографамі-пажаданнямі аўтара М. Біча. Тут жа ўспаміны ўдзельніка паўстання 1863 года з вёскі Дубляны Гудзевіцкай воласці Язэпа Шэмета, які сцвярджае, што нашы паўстанцы былі ўзброены косамі, пікамі, драбавікамі, што ён вазіў у Кнышаўскі лес порах, зброю, адтуль вывозіў параненых, выратаваў шмат паўстанцаў ад карнікаў, у тым ліку паўстанца з вёскі Хамічы Жалязоўскага, побач здымкі Язэпа і Адольфа Шэметаў, ліст Генадзя Кісялёва да Каці Юзафовіч пра тое, што Кастусёў бацька паходзіў з Рэплі Ваўкавыскага павета (1968). Фотакопія з урыўка кнігі кс. Адама Станкевіча, у якой паведамляецца, што бацькі Кастуся Каліноўскага паходзілі з Рэплі Ваўкавыскага павета і займаліся вырабам абрусоў ды сурвэт.

Фотаздымак Генадзя Кісялёва з ягоным аўтографам. 18.2.1972. Даследаванне Уладзіміра Стохаля з Варшавы пра месца друкавання «Мужыцкай праўды» (рукапіс аўтара). Паштоўка Сакрата Яновіча пра кнігу «Сярэбраны яздок». Фотакопія карціны Пятра Сергіевіча «Кастусь Каліноўскі на аглядзе паўстанцаў у 1963 годзе» з аўтографам аўтара (перапісвалася ў 1967 годзе Соня Палавеня). Фотакопіі карцін Пятра Сергіевіча «Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў», «Партрэт Кастуся Каліноўскага» з аўтографамі мастака-аўтара. Ліст ад Пятра Сергіевіча да вучняў Гудзевіцкай школы 4.05.1967 да Соні Палавені, ліст з рэдакцыі «Нівы» пра высылку музею кнігі Віктара Кардовіча «Константы Каліновскі», у якой сцвярджаецца, што К. Каліноўскі быў шчыры беларускі патрыёт (1968). Кнігі Генадзя Кісялёва «Сейбіты вечнага», «З думкай пра Беларусь» з аўтографамі-пажаданнямі аўтара (перапісваўся вучань 9-га класа Віктар Кажэцкі ў 1968 годзе). Кніга Алеся Якімовіча «Кастусь Каліноўскі» з аўтографам аўтара 15.01.1972. Аўтаручка, якой У. Караткевіч пісаў раман «Каласы пад сярпом тваім» (прыслаў музею Адам Мальдзіс). Раман У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім», кнігі першая і другая, па іх я на пазакласным чытанні знаёміў вучняў, бо ў школьнай праграме да 90-х гадоў XX стагоддзя твораў У. Караткевіча ў школах не вывучалі. Ліст Уладзіміра Караткевіча да Дзімы Скробкі пра аўтэнтычнасць аўтаручкі, якой напісаны раман «Каласы пад сярпом тваім» (1979). Ліст Генадзя Кісялёва да вучаніцы 10 «А» класа Аленкі Барташэвіч пра сям’ю Кастуся Каліноўскага, 1.VII.1976. Раман Станіслава Струмпф-Вайткевіча «Гэнэрал комуны» з аўтографам аўтара 1.03.1968. Аповесць Сакрата Яновіча «Сярэбраны яздок» з аўтографам аўтара. 13.05.1980 (травень). Аповесць Генадзя Кісялёва «Паплечнік Каліноўскага» з аўтографам аўтара. 3.IV.1976 (перапісвалася Ганна Янушка з вёскі Ганасаўцы). Артыкул «Наш родны кут» у часопісе «Бярозка» Арнольда Пятровіча з аўтографам аўтара. Паштоўка дарэвалюцыйнага часу. Фатаграфію Францішка Багушэвіча ахвяраваў Вячаслаў Целеш. Паштоўка з аўтографам-пажаданнем Вячаслава Целеша, выдадзена су-

полкай «Загляне сонца і ў наша ваконца» (1906), С.-Пецярбург. Ліст заснавальніка музея Ф. Багушэвіча ў Жупранах з падзякай Гудзевіцкаму музею за дапамогу. Ліст хавальніка дома-музея ў Кушлянах Міхася Ляпехі пра супрацоўніцтва нашых музеяў. Зробленая рукой Зоські Верас рукапісная копія запіскі, напісанай для яе ў Менску Максімам Багдановічам у час гульні ў пошту, побач фотакопія запіскі Багдановіча да Зоські Верас. Юбілейная паштоўка «Максім Багдановіч» з аўтографам Станіслава Пятровіча Шушкевіча. Успаміны Зоські Верас пра Максіма Багдановіча, рукапіс аўтара. Ліст брата Максіма Багдановіча Паўла да Ірыны Крэнь (аўтэнтык) пра спадчыну паэта (1959), яшчэ адзін ліст Паўла пра спадчыну Максіма Багдановіча (1965) (вопіс 3, № 146). Ліст Ірыны Крэнь Гудзевіцкаму музею (1971) (вопіс 3, № 148). Ліст дочак Іларыёна Свянціцкага, вучонага філолага-славіста, які ўславіў беларускую літаратуру сваёй навуковай працай «Адраджэнне беларускай літаратуры» да вучаніцы Волькі Рыжко на 3-х лістах (1970) (вопіс 3, № 152). Фотаздымак «Іларыён Свянціцкі — вялікі сябра беларускага народа» (вопіс 3, № 153). Фатаграфія Аніссі Свянціцкай — аўтаркі матэрыялаў пра Цётку. Ліст Генадзя Кісялёва да Дзімы Ваўчка пра высылку газет «Наша доля» і «Наша Ніва» (копіі) Гудзевіцкаму музею 25.04.1972. Ліст Міхася Машары ў справе высылкі для музея рукапісу верша Машары «На смерць Міхася Явара» 7. XII.1973 (вопіс 3, № 161). Фатаграфія Галляша Леўчыка 1913 г., падарунак Зоські Верас, хата ў Слоніме, у якой нарадзіўся паэт-нашанівец 20.VII.1880. На адвароце здымка, з якога зроблена гэтая копія, рукой паэта напісана лацінкай: «Радзіма хатка, дзе я нарадзіўся, і сястра Аміля ў гародчыку». Падарунак Сяргея Новіка-Пеюна (перапісваўся Пеця Бібіла) (вопіс №, № 159). Ліст Міхася Машары з Лукішскай турмы ў Вільні да Зоські Верас са штампам цэнзуры (1929), падарунак Зоські Верас (вопіс 3, № 162). Ліст Паўліны Мядзёлкі да Алеся Белакоза ў справе перадачы Гудзевіцкаму музею машынапісу аповесці «Сцежкамі жыцця» 22.XI.1968 (вопіс 3, № 164). Фатаграфія Уладзіміра Навіцкага з вёскі Вострава, які ў 1918 годзе па лемантары Алесі Смоліч у беларускай школе

вёскі Струга вывучаў беларускую мову, побач лемантар «Зорка» Алесі Смоліч 1918 г. . У. Навіцкі гэты лемантар ахвяраваў Гудзевіцкаму музею, ён збярог першую сваю беларускую кнігу праз усё жыццё. Фотаздымак Алесі Смоліч з аўтографам: «На памятку дарагім вучням Гудзевіцкай сярэдняй школы ад аўтаркі лемантара "Зорка"». Выданні 1918–1922 гг. Аляксандры Смоліч 23.04.1972. (перапісвалася Ліля Цвінар) (вопіс 3, № 157). Ліст Алесі Смоліч да Лілі Цвінар 11.01.1974 (вопіс 3, № 168). Ліст Генадзя Каханоўскага пра М. Арла і Міхася Валюшку 23.07.1973. У лісце Генадзь Каханоўскі сцвярджае, што мая гіпотэза пра тое, што пад псеўданімам М. Арла мог пісаць Міхась Валюшка з Радзявіч, які пазней пайшоў у прымакі ў Стругу. Гэтая версія была памылковая, бо, як я пазней высветліў, Валюшка ніколі не напісаў ніводнага верша, ніводнага радка.

Артыкул Янкі Саламевіча «Дакументы гавораць», у якім ён пераказвае доказы гудзевіцкіх вучняў, што М. Арол і Янук Д. — не адна і тая ж асоба, а два розныя паэты (гл. Полымя. 1979. № 13) (вопіс 3, № 170). Янка Саламевіч узяў доказы, якія паслалі яму вучні ў трох лістах, і выдаў адкрыцці за свае. Ні на адзін ліст вучняў не адказаў, хоць абяцаў Адаму Мальдзісу, што аддзякуе дзеткам, адкажа.

Пакуль не паспеў апісаць яшчэ 13 залаў. Крыўдна і сорамна, што я, каб працягваць ствараць Гудзевіцкі музей, вымушаны быў у друку хваліць тых, хто шкодзіў мне на кожным кроку, арганізоўваў супраць мяне паклёпніцкія артыкулы ў друку, зрываў самыя важныя задумы.

Чаму ж я іх хваліў у друку, арганізоўваў ім самыя высокія званні заслужаных? Бо лічыў, што павінна ж у іх быць нейкае сумленне — не будуць шкодзіць таму, хто бясконца робіць дабро. Ды дарма спадзяваўся: яны, крывадушныя выродкі, за дабро плацілі злом.

Мушу сцвердзіць, што старшыня Мастоўскага райвыканкама Уладзімір Іванавіч Вашко да апошняй хвіліны свайго жыцця без ніякай для сябе выгады падтрымліваў мяне заўсёды і ўсюды. Шкадую, што яму я найменш аддзякаваў.

Некаторыя даследчыкі кажуць, што Белакоз ішоў напралом. Гэта не так. Даводзілася часам у нечым саступаць, абяцаць нейкае адступленне. Але тут жа рабіліся захады, каб перайсці ў наступленне, не выканаць іхніх патрабаванняў, зрабіць па-свойму.

У 1950–1980-х гадах без барацьбы нічога карыснага для Беларусі зрабіць не было магчымасці. Я гэтыя магчымасці знаходзіў.

*2007*

## КАЛЕКЦЫІ МУЗЕЯ 1993 ГОДА

Калекцыі Гудзевіцкага літаратурна-краязнаўчага музея пачалі ствараццa і афармляцца ў 1965 годзе. Тады ў нас было заведзена 10 інвентарных кніг для ўліку наступных калекцый: лісты, ткацтва, прылады працы, мастацтва, кнігі з аўтографамі, кавальства, фатаграфіі, вырабы з дрэва, кераміка, вырабы з саломы і лазы, чарнавікі твораў пісьменнікаў. У хуткім часе нам забаранілі такі ўлік экспанатаў і загадалі запісваць іх толькі ў кнігу паступленняў. У канцы 1992 года захавальнік фондаў Вольга Віктараўна Гуртавая з дапамогай Кацярыны Канстанцінаўны Сівук пачала падзел экспанатаў на калекцыі. Цяпер у нас налічваецца 72 калекцыі.

Найбольш у нас калекцый па літаратуры і этнаграфіі. Гэта аўтабіяграфіі, біяграфіі, граматы, календары, кнігі з аўтографамі, кнігі, выдадзеныя да 1800 года, да 1917 года, да 1954 года, лісты пісьменнікаў, мастакоў, дзеячаў навукі і культуры, машынапісы, перыядычныя выданні з аўтографамі аўтараў, перыядычныя выданні да 1917 года, да 1954 года, рукапісы, рэчы пісьменнікаў, успаміны, фотаздымкі, чарнавікі, экслібрысы, абрусы, вырабы з дрэва, вырабы з саломы і лазы, дываны звычайныя, дываны падвойныя, жаночае адзенне, кавальства, кераміка, паясы, посцілкі, прылады земляробства, прылады ткацтва, ручнікі, фартухі і іншыя.

Калекцыя «Самаробныя абрусы» налічвае 31 прадмет. Сярод іх пераважную большасць складаюць абрусы тканыя, ёсць і вязаныя на раме, а адзін звязаны кручком. Амаль усе паходзяць з

Гудзевіцкага рэгіёна. Калекцыя «Археалогія» налічвае 72 адзінкі. Сярод іх — аленевыя рогі, што выкарыстоўваліся ў Краснасельскіх шахтах каменнага веку ў якасці кіркаў, скрабалкі і нарыхтоўкі на сякеру і малаток з Краснасельскіх шахтаў, каменная сякерка, знойдзеная ў пойме Верацейкі каля Кулёўшчыны, вельмі вялікі рог невядомай жывёлы, знойдзены ў тым жа месцы, і шэраг іншых прадметаў з косці і крэменю з поймы Верацейкі каля Гудзевічаў. Шэраг адзінак дасланы Гудзевіцкаму музею вядомым археолагам Алегам Трусавым з раскопак Гарадзенскага замка.

Калекцыя «Архіў Індурскага касцёла» налічвае 517 адзінак, большасць якіх складаюць справаздачы, лісты, рахункі і іншыя паперы шляхецкага роду Пачобутаў-Адляніцкіх, а таксама іншыя важныя дакументы XVIII–XX стагоддзяў.

Калекцыя «Аўтабіяграфіі» налічвае 18 прадметаў. Тут аўтабіяграфіі вядомых людзей: Мікалая Міхайлавіча Марцінчыка, дзеяча ТБШ (1920–1930-я гады), Браніслава Адамавіча Тарашкевіча, стваральніка БСРГ, аўтара першай граматыкі сучаснай беларускай мовы, беларускіх пісьменніц Ларысы Геніюш, Зоські Верас і іншых.

Калекцыя «Біяграфіі» налічвае дзевяць адзінак. Сярод іх біяграфіі выдатнага беларускага бібліёграфа Юліі Язэпаўны Бібілы, акадэміка Радзіма Гаўрылавіча Гарэцкага, акадэміка Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага і іншых.

Калекцыя «Візітныя карткі» налічвае 32 адзінкі. Сярод іх візітныя карткі Ніла Гілевіча, бацькі вядомага беларускага бібліёграфа Юліі Язэпаўны Бібілы Язэпа (Осіпа) Аляксеевіча Бібілы да 1917 года, маці Юліі Язэпаўны Бібілы, сваячкі Кастуся Каліноўскага, Станіслава Шушкевіча, Радзіма Гарэцкага, Адама Палюховіча, Яна Запрудніка і іншых.

Калекцыя «Вырабы з дрэва» налічвае 148 адзінак. Гэта вельмі прыгожыя кадаўбцы, зробленыя з аднаго кавалка дрэва, начоўкі, у якіх мылі бялізну і самі людзі мыліся, апалушкі, розныя прылады працы для апрацоўкі лёну, сталы, крэслы (самаробныя), лыжкі, куфры, шэсць драўляных скульптур і шмат іншых вырабаў.

Калекцыя «Вырабы з саломы і лазы» налічвае 51 прадмет. Гэта каробкі, сплеценыя з саломы і лазы, якія маюць кожная

сваю форму, свой памер, сваю прыгажосць. У іх ссыпалі фасолю, гарох, крупы, куццю, збожжа, складалі адзенне, сявенькі, кашы, палукашкі і іншае.

Калекцыя «Граматы» налічвае 55 адзінак. Гэта фотакопія граматы пра існаванне Гудзевічаў у 1539 годзе, напісаная на старажытнабеларускай мове. Арыгінал «Маніфеста пра адмену прыгоннага ладу ў 1861 годзе», грамата апошняга польскага караля Станіслава Аўгуста да стольніка Шушкевіча, пісаная ў Гародні 5 траўня 1793 года. Грамата з каралеўскай пячаткай і ягоным асабістым подпісам, іншыя граматы.

Калекцыя «Графіка» налічвае 57 адзінак. Гэта карціны Міколы Купавы «…Як волю, мову берaглі», «Кастусь Каліноўскі», «Мужыцкая праўда», «Алаіза Пашкевіч (Цётка)», Арлена Кашкурэвіча «Янка Купала ў Ляўках», «Я. Купала ў Пецярбургу», «Гусляр» (паводле паэмы Я. Купалы «Курган»), «Князь» (паводле паэмы Я. Купалы «Курган»), «Бандароўна» (паводле паэмы Я. Купалы), партрэт Васіля Віткі, графічныя творы вядомага беларускага мастака Яўгена Куліка з серыі «Помнікі дойлідства Гродзеншчыны» і іншыя.

Калекцыя «Дакументы да 1917 года» налічвае 21 экзэмпляр. Гэта пасведчанне пра ўзнагароду залатым медалём Юліі Язэпаўны Бібілы, выдадзена 6.06.1913 начальнікам Ваўкавыскай жаночай гімназіі, пасведчанне 1893 года, у якім педагагічны савет паведамляе, што Мікалай Адамовіч, селянін Гродзенскай губерні, в. Кавалі, паспяхова скончыў курс навучання ў Гудзевіцкім народным вучылішчы, пашпарт Марыі Аксаміт, 1850 года нараджэння, выдадзены ў 1917 годзе нямецкімі ўладамі, і іншыя.

Калекцыя «Дакументы з 1917 да 1953 года» налічвае 293 адзінкі. Сярод іх — пасведчанне Юліі Язэпаўны Бібілы, што яна з'яўляецца галоўным бібліёграфам навуковай бібліятэкі Саратаўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, пасведчанне Бабруйскай жаночай б. Аляксееўскай гімназіі аб заканчэнні ў 1914 годзе Юліяй Язэпаўнай Бібіла васьмі класаў гімназіі і прысваенні ёй звання хатняй настаўніцы. Выпіска з прыгавору Гродзенскага акруговага суда ад 19.VII.1957 на члена КПЗБ Мікалая Іваноўскага і іншыя.

Калекцыя «Дакументы з 1954 года» налічвае 318 адзінак. Сюды ўваходзяць пасведчанні да юбілейных медалёў, працоўныя кніжкі калгаснікаў 1950-х гадоў, паведамленне на ўплату сельскагаспадарчага падатку за 1957 год Язэпу Станіслававічу Эйсманту, абавязацельствы для здачы дзяржаве ў 1955 годзе мяса, малака, яек, воўны, бульбы і г. д.

Калекцыя «Дываны звычайныя» налічвае 51 экспанат. Гэта прыгожыя вырабы розных майстрых. Ёсць ткання ў 4 нічальніцы рознымі ўзорамі, у 8 нічальніц, а таксама перабірыстыя, паласякі, тканыя з воўны. Амаль усе дываны ахвяравалі для музея жанчыны з навакольных вёсак.

Калекцыя «Дываны падвойныя» налічвае 12 экспанатаў. У гэтай калекцыі ёсць 5 дываноў, тканых у розныя гады XIX — пачатку XX стагоддзя, адзін з іх вытканы ў 1893 годзе, іншыя — у 1900, 1926, 1932 гадах. Дыван, ткані ў 1960 годзе, падаравала музею Ларыса Геніюш, а ткала яго яе свякроў. Такія дываны ткалі толькі на Гарадзеншчыне (у якую ўваходзіла і Беласточчына). Цяпер мы адшукалі адну жанчыну, якая тчэ падвойныя дываны, у Адэльску Гродзенскай вобласці і ў яе навучыліся ткаць. Нашай супрацоўніцай Верай Ігнатаўнай Белакоз вытканы тры малыя дыванкі і тры вялікія.

Калекцыя «Жаночае адзенне» налічвае 70 экспанатаў: спадніцы (андаракі) з саматканага палатна, блузкі, пашытыя з кужалю і аздобленыя мярэжкай, сукенкі. Ёсць сукенка, пашытая з кужалю і вышытая, якую ахвяравала музею Лідзія Ялоўчык. Тут ёсць хусткі-акрыванкі, тканыя з воўны, касынкі, плеценыя на раму, з суконных нітак, а таксама сукенка, якую насіла Ларыса Геніюш, і іншыя.

Калекцыя «Кавальства» налічвае 97 прадметаў. Сустракаюцца вельмі рэдкія экспанаты, якія можна ўбачыць не ў кожным музеі, напрыклад склют — 2 штукі, жалезнае пута з замком — 3 штукі, бязмен медны самаробны, самавар паходны ў выглядзе чайніка і інш.

Калекцыя «Календары» налічвае 61 прадмет. Вялікую каштоўнасць складаюць беларускія календары 1911, 1913,

1914, 1917, 1918 гадоў, а таксама адрыўны беларускі каляндар 1934 года.

Калекцыя «Кераміка» налічвае 89 прадметаў. Сярод іх творы мастакоў (чарніліца, «Гусляр і князь», прадметы, звязаныя з дзейнасцю мясцовых людзей: верцеха Мікалая Саўкі, глячок Веры Трацяк, вялізны збан Вольгі Белакоз, пісьмовы прыбор, керамічная люлька, дахоўкі, кафлі, гаршкі і іншы посуд.

Калекцыя «Кнігі з аўтографамі» налічвае 547 адзінак. Тут ёсць кнігі з аўтографамі такіх дзеячаў, якія пакінулі глыбокі след у беларускай навуцы, літаратуры, мастацтве. Гэта Уладзімір Караткевіч, Іван Мележ, Ларыса Геніюш, Мікола Улашчык, Рыгор Шырма, Юрый Семяняка, Радзім Гарэцкі і многія іншыя. Большасць аўтографаў прысвечана Гудзевіцкаму музею, вучням Гудзевіцкай школы, людзям нашага рэгіёна.

Калекцыя «Кнігі па медыцыне» налічвае 566 адзінак. У асноўным складаецца з кніг, ахвяраваных Гудзевіцкаму музею ўнукамі Янкі Пятровіча Геніюша, жонкай Мікалая Міхайлавіча Марцінчыка, вядомага палітычнага дзеяча 1920–1930-х гадоў, палымянага беларускага патрыёта, Валяр’яна Іванавіча Нічыпарука, лепшага хірурга Беларусі, акадэміка Юрыя Міхайлавіча Астроўскага, вучонага і палітычнага дзеяча 1940–1980-х гадоў. Сярод гэтага збору ёсць кнігі на розных мовах. Многія з іх выдадзены па-беларуску яшчэ ў 1920-х і 1930-х гадах.

Калекцыя «Кнігі, выдадзеныя да 1800 года» налічвае пакуль тры экзэмпляры. Мы спадзяемся папоўніць яе з фондаў грамадзян і святыняў!

Калекцыя «Кнігі, выдадзеныя з 1800 да 1917 года» налічвае 153 экзэмпляры. Сярод гэтых кніг першыя выданні Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, Цёткі…

Калекцыя «Кнігі, выдадзеныя з 1917 па 1933 год» складаецца з 311 экзэмпляраў. Сярод іх першыя выданні Браніслава Тарашкевіча, Алесі Смоліч, Максіма Багдановіча, Юліі Бібілы і іншых. Многія з гэтых кніг маюць вялікую бібліяграфічную і гаспадарчую каштоўнасць.

Калекцыя «Кнігі, выдадзеныя з 1553 года і пазней» складаецца з 394 экзэмпляраў. Тут каштоўныя першыя выданні вядомых

беларускіх і замежных гісторыкаў, пісьменнікаў, дзеячаў культуры. Напрыклад, першае выданне на беларускай мове «Песні пра зубра» Міколы Гусоўскага, кніга «Беларускія старажытнасці 1972 года» з артыкулам Міколы Ермаловіча «З гісторыі Навагрудка», першае выданне рамана Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» 1963 года, навуковыя працы Юрыя Астроўскага і іншыя.

Калекцыя «Лекавыя прэпараты народнай медыцыны» налічвае 77 адзінак. Гэта чага, жывіца, праполіс, муміё, чорны крэмень, сармацкае кадзіла і шэраг іншых экспанатаў, якімі цікавяцца многія экскурсанты, бо пра іх лекавыя ўласцівасці ведае ўжо амаль уся Беларусь. Многія з іх вярнулі людзям здароўе.

Калекцыя «Лісты ад дзеячаў навукі і культуры» мае вялікае пазнавальнае і гістарычнае значэнне і налічвае 460 адзінак. Сярод іх лісты археолагаў Міхаіла Чарняўскага, Ігара Чарняўскага, Алега Трусава. Міхася Ткачова, гісторыкаў і навукоўцаў Міколы Ермаловіча, Міколы Улашчыка, Генадзя Каханоўскага і іншых асоб.

Калекцыя «Лісты ад мастакоў» налічвае 77 адзінак. Гэта гісторыя напісання абразоў, скульптур. Тут лісты ад Аляксея Марачкіна, Міколы Купавы, Арлена Кашкурэвіча, Яўгена Куліка, Ліліі Трахалёвай, Уладзіміра Церабуна, Алеся Ліпеня, Нэлы Шчаснай, Пятра Сергіевіча і іншых асоб.

Калекцыя «Лісты ад пісьменнікаў» налічвае 492 адзінкі. Гэта лісты вучням Гудзевіцкай школы ад Васіля Быкава, Івана Мележа, Уладзіміра Караткевіча, Янкі Брыля, Канстанцыі Буйло, Максіма Танка, Станіслава Шушкевіча, Рыгора Барадуліна, Ларысы Геніюш, Зоські Верас і шмат іншых.

Калекцыя «Маркі» налічвае 186 адзінак. Тут сабраны маркі Заходняй Беларусі, а таксама пазнейшых часоў. Тут 18 марак, прысвечаных розным угодкам Беларускай Народнай Рэспублікі, маркі з выявамі розных раслін.

Калекцыя «Машынапісы» налічвае 120 адзінак. Сярод іх машынапісы твораў з заўвагамі і праўкамі аўтараў Уладзіміра Караткевіча, Аляксея Карпюка, Станіслава Шушкевіча, Пятра Бітэля, Канстанцыі Буйло і іншых.

Калекцыя «Мужчынскае адзенне» налічвае 39 адзінак. Гэта мужчынскія кашулі вышываныя, гарнітуры з чорнага плаценка, з сукна (ткалі воўну па воўне, а пасля збівалі), нагавіцы з саматканага палатна, бекеша (мужчынскае паліто), бурка, кашулі, нагавіцы і г. д.

Калекцыя «Ордэны і медалі» налічвае 46 адзінак. У склад яе ўваходзяць ваенныя ўзнагароды і медалі, а таксама адлітыя да юбілейных дат.

Калекцыя «Паштоўкі» налічвае 457 адзінак. У яе склад уваходзяць старыя паштоўкі (1903 года выдання і пазней) і паштоўкі савецкага перыяду з выявамі гарадоў і помнікаў гісторыі і культуры. Таксама ў калекцыю ўваходзяць наборы паштовак, якія належалі Ларысе Геніюш.

Калекцыя «Паясы» налічвае 47 адзінак, акрамя гэтага ў калекцыю ўваходзяць 39 адзінак закладак. Сярод іх паясы XVIII, XIX і пачатку XX стагоддзя, а таксама паясы пазнейшага часу. На некаторых з іх вытканы юбілейныя даты або назва вёскі. Напрыклад, «Гудзевіцкі музей», «Уладзіміру Дубоўку», «Яну Райнісу» і іншыя. Вялікую каштоўнасць мае альбом з закладкамі — узорамі розных пояскоў (39 адзінак).

Калекцыя «Перыядычныя выданні з аўтографамі аўтараў публікацый» налічвае 139 адзінак. Сярод экспанатаў гэтай калекцыі ёсць часопісы і газеты з аўтографамі Ларысы Геніюш, Сяргея Новіка-Пеюна, Лявона Луцкевіча, Ігара Чарняўскага, Юрыя Астроўскага і многіх іншых.

Калекцыя «Прылады земляробства» налічвае 38 адзінак. У яе склад уваходзяць цікавыя і каштоўныя экспанаты — драўляныя барана, плуг, саха, цапы, спранжыноўка і іншае.

Калекцыя «Прылады ткацтва» налічвае 101 адзінку. У яе склад уваходзяць розныя дэталі кроснаў (берда, нічальніцы і іншае), а таксама кросны розных памераў у поўным зборы. Акрамя гэтага ў калекцыі ёсць вітушкі, калаўроткі, снойніца.

Калекцыя «Прырода» налічвае 157 адзінак і складаецца ў асноўным з засушаных раслін, якія растуць у нашай мясцовасці. Таксама ёсць рогі аленя, лася і іншыя падобныя прадметы.

Калекцыя «Рэцэпты» налічвае 93 рэцэпты народнай медыцыны, значную колькасць якіх даслала Зоська Верас, астатнія сабраны ад жыхароў нашага рэгіёна. Калекцыя выклікае вялікую цікавасць у наведвальнікаў, бо людзі ўсё часцей сталі звяртацца да народнай медыцыны.

Калекцыя «Рукапісы» налічвае 247 адзінак. Складаецца з рукапісаў твораў беларускіх пісьменнікаў і паэтаў. Сярод іх рукапісы Зоські Верас, Ларысы Геніюш, Канстанцыі Буйло, Васіля Быкава, Сяргея Новіка-Пеюна, Дануты Бічэль-Загнетавай, Васіля Віткі, Сяргея Законнікава, Уладзіміра Скарынкіна і многіх іншых.

Калекцыя «Ручнікі» налічвае 77 адзінак. Сярод іх большасць вышываных або калярова-ўзорыстых ручнікоў, якія вызначаюцца багаццем ткацкай разнастайнасці. Ручнікі тканыя па-елкавату, з шырокай палоскай, з і вузкай палоскай, у 4, 5, 6 і 8 нічальніц. Сустракаюцца і просценькія вельмі даўнія ручнікі ў 2 нічальніцы.

Калекцыя «Рыбалоўныя прылады» налічвае 6 прадметаў: два чаўны, буча, жак, грузілы.

Калекцыя «Рэчы вядомых дзеячаў медыцыны» налічвае 14 адзінак. У асноўным гэта асабістыя рэчы Мікалая Міхайлавіча Марцінчыка, Янкі Пятровіча Геніюша, Юрыя Міхайлавіча Астроўскага, Валяр’яна Іванавіча Нічыпарука. Усе рэчы ахвяраваны блізкімі пасля смерці лекараў.

Калекцыя «Рэчы пісьменнікаў» налічвае 41 прадмет і складаецца з асабістых рэчаў вядомых пісьменнікаў: Ларысы Геніюш, Уладзіміра Караткевіча, Уладзіміра Арлова. Можна адзначыць аўтаручку У. Караткевіча, якой ён пісаў свой раман «Каласы пад сярпом тваім»; любімыя сувеніры Л. Геніюш і іншыя рэчы.

Калекцыя «Ткацтва» налічвае 87 адзінак. У іх ліку кавалкі тканіны з воўны, лёну і бавоўны. Амаль усе экспанаты гэтай калекцыі ахвяраваны жыхарамі Гудзевіцкага рэгіёна. Тут кужаль, плаценка, зрэбніна, мешкавіна, астанкі дываноў, посцілак, абрусаў, сеннікоў і іншае.

Калекцыя «Успаміны» налічвае 57 адзінак. Значную частку яе складаюць успаміны Зоські Верас пра Максіма Багданові-

ча, Гальяша Леўчыка, гарадзенскі гурток Беларускай моладзі, віленскія кірмашы, беларускі адрыўны каляндар, гісторыя выдання часопіса «Заранка» і іншае. Таксама ўваходзяць у калекцыю ўспаміны, напісаныя Мікалаем Марцінчыкам і Ігарам Бурсевічам.

Калекцыя «Фартухі» налічвае 19 адзінак, у тым ліку 5 з куфра. Гэта саматканыя фартухі, найчасцей з лёну або бавоўны ці лёну і бавоўны з цікавымі ўзорамі, палоскамі, а таксама фартухі вышываныя.

Калекцыя «Фотаздымкі з аўтографамі» налічвае 224 адзінкі. Гэта фотаздымкі вядомых паэтаў і пісьменнікаў, мастакоў, мовазнаўцаў, даследчыкаў і іншых дзеячаў навукі і культуры. Сярод іх можна назваць прозвішчы Васіля Быкава, Івана Мележа, Ларысы Геніюш, Ніла Гілевіча, Максіма Танка, Рыгора Шырмы, Юрыя Семянякі.

Калекцыя «Фотаздымкі да 1953 года» налічвае 185 адзінак. У калекцыі сустракаюцца такія каштоўныя экспанаты, як арыгінальны здымак Францішка Багушэвіча, фотаздымак Міхася Явара, зроблены ў пачатку 1920-х гадоў, здымак сям’і Тарашкевічаў, зроблены ў Радашковічах у 1925 годзе, і многае іншае.

Калекцыя «Фотаздымкі Гудзевіцкага рэгіёна» налічвае 78 адзінак. У гэтай калекцыі сабраны фотаздымкі, якія адлюстроўваюць гісторыю нашага рэгіёна. Гэта і фотаздымак першай хаты, пабудаванай у Гудзевічах пасля вайны, і здымак сялянскай хаты XVIII–XIX стагоддзяў у в. Семірэнкі, якая перавезена ў Гудзевічы (цяпер у ёй размешчаны этнаграфічны музей).

Калекцыя «Чарнавікі» налічвае 25 адзінак. Сюды ўваходзяць чарнавікі твораў мастацкай літаратуры і публіцыстыкі. Сярод аўтараў можна назваць Васіля Быкава, Дануту Бічэль, Уладзіміра Арлова, Валянціну Коўтун, Адама Мальдзіса, Аляксея Пяткевіча.

Калекцыя «Школьная дакументацыя» налічвае 551 адзінку. Сюды ўваходзяць класныя журналы розных гадоў, звесткі аб паспяховасці і руху вучняў, разліковыя ведамасці на выдачу зарплаты настаўнікам, пратаколы іспытаў, спісы вучняў па га-

дах і класах, звесткі аб ходзе ліквідацыі непісьменнасці і іншае. Многія дакументы датуюцца 1940–1945 гадамі.

Калекцыя «Школьныя прылады» налічвае 17 адзінак. Сюды ўваходзяць глобус з Віленскай беларускай гімназіі 1930-х гадоў, глобус з Гудзевіцкай НСШ, глобус з польскай шасцікласнай школы, чарніліцы-невылівайкі 1940–1950-х гадоў, торбачка для падручнікаў і іншых вучнёўскіх прыладаў, дзве грыфельныя дошкі, школьныя лаўкі 1950–1960-х гадоў, класная дошка 1950-х гадоў.

Калекцыя «Школьныя фотаздымкі» налічвае 318 адзінак. Сюды ўваходзяць здымкі, якія адлюстроўваюць гісторыю развіцця школы, здымкі вучняў і настаўнікаў школы розных гадоў, а таксама фотаздымкі з жыцця сучаснай школы. Каля 200 здымкаў перададзена музею «Гісторыя Гудзевіцкай школы».

Калекцыя «Экслібрысы» налічвае 18 адзінак. Тут экслібрысы Зоські Верас, Уладзіміра Караткевіча, Міколы Улашчыка, Васіля Віткі і іншых пісьменнікаў і дзеячаў беларускай навукі і культуры.

Калекцыя «Вышыўка» налічвае 13 адзінак. Сярод іх вышытыя сурвэткі, макаткі, пазухі, манжэты.

Калекцыя «Кнігі з асабістай бібліятэкі Л. Геніюш» налічвае 1082 адзінкі. У асноўным гэта кнігі беларускіх пісьменнікаў. Ахвяравалі іх унукі Ларысы Геніюш.

Калекцыя «Ходнікі» налічвае 11 прадметаў. Уяўляе сабой вялікую цікавасць і каштоўнасць, таму што мала дзе іх можна знайсці. Ходнікі ўжо даўно амаль што ніхто ез тчэ. Ахвяраваны ў асноўным жыхарамі нашага рэгіёна.

Калекцыя «Прыватная перапіска Ларысы Геніюш» налічвае 52 адзінкі. У яе ўваходзяць лісты, адрасаваныя Ларысе Геніюш.

*1993*

# СЯЛЯНСКАЯ ХАТА КАНЦА XVIII СТАГОДДЗЯ

Пачатак 1960-х гадоў. У маёй роднай вёсцы Ляткі калгас разбурае самую старажытную ў нас хату Казьмера Кібіка. Я пайшоў да старшыні калгаса Мікалая Пятровіча Бібілы і папрасіў:

— Не разбурайце вы гэтай старажытнай хаты: яна памятае прыгон.

— Як трэба будзе, то пабудуем яшчэ горшую, — задаволена паабяцаў старшыня.

— Не трэба горшай, няхай гэтая захаваецца, — прасіў я.

— То лепшую пабудуем, — цешыўся са сваёй дасціпнасці старшыня.

— І лепшай не трэба. Не разбурайце гэтай, — упрошваў далей.

— Гэтая хата псуе выгляд вёскі, — даказваў Мікалай Пятровіч.

— Яна ўпрыгожвае вёску, робіць яе адметнай, цікавай, — пераконваў старшыню.

Хату разбурылі.

Мушу прызнацца, што тады я яшчэ не ўяўляў сапраўднай вартасці гэтай старажытнай хаты, аднак неяк падсвядома шкадаваў, што разбураецца ў маёй роднай вёсцы самая старажытная хата.

Неяк убачыў у двары калгасніка Івана Ігнатавіча Клімуця хлеўчык, які чымсьці нагадваў тую самую старажытную хату Казьмера Кібіка. Іван Ігнатавіч паабяцаў за невялікую плату прадаць у музей гэты хлеўчык і нават паабяцаў мне дапамагаць у будаўніцтве гэтага аб’екта.

Распавёў я пра сваю задуму старшыні калгаса Міхасю Сцяпанавічу Проньку. А ён кажа:

— Семірэнкі стаяць далёка ад гасцінца, вёска ніколі не гарэла, там палавіна хат, якія маюць па сто і больш гадоў. Давайце пад’едзем туды ды выберам самую цікавую.

Каб такі цікавы экспанат захаваць без ніякіх змен, я папрасіў архітэктара Юрыя Рыгоравіча Тарасевіча паехаць з намі ў Семірэнкі. Юрый Рыгоравіч, шчыры беларускі патрыёт, адразу ж

прыехаў у Гудзевічы. Зайшлі мы да Міхаіла Сцяпанавіча, а ён прапанаваў сядаць у машыну і ехаць у Семірэнкі.

— Давайце заедзем на Клімуця: ён таксама зацікавіўся гэтай ідэяй.

Заехалі, але Івана Ігнатавіча не было ў хаце.

У Семірэнках абгледзелі ўсе хаты. Архітэктар выбраў самую старажытную —Анатоля Хомкі. Зрабіў фатаграфіі, чарцяжы і толькі пасля гэтага дазволіў хату перавозіць. Кіраваў перасыпаннем хаты вельмі добры майстар Уладзімір Георгіевіч Маляўка, які імкнуўся ўсё пакінуць такім, якім было ў Семірэнках. Таму хата атрымалася дакладна такой, як і раней. Некалькі дзён на перасыпанні гэтай хаты працаваў Віталь Валюшка. Ён адвёў мяне ўбок ды кажа:

— Чаго ты прыдурваешся? Каму патрэбна гэтая старая хата? Паглядзі, якія хаты будуць цяпер, а ты нейкую старызну ставіш.

— Віталь, у такой хаце нарадзіліся ты, я, нашы бацькі, дзяды. Праз 20 гадоў днём з агнём такой не знойдзеш. Гэта ж наша гісторыя, доказ разумнасці, дасціпнасці, працавітасці нашых бацькоў; тут усё прадумана, зручна, утульна, разумна. Праз 20 гадоў ты будзеш ганарыцца, што перасыпаў гэтую хату-музей.

Ды ці толькі Віталь папракаў мяне за гэта?!

Убівалі мы з вучнямі гліняны ток у хаце. Зайшла настаўніца Фаіна Паўлаўна Франкова, старанная і разумная жанчына.

— Што ж вы будуеце гэты кулацкі домік? — абурылася яна.

— Гэта звычайная сялянская хата, ды старажытная. Ёй цаны няма. Гэта гонар нашага музея.

— А вы б зрабілі будан ды сказалі б, што так жылі нашы дзяды, — працягвала папракаць Фаіна Паўлаўна.

— Што ж мы гэтым даказалі б? Вакол лясы, пушчы, а ваш дзед жыве ў будцы, як сабака? Значыць, дурань ды гультай, але ж ад дурня-бацькі народзіцца дурань-сын, а потым дурная ўнучка. Не крыўдна было б даказаць, што мы дурныя, каб сапраўды ваш дзед жыў у будцы? — дапытваўся я.

— Ну, што вы? У майго дзеда была прыгожая хата, яго нават хацелі раскулачыць, — прызналася настаўніца.

— Вось бачыце: ваш дзядуля быў працавіты ды разумны чалавек. Нашто ж яго выстаўляць дурнем?

— То не, я памылялася. Дзякуй, што будуеце хату.

Фаіна Паўлаўна была здольная: яна хутка зразумела, што яе ў школе і педвучылішчы вучылі злачынным адносінам да ўсяго роднага, што гэтую спадчыну трэба вывучаць, ганарыцца ёю. Праз некалькі гадоў Фаіна Паўлаўна сабрала 90 рублёў (гэта для настаўніка былі вялікія грошы) і купіла для нашага музея прыгожы перабірысты дыван, які і сёння ўпрыгожвае экспазіцыю ў першай зале народнага ткацтва і лёну. Кожны дзень, праводзячы экскурсіі, мы добрым словам успамінаем гэтую разумную жанчыну.

Архітэктар Юрый Рыгоравіч Тарасевіч 16 разоў прыязджаў у Гудзевічы за кошт сваіх выхадных без ніякіх камандзіровак, разам з маёй жонкай Верай Ігнатаўнай, са мной і вучнямі ўбіваў трамбоўкай гліняны ток, вымазваў глінай сцены, пераносіў з фондаў нашага літаратурна-краязнаўчага музея стол, зроблены прыгонным селянінам яшчэ ў 1853 годзе, лавы, куфар, світку, бурку, дзежку, паліцу, драўлянае вядро, медны кубак, апалушкі, начоўкі, лазовую калыску, газоўку, саламяны павук, цымбалы, лавы, сланы, слончык, ікону, рагач, чапялу, качаргу, кацубу, трыножак, гаршкі, саганы, мухалоўкі, грыфельную дошку, саматканую вучнёўскую торбачку (сумку), спарышы, крытыя кашы для захавання шынак, бочак, кілбас, паляндвіцы, сушаных сыроў, цэбар, таўкач, жорны, склют, карыта для салення сала, збанкі, верцехі, ступу, лятарню, дыван, ручнікі, сурвэткі, крэсіва і многае іншае. Паставілі запек, запалілі ў печы, каб у хаце пахла жытлом, і падрыхтаваліся да прыёму экскурсантаў.

6 студзеня 1981 года мы прынялі ў хатцы першую экскурсію. У гэты дзень мне трэба было на абласных педагагічных чытаннях выступаць з дакладам. Каб я не змог паехаць у вобласць, мне патэлефанавалі, што ў наш музей прыедзе секцыя выкладчыкаў беларускай мовы з усяго Мастоўскага раёна. Гэта быў халодны марозны дзень. Наш музей не ацяпляўся. Праўда, у хаце мы напалілі. Расказаў настаўнікам пра хату, павёў у халодны літара-

турна-краязнаўчы музей. Аднаму настаўніку-стукачу даручылі сарваць экскурсію. Ён увесь час ныў, што змёрз. Я прапанаваў:

— Цяпер пойдзем у кабінет беларускай мовы і літаратуры і там, у цяпле, распавяду вам пра наш музей, пра методыку ягонага стварэння.

Аднак у кабінеце беларускай мовы і літаратуры кіраўнік секцыі Клачко, жонка другога сакратара райкама КПБ, не дазволіла мне выступаць. Яна сказала:

— У нас не запланавана ваша выступленне.

— То чаго вы сёння сюды ехалі? Сарвалі маё выступленне ў вобласці і тут не даяце мне слова. Я хачу расказаць, як выкарыстоўваю матэрыялы музея на ўроках беларускай літаратуры. Калі вам гэта не патрэбна, то дазвольце мне ехаць у Гродна, хай хоць там паспею распавесці пра наш музей, калі тут, у Гудзевічах, гэтага рабіць нельга.

— Сядайце і слухайце, нікуды выязджаць вам сёння нельга.

Так тады падзякавала кіраўніцтва за стварэнне ў Гудзевічах музея.

Экскурсанты ехалі да нас з усіх кантынентаў. Усе захапляліся нашымі музеямі, толькі раённае начальства рабіла выгляд, што музея не заўважае. Тэрарызаваць мяне больш не маглі, бо ўсе прыезджыя высокія кіраўнікі ставілі наш музей у прыклад для іншых. Зачыніць наш музей было немагчыма, то школьнае начальства старалася пацiхеньку кусаць, аднак абласныя і рэспубліканскія інспектары мае ўрокі апісвалі ў газетах, а пра музей пісалі ўсе газеты і часопісы. Нават КДБ пакінула мяне ў спакоі.

*2002*

## ГІСТОРЫЯ ПАБУДОВЫ ГУДЗЕВІЦКАГА ВЕТРАКА

*Запісы, пачатак 28 ліпеня 1984 года*

Яшчэ ў дзяцінстве чуў, што ў маёй роднай вёсцы Ляткі былі аж два ветракі (гэта апісана ў «Праменьчыку» № 10) да 1915 года. Іх спалілі казакі пры адступленні (навакольныя вёскі таксама былі спалены). У той час былі ветракі за Кулёўшчынай, за Цінявічамі, каля Стругі, каля Вострава, каля Ганасаўцаў і іншых вёсак.

У 1944–1947 гадах мне давялося вучыцца ў рускай СШ № 1 г. Ваўкавыска. Гэта была адзіная на ўвесь раён школа, якая мела 8 класаў у 1944 годзе.

Кожны тыдзень даводзілася пехатой хадзіць дахаты па хлеб, крупы, сала і іншы харч.

Дзясяткі разоў любаваўся ветраком каля вёскі Мількаўцы, які быў пабудаваны селянінам Бубнам у канцы 1920-х гадоў, захапляў узгорак з прыгажуном-ветраком.

Пазней, калі ў 1960-х гадах змагаўся, каб у нашай вёсцы Ляткі не разбіралі характэрных хат, якія так рэдка ўцалелі пасля Першай сусветнай вайны, калі пачаў марыць пра стварэнне музея, які паказаў бы талент нашых прадзедаў, іх ашчаднасць, розум, працавітасць, і ў гэты час марыў пра ветрачок, але гэта тады было далей за Марс ці Венеру. У той час нават за стварэнне сціплага аднапакаёвага музейчыка беларускай літаратуры ў Гудзевічах распіналі мяне сотні разоў.

Час ішоў. Пра наш музей пісалі ў Мастах, Гродне, Мінску, Маскве, Беластоку і іншых гарадах і краінах.

Толькі ў 1980 годзе ўдалося крыху вызваліць пакойчык літаратурна-краязнаўчага музея, стварыўшы з вучнямі этнаграфічны музей, хату XVIII стагоддзя, пры дапамозе старшыні калгаса Міхася Сцяпанавіча Пронькі.

19 траўня 1984 года нам нарэшце пашчасціла справіць уваходзіны Гудзевіцкага літаратурна-краязнаўчага музея ў пяціпакаёвы будынак. Нам цяпер не хапае васьмі пакояў: для фондаў — два, для турыстаў — хоць адзін, для музея лёну — адзін, для музея лекавых зёлак — адзін вялікі, для музея гісторыі

Гудзевічаў — два пакоі, для гісторыі школы — адзін, для музея карысных выкапняў Беларусі — адзін.

Нам трэба каля хаткі пабудаваць свіронак, хлеў, гуменца, калодзеж з бабаю, сцяблом, коварам, і акаваным драўляным вядром. Нам многа трэба, але…

Калі мы афармлялі стэнд (шкляная шафа) «Гудзевіцкі строй» (адзенне), то Пётр Мікалаевіч Іваноўскі заўважыў, што ў шчыце шафы-хаткі неяк пуста. Вырашылі там змясціць герб Гродзенскай вобласці, але Міхась Сцяпанавіч Пронька сказаў, што калі строй Гудзевіцкі, то і герб трэба рабіць свой. Тады я прапанаваў яму такі праект: на верхняй блакітнай частцы герба — вятрак, як увасабленне старажытнасці і прамысловасці ў Гудзевічах, якім афіцыйна ўжо 445 гадоў, а на самай справе больш за 1000 гадоў. Тут ужо ў XVII стагоддзі, а можа і раней, быў на Бурчаку вялікі вадзяны млын (мураваны з камення), велізарнае возера, а ў 1928 годзе пабудаваны дызельны млын на 40 к. с., які малоў, вальцаваў, шатраваў, рабіў крупы і куццю. Ён стаіць і працуе нават сёння, толькі на электраматоры. У Гудзевічах у XIX стагоддзі быў вялікі бровар (спіртзавод), піўны завод, а ў пачатку XX стагоддзя — крухмальня (крухмальны завод).

Герб узяўся рабіць мастак, але захацеў 350 рублёў. Мы адмовіліся ад яго паслуг, а герб зрабіла Каця Сівук (дачка Кастуся) за невялікую плату (10 рублёў).

Пётр Мікалаевіч Іваноўскі яшчэ ў снежні 1984 года паабяцаў бясплатна зрабіць для Гудзевічаў вятрак за тое, што наш музей ушанаваў яго бацьку, актыўнага грамадаўца, пасля сакратара Луненскага падпольнага РК КПЗБ, які ў 1939 годзе працаваў старшынёй першага Гудзевіцкага сялянскага камітэта, а потым стаў брыгадзірам калгаса ў вёсках Кулёўшчына і Гудзевічы (хат 25). На жаль, у лютым 1984 года Пётр Мікалаевіч Іваноўскі трагічна загінуў. Ён бясплатна аформіў усю сталярку залы народнага мастацтва Гудзевіцкага літаратурна-краязнаўчага музея, дапамагаў у стварэнні карчоў-крэслаў, зрабіў дзве лавы з фігурнымі спінкамі.

Паведамляючы старшыні калгаса пра смерць Пятра Іваноўскага, я сказаў, што гэты патрыёт абяцаў бясплатна зрабіць вятрак для Гудзевічаў, хоць я яму і абяцаў за гэта плату, але ён сказаў:

— Ваша просьба для мяне вельмі дарагая і я яе выканаю бясплатна.

Каля 19 мая 1984 года мы спраўлялі ўваходзіны ў новы будынак Гудзевіцкага літаратурна-краязнаўчага музея. Васіль Вітка, выступаючы, сказаў: «Добра, што герб Гудзевіч вісіць тут у клубе, што тут у верхняй яго частцы ёсць ветрачок, але як добра было б, каб гэты ветрачок сапраўды закруціў крыламі ў Гудзевічах».

16 чэрвеня я, просячы дазволу за калгасны кошт паставіць помнік на магіле Пятра Іваноўскага, напомніў пра тое, што ён зрабіў для музея і што абяцаў зрабіць вятрак. Старшыня калгаса сказаў:

— Мог бы зрабіць вятрак і Маляўка Валодзя, але ён залішне хітры.

Мяне ўзрадавала, што старшыня даў згоду на будову ветрака.

2 ліпеня 1984 года я трэці раз трапіў у бальніцу. Там пачаў думаць, каго можна запрасіць на гэтую адказную справу. Аднойчы ноччу (бяссонніца) успомніў, што Янка Міхайлавіч Ялоўчык (глухі і амаль нямы) калісьці рабіў сам ветрачок, а потым зрабіў электрычныя жорны. Вятрак раскідаў Жорж Клімуць.

Пайшоў да медыцынскай сястры Ганны Мікалаеўны Сліжэўскай (дзявочае прозвішча Шульга) з Вострава прасіць, каб расказала, які стан здароўя Янкі Ялоўчыка. Ён цяжка працуе, выкідае гной, косіць, капае і інш.

26 ліпеня я адпрасіўся ў загадчыка ўралагічнага аддзялення Васіля Міхайлавіча Ламакі, каб пусціў мяне дахаты, каб уладзіць і пачаць справу ветрака ў Гудзевічах.

26 ліпеня я не здолеў убачыць старшыні калгаса, але 27 ліпеня 1984 года ў 8 гадзін 35 хвілін папаў да яго ў кабінет і расказаў, што вятрак мог бы зрабіць Янка Ялоўчык. Міхась Сцяпанавіч даў згоду і параіў, каб са мною ў Вострава паехаў сакратар партарганізацыі калгаса Мікалай Іванавіч Бяйдук.

28 ліпеня 1984 года ў 8 гадзін 20 хвілін мы сустрэліся з Мікалаем Іванавічам і, хоць Міхась Пронька яму яшчэ не сказаў нічога пра вятрак, але ён згадзіўся ў 11 гадзін з’ездзіць са мной у Вострава.

Мы паехалі ў Вострава. Цікава, што жыхар вёскі Вострава Іван Ігнатавіч сказаў Клімуць:

— Няма ў Гостраве чалавека, які мог бы пабудаваць вятрак, хіба што Даніла Пацэнка, але ён мае каля 90 гадоў і ўжо нават хадзіць не можа.

Да Ялоўчыка паехалі Мікалай Іванавіч Бяйдук і я. Дома яго не было, знайшлі на лузе, дзе ён касіў сена на зіму.

Дзядзька Янка адразу згадзіўся будаваць вятрак. Я сказаў, што можа жонка яго не пусціць. Тады ён горача запярэчыў:

— Жонка пусціць, а калі і не будзе пускаць, то вятрак я пабудую, толькі дайце мне ў памочнікі Івана Ахрэмчыка або Янку Багдана ці Вінцука Багдана.

3 жніўня лекар Мікалай Аляксеевіч Бацюшка сказаў, што мне трэба палячыцца хоць некалькі тыдняў. Але ж вятрак? Падрыхтоўка да новага навучальнага года?

У той жа дзень выпісаўся са шпіталя. Адразу пайшоў у праўленне калгаса. Мікалай Іванавіч Бяйдук сказаў, што паехаць не можам, бо ён шафёра адпусціў на вяселле. Дамовіліся, што паедзем у сераду 8 жніўня 1984 года.

Прыйшоў Ялоўчык. Я з ім паабедаў. Дзядзька Ясь (Янка) выпіў кілішак і сказаў, што ён можа выпіць бутэльку гарэлкі і не ап’янее. Я наліў яму яшчэ кілішак, аднак заўважыў, што пасля другога кілішка моцна захмялеў, папрасіў наліць яшчэ. А чацвёртага кілішка я яму не даў (баяўся, каб не зваліўся ў дарозе дахаты). Пагутарылі, паказаў яму свае праекты розных ветракоў. Завёў і паказаў літаратурна-краязнаўчы і этнаграфічны музей. Праняньчыўся амаль да абеду. Працаваць з ім будзе цяжка. Не чуе і гаварыць амаль не можа.

Лячыцца не было часу. Стала гнісці нага. Цяпер дайшло амаль да косці. Тры разы быў у хірургаў, якія казалі: «Кладзіцеся ў шпіталь».

Учора быў у слаўнага хірурга Нічыпарука. Прыпісаў парыць у растворы пітной соды, мазаць і не хадзіць.

8 жніўня 1984 года зайшоў у кантору. Старшыня калгаса М. С. Пронька сказаў:

— Глядзіце ж, не плануйце вялікага ветрака.

— Вядома, не будзем будаваць 17 метраў млына, — апраўдваўся я.

— І сяміметровага будаваць не будзеце, — запярэчыў Міхась Сцяпанавіч.

— То цацку ж таксама не пабудуем: каму яна патрэбна?

— Колькі метраў вышыні школы? — размова была на ганку праўлення. — Метраў шэсць, не больш. Вось такі будуйце, метраў шэсць.

Была субота. 2 жніўня Бірукова і Абрамовіч (сакратары абкама і райкама КПСС) сказалі, што мы паказалі нават такіх паэтаў, якія напісалі два ці тры вершы, а вось тых, хто змагаўся за савецкую ўладу, не паказалі.

— Пакажам, — абурыўся я, — ёсць жа яшчэ адзін будынак, там і пакажам.

— Не, — сказаў Міхась Сцяпанавіч, — трэба адзін пакой з гэтых, што ёсць, зрабіць музеем баявой і працоўнай славы.

— То які на працоўную славу, які на баявую? — пытаюся.

— Нам бы выблытацца з гэтага ветрака, — сказаў Пронька.

— Трэба з'ездзіць да Ялоўчыка і сказаць яму зноў.

— То пагаварыце з ім.

Дамовіліся з Мікалаем Іванавічам, што ў пятніцу 10 жніўня 1984 года ў 6 гадзін раніцы выедзем у вёску Уласы каля Крошына, паглядзець, які там вятрак, пашукаць камянёў ветрака. Дарэчы, што ёсць вятрак ва Уласах каля Крошына, сказаў мне Пяткевіч Аляксей Міхайлавіч. Ні абласная турбаза, ні таварыства аховы помнікаў культуры і гісторыі, ні мастакі, ні архітэктары не дапамаглі ў гэтым.

10 жніўня 1984 года з шафёрам Мікалая Іванавіча Бяйдука і Янкам Міхайлавічам Ялоўчыкам мы выехалі на пошукі ветрака. Па дарозе ў Зэльве выпрасілі самаробнае крэсла, на якім у

сваёй кватэры сядзела Ларыса Антонаўна Геніюш, і самаробны слончык, на якім яна любіла сядзець каля печы і, гледзячы на агонь, успаміналa родныя Гудзевічы, дзеда, Гудзевіцкую школу, складала вершы.

Вельмі горача, баліць кішэчнік, нага таксама. Настрой падняўся, калі пад'ехалі да вёскі Уласы. Вятрак ёсць…

Але які гэта вятрак: крылы (шмыгі) зусім адламаны, барабан выкінуты, — усё, што можна адламаць, знішчана, абшыўка абарвана, усюды нагажана, усё гніе.

Палічыў, колькі трэба драўніны, каб пабудаваць такі ж вятрак-слупоўку.

Гаспадар млына ва Уласах Фалейчык Піліп Сцяпанавіч.

Другі млын (слупоўка) у вёсцы Мяляхавічы браты Павел і Іван Кійко купілі ў 1934 годзе ў Юшкавічах. Шырыня 5,5 м, а зверху — 5 м, вышыня прыблізна 11 м. Млын разбураны ў 1983 годзе.

Трэці млын калгаса «Перамога» а. с. Крошын Баранавіцкага раёна ў вёсцы Залюбічы. Гаспадар Рэшка Кастусь Вінцэнтавіч. Гэты млын яго жонка (гаспадара ў той дзень 10 жніўня 1984 года забрала баранавіцкая «хуткая дапамога») паабяцала прадаць нам у Гудзевічы. Вышыня каля 10 м, шырыня — 5 м.

11 жніўня быў у Міхася Сцяпанавіча Пронькі (старшыня калгаса «Гудзевічы» імя Карбышава). Паабяцаў, што як скончыцца жніво, то паедзем у Залюбічы да Рэшкі Кастуся і да старшыні калгаса «Перамога» і дамовімся пра куплю млына. Я прапанаваў узяць з сабой Навіцкага Алёшу ці Маляўку, паабяцаць яму, каб рабіў млын як сабе, а за гэта даць яму права бясплатна малоць людзям. Старшыня калгаса згадзіўся з гэтым, але казаць пра гэта Навіцкаму Аляксею забараніў.

Чакаю, калі скончыцца жніво.

27 жніўня зайшоў да Пронькі.

— Ці можна да вас звярнуцца?

— Калі наконт ветрака, то не.

— Чаму?

— Будаваць не будзем.

— Чаму?

— Чаму гэта мы павінны думаць пра ветракі. Няхай пра гэта думае Таварыства аховы помнікаў.

— Вы ж бачыце, як яны думаюць: на Гродзеншчыне не засталося ніводнага ветрака.

— Наша задача даваць збожжа, малако, мяса.

— Я гэта разумею. Але ніхто не ўспомніць ніколі, ці вы ў гэтым годзе дасце 28 цэнтнераў збожжа з гектара, ці 30, а вось калі пабудуем вятрак, то гэта будзе памяць на стагоддзі.

— Гадоў 50. Больш не прастаіць.

— Праз 50 гадоў людзі паразумнеюць і не дадуць упасці Гудзевіцкаму ветраку.

— Ну, тады паглядзім, як скончым выбіраць бульбу, церабіць буракі.

— Тады замерзне зямля, як укапаем цэнтральны слуп? Яго ў мёрзлай зямлі добра не ўмацуеш.

Трэба цяпер перавозіць вятрак, рыхтаваць бярвенне. Тоўстыя борці ёсць у «Мастоўдрэве». Мне Дзіма казаў, што можна дастаць. Можа, патэлефаную ці з’езджу да Вашка.

— Не трэба, я сам пагутару з дырэктарам «Мастоўдрэў».

21 верасня зайшоў да Пронькі:

— Ці маеце крыху часу?

— Калі пра вятрак, то не маю.

— Не, не пра вятрак. Я ўчора з Індуры прывёз зборнікі беларускіх народных песняў 1904, 1907 гадоў і «Сон на кургане» Янкі Купалы. Ёсць падшыўка «Нашай Нівы», але трэба ехаць за кіламетраў сем ад Індуры ўбок. Ці можна на машыне, што ідзе ў Гродна, пад’ехаць па падшыўку?

— Не, нельга.

Гэта было сказана пры сакратары партарганізацыі і пры аграномы. Апошнія пырснулі смехам. Давялося вымятацца з кабінета старшыні калгаса імя Карбышава.

1 кастрычніка быў у Гродне. Да Міхася Ткачова не дазваніўся. А шкада: ён мог бы паўплываць на Міхася Сцяпанавіча. Папрасіў А. Пяткевіча, каб угаварыў Ткачова прыехаць у Гудзевічы ў бліжэйшыя дні.

5 кастрычніка быў у М. С. Пронькі. Наадрэз адмовіўся будаваць ці перавозіць знойдзены мною ў Залюбічах каля Крошына вятрак. Пашыраць Гудзевіцкі музей не хоча, але паабяцаў, што прышлле жанчын пабяліць стары школьны будынак, калі мне ўдасца ад школы адваяваць. Рамонт будынка рабіць адмовіўся.

11 кастрычніка гутарыў з Пронькам. Будынак згодзен пабяліць, а будынак з сямі пакояў належыць школе. Тут хачу зрабіць пакой лёну, пакой зёлак, пакой гісторыі Гудзевічаў, пакой фондаў, пакой працы з вучнямі, пакой адпачынку экскурсантаў, другі пакой фондаў. У школе 7 пакояў. Каб удалося адваяваць.

— Рашэнне ёсць, але сельскі Савет і раённы аддзел адукацыі не спяшаюцца перадаваць.

— А як з ветраком? — пытаюся.

— Размовы быць не можа.

Быў С. Дубавец. Абяцаў пагутарыць. Не атрымалася.

3 лістапада 1984 года.

— Міхась Сцяпанавіч, а што калі з’ездзіць да старшыні райвыканкама Вашка?

— Яшчэ чаго?!!! Я ведаю, што ён скажа. Ён скажа, каб я будаваў вятрак. Не трэба ездзіць.

2 лістапада быў у Вашка. Папрасіў рэстаўрыраваць хату Міхася Явара.

— Напішыце заяву. Пастараюся дапамагчы.

— Уладзімір Іванавіч, — кажу, — калгас Дубна мае многа грошай. А што, каб старшыня з Дубна наняў групу шабашнікаў і перавёз гэты вятрак, што ў Залюбічах. Прападзе ветрачок.

Уладзімір Іванавіч набірае нумар тэлефона Пронькі.

— Куды тэлефануеце? — пытаюся.

— Да Пронькі.

— Не трэба. Ён мяне з’есць. Ён не хоча будаваць вятрак.

— Я пагутару з ім, — кажа Вашко.

2 лістапада быў у Пронькі (адразу з аўтобуса). Расказаў пра нашу размову з Вашком. Пронька нічога канкрэтнага не сказаў.

15 лістапада была ў музеі экскурсія з Масквы і Мінска (высокае начальства). Пронька, знаёмячы мяне з імі, сказаў, што,

улічваючы энтузіязм і вынікі мае працы, даў слова Вашку пабудаваць вятрак.

— Гэта праўда? — запытаўся я.

— Так. Будзем будаваць.

17 лістапада быў у Пронькі.

— Антолька Слемп прапануе прадаць музею адрэз саматканага сукна на касцюм за 70 рублёў. Ці купляць?

— Не, не трэба, — сказаў Пронька.

— Ці будзем будаваць вятрак?

— Будзем.

— Чаму вы так перамянілі свой погляд на будаўніцтва ветрака?

— Вашко сказаў: «Ну, што вы не знойдзеце пару тысяч для шабашнікаў, каб зрабіць вятрак?»

— То калі паедзем?

— Не ведаю.

— Трэба ехаць, бо там могуць разваліць на дровы вятрак. Тры ўжо развалілі, адзін нядаўна.

— Не разваляць.

22 лістапада 1984 года.

— Чаму ж не едзем па вятрак?

— Добра, што думаеце будаваць вятрак.

— Чаму? — пытае старшыня.

— Тут на мяне ўжо крыўдзяцца пісьменнікі.

— То хай на мяне крыўдзяцца: гэта я не даю грошай, і машыны, і людзей.

— Відаць, і я крыху мала варушуся, — сціпла вінавачуся.

— Не, вы, бачу, зашмат варушыцеся.

— Тады да чацвярга.

— Да чацвярга.

У 7 гадзін 15 хвілін 16 студзеня 1985 года быў у праўленні калгаса. Пронька паехаў у Мінск.

У 7 гадзін 25 хвілін 17 студзеня 1985 года быў у Пронькі (перад нарадай). Сказаў, што машыну шукаць вятрак у Канюхах дасць Мікалай Іванавіч Бяйдук, сакратар партарганізацыі калгаса. Бяйдук машыны не даў.

22 студзеня 1985 года быў у Пронькі. Паабяцаў у сераду даць машыну для паездкі ў Канюхі.

23 студзеня 1985 года тэлефаную рана да Пронькі. Сказаў, каб зайшоў у 10.40. Зайшоў у 10.40.

— Я яшчэ не снедаў, пачакайце.

Я пачакаў. У 11.30 машына была каля школы. Кола «Волгі» спусціла паветра. М. Сцяпанавіч паабяцаў машыну ў чацвер.

24 студзеня 1985 года зайшоў у праўленне калгаса. У 10.05 пад'ехаў Лісоўскі. З'ездзілі ў Канюхі. Кажу шафёру:

— Там ветрака абавязкова не будзе.

Заехалі. Мясцовыя жыхары паказалі месца, дзе стаялі два ветракі. Яны знішчаны яшчэ ў 1963 годзе, а можа і раней.

Расказаў Проньку.

— Што ж, будаваць не будзем.

— А чаму не хочаце перавезці з Залюбіч?

— Далёка.

— А калі я дастану машыны?

— Не дастанеце.

— А як дастану?

— Ветрака перавозіць не будзем.

27 лютага 1985 года тэлефаную старшыні райвыканкама Уладзіміру Іванавічу Вашку.

— Міхась Сцяпанавіч ветрака будаваць не хоча. Вельмі добра было б, каб да гэтай справы нам далучыць начальніка перасоўнай механізаванай калоны. Гэта будаўнічая арганізацыя. Яны змаглі б дапамагчы.

— А якія адносіны ПМК мае да ветракоў? — пытае Вашко.

— Самыя непасрэдныя: дзед Мікалая Мікалаевіча Ралінскага — Мікалай Хведаравіч Іваноўскі, якога мы вельмі ўшанавалі ў Гудзевіцкім музеі. Тут бюст Іваноўскага, здымкі, успаміны, яго паплечнікі.

— Няма часу, — адказаў Пронька.

Яшчэ разоў два звяртаўся да старшыні, але ўбачыў, што ветрака будаваць не будзем.

4 снежня 1984 года быў у Вашка.

— Чаму ж не будуюць ветрака?

— Я пагавару з Пронькам.

Зняў трубку.

— Куды вы тэлефануеце? — пытаюся я.

— Да Пронькі.

— Не трэба. Ён не любіць, каб я звяртаўся да Вас. Лепш пагаварыце, калі будзеце ехаць у Мінск, а найлепш заедзьце разам і рашыце гэта пытанне.

6 студзеня 1985 года заехаў да Вашка.

— Дапамажыце пабудаваць вятрак.

— Зараз пагутару па селектару.

— Не рабіце гэтага. Ён будзе ў Мастах, тады і пагаварыце.

10 студзеня 1985 года зайшоў да Пронькі. Даведаўся, што ў адным будынку будзе гасцініца, а ў другім (старая школа) зробяць філіял пальчаткавай фабрыкі.

— А за кошт чаго расшыраць музей?

— Дамо вам адно крыло другога будынка.

— Мне трэба хоць чатыры пакоі.

— Нашто?

— Адзін — на фонды, другі — для экскурсантаў, трэці — для гісторыі Гудзевічаў, чацвёрты — таксама.

— Пакой для экскурсантаў зробім у гасцініцы.

— А як з фондамі? Можа, пабудуем хлеў і там абсталюем пакой для фондаў?

— Не. Хлява будаваць не будзем. Дамо вам тры пакоі.

— Дзякую. Тады трэба пачынаць.

— Калі ласка.

— Да пабачэння.

— Пачакайце хвіліну. Вашко не дае спакою. Патрабуе, каб будаваць вятрак.

— То давайце будаваць. Кажуць, што ў Канюхах ёсць. Тут бліжэй было б перавозіць. Як будзеце ехаць у Гродна, то паглядзіце.

— Лепш з’ездзіце вы, як будзе час.

— Час я сёння маю.

— Машыны сёння няма.

— То ў другі чацвер у мяне будзе выхадны. Тады і з’езджу, прыйду на нарад і дамовімся.

— Прыходзьце.

— Агата Тарасевіч з Пілкоў (сялянская пісьменніца) — бабуля Мікалая Мікалаевіча. Матэрыялы пра яе ён разглядае са слязамі на вачах. Ён дапаможа, — адказаў я.

— У такім выпадку варта падключыць яго да будаўніцтва ветрака. Вы патэлефануйце мне 16 сакавіка. Я вазьму Ралінскага і прыедзем у Гудзевічы. Там вырашым пытанне разам з Пронькам.

Прыйшоўшы дахаты, пытаюся ў Веры Ігнатаўны:

— Як ты думаеш, ці пабудуем вятрак?

— Абавязкова, — кажа яна.

— Чаму ты такая ўпэўнена?

— Ты ж не дасі спакою ні людзям, ні сабе, пакуль не даб’ешся свайго. Ужо дзевяць месяцаў не спіш. Я ведаю, пра што ты думаеш.

— А я думаю, што не пабудуем.

— Чаму? — пытае Вера.

— Пронька баіцца браць на сябе такую адказнасць. Яго ўжо папракаюць за музей, а што далей? Калі пачыналі афармляць свае планы пра этнаграфічны і літаратурны музей, я казаў Міхасю Сцяпанавічу: «Можа, не варта Вам дапамагаць музею: баюся, што мая апала можа перайсці на вас». А ён адказаў мне: «Нічога, справа гэта добрая. Не павінны папракаць». Але апошні час, напэўна, ён пераканаўся ў адваротным.

— Асцерагацца ён можа, але ж ты яму не дасі спакою, пакуль не пабудуеце вятрак, — запярэчыла Вера.

28 лютага 1985 года Міхась Сцяпанавіч выклікаў мяне ў кабінет і кажа:

— Сёння нам будуць уручаць пераходны сцяг Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР і ЦК КПБ, прыедзе старшыня Гродзенскага аблвыканкама Арцыменя, інструктар ЦК КПБ. Вы пастарайцеся ў час экскурсіі па музеі звярнуць увагу на герб Гудзевічаў, на вятрак і каласкі. Скажыце, што хочам пабудаваць ветрачок. Цікава, што ён скажа.

У час экскурсіі кажу:

— Наша мясцовасць здаўна славілася ветракамі. Там, дзе цяпер стаіць наша свінаферма, на якой вы толькі што былі, стаялі аж два ветракі побач, за Кулёўшчынай таксама быў вятрак, былі ветракі каля Стругі, каля Цінявіч і іншых вёсак. Герб Гудзевіч ў верхняй сваёй частцы на блакітным фоне мае сілуэт ветрака. Гэта ўвасабленне пачатку механізацыі ў нашай мясцовасці. А знізу каласкі і кветачкі лёну. Гэта сімвал выніку працы насельніцтва навакольных вёсак. Збожжа — хлеб, а лён — вопратка. Марым пра тое, каб пабудаваць у Гудзевічах ветрачок.

— У чым жа справа? Што ты, Міша, не можаш пабудаваць ветрачок?

— Пабудуем, абавязкова пабудуем, — радасна сказаў Пронька, — ужо знайшлі ў Крошыне вятрак, які маем перавезці ў Гудзевічы.

— А вы, Уладзімір Іванавіч, — звярнуўся Арцыменя да Вашка, — чаму не памагаеце?

— Я ўжо займаюся гэтым пытаннем. Мы абавязкова паможам, — адказаў Уладзімір Іванавіч.

Арцыменя аглядам музея быў вельмі задаволены. Тры разы дзякаваў за экспазіцыі і экспанаты. Вашко, адходзячы, затрымаўся і сказаў:

— Хутка прыедзем з архітэктарам, пытанне вырашым тут, на месцы.

Ура!!! Ёсць надзея, што вятрак будзе.

1 сакавіка 1985 года. Нічога не ўдалося.

6 сакавіка 1985 года.

— Можа, варта вам, Міхась Сцяпанавіч, патэлефанаваць да Казляка ў Крошын, каб у Залюбічах не раскідалі вятрак?

— Я не ведаю нумара тэлефона, — адказаў Пронька, — можа, запытаюся ў даведачнай.

— Думаю, што ўдасца дабіцца дапамогі ў райвыканкаме. Вашко абяцаў пасля 16 сакавіка прыехаць у Гудзевічы, каб дамовіцца з вамі пра будаўніцтва ветрака. Ён абяцаў прывезці Ралінскага, начальніка ПМК, які гарантуе мне любую дапамогу

для музея. У «Мастоўдрэве» працуе інжынер Грабавіцкі, мой былы вучань, які абяцаў мне дапамагчы лесам, а можа, і іншымі матэрыяламі для ветрака. Думаю, што нам удасца прыцягнуць на дапамогу і іншыя арганізацыі.

— «Мастоўдрэў» не зможа нам дапамагчы, — сказаў Пронька, — яны самі галадаюць матэрыяламі. Праўда, мне дырэктар, з якім мы ў вельмі добрых адносінах, дапамагчы мог бы, але аднойчы ён мне сказаў так: «Я ніякіх матэрыялаў выпісаць не магу. Украдзіце». Трэба спяшацца, — сказаў і перайшоў да другога пытання.

18 сакавіка 1985 года патэлефанаваў да Уладзіміра Іванавіча Вашка.

— Дапамажыце пабудаваць вятрак.

— Заўтра ў 14.30 прыеду ў Гудзевічы.

19 сакавіка 1985 года. Вашка не было.

20 сакавіка 1985 года. Прыехала правяраць маю працу ст. метадыст Міністэрства асветы БССР Валянціна Адамаўна Юбко. Тэлефаную да Вашка:

— На нарадзе, — адказаў сакратар.

21 сакавіка 1985 года. Зноў тэлефаную да Вашка.

— Не прыеду. Пагаварыце самі з Пронькам, — адказаў ён.

— Нічога гэта не дасць, — адказаў я.

— Тады прыеду пасля нядзелі, 25 сакавіка.

25 сакавіка 1985 года. Тэлефаную да Пронькі:

— Добры дзень, Міхась Сцяпанавіч!

— Чаго хочаце?

— Ці маеце хвілін пяць, каб пагутарыць?

— Не маю, — крычыць у тэлефон.

Настаўнікі смяюцца.

— Чаму? — пытаюся я зноў.

— Я ў адпачынку!!!

Цікава. На працу прыехаў, а пагутарыць не хоча. Ды яшчэ пагрозліва крычыць. Я дваццаць гадоў не быў у водпуску, аднак жыву. А гэта пяць хвілін не можа пагутарыць. Паўтара года вяду перамовы пра вятрак. Хоць бы адказаў тое ці іншае. А то

водзіць за нос і нічога не робіць. За апошнія паўтара года ніякай дапамогі. А крычыць, як на парабка. Трэба канчаць з гэтым.

Кожны месяц на музей трэба аддаць асабістых рублёў 50, а ён нічога не дапамагае.

Ёсць магчымасць купіць два саламяныя капелюшы па сем рублёў за штуку. Напэўна, не дасць. Зноў прыйдзецца жабраваць у Веры. 9 красавіка 1985 года.

8 красавіка Вашко нарэшце паабяцаў прыехаць. Па тэлефоне мне загадаў папярэдзіць Іосіфа Антонавіча Гедрэвіча, старшыню сельскага Савета, які з'яўляецца нейкім сваяком Вашка.

У 18 гадзін быў каля канторы.

Пронька чакаў начальства.

Пытаюся:

— Ведаеце, што прыедзе Вашко?

— Не, — адказвае, — а вы скуль ведаеце?

— Казаў па тэлефоне.

— А што, ён вам званіў?

— Не, я яму тэлефанаваў.

— Чаго?

— Прасіў, каб дапамог пабудаваць вятрак.

— Ветрака я будаваць не буду. Мне трэба думаць пра амбулаторыю, канчаць будынак упраўлення і многае іншае.

— А калі памогуць?

— Ніхто не паможа.

Прыехаў Ралінскі, начальнік ПМК, які ніякай дапамогі не паабяцаў, толькі паабяцаў калгасу даць блокаў і цэменту.

Прыехаў Вашко, старшыня райвыканкама.

Пронька наадрэз адмовіўся будаваць вятрак.

Вашко сказаў, што калгасу дадуць легкавую машыну, цэменту, 50 кубоў лесу, кран для будаўніцтва ветрака.

Пронька неахвотна пачаў згаджацца.

Пронька паабяцаў, што ў чацвер («У вас у гэты дзень няма ўрокаў», — сказаў ён) дасць сваю «Волгу». І інжынер па будаўніцтву Казёл, брыгадзір шабашнікаў (будаўнікоў з горада, якія за добрую плату добра працуюць), я і старшыня сельсавета

Гедрэвіч паедзем у Залюбічы і Крошын (за Баранавічы) глядзець вятрак і дамаўляцца пра яго перавозку.

Паехалі аглядаць месца для будаўніцтва ветрака. Старшыня павёз нас на возера каля Дублян. Гэта 3 км ад Гудзевіч. Я па дарозе сказаў:

— Не падыходзіць гэты варыянт, экскурсіі заўжды стомленыя. Ім не хочацца ісці тры кіламетры, каб паглядзець вятрак. Трэба будаваць яго каля музея.

(Пронька яшчэ перад прыездам Вашка сказаў: «Пабудуем каля возера. Добра будзе там частаваць гарэлкай начальнікаў».)

Мяне падтрымаў Вашко, што вятрак трэба будаваць у Гудзевічах.

Паехалі назад.

Прапаную падабраць месца для будаўніцтва ветрака. Гедрэвіч, які ніводным словам раней не падтрымаў мяне, цяпер запярэчыў:

— Рана выбіраць месца. Прывязіце вятрак, тады і выберацe.

— Тады будзе позна, — адказаў я.

Пронька і Вашко прамаўчалі. Вашко ўвесь час стараецца ўзняць падмочаную рэпутацыю Гедрэвіча. Гедрэвіч — тып прадажны, пляткар і жмот, кар'ерыст і алкаголік.

Сёння 9 красавіка 1985 года. Тэлефанаваў да Ярмака Мікалая Іванавіча. Прашу:

— Давайце 11 красавіка пад'едзем у Залюбічы за Баранавічамі сфатаграфуем вятрак там.

— Добра, — адказаў ён, — я згодзен у чацвер ехаць з вамі.

Бянтэжыць мяне, што Пронька не хоча будаваць. Усё можа сарвацца. Дзесяць месяцаў ён мяне водзіць за нос. І толькі ўчора катэгарычна сказаў, што будаваць не хоча. Раней гаварыў гэта з агаворкамі, з рознымі ўмовамі.

Ці дазволіць ехаць Ярмаку?

10 красавіка 1985 года. Прасіў Ярмака, каб паехаў з намі і зрабіў здымкі ветрака. Абяцаў, што паедзе.

Быў у Пронькі. Сам не паедзе, але дасць машыну. Выязджаем заўтра ў 7 гадзін раніцы. Гедрэвічу не будзе месца. Сказаў яму пра гэта.

— То і добра, мне ехаць не хочацца. А нашто я там?

І праўда, нашто…

11 красавіка 1985 года, 7 гадзін раніцы. Чакаю машыны. У 7 гадзін 15 хвілін пад'ехала «Волга». Сядзяць Лісоўскі, Жукоўскі (намеснік інжынера па будаўніцтву), брыгадзір шабашнікаў, якія будуць збіраць вятрак, і Ярмак, які будзе фатаграфаваць.

Сеў у машыну. Ад'ехалі 300 м. Пытаюся:

— Ці даў вам ліст да Казляка Пронька?

— Не, не даваў, — кажуць Лісоўскі і Жукоўскі.

— Што ж, вернемся.

Пад'ехалі да праўлення. Пронька пытае:

— А каму я павінен быў даваць ліст?

— Лісоўскаму, — кажу я.

— Я яшчэ не пісаў.

— То хадзем у кабінет напішам.

Напісаў Пронька прыкладна так: «Уважаемый Георгий Владимирович! Убедительно прошу оказать содействие по собиранию экспонатов старины, которые находятся на территории Вашего колхоза, нашим энтузиастам, создателям музея. С уважением, Пронько. 11.IV.1985».

Старшыня з незадаволеным выглядам падаў мне ліст. Давялося сказаць:

— Прабачце, што ўцягваю вас у гэтую нялёгкую справу будаўніцтва ветрака.

— Вы не ўяўляеце сабе, чаго хочаце, — са злосцю сказаў Пронька.

У дарозе брыгадзір шабашнікаў (для зручнасці буду называць яго Іваноў) пачаў пасмейвацца з задумы будаўніцтва ветрака. Магчыма, яму старшыня сказаў, каб не згаджаўся на гэтую «авантуру» (як лічылі некаторыя мясцовыя начальнікі). Іванова ніхто не падтрымаў. Самыя, здавалася б, неверагодныя мае праекты да гэтага часу заўсёды здзяйсняліся. Усе прывыклі, што задумы гудзевіцкага музейшчыка — гэта рэальнасць. Доказ гэтаму літаратурны музей, які закрываўся на працягу 15 гадоў, аднак зроблены на высокім узроўні: сялянская хата XVIII стагоддзя,

з якой таксама ўсе смяяліся. Нават сваякі казалі: «Саша, не смяшы людзей». Яна стала славай не толькі Гудзевічаў, але і ўсёй Беларусі. Цяпер інжынер па будаўніцтву Жукоўскі і сакратар партарганізацыі Гудзевіцкага сельскага Савета Ярмак верылі ў жыццёвасць задумы пра вятрак. А я не веру ў гэтую пабудову: вельмі варожа да яе настроены старшыня М. С. Пронька.

Каля 10-й гадзіны былі ў Мілавідах, сфатаграфавалі помнік паўстанцам 1863 года.

У 10 гадзін 50 хвілін мы ў Крошыне. Старшыні няма. Сакратарка сказала, што будзе праз 20 хвілін. Сталі гутарыць. Пачала пытацца пра наш музей. Расказаў пра Міхася Забэйду-Суміцкага, пра яго голас, пра тое, як мы з ім зблізіліся, пра дапамогу Гудзевіцкаму музею, пра экспанаты ў экспазіцыі. Валянціна Васільеўна (сакратарка) па сакрэту паведаміла, што Забэйда-Суміцкі — сваяк Георгія Уладзіміравіча Казляка. Прыехаў старшыня. Сакратарка коратка расказала Казляку пра нашу просьбу і пра знаёмства наша з Забэйдам-Суміцкім.

Хоць намеснік старшыні сказаў, што ветрака не прададуць, бо ён патрэбен, каб рэстаўрыраваць ва Уласах, але старшыня сказаў, што вятрак прадасць нам.

— Колькі вы думаеце заплаціць? — запытаўся Казляк.

— Міхась Сцяпанавіч Пронька сказаў, каб больш за 200 рублёў не плаціў.

— Не, — сказаў Казляк, — трэба даць хоць 300 рублёў. Мы іх аддадзім Кастусю Рэшку, які пабудаваў вятрак, маючы толькі тры гектары зямлі. Пяць гадоў уся сям’я яго памірала ад голаду, а ён будаваў вятрак, наймаў майстроў, купляў матэрыялы. Вядома, сёння яго цана 5–10 тысяч, але столькі вы не дасце, бо перавезці і сабраць яго вам будзе шмат каштаваць. Вы казалі, што хочаце сфатаграфаваць люстру Паўлюка Багрыма. Пад’едзьце цяпер у музей, а пасля абеду выпішуць рахунак на вятрак, і справа будзе аформлена.

Люстру Паўлюка Багрыма бачыў у жніўні 1984 года, калі прыязджаў аглядаць крошынскія ветракі. З прыемнасцю яшчэ раз агледзеў кожнага жаваранachка, на крылцах якіх відаць нават асобыя перынкі, бутоны руж, надпісы. Зрабілі некалькі здымкаў

люстры і яе фрагментаў. Заехаў па рахунак. Не было яшчэ намесніка старшыні, які павінен быў падпісаць паперку. Папрасіў у сакратаркі:

— Дайце, калі ласка, кнігу прапаноў: хачу запісаць вам падзяку за добрыя адносіны да наведвальнікаў.

Яна сказала:

— Такой кнігі ў нас няма, але я зараз завяду новую.

Пачаў пісаць.

— А вы мне хочаце падзякаваць? То, можа, не варта.

— Чаму?

— Я — Казляк, жонка старшыні.

— Усё роўна. Абавязкі свае вы выконваеце выдатна. Напішу.

Нарэшце рахунак падпісалі, пячатка пастаўлена. Як на крылах ляцеў з праўлення Крошынскага калгаса «Перамога».

— Ура! — крычу. — Вятрак наш! Паедзем да дзядзькі Рэшкі!

Кастусь Вінцэнтавіч Рэшка рамантаваў унучцы ровар. Да нас аднёсся прыхільна. Аддаў адмысловы ключ, якім калісьці замыкаўся млын. Вось што расказаў нам Кастусь Вінцэнтавіч:

— Пабудаваў млын я ў 1927 годзе. Будаваў сам. Быў механік Язэп (Ёзік) Бондар. Даў яму 12 пудоў збожжа. Дапамагалі яшчэ чатыры цесляры. Ім заплаціў 60 пудоў збожжа. Кожны дзень трэба было карміць, даваць гарэлку. Сям'я памірала з голаду пяць гадоў. Меў толькі тры гектары зямлі. Дрэва тата купіў на хату. Давялося яшчэ закупляць. Грошай — пазычаў, прадаў карову, пяць гадоў здыхалі з голаду. Мой вятрак мог змалоць за гадзіну 30 пудоў, а то і больш. Плату браў за адзін пуд два фунты (гэта за цэнтнер 5 кг). За дзень пры добрым ветры мог змалоць пяць тон. Гэта 250 кг платы (30 злотых). Адзін вятрак даваў даходу столькі, колькі два ўчасткі зямлі (30–40 га). Падатак быў малы — 60 злотых за год. Малоў за год, можа, дзён 150 ці 200. Часта ветру не было. У 1939 годзе пры савецкай уладзе вятрак пайшоў пад райпрамкамбінат. Я працаваў мельнікам. Плату дзяржава брала 10 кг за адзін цэнтнер. Вятрак мне каштаваў каля 5 тысяч злотых, а можа і больш. Пры немцах гаспадаром ветрака быў я. Малолі і ў моцны вецер, толькі плахты здымалі.

(Часткі ветрака: падэшвы, шмагі, плахты, касякі і іншае.) Пасля вайны вятрак перадалі Баранавіцкаму райпрамкамбінату, а ў 1952 годзе перадалі ў калгас. Малоў да 1958 года, а тады мяне перавялі мельнікам у Крошын, і ўсе завознікі паехалі ў Крошын, бо тут стаў малоць п’яніца. Так усё занікла. Каб мяне перавялі ў Крошын, то вятрак, можа, і цяпер працаваў бы. Прывозілі б людзі і цяпер, бо малоў я вельмі добра. Аднаму чалавеку змалоў на вяселле. Ён высеяў — і такія пірагі смачныя спякла маці, што пасля вяселля прывозіў мне каштаваць. Як еду куды ці іду, то людзі запрашаюць у госці, хочуць пачаставаць за добрую маю работу. Вышыня ветрака да восі — 12 аршынаў, і аршынаў чатыры страхі. Усяго разам каля 12 метраў. Паварочваць да ветру крыламі было лёгка. Паварочваў я адзін.

Агледзелі вятрак. Усё знішчана, дошкі са сцен абарваны, дэталі ветрака параскіданы побач.

Цікава, што трымаецца яшчэ дранка, крыты вятрак у 1927 годзе. Амаль 60 гадоў.

— Можа, смалою палівалі? — пытаюся.

— Не, гэта так доўга ляжыць яна таму, што не пілаваная, а колатая.

Шабашнік Іваноў наадрэз адмовіўся разбіраць вятрак: гэта год работы. Жукоўскі сказаў:

— Разбіраць яго трэба брыгадай 4–5 чалавек дзён пяць, а складаць могуць і два чалавекі. Думаю, што за два месяцы складуць.

Прыехалі ў Гудзевічы. Старшыня быў каля праўлення з Шэсцелем (начальнікам сельскагаспадарчага праўлення Мастоўскага раёна).

— Калі вам расказаць пра вятрак? — запытаўся я.

— Заўтра, — злосна адказаў Пронька.

12 красавіка 1985 года. Расказаў Проньку пра вынікі паездкі.

— Што будзем рабіць? Шабашнікі адмовіліся. Казаў Жукоўскі, што толькі Маляўка можа яго сабраць.

— Маляўку прасіце вы, — заявіў Пронька. — Я яго прасіць не буду. І наогул, гэта будаўніцтва вельмі цяжкае. Не нам гэтым займацца.

15 красавіка 1985 года. Пытаюся ў Пронькі:

— Як з ветраком?

— Не да ветракоў нам цяпер: сеем.

18 красавіка 1985 года. Ездзіў да Пронькі, каб купіць у калгасе 7 кг пялюшкі: трэба пасеяць у гародзе. Накладную падпісаў, але пра вятрак ні слова. Там былі людзі. Я не захацеў нарывацца на грубасць з боку старшыні, а таму не запытаўся пра вятрак.

25 красавіка 1985 года.

— Міхась Сцяпанавіч, ці пералічылі вы грошы за вятрак Казляку, калгасу «Перамога»?

— Не.

— Чаму?

— Паспеем. Пералічым яшчэ.

3 траўня 1985 года. Пытаўся, ці пералічылі грошы за вятрак. Старшыня сказаў:

— Не пералічылі.

На гэтым размова скончылася.

15 траўня 1985 года. Пісаў ліст Зосьцы Верас. Стук у дзверы.

— Заходзьце!

Зайшоў шафёр старшыні калгаса Лісоўскі.

— Вас запрашае ў праўленне калгаса старшыня райвыканкама Уладзімір Іванавіч Вашко.

Сустрэліся.

— Што чуваць з ветраком?

— Дамовіўся, што за 300 рублёў прададуць нам вятрак.

— Так танна?

— Так. Гэта вельмі танна. Там адзін барабан каштуе рублёў 500.

Пронька сказаў:

— Не ў рублях справа. Не маем часу мы займацца ветраком.

— Я гэта бачу. Можа, трэба, Уладзімір Іванавіч, прасіць нейкі іншы калгас, каб узяў гэты вятрак? Ён нахіліўся і праз месяц-два ўпадзе. А тады разбяруць яго на дровы. Засталося толькі два ветракі ў Беларусі. Нельга дапусціць, каб зваліўся перадапошні.

— Не, — сказаў Вашко. — Трэба, каб вы будавалі. Тут ужо ёсць два музеі. Трэба працягваць збор экспанатаў і вятрак будаваць.

— Ніхто не бярэцца пабудаваць, — сказаў Пронька.

— То што, ужо мы так атупелі, што нават гатовы вятрак не можам сабраць? — запытаўся я.

Маўчанне.

— Маляўка, — працягваю, — мог бы сабраць.

— Я гаварыў з ім, — кажа Пронька. — Не згаджаецца. Я яго не магу прымусіць, бо пенсіянер.

— Паедзем разам. З’ездзіце, калі ласка, і вы з намі, Уладзімір Іванавіч. Вы ўбачыце, што Маляўка згодзіцца.

— Што ж, з’ездзім, — уздыхнуўшы, адказаў Вашко, — толькі ў мяне да вас просьба асабістага характару: сыну трэба друкаваць па-беларуску дыпломную работу, а ў райвыканкаме няма ніводнай машынкі з беларускім шрыфтам. Дажыліся. Нават у рэдакцыі пытаўся, беларускую газету выдаюць, а машынкі толькі з рускім шрыфтам. Калі ў вас яна сапсавана, то мы адрамантуем.

— Не, чаму ж? У музеі мы маем дзве машынкі з беларускім шрыфтам. І ў хаце маю ўласную таксама беларускую.

— Мы доўга не затрымаем.

— То, можа, цяпер і забяром?

— Калі ласка.

Старшыня калгаса сказаў:

— Мы з Уладзімірам Іванавічам і Гедрэвічам паедзем у Дубляны паглядзець кароў, а вы едзьце з Лісоўскім па машынку і прыязджайце да Маляўкі.

Уладзіміра Георгіевіча Маляўкі ў хаце не было: паехаў да Гродна. Жонка сказала, што павінен зараз прыехаць.

Мы з Лісоўскім паехалі шукаць Маляўку, а старшыня з Вашком паехалі на штучнае возера каля Дублян.

Нарэшце знайшлі Маляўку ў хаце, ён сказаў:

— Я то разумею значэнне ветрака. Вось пабудавалі мы хатумузей. Цяпер ім цікавяцца, куды ні заеду. Нават канверты выпусцілі з нашай хаткай. Я адразу купіў 50 штук. І іншыя цесляры купілі. Толькі без старшыні я пакуль дамаўляцца не буду.

Паехалі да старшыні, яны чакалі, бо машынка была ў мяне. Мусіць, Вашко добра пагутарыў з Пронькам. Бо калі я папрасіў Вашка ўсё ж з’ездзіць з намі да Маляўкі, то Пронька сказаў:

— Не будзем затрымліваць старшыні. З’ездзім удвух, цяпер. Адразу.

І праўда, пасля ад’езду Вашка адразу паехалі да Маляўкі. Там дамовіліся.

— 22 траўня з’ездзім да Казляка ў Крошын. Паглядзім і канчаткова дамовімся.

— Думаю, што мне ехаць не трэба, калі вы паедзеце: я пра ўсё з Казляком дамовіўся, Лісоўскі дарогу ведае. Вам там толькі ўдакладніць. Тым больш, што Казляк ведае вас.

— Добра, паедзем удвух з Маляўкам і Лісоўскі давязе.

16 траўня 1985 года. Кажу старшыні:

— Трэба запрасіць мастакоў з Мінска і Гродна, каб для музея працоўнай славы намалявалі партрэты ардэнаносцаў.

— У Мінск не пішыце. Хай прыязджае адзін Ліпень.

— Чаму?

— Не трэба.

Прасіў па тэлефоне Ліпеня. 16 траўня прыехаў.

У мяне ў гэты дзень урокаў не было, але прыехаў я ў школу ў 8 гадзін. Мне адразу надавалі ўрокаў. Многіх настаўнікаў не было. Але тут жа выклікалі, калі прыехаў Ліпень. Давялося адмовіцца ад прапанаваных класаў.

Ліпень кажа:

— Мне трэба грошай. Я прывёз барэльеф Ф. Багушэвіча.

Паглядзелі. Барэльеф добры.

— Мне вельмі хочацца мець яго ў Гудзевічах, але Пронька не дасць грошай, бо ў музей нават на самае неабходнае не дае.

— Мне дасць, — упэўнена сказаў Ліпень.

Гэты яго тон мяне вельмі здзівіў.

Зайшлі да старшыні. Той адразу згадзіўся заплаціць 160 рублёў за барэльеф. Гэта зноў мяне вельмі здзівіла. Пакуль шукалі бухгалтара, мы пайшлі ў музей. Там Ліпень сказаў:

— Яўген Шунейка хоча вашаму музею прадаць габелен «Янка Купала і Якуб Колас». Хоча 500 рублёў, але аддасць за 400.

— Кажыце вы Проньку, бо бачу, што вы ў яго ў большай ласцы. І яшчэ адно: чаму?

Ліпень не адказаў.

— Вы сказалі Проньку, што вам не падабаюцца творы Аляксея Марачкіна (Алеся Мары).

— Мне не падабаюцца яго творы.

— Я ж не прапаноўваў, каб Марачкін пісаў карціны, а хацеў толькі запытацца ў вас парады, каго запрасіць для малявання партрэтаў. Непрыгожа вы зрабілі. Вы ведаеце, што ў Гродне няма партрэтыстаў.

— Так, гэта праўда. Я ведаю, і мне партрэты не вельмі добра ўдаюцца.

— Дык чаму ж вы перашкодзілі запрашэнню мінчукоў?

— Так. Я зрабіў дрэнна. Я скажу старшыні, што Марачкін — добры мастак.

Зайшлі да старшыні. Ліпень прапанаваў габелен. Пронька сказаў:

— Не трэба, не будзем купляць.

Выйшлі. Скробка, старшыня прафкама калгаса, сказаў:

— Будзем пісаць у дагаворы, што плацім за афармленне музея баявой славы.

— Не пішыце так, бо мы яшчэ нічога не афармлялі для баявой славы.

— Нам загадалі: для вашага музея не даваць ні капейкі.

— Тады вы напішыце: скульптура для калгаснага пакоя баявой славы.

— Во, добра. Так і напішам.

Чаму ж ні капейкі нельга даваць на музей???

15 траўня 1985 года. Быў у Пронькі. Кажу:

— Трэба ж нешта рабіць з ветраком: у мінулым годзе ён быў амаль укамплектаваны, а ў гэтым многае расцягнута. Ён стаіць набаку. Можа, ужо ўпаў. Расцягнуць на дровы.

— Няма людзей, няма машын, — адказаў незадаволены старшыня.

— Я папрашу машын і людзей у ПМК.

— Яны самі не маюць, — запярэчыў Пронька.

Тэлефаную да Уладзіміра Іванавіча Вашка. Ён кажа:

— Машын дапамагу ўзяць на аўтабазе, а людзей можна ўзяць у Тоўсціках. Там шпіталь па лячэнні ад алкагалізму. Тоўсцікі — тэрыторыя нашага калгаса.

21 траўня 1985 года. Кажу Проньку:

— Тэлефанаваў Вашко, што машын дапаможа дастаць на аўтабазе, а людзей можна ўзяць у Тоўсціках.

— У Тоўсціках — хворыя людзі. Іх не адпусціць лекар.

— То давайце возьмем трох ці чатырох студэнтаў з Гродзенскага ўніверсітэта. Пад кіраўніцтвам Маляўкі за дзён 50 яны ўсё зробяць.

— А што будзе, калі студэнт зваліцца і нагу зломіць? На каго гэта павесяць? — злосна закрычаў Пронька.

— Чамусьці на камбайны не баімся садзіць падлеткаў, не баімся дзяцей пускаць на зернесушылку, на фермы, на стагі. А там яны могуць забіцца. Са стога падаць вышэй, як з ветрака.

— Не буду я пасылаць студэнтаў, — адказаў Пронька.

2 жніўня 1985 года. Сёння рана напісаў ліст пра вятрак Уладзіміру Іванавічу Вашку, у якім прасіў яго як старшыню райвыканкама перадаць справу рэстаўрацыі Залюбіцкага (каля Крошына) ветрака якому-небудзь іншаму калгасу, бо Пронька прыдумвае бясконцыя прычыны, каб толькі не перавозіць вятрак. Казаў, што Маляўка не згодзіцца рабіць вятрак. Маляўка згадзіўся. Казаў, што няма крана. Кран даў начальнік ПМК Ралінскі. Казаў, што няма машын. Машыны дала аўтабаза. Казаў, што няма людзей. Прапанаваў студэнтаў, але Пронька адмаўляецца ад будаўніцтва. Трэба перадаць вятрак у Масты. Каб толькі пабачыць Барташа, дам яму ўсе экспанаты, якія яму спатрэбяцца. Аддам усе звесткі пра вятрак, хай толькі штурмуе начальства і робіць вятрак. Думаю з’ездзіць у Масты, але як? Учора прыехаў са шпіталя ў Ваўкавыску, а ў панядзелак трэба ехаць у Гродна лячыць нагу, кішэчнік, спіну і іншае.

3 жніўня 1985 года. Быў у старшыні калгаса Пронькі. Прапанаваў яму:

— Калі вы баіцеся, што няма дакументацыі на будаўніцтва ветрака, то заключаць дамову буду я. Значыць, у тым выпадку, калі за вятрак хтосьці будзе чапляцца, адказваць буду я.

— Алесь Мікалаевіч, — адказаў ён, — я ведаю, колькі адказваць будзеце вы і колькі я. А таму не хачу нічога браць на сябе.

— Дык і не бярыце. Машыны, кран, людзей я дастану. Ад вас патрабуецца адпусціць Маляўку. А ён пенсіянер. Ён мог бы пайсці да мяне і без вашага дазволу.

— Не, на будаўніцтва ветрака я згоды не дам. Каб вы прапанавалі гэта тады, як мы будавалі хату XVIII стагоддзя, то я згадзіўся б. Тады Маляўка са сваёй брыгадай зрабіў бы вятрак.

— Не зрабіў бы, — пярэчу, — тады мне даводзілася за кожны камень, за кожную машыну пяску ці гліны, за кожную дошку па пяць, дзесяць разоў ездзіць да вас, да Ката, да Жукоўскага, да трактарыстаў, шафёраў, бульдазерыстаў. І хатка гэта нараджалася ў страшэнных муках. Яе рэстаўрацыя каштавала мне дзесяць гадоў жыцця.

— Не, тады мы зрабілі б вятрак, а цяпер катэгарычна адмаўляюся ад удзелу ў гэтай акцыі.

13 жніўня 1985 года. Бачыў Проньку. Кажу:

— Шкада аддаваць вятрак Мастам.

— Шкада, але мы ў Гудзевічах яго будаваць не будзем. І Масты не пабудуюць. Папомніце маё слова.

14 жніўня 1985 года. Папрасіў Лявона Рыгоравіча Барташа прыехаць у Гудзевічы. Сустрэліся ў нашай хаце. Абяцае, што пастараецца музею ў Мастах надаць нацыянальны змест. Прашу ў яго:

— Схадзіце да Вашка. Пагаварыце наконт перавозкі ветрака.

Перадаў яму для музея каля сотні самых каштоўных экспанатаў. У тым ліку нават тыя, якія патрэбны нам. А цяпер каюся. Тут рукапісы, успаміны, кнігі XVIII ст.

15 жніўня 1985 года. Быў сёння ў Гродне. Пяткевіч катэгарычна супраць таго, каб ставіць вятрак у Мастах. Ён кажа:

— Месца ветрака ў Гудзевічах.

— Памажыце, — прашу.

— Паможам, — кажа Пяткевіч. — Як?

— Патрэбны людзі, машыны, грошы.

— Збярэм грошай.

— Хай вы збярэце 100 ці нават 200 рублёў. За такую суму вятрак не пабудуеш. А дзе ўзяць людзей?

Маўчыць Пяткевіч.

18 жніўня 1985 года. Кажу Проньку:

— Не патрэбна ваша дапамога: вы толькі шкодзіце. Знойдзем людзей, знойдзем машыны, знойдзем грошы, толькі дайце Маляўку.

— Маляўку дам.

19 жніўня 1985 года. Пытаюся ў Пронькі:

— Ці дасце нам машыны, каб завесці Маляўку ў Залюбічы? Трэба канкрэтна дамовіцца пра час, колькасць людзей і ўсё іншае.

(У калгасе каля 10 легкавых машын.)

— Калі да вас звярнуцца, каб канкрэтна ведаць, паедзем ці не?

— У сераду рана.

21 жніўня 1985 года. Пытаюся:

— Ці паедзем заўтра ў Залюбічы?

— Не, бо Маляўка не паедзе.

— Чаму?

— Кажа, што няма часу.

— Ці можна мне з ім пагаварыць.

— Калі ласка.

— Маляўка мне абяцаў, што дзверы і рамы для палявога стану ён будзе рабіць у выходныя і вечарам, а днём будзе рабіць вятрак. Ён вам кажа адно, а мне другое.

— Бывае, што людзі так робяць.

— Давялося і мне сустракацца з такімі людзьмі, — маю на ўвазе Проньку.

Заехаў у Радзявічы. На палявым стане сустрэўся з Маляўкам.

— Добры дзень, Уладзімір Георгіевіч.

— Кажыце, што вы хочаце, бо ад’язджаю.

— Дык жа не гарыць. Ці едзем у Залюбічы?

— Не.

— Чаму?

— Мне тут надавалі працы. Як я паеду з вамі, то мяне пазбавяць 13-й зарплаты.

— Дык вас адпусціць Пронька.

— Мне казаў Кот, што не адпусціць.

— Пры чым тут Кот? Старшыня — Пронька.

— Не, не паеду.

— А калі вы скончыце майстэрні? — пытаюся.

— Да 12 верасня.

— То, можа, тады і з’ездзім?

— Да Кастрычніцкіх не з’ездзім, — з гэтым Маляўка сеў у машыну і паехаў.

Я зразумеў, што яму катэгарычна загадана не згаджацца на будаўніцтва ветрака.

Тэлефаную да Барташа:

— У нас нічога з ветраком не выходзіць. А як у вас?

— Тое ж і ў нас.

— То, можа, я патэлефаную да загадчыка аддзела прапаганды Івана Улановіча? Усё ж гэта мой былы вучань.

— Калі ласка, можа, ён дапаможа.

Да Улановіча не дазваніўся: мусіць, няма ў кабінеце. Да Вашка таксама. А шкада. Вятрак неабходна разбіраць, а начальнікі прыдурваюцца. Ніхто не хоча сказаць, што будаваць не будуць, але зрываюць гэтую справу. Кажуць: «Гэта вельмі цяжка». А спецыялісты сцвярджаюць, што дзве грузавыя машыны, пад’ёмны кран, тры-чатыры чалавекі за тры дні могуць вятрак прывезці ў Гудзевічы. Машыны можна ўзяць у сельгастэхніцы, кран дае Ралінскі, а трох чалавек знайсці ў раёне не праблема. Уся бяда ў Проньку.

26 жніўня 1985 года. Прашу:

— Будуйце вятрак у Мастах, бо ў Гудзевічах нічога не будзе.

— Почему?

— Пронька не хоча.

— Да, он боится, чтобы никто не упал, не разбился.

— Не, не гэтага ён баіцца.

— Почему?

— Я яму прапаную, хай лічыцца, што я будую вятрак. Дазвольце пенсіянеру Маляўку будаваць, і больш нічога ад вас не хачу. Грошай і людзей мы знойдзем.

Вашко да сакратаркі праз тэлефон:

— Вызовите Аляксандра Ивановича Терешко.

— Нашто вам Цярэшка?

— Может, райотдел образования выделит вам деньги.

— Не трэба. Ён будзе таксама баяцца турмы.

— А вы не боитесь?

— Так, не баюся.

— Ха-ха-ха!!! А почему?

— Там таксама людзі жывуць. Калі цяпер Цярэшка ці Пронька будзе фінансаваць будаўніцтва, то іх таксама прыцягнуць да судовай адказнасці, а так судзіць будуць толькі мяне.

— Что ж, вы правы. — Да сакратаркі: — Позвоните Терешко, чтобы не шёл. Я сегодня поговорю с Пронько, категорически скажу ему, чтобы помогал строить мельницу.

— Не гаварыце, бо ён падумае, што я скардзіўся на яго. А я не скарджуся. У калгасе сапраўды цяжкае становішча.

— Хорошо. Я воздержусь. Желаю вам успехов. Вы теперь хорошо выглядите. Помолодели.

Знішчэнне ўсяго даўняга, нашых каранёў, нашай мінуўшчыны працягваецца.

27 жніўня 1985 года. Запытаўся ў Пронькі, ці ходзяць нашы грузавыя машыны ў Гродна. Яўген Петрашэвіч (кампазітар) стварыў скульптуру (разьба па дрэве) «Маці».

— Ну, дык няхай і ставіць на магіле маці, — абурыўся Пронька.

— А пры чым тут магіла ягонай маці?

— Вы ж кажаце, што стварыў скульптуру маці.

— Тут назва «Маці» агульная, гэта ж маці наогул.

— А нашто яна нам?

— Як нашто? Чалавек ахвяруе сваю працу, а вы — «нашто»! Дзіўна. Гэта трохметровае бервяно.

— А дзе думаеце паставіць?

— Лічу, што найлепш каля хаты XVIII стагоддзя.

— Прыходзьце заўтра. Многа машын пойдзе ў Гродна. Назад прывязём скульптуру.

Пасля размовы з Пронькам паехаў у Масты. Там зайшоў да старшыні райвыканкама Вашка. Ён паабяцаў пагаварыць з Пронькам. Вашко сказаў:

— Вятрак павінен стаяць у Гудзевічах.

19 верасня 1985 года. Званіў некалькі разоў да Вашка. Не было або быў заняты. Сёння адказаў:

— Я разговаривал с Пронько. Он пообещал, что поможет построить ветрак.

20 верасня 1985 года. Звярнуўся да Пронькі:

— То як будзе з гэтым ветраком?

— А ніяк.

— Казаў Вашко, што вы абяцалі будаваць.

— Не, я не абяцаў будаваць. Я абяцаў пералічыць на школу 2–3 тысячы, а вы рабіце, што хочаце.

— А машыну дасце звазіць у Залюбічы Маляўку? Ён жа павінен паглядзець.

— Не, не дам.

— Ну, то вазьму ў Мастах.

— У каго? — запытаўся Пронька.

— У Вашка.

— Маляўка ці паедзе? — сказаў Пронька.

— Абяцаў, што паедзе.

— А вы запытайцеся яшчэ раз.

— Добра.

Да Маляўкі не датэлефанаваўся.

Тэлефаную Лявону Рыгоравічу Барташу, дырэктару Мастоўскага музея:

— Бярыце вятрак у Масты, — прапаную я.

— Я ўжо гаварыў з Абрамовіч. Яна за тое, каб перавезці ў Масты.

— Вы ў аўторак схадзіце да Вашка і папрасіце машыну. Знайдзіце майстра і завязіце ў Залюбічы. Гэта будзе канкрэтны крок.

— Пастараюся.

— Прышліце нам спіс экспанатаў, якія ўзялі для Мастоў.

— Я ўжо складаю.

23 верасня 1985 года. Тэлефанаваў да Вашка.

— Забірайце вятрак ў Масты, бо мы нічога не зробім, а вятрак прападзе.

— А почему вы ничего не сделаете?

— Майстар ехаць адмаўляецца, машыны з'ездзіць у Залюбічы старшыня не дае. Наогул, без дапамогі старшыні калгаса мы нічога зрабіць не можам.

— Хорошо. Я приеду, поговорим на месте.

4 лістапада 1985 года. Заўтра пачынаюцца асеннія вакацыі (5–10 лістапада). Сёння рана прашу ў Пронькі:

— Дайце, калі ласка, машыну з'ездзіць у Крошын, каб дамовіцца канчаткова пра перавозку ветрака. Ды Маляўку трэба там пабыць і вызначыць аб'ём працы, колькасць людскіх і матэрыяльных рэсурсаў.

Пронька адказаў:

— Ніякай машыны не дам і ветрака мы будаваць не будзем. Я не хачу рызыкаваць.

5 снежня 1985 года. Тэлефаную Вашку:

— Дазвольце будаваць вятрак у Мастах, бо Пронька адмаўляецца дапамагаць у гэтай справе.

Адказ:

— Пасля Новага года пачнём будаўніцтва ветрака ў Гудзевічах.

25 снежня 1985 года. Быў на прыёме ў Вашка. Прасіў нешта зрабіць, каб жонку Веру Ігнатаўну не пасылалі на працу за пяць кіламетраў ад Гудзевічаў: гэта моцна адбіваецца на яе і маёй працаздольнасці.

Яе ашукалі. Пронька і Рында ўгаварылі часова прыняць загадванне Гудзевіцкім дзіцячым садам, каб навесці там парадак. Як толькі Вера Ігнатаўна папросіць вярнуцца на ранейшую працу ў пачатковыя класы Гудзевіцкай СШ, яе прымуць: яна ўзнагароджана граматай Міністэрства асветы БССР, лепшая настаўніца

раёна. На самай справе Рындзе трэба было аслабіць беларускі дух у Гудзевіцкай СШ, а Проньку — мець добрую загадчыцу сада. Цяпер, калі Вера Ігнатаўна настойліва пачала патрабаваць звароту на педагагічную працу, яе накіравалі ў Радзявічы.

Вашко паабяцаў дапамагчы і запытаўся, што чуваць з ветраком.

— Пронька катэгарычна адмовіўся будаваць вятрак, — адказаў я.

— Пасля Новага года падумаем.

Я папрасіў, каб пачалі захады па захаванню хаты Міхася Явара. Паабяцаў Вашко, што і пра гэта падумаюць.

Былі сакратар райкама КПБ Нэля Мікалаеўна Абрамовіч з мастаком, які бярэцца афарміць музей у Мастах, хацелі экспанатаў. Даў многае. Прапанаваў:

— Бярыце вятрак у Масты. Вас за гэта ўся Беларусь будзе на руках насіць.

— Хорошо, — сказала, — если вы считаете, что он стояший, то надо перевезти. Где это?

— Каля Баранавіч. У Залюбічах.

— Как вы его нашли?

— Хто шукае, той знаходзіць.

— Отдадут ли его нам?

— Я дамовіўся са старшынёй калгаса «Перамога», што ён прадасць нам вятрак за 300 рублёў. Нават выпісаў мне рахунак. Толькі Пронька не хоча пералічваць.

— Это дорого?

— Гэта дарам.

— Я скажу, чтобы Пронько деньги перечислил. Мы вашу мельницу ветряную построим в Мостах. Только найдётся ли мастер, который сможет реставрировать мельницу?

— Гэта можа зрабіць наш сталяр Валодзя Маляўка. Ён згодзен.

— Надо, чтобы приехал сюда Пронько. Скажите шофёру, чтобы искал председателя.

Сказаў шафёру. Той знайшоў Проньку. Пронька адразу згадзіўся аддаць вятрак Мастам, але пачаў пужаць Нэлю Абрамовіч, што нічога з гэтага не атрымаецца. Усё ж паабяцаў грошы калгасу «Перамога» пералічыць.

Хутчэй бы пабачыць Лявона Рыгоравіча Барташа. Яго прызначылі дырэктарам музея ў Мастах. Гэта чалавек, які можа зрабіць музей, хоць і часта выпівае.

2 лістапада 2006 года. У 2006 годзе, калі Маляўка ўжо працаваць не меў сілы, ён мне прызнаўся, што Пронька яму катэгарычна загадваў не згаджацца на будаўніцтва ветрака. Ён зазлаваў, што я не згаджаюся будаваць вятрак каля Дублян, дзе жыве ягоны швагер, гэта значна бліжэй ад хаты Пронькі. Вятрак перавезлі ў Баранавічы, але ён там ніколі не працаваў і працаваць не будзе, бо сабралі яго абы-як.

29 траўня 2011 года. У 1984 годзе я меў неасцярожнасць паскардзіцца Проньку, што ў раёне і калгасе амаль усе кіруючыя пасады займаюць палякі. Пазней я даведаўся, што сам Пронька — каталік. Менавіта з гэтага часу Пронька вельмі неахвотна, толькі пад прымусам з боку Вашка, дапамагаў музею, рэзка змяніў адносіны да мяне.

Я папрасіў у Ніла Гілевіча, каб ён ад імя Саюза пісьменнікаў падзякаваў Вашку і Проньку за дапамогу ў стварэнні музея.

Ужо ў 2004 годзе папрасіў у Домаша, каб прысвоіў Проньку заслужанага работніка сельскай гаспадаркі, аднак дараваць мне мае беларускасці Пронька не мог.

Мае суседзі справа і злева мелі газ, ваду, а мне праводзіць ваду і газ Пронька забараніў.

Я зафундаваў газавікам, і яны насуперак забароне падвялі мне газ. Вады ў хаце я не меў да таго часу, пакуль Проньку не вызвалілі з пасады старшыні калгаса.

## ПАЎСТАННЕ 1863–1864 ГАДОЎ У ЭКСПАНАТАХ МУЗЕЯ

Паўстанне на Гродзеншчыне рыхтаваў Кастусь Каліноўскі. Тут пачаліся першыя баі з царскімі войскамі, а калі паўстанне было пераможана, то апошнія бітвы адбыліся тут, у нас, на Гродзеншчыне.

У нашай мясцовасці дзейнічала каля чатырох тысяч паўстанцаў. Доўгі час яны знаходзіліся ў маёнтку Мінявічы на Мастоўшчыне. Узброеныя былі пікамі, косамі, драбавікамі, пісталетамі.

Селянін з суседняй з Гудзевічамі вёскі Дубляны Язэп Шэмет таксама прымаў удзел у барацьбе. Ён вазіў у Кнышаўскі лес порах, зброю. З лесу вывозіў параненых паўстанцаў, арганізоўваў іх лячэнне.

У музеі захоўваюцца здымкі Кастуся Каліноўскага, Валерыя Урублеўскага, Язэпа Шэмета і іншых паўстанцаў. Паўстанцкая каса — эта звычайная каса, у якай вуха выгнута ў кузні паралельна лязу, а таму яна больш нагадвае піку.

Генерал Ратч, паплечнік генерал-губернатара Мураўёва-вешальніка, меў магчымасць сустракацца ў турме з Кастусём Каліноўскім, а таксама мог чытаць усе пратаколы допытаў Кастуся Каліноўскага. Гэты генерал сцвярджае, што Кастусь Каліноўскі імкнуўся да незалежнасці Літвы і Беларусі. Тое ж сказаў адзін з кіраўнікоў паўстання Гейштар, а сакратар варшаўскага паўстанцкага ўрада Яноўскі сцвярджаў, што Кастусь Каліноўскі гатовы быў нават да грамадзянскай вайны, каб адстойваць незалежнасць Літвы і Беларусі. Вось арыгінальны маніфест цара Аляксандра II. Гэты дакумент ахвяраваны нам яшчэ ў 1968 годзе настаяцелем Гудзевіцкай царквы Міхаілам Гапонікам. Ён тады сказаў:

— У царкве ўсё роўна ўкрадуць.

Нам тады спадабаўся такі давер святара да нашага музея.

А вось побач плакат, аддрукаваны ў 1914 годзе, у якім вядзецца размова пра вызваленне сялян ад прыгону ў 1864 годзе. Менавіта гэты год цар Мікалай II лічыў годам вызвалення сялян ад прыгону, бо толькі тады сяляне атрымалі ва ўласнасць зямлю.

Вось урывак з тэксту Адама Станкевіча: «Бацькі Кастуся Каліноўскага паходзілі з Рэплі і займаліся вырабам абрусоў і сурвэт…»

Амаль трэцяя частка вучняў Гудзевіцкай школы — з Рэплеўскага сельсавета.

Ліст ад Генадзя Кісялёва сцвярджае, што сапраўды бацька Кастуся Каліноўскага паходзіў з Рэплі.

*1999*

## ГЭТА БЫЎ РОД ВОЛАТАЎ

Яшчэ за польскім часам, у 1938 ці, магчыма, у 1939 годзе, аднойчы летам матуля, яе звалі Вольга Канстанцінава, сказала мне: «Усё недзе бегаеш, а да нашай крамы прыходзіла Міклашова ўнучка Ларыса». (Тады мае бацькі мелі невялічкую краму.)

Я ўжо ведаў, што дачка Антона Паўлавіча Міклашэвіча Ларыса заўсёды з усімі размаўляе па-беларуску, што яна піша патрыятычныя вершы. Мая родная сястра Вера вучылася ў беларускай гімназіі і мяне выхавала ў духу глыбокай пашаны да ўсяго роднага, беларускага. Жыла сям’я Антона Міклашэвіча ў Жлобаўцах. Гэта кіламетраў за 10 ад Гудзевічаў. Мне давялося ў дзяцінстве сустракацца з бацькам Ларысы і яе братамі. Хоць мелі яны фальварак, але жылі па-сялянску: працавалі самі, бо на парабкаў ды служанак грошай не мелі. Адны працэнты ад пазыкі, якую атрымалі ў банку, перавышалі гадавы прыбытак гаспадаркі. Такая і маёмасная, і працоўная, і духоўная блізкасць да сялян дала магчымасць Ларысе зведаць і цяжкасці побыту сялян, і шчырасць іх узаемаадносін, і духоўнае багацце старэйшага пакалення, і паважлівыя адносіны моладзі Заходняй Беларусі да бацькоў і старых. Яна ўсё жыццё любіла беларускі народ, а мы, дзеці, былі закаханы ў яе, хоць бачыліся рэдка.

Род Міклашэвічаў шанавалі ў навакольных вёсках, а таму называлі па-простаму, па-сялянску: «Міклош», «Міклашы». Калі 17 верасня 1939 года Заходняя Беларусь была далучана да Усходняй, бывалі выпадкі, калі сяляне помсцілі мясцовым

абшарнікам. Нікому не прыйшла думка, каб пакрыўдзіць ці здзекавацца з Міклашэвічаў, бо іх у нас паважалі і любілі. Гэта былі паны, якія мелі мужыцкія карані.

Павел Францавіч Міклашэвіч, дзед Ларысы, быў з малазямельных сялян. Нарадзіўся ён у 1845 годзе. Працаваў балаголам, бо зямлі меў мала. Балаголамі у нас называлі сялян, якія на сваіх конях перавозілі купецкія тавары. Шляхам цяжкай працы і надзвычайнай беражлівасці яму ўдалося сабраць невялікія грошы і купіць маёнтак Астапкаўшчына, а пазней, прадаўшы яго, ён купіў Гудзевічы. Гэта быў маёнтак памерам 550 гектараў. У Гудзевічах была воласць, царква, пошта, школа. Павел Міклашэвіч, стаўшы ўжо панам, жыў папросту, захаваў сялянскую працавітасць і родную беларускую мову. Быў чалавекам ашчадным, разумным, рухавым. Нават летам уставаў на цямочку, а клаўся спаць ноччу. Парабкі казалі: «Міклош ніколі не спіць».

Гасцінец праз Гудзевічы быў вельмі ажыўлены. Тут за дзень праязджала многа фурманак, а таму на дарозе было шмат конскага гною. Дык вось, бывала, стары Міклош, ідучы па дарозе, не прапусціць ніводнага конскага «яблыка». Часам жартам хтосьці запытае ў яго:

— Што знайшлі, паночку, можа, золата?

— Так, браце, гэта і ёсць золата, толькі не кожны яго бачыць. Занясу на стайню, кіну гэтыя конскія «яблыкі» ў гной. Вясной вывезем на поле — і дадатковая сотня каласоў дасць столькі збожжа, што за адзін раз не ўкусіш. А на дарозе гэты гной не патрэбен.

Здавалася б, дробязь. Падумаеш, сто каласоў лепш вырастуць. А вось так каласок да каласка, жменька да жменькі, сявенька да сявенькі — і малазямельны селянін стаў фальваркоўцам, а пазней — заможным панам. Ён усю сваю энергію, талент і працавітасць накіраваў на ашчаднае збіральніцтва. Меў чатырох сыноў і кожнаму пакінуў па маёнтку. Гудзевічы дасталіся трэцяму сыну Уладзіміру, Поплава — Рыгору, Сабалеўшчына — Паўлу, а Антону купіў маёнтак Жлобаўцы, каля вёскі Палаўкі, што за кіламетр ад Воўпы. У Гудзевічах 9 жніўня 1910 года нарадзілася

Ларыса, дачка Антона Міклашэвіча. Дзяцінства будучая вядомая паэтка правяла ў маёнтку Жлобаўцы.

Павел Францавіч Міклашэвіч быў вельмі ашчадны гаспадар, але ён у 1910 годзе ахвяраваў Гудзевіцкай царкве чатыры доўгія лавы (па 10 метраў кожная). Дапамагаў сялянам. Гудзевічы абсадзіў бэзам і ліпамі. На сваім фальварку меў шмат будынкаў. Цяпер амаль уся тая забудова і прыгажосць знішчаны.

У ліпені 1944 года немцы спалілі чварак, у якім жылі тры сям'і парабкаў і сям'я пана. А ўсе панскія будынкі (бровар, стайні, аборы, свірны, хлявы, гумны) былі бяздумна разабраны ў 1944–1945 гадах па загаду мясцовых уладаў. Патрэбы ў тым знішчэнні ніякай не было. На іх месцы засталіся ляжаць вялікія кучы камянёў. Гэтыя будынкі былі зроблены з велізарных камянёў. Таўшчыня некаторых сцен складала амаль метр. Яны пазней вельмі спатрэбіліся б тутэйшаму калгасу. Ад былой велічы ў Гудзевічах захаваліся толькі брама 300-гадовай даўнасці, прыгожы помнік на магіле Паўла Францавіча ды помнік, які паставіў у 1908 годзе на скрыжаванні дарог сам Павел. На помніку выбіты словы: «Господи, заступи и спаси насъ и наши земли отъ града и всех напастей. П. Миклашевичъ. 1908 г.» Гэты помнік у 1970-х гадах атэісты скінулі ў лужыну, вернікі паставілі яго на старое месца, але актывісты зноў скінулі, ужо на дарогу. У 1985 годзе мы з супрацоўніцай музея Аленай Пятроўнай Хомка схавалі яго на складзе ў музеі, а ў 1993 годзе з дапамогай майстра Івана Дзямбіцкага зноў паставілі на скрыжаванні дарог у вёсцы Гудзевічы.

Памёр Павел Францавіч 6 жніўня 1929 года. Пахавалі яго на Гудзевіцкім могільніку, каля самага гасцінца. На магіле ўзведзены каменны помнік у выглядзе двух ствалоў дуба з сукамі, з шурпатай карой. На камені выбіты словы: «ПАВЕЛЪ ФРАНЦЕВИЧЪ МИКЛАШЕВИЧЪ ск. 6 августа 1929 г. на 85 году жизни+».

Ларыса Геніюш часта наведвала магілу дзеда, ганарылася ім. Верш «Гудзевічы» яна заканчвае словамі:

> Гудзевічы! Род мой незабыты!
> Беларуская мая сям'я!

Дождж змывае з надмагільнай пліты
Дарагое дзедава імя.

Дзядзька Ларысы Геніюш Уладзімір Паўлавіч у 1930-х гадах гаспадарыў у Гудзевічах. Ён скончыў духоўную семінарыю, але святаром не працаваў, бо быў не згодны з некаторымі догматамі царквы. Быў чалавекам адукаваным, веруючым і добразычлівым. Хоць ён меў нямала зямлі (поле, лес, сенажаць, тарфянікі — усяго каля 180 гектараў), багатым не быў. На яго тарфяніках сяляне капалі сабе торф і нічога за гэта не плацілі. Лес на будаўніцтва для людзей, якія вярнуліся з бежанства пасля Першай сусветнай вайны, аддаваў бясплатна, а некаторым нават дапамагаў вывезці бярвёны на гасцінец. Многія сяляне пасвілі на яго сенажаці кароў, але за карыстанне пашай таксама не плацілі. Салому раздаваў людзям амаль дарам. Калі мой бацька, Мікалай Белакоз, які да 1928 года жыў у Юраўлянах і лічыў Міклашэвічаў блізкімі землякамі, бо яны паходзілі з мястэчка Крынкі, папрасіў у пана дазволу купіць саломы, дык той сказаў: «Бяры са стога колькі павяжаш». Бацька папрасіў аднаго мужчыну з вёскі, Андрэя Шайногу, які ўмеў класці вялікія вазы. Той узяў у суседа фургон, яны запраглі пару коней, паехалі ў поле і забралі ўвесь стог. Пан вельмі здзівіўся, што змаглі забраць так многа саломы, аднак і за вялікі воз не ўзяў грошай, а бацька за тое запрасіў яго ў госці на суботу і добра пачаставаў. Уладзімір Міклашэвіч быў вельмі шчодры: жабраку менш чым злоты не даваў. Ён дажыўся да таго, што за даўгі аддаў апошнюю карову, а яго дзеці не мелі шклянкі малака. Калі ў сакавіку 1940 года два міліцыянты прыйшлі яго арыштоўваць, каб выслаць як абшарніка, то ён не меў нават ботаў. Пайшоў у валёнках без галошаў, хоць ужо раставаў снег. Яго расстралялі толькі за тое, што меў маёнтак. Людзі яго шкадавалі, бо быў вельмі гасцінны і чулы чалавек. У свой час Уладзімір прарочыў Гудзевічам вялікую славу. Ён сказаў: «Гудзевічы некалі будуць гудзець». Сапраўды, дзякуючы нашаму Гудзевіцкаму музею вёска стала вядома ў Еўропе і людзі едуць сюды нават з-за мяжы.

Пра ўмовы працы і жыцця парабкаў у Гудзевічах расказаў мне Сцяпан, сын парабка Сцяпана Маршалкі. Яго бацька меў у вёсцы Петрашоўцы тры гектары зямлі, а яго маці ў вёсцы Сухінічы — чатыры гектары. Здавалася, быццам і нямала, але Сухінічы далёка і апрацоўваць зямлю там нязручна, а ў Петрашоўцах зямлі малавата. Вось і вырашыў Маршалак Сцяпан аддаць зямлю ў Сухінічах у арэнду, а сам пайшоў парабкаваць да Уладзіміра Міклашэвіча. Умовы былі добрыя. Пан за год плаціў 100 пудоў збожжа і яшчэ 200 злотых. Гэта разам складала на цяперашнія грошы каля 300 долараў. Парабак трымаў карову або нават дзве. Парабкоўскія, каровы стаялі ў адным хляве з панскімі, карміліся аднолькавым харчам. Вясной, улетку ды ўвосень іх пасвілі разам з панскімі. Абавязак жонкі парабка быў адзіны: падаіць для сваёй сям'і сваю карову.

Кожны парабак вясной садзіў панскімі коньмі на панскай зямлі каля 0,7 морга (40 або 50 сотак) бульбы для сваёй сям'і. Уся апрацоўка бульбы праводзілася панскімі коньмі і інвентаром бясплатна. Увосень наворвалі і вазілі ў склеп парабка па 6–10 тон бульбы, а таму трымалі па 3–4 свінні. Сям'я парабка магла трымаць неабмежаваную колькасць птаства. Асабліва шмат у Гудзевічах было гусей. Жонка парабка магла хадзіць на падзённую працу на панскае поле ці ў агарод. Плацілі жанчынам у залежнасці ад працы па 1 або 2 злотыя за дзень. Пасля 25 гадоў працы ў пана парабак атрымліваў пенсію або па жаданні парабка 6 гектараў зямлі, каня, воз, барану, плуг, саху. Хату, хлеў ды гумно з панскага лесу будавалі для парабка талакой такія ж парабкі.

Парабак, устаўшы раніцай, карміў сваіх коней, снедаў і а восьмай гадзіне ішоў на працу. У гарачыню стараліся працаваць да 12-й гадзіны, а пасля выходзілі ў поле а 15-й гадзіне.

Зімою працы было менш: арфавалі збожжа, рэзалі сечку, вывозілі на поле гной, рамантавалі будынкі.

Перад кожным святам парабкі працавалі да абеду. Мой тата быў каталік, працаваў добра, дык пан дазваляў яму святкаваць і каталіцкія святы. За год набіралася больш за дзясятак святаў.

Як былі пад Польшчай, у такіх жа ўмовах працавалі і парабкі Антона Міклашэвіча. Яны ў яго ніколі не былі пакрыўджаныя. У калгасе стала шмат горш, бо плацілі па 100 грамаў збожжа на працадзень ды капеек па 20 на старыя грошы (выпуску 1961 года).

Добрым словам успамінаюць сяляне Рыгора Міклашэвіча — старэйшага сына Паўла Францавіча. Быў прыгожы, рослы, плячысты. Але з хаты ніколі не выходзіў, бо казалі, што быў хворы на нейкую невылечную хваробу. Кіравала маёнткам яго жонка Грышыха, як яе звалі вяскоўцы. Яны мелі сыноў Лёніка і Віталя. Гэта былі вельмі дужыя і баявыя хлопцы. Асабліва Лёнік, які быў ахвочы падужацца са многімі. Любіў пагуляць і ў карты. Калі трэба было сялянам дапамагчы, напрыклад, перад дажджом звезці сена, то ў просьбе не адмаўляў. Калі ў 1939 годзе ў Заходнюю Беларусь прыйшлі бальшавікі, то сама Грышыха і ўся сям'я Лёніка перабраліся ў Польшчу, а Рыгор Міклашэвіч да таго часу ўжо памёр. Віталь нікуды не паехаў. Ён не думаў, што яго арыштуюць, быў вельмі набожным чалавекам і нават словам нікога ніколі не пакрыўдзіў. Яго забралі ноччу, і ніхто не ведае, дзе ён скончыў свой жыццёвы шлях.

Павел Паўлавіч — самы малодшы сын Паўла Францавіча Міклашэвіча. Быў ён вельмі гаспадарлівы. Хоць зямлі меў стольскі, як Уладзімір і Рыгор, але жыў значна багацей за іх. Меў 42 пародзістыя каровы. Карміў іх добра. І малака яны давалі шмат. Пабудаваў сваю сыраварню, у якой выраблялі галандскія сыры.

Харчавалася сям'я пана разам з парабкамі. Калі жонка зазлуецца на Паўла ды не наварыць страў на полудзень і не дазволіць варыць служанцы, то гаспадар разам з парабкамі прыязджаў да нас у краму. Мая матуля частавала іх смачнаю капустай. Бывалі на стале тут і цяляціна, і свініна, і катлеты. У дадатак Павел купляў каўбасу, селядцы, шпроты. Парабкі тады жартавалі: «Паночку, вы кожны дзень сварыцеся са сваёй паняй. Нам тут вельмі падабаецца». А Павел абяцаў, што будзе прыводзіць іх на абед да Белакоза кожны дзень. Любіў гумар і сам любіў пажартаваць, але толькі да пэўнай мяжы.

Аднойчы Павел Міклашэвіч у нас частаваў войта Антона Сямашку, якога ў вёсках называлі Валенцюком. Зайшоў камендант паліцыі Купчак, надзвычай шкодны чалавек. Нахмурыўся Павел, але і яму наліў кілішак. Аднак калі той сказаў нешта абразлівае пра беларусаў, то Павел схапіў яго за каўнер ды так шпурнуў у дзверы, што яны расчыніліся, а Купчак урэзаўся галавой у бочку з газай. Камендант быў здаровы і дужы, а тут страціў прытомнасць. Пасля гэтага Купчак з Міклашэвічамі абыходзіўся вельмі тактоўна.

Сяляне Паўла паважалі, напэўна, за тую дапамогу, якую ён са сваімі братамі аказваў ім, калі тыя вярнуліся з бежанства на папялішчы. Панічы ў сваім лесе дапамагалі вясковым мужчынам спусціць бярвенні. Калі ў 1938 годзе Павел памёр, то ў апошні шлях яго праводзілі ўсе жыхары навакольных вёсак.

Антон Міклашэвіч (другі сын Паўла Францавіча) жыў у Жлобаўцах. Гэта каля Палавок, які за два кіламетры ад мястэчка Воўпа. Меў каля 100 гектараў зямлі. Антон быў вельмі дужы, але разам з тым вельмі добры чалавек. Не цярпеў, калі кагосьці крыўдзяць. Аднойчы ў кірмашовы дзень на рынку ў Воўпе гандляры-габрэі абступілі Мікалая, гудзеўскага селяніна, і хацелі, каб ён прадаў карову за невялікую цану, хоць карова была пародзістая, малочная. Пагражалі, што калі ён не аддасць карову за іх цану, дык можа загарэцца яго хата, утапіцца сын ці павесіцца дачка. Прадавец пачаў прасіць не чапаць яго, але нахабныя купцы прадаўжалі націск на запалоханага селяніна. Якраз па рынку ішоў Антон. Ён заўсёды быў з трасніковай кульбачкаю, баяўся, калі раптам каго ўдарыць кулаком, дык можа нават забіць чалавека, а вось лёгкаю стусінкаю вялікай шкоды нікому не зробіць. Купцы, захопленыя шантажом, не заўважылі, што каля іх спыніўся пан Міклашэвіч. Яны вырывалі вяроўку з рук Мікалая, совалі яму мізэрныя грошы. Калі Антон зразумеў, што тут адбываецца, то пачаў хрысціць усіх габрэйскіх махляроў сваёю стусінкай. Відаць, пры гэтым прыкладаў немалую сілу, бо ўсіх «купцоў» як ветрам здула, а селянін удзячна казаў: «Ой, паночку, сам Бог паслаў вас сюды. Бачыце, хацелі амаль задарам

забраць маю Красулю». Пасля гэтага, як толькі на рынку ў Воўпе або Луніне (туды гудзевіцкія сяляне таксама ездзілі) з’яўляўся пан Антон Міклашэвіч, усе падобныя махляры знікалі.

Антон меў магутны бас. Спяваў у царкоўным хоры. Дзяк Пётр Язэпавіч Жук святамі запрашаў харыстаў на пачастунак. У яго быў вялікі дубовы стол. І вось аднойчы, калі на стале было шмат розных страў, дык Іван Ціхай пажартаваў: «Паночку, ты гэтага стала зубамі не падымеш». Антон нічога не адказаў, але тут жа падняў стол. Усе ахнулі.

Прывяду яшчэ адзін прыклад. Было гэта на Сабалеўшчыне, што належала Паўлу Паўлавічу. Мае дзядзькі па мацеры, Яўген і Кастусь Петрашэвічы, разам з Брыцьком будавалі двухпавярховы «магазын» (свіран для збожжа). Будаўнікі не маглі ўзняць бэльку на мур. Калі выйшаў з хаты Антон, яны папрасілі яго: «Памажыце, паночку, бо ўтрох бэльку не пакладзём». Антон узяў за камель адзін, а тыя тры будаўнікі — за верх бэлькі і ўсцягнулі яе на сцяну.

Неверагодна дужы быў чалавек. Калі ён прыходзіў на вечарынку ці кірмаш, дык боек там не ўзнікала. Калі ж здаралася бойка, дык ён браў тых зухаў, што счубіліся, за каўняры і шпурляў у розныя бакі. Пасля гэтага дзяцюкі ішлі дамоў або заставаліся на вечарынцы, але болей ужо не петушыліся і за чубы адзін аднаго не бралі.

Уся сям’я Антона жыла па-сялянску. З панамі ён быў панам, а з сялянамі — селянінам: разам з парабкам выкідаў гной з хлявоў, парабак араў адной парай коней, а ён — другой, касіў лепш за ўсіх. У пракосе ішоў першы, а скончыўшы пракос, пачынаў другі.

Аднойчы калі парабкі сабралі з поля камяні і завезлі іх да крушні, то скідалі іх з воза па некалькі штук. На той час ехаў Антон, і ён прапанаваў:

— Хлопцы, падніміце гнаярку, і камяні самі высыплюцца.

— Не падымаецца, — паскардзіўся парабак.

— То дазволь мне паспрабаваць. Можа, мяне паслухае, — сказаў ён.

Антон узяўся за гнаярку, яна лёгка паднялася, і камяні высыпаліся.

Гаварылі людзі з Палаўкоў, што калі Антона ў 1939 годзе арыштавалі і ў Гародні нейкія канваіры захацелі паздзекавацца з пана, то, як толькі яны пачалі яго біць, ён схапіў іх за каўняры і так стукнуў лбамі, што абодва страцілі прытомнасць. Напэўна, тады адразу там жа, у міліцыі, і вырашылі яго лёс. Кажуць, што расстралялі.

Міклашэвічы былі людзі дасціпныя, спагадлівыя і фізічна дужыя. Гэта быў род волатаў, моцных целам і духам. З гэтага роду і вядомая беларуская паэтка Ларыса Геніюш. Чалавечую годнасць, моц духу перадалі Ларысе ў спадчыну яе бацька Антон і дзед Павел, пра якога і цяпер ходзяць легенды.

У 1943 годзе Ларыса Геніюш была арыштавана савецкімі чэкістамі ў Празе. У 1949 годзе яна была асуджана Вярхоўным Судом БССР да 25 гадоў лагераў. Пасля вызвалення ў 1956 годзе пасялілася ў мястэчку Зэльва Гродзенскай вобласці, дзе правяла апошнія гады жыцця.

З Ларысы і яе мужа, лекара Янкі Пятровіча Геніюша, якія былі сапраўднымі беларускімі патрыётамі, я стараўся браць прыклад. Калі ў маі 1965 года мяне выклікалі ў Мінск на курсы кіраўнікоў раённых секцый беларускай мовы і літаратуры, дык разам з іншымі настаўнікамі арганізаваў дзве сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі. Такім чынам, лепшыя настаўнікі Беларусі змаглі сустрэцца з 46 паэтамі і празаікамі. Гэта было дрэнна ўспрынята Міністэрствам асветы, і курсы закончылі датэрмінова, дакладней, нас з курсаў прагналі.

Пасля гэтага я пачаў актыўныя дзеянні супраць вынішчэння беларускай мовы. Даў заданне вучням старэйшых класаў, каб яны папрасілі пісьменнікаў напісаць свае меркаванні пра значэнне роднай мовы, каб прыслалі свае творы з пажаданнямі для вучняў Гудзевіцкай школы (такая яе тутэйшая назва), чарнавікі твораў пісьменнікаў, фотаздымкі ды іншыя матэрыялы.

Сярод тых, хто адгукнуўся тады на нашы просьбы, былі Ларыса Геніюш, Іван Мележ, Уладзімір Караткевіч, Сяргей

Грахоўскі, Ніл Гілевіч, Арсень Ліс, Васіль Быкаў, Мікола Прашковіч, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Аляксей Карпюк, Данута Бічэль, Ніна Тарас, Васіль Вітка, Ян Скрыган, Сцяпан Александровіч і іншыя. Я пачаў ствараць у школе літаратурны музей. Ларыса Геніюш не толькі прыслала для музея лісты, фотаздымкі, рукапісы сваіх вершаў, але і запрасіла прыехаць у Зэльву для сустрэчы.

Мая жонка Вера Ігнатаўна і я паехалі да Аляксандра Аляксандравіча Галавача, дырэктара Зэльвенскай школы-інтэрната, нашага сябра, які крыху ведаў Ларысу Геніюш. Спадар Галавач разумеў, што кантакты з паэткай-патрыёткай кантралююцца адпаведнымі органамі, а таму пайшлі на сутонні ўчацвярых, ён з жонкай і мы. Геніюшы нас чакалі. Стол быў засланы саматканым абрусам. Па дыяганалі ляжаў доўгі і прыгожы саматканы пояс. Стол сервіраваны на шэсць асоб.

Нас уразіла вялікая колькасць кніг. Я таксама захапляўся літаратурай і сабраў некалькі тысяч кніг мастацкай і навуковай літаратуры, аднак бібліятэка Геніюшаў у некалькі разоў па колькасці кніг пераўзыходзіла нашу. На сценах віселі партрэты Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і іншыя. Мне ўжо перад гэтым пашчасціла блізка сустракацца з Арсенем Лісам, Нілам Гілевічам, Максімам Танкам, Іванам Мележам, Сяргеем Грахоўскім, Васілём Віткам, Янам Скрыганам і іншымі вядомымі людзьмі. Кожны з іх здзіўляў мяне сваёй прастатой, спагадай да нашай задумы, аднак спадарыня Ларыса і яе муж адразу ж літаральна зачаравалі нас сваёй гасціннасцю і энцыклапедычнымі ведамі. І хоць я адразу адчуў, наколькі яны пераўзыходзяць нас сваёй эрудыцыяй, аднак яны так паводзілі сябе, што здавалася, быццам і мы няблага разбіраемся ў літаратуры, мастацтве, культуры і гісторыі Беларусі. З вуснаў чалавека энцыклапедычных ведаў, спадара Янкі, часта зрываліся выразы: «То вы і гэта чыталі, і яго ведаеце». Янка працаваў лекарам па скурных хваробах і быў вялікім патрыётам Беларусі.

Гэта быў час, калі М. Хрушчова змяніў Л. Брэжнеў, які ў многім вяртаўся да традыцый сталінскага рэжыму. Мы гаварылі

пра ціск на беларускую мову, пра цкаванне патрыётаў, фальсіфікацыю гісторыі, пра зацуглянасць літаратуры, пра тое, што ў Гудзевічах і наваколлі разбураюцца помнікі мінулага.

У 1966 ці 1967 годзе ездзілі да Генюшаў Аляксей Пяткевіч і я. Ён папрасіў мяне, каб пазнаёміў яго з таленавітай паэткай. Зноў надзвычай гасцінны прыём і самыя даверлівыя размовы.

Часта Ларыса Геніюш бывала ў Гудзевіцкім музеі і ў нашай хаце.

Часам здаралася, што Ларыса Антонаўна прывозіла па 10–15 чалавек гасцей. Была яна з Янкам Пятровічам на хрэсьбінах майго малодшага сына Міхася ў 1967 годзе. Праўда, на вяселле старэйшага сына Міколы не прыязджала, а толькі прыслала верш-віншаванне.

Напісала яна аднойчы, што мае падвойны дыван, які выткала ў 1900 годзе яе свякроўка. У канцы ліста запрашала мяне забраць яго.

Гасціннасць Ларысы Антонаўны не мела межаў. Вельмі любіла, калі ў яе хаце былі госці. На дыване, які цяпер красуецца ў музеі, выткана «1900 R». Па сваёй старажытнасці гэты дыван займае другое месца ў нашым музеі і ў Беларусі, бо маем яшчэ падвойны дыван, на якім выткана: «1898».

Не аднойчы я прасіў Ларысу Антонаўну, каб яна падабрала экспанаты для залы, якую я хацеў стварыць пра яе. Пісьменніца адказала:

— Як буду паміраць, то пакіну вам шмат экспанатаў.

Памірала яна ў Гродне ў анкалагічным шпіталі ў 1983 годзе. Мне былі дасланы дзве тэлеграмы, каб ехаў па спадчыну для музея і на пахаванне Ларысы Геніюш, але я тады сам ляжаў у шпіталі і лекары мяне не адпусцілі. На жаль, усё, што пакінула для Грудзевічаў пісьменніца-зямлячка, у наш музей не трапіла.

Праўда, Валянціна Геніюш (нявестка Ларысы Антонаўны) перадала нашаму музею 169 экспанатаў, у асноўным кнігі і пішучую машынку, на якой паэтка друкавала свае вершы, а таксама партрэты Кастуся Каліноўскага, Максіма Багдановіча, паяскі,

абраз на драўлянай дошцы XIX стагоддзя, бочачкі, збаночкі і шмат іншага.

Часта бываў у Геніюшаў Уладзімір Караткевіч. Бываў і адзін, і з матуляй, і з Міколам Прашковічам. Ларыса Антонаўна часам ушчувала яго як маці, як старэйшы сябра. І ён да Геніюшаў ставіўся з вялікай павагай.

Асаблівае месца ў яе жыцці займаў Максім Танк. Яна ўдзячна была Яўгену Іванавічу за клопат пра пісьменнікаў, пра яе. Аднак як функцыянеру, чалавеку, які ў партыйнай наменклатуры займаў значную пасаду, Ларыса Геніюш не давярала. Раілася са мной, ці паслухаць Максіма Танка ды прыняць савецкае грамадзянства. Спадарыня Ларыса згаджалася, што на кампрамісы з рэжымамі ісці нельга, а таму ні грамадзянства, ні членства ў Саюзе пісьменнікаў вырашыла не прымаць.

Памерла яна 7 красавіка 1983 года грамадзянкай БНР і Чэхаславакіі. Цяпер на яе магіле ў Зэльве стаіць помнік, да якога прыходзяць сотні беларусаў і нашых землякоў з замежных краін, каб аддаць даніну павагі мужнай патрыётцы, якая заўсёды была вернай дачкой сваёй Бацькаўшчыны.

*2003*

## ЮЛІЯ ЯЗЭПАЎНА БІБІЛА

Юлія Язэпаўна Бібіла — вядомы беларускі бібліёграф, шчырая беларуская патрыётка, крыштальна чысты і сумленны чалавек энцыклапедычных ведаў. Нарадзілася 10 студзеня 1897 года ў пасёлку Поразава Свіслацкага раёна ў сям'і валаснога пісара. Калі дзяўчынцы было 13 гадоў, памёр бацька. Нягледзячы на цяжкае матэрыяльнае становішча закончыла сем класаў Ваўкавыскай жаночай гімназіі і працягвала вучобу ў Бабруйскай жаночай гімназіі. Каб выжыць, займалася рэпетытарствам. У 1915 годзе паступіла на вышэйшыя жаночыя курсы ў Пецярбургу, якія сталі першым жаночым універсітэтам у Расіі. Займалася перакладамі, перапісваннем, давала ўрокі. У 1917 годзе пачынае ў Бабруйску сваю педагагічную дзейнасць і заваёўвае вялікі аўтарытэт сярод

слухачак і кіраўніцтва. У 1921 годзе займаецца бібліяграфіяй у Мінску і дасягае ў гэтай справе дасканаласці, складае дзясяткі бібліяграфічных даведнікаў, піша сотні навуковых прац, якія і сёння, і праз стагоддзі будуць мець велізарнае навуковае і выхаваўчае значэнне.

У той змрочны час, як і ва ўсе іншыя часы, любіць свой народ, родную Беларусь катэгарычна забаранялася. У 1937 годзе, ратуючыся ад арышту, Юлія Язэпаўна выехала ў Саратаў. Там зноў працуе многа і самаахвярна, бо інакш не можа. І тут яна складае бібліяграфічныя даведнікі, арганізуе бібліятэчныя аддзелы. Крывавая рука камуністычных халуёў дацягнулася да яе і ў Саратаве. У 1938 годзе яе арыштавалі. Мужна вытрымлівае абразы, бясконцыя допыты. Ніякай свае віны не прызнае, ніводнага дрэннага слова не сказала пра супрацоўнікаў, знаёмых. Яе віны нават лютыя шакалы рэвалюцыі даказаць не здолелі. Да вызвалення Юліі Язэпаўны спрычынілася і тое, што турмы і канцэнтрацыйныя лагеры былі перапоўнены, а Беларусь пакрыта магіламі сумленнейшых людзей нацыі, крыважэрнасць «рыцараў рэвалюцыі» была спатолена. Не дабіўшыся ніякіх прызнанняў, Юлію Язэпаўну выпускаюць з камуністычнага пекла. Гэтае кволенькае дзяўчо перамагае чалавеканенавісніцкую палітыку крыважэрных ленінцаў. Яна зноў працуе ў Саратаве, у Беларусь не вяртаецца, бо разумее, што для роднага народа зноў будзе працаваць сумленна і самаахвярна, а гэта ў савецкім пекле — злачынства. Нястомную працу для рускага народа не маглі прышыць да беларускага нацыяналізму. Ленін і ягоныя выкармкі-бандыты, акрамя падпісвання смяротных прысудаў ды крывавых забойстваў бязвінных сумленных людзей, самі ніколі нідзе не працавалі і не маглі цаніць патрыятызму ды працы сумленных людзей для карысці народа: такую працу яны лічылі злачынствам.

Толькі ў 1959 годзе, выйшаўшы на пенсію, Юлія Язэпаўна асмелілася вярнуцца ў мілую Беларусь. Ужо здох тыран народаў, верны ленінец Сталін, але яшчэ лютаваў іхні выкармак Хрушчоў, які садзіў у турмы за любоў да роднай мовы, за словы праўды.

Мушу прызнаць, што ў час панавання Брэжнева за патрыятызм стараліся не расстрэльваць людзей, не садзіць іх у турмы, але людзі, запалоханыя Сталіным ды Хрушчовым, за любую прапанову галасавалі аднагалосна. Тады з'явіўся такі чорны гумар: на прафсаюзным сходзе аб'явілі, каб пасля абеду прыходзілі на плошчу, бо ўсіх трэба да вечара павесіць.

— Хто за гэта?

Прагаласавалі «за».

— Ці ёсць пытанні? — пацікавіўся сакратар райкаму.

— А вяроўкамі забяспечыць прафсаюз ці свае прыносіць? — азваўся з натоўпу дэпутат.

З цяжкасцю сябры выбілі для Юліі Язэпаўны пакойчык у інтэрнаце з агульнымі для ўсіх насельнікаў зручнасцямі. Папасці там у туалет ці ўмывальнік або кухню — вялікая праблема, а пра душ ці ванну можна было толькі марыць.

Пенсія ў Юліі Язэпаўны таксама была жабрацкая, бо яна не складала расстрэльных спіскаў, нікога не забіла, ні на кога ніколі не данесла, нават на допытах нікога не прадала. Такіх не паважалі ў Саюзе. Гэта былі людзі самай нізкай касты.

Ганаруся, што бацька Юліі Язэпаўны Бібілы паходзіць з вёскі Нацавічы, якая каля Гудзевічаў. Ды і сама Юлія Язэпаўна лічыла сябе нашай зямлячкай. Дзякую Богу, што мне ўдалося пазнаёміць Юлію Язэпаўну з яе стрыечным братам Мікалаем Пятровічам Бібілам. Па гэтай прычыне яна мяне называла сватам, бо іх «сасватаў» (пазнаёміў). Якое шчасце, што Юлія Язэпаўна часта наведвала Гудзевічы: у выніку гэтага наш музей значна пабагацеў. Спадарыня Бібіла параіла мне ў нашым музеі адчыніць аддзел этнаграфіі. Першым экспанатам гэтага аддзела стаў пояс, які выткала і ахвяравала нашаму музею ў 1969 годзе Юлія Язэпаўна. Яна хацела навучыць мяне ткацтву паясоў, але я быў дрэнным вучнем, а ткацтву паясоў у яе навучылася Вера Ігнатаўна, мая жонка. Яна стварыла ткацкі гурток пры музеі, навучыла ткаць дзетак і супрацоўніц музея не толькі паяскі, але і ручнікі, фартухі, кужаль, пасцілкі, дываны і нават падвойныя дываны, якія ткалі толькі на Гарадзеншчыне. Мы ў бабулек

сабралі багацейшую калекцыю дываноў, паясоў, посцілак, сеннікоў, сукна, плаценка, кужалю, нават падвойных дываноў. Наша калекцыя падвойных дываноў самая багатая ў свеце. Мы мастакам, пісьменнікам, кампазітарам і многім іншым беларускім патрыётам ахвяроўвалі паясы, гальштукі, на якіх звычайна было выткана прозвішча і імя юбіляра ды дата юбілею. Станіслаў Пятровіч Шушкевіч у час сустрэчы ў Гудзевічах апавядаў нашым вучням, што імянны гальштук змясціў у шкляным футарале, які паставіў у шкляную шафу, каб на наш падарунак нават пылінка не села, але каб усе бачылі, які гэта цуд. Вельмі высока ацанілі нашы падарункі Уладзімір Караткевіч, Пімен Панчанка, Янка Брыль, Васіль Быкаў, Юры Семяняка, Мікола Купава, Пётра Сергіевіч. Яна і сама ахвяроўвала саматканыя паясы ды гальштукі беларускім патрыётам. А ткаць і ахвяроўваць такія каштоўныя рэчы мы здолелі толькі таму, што Веру Ігнатаўну Белакоз ткацтву навучыла Юлія Язэпаўна. Янка Брыль пісаў нам, што пісьменнікі ды мастакі ўспрымаюць нашы падарункі як узнагароды за патрыятызм. У асяроддзі беларускай інтэлігенцыі лічылася вялікім гонарам пад такім гальштукам з’явіцца на вечар ці з’езд, бо гэта сведчыла пра патрыятызм узнагароджанага намі дзеяча-беларуса, пра ягоную патрыятычную дзейнасць, пра ягоную сумленнасць. Пімен Панчанка пісаў нам, што наш юбілейны падарунак лічыць самай дарагой узнагародай.

Юлія Язэпаўна, наведваючы наш музей, заўсёды пыталася, каго яшчэ вучні Гудзевіцкай школы ўзнагародзілі за патрыятызм сваім гальштукам ці паяском.

Мушу прызнацца, што я лічыў матэрыяльнае становішча Юліі Язэпаўны бліскучым, бо яна так многа зрабіла для беларускага краязнаўства, таму ніколі мы не рабілі Юліі Язэпаўне нейкіх падарункаў-каштоўнасцяў. Толькі пазней мы даведаліся, у якіх цяжкіх матэрыяльных і маральных умовах яна жыла. Думаю, прыйдзе час, што побач з Ефрасінняй Полацкай і Францыскам Скарынам беларусы пачнуць лічыць святымі Юлію Бібілу, Ларысу Геніюш, Зоську Верас, Пімена Панчанку, Янку Брыля ды

яшчэ з дзясятак беларускіх дзеячаў-патрыётаў, а ў Гудзевіцкім музеі заўсёды будзе існаваць аддзел Бібілаў.

*2009*

## МІХАСЬ ЯВАР

У 1965 годзе ў Мінску быў выдадзены зборнік вершаў заходнебеларускіх паэтаў «Сцягі і паходні». Уладзімір Калеснік змясціў у ім біяграфічныя звесткі пра кожнага з паэтаў, творы якіх друкаваліся ў гэтай кнізе.

Пра Міхася Явара там згадана толькі чатыры радкі: «Пад уздзеяннем паэзіі Міхася Васілька пісаў, напрыклад, яго друг Міхась Явар, рыбак з вёскі Луна Скідзельскага павета. У 1932 годзе даведзены да адчаю паэт скончыў жыццё самагубствам».

Мы і раней цікавіліся біяграфіяй паэта і ўжо ведалі, што ён нарадзіўся і пражыў усё жыццё, акрамя бежанства, у Мінявічах. Але каб даказаць гэта, патрэбны былі факты.

У 1968 годзе шасцікласнікі Гудзевіцкай СШ рушылі ў паход: Гудзевічы–Луна–Падбараны–Мінявічы–Багатырэвічы–Гудзевічы. Там вучням удалося сабраць цікавыя ўспаміны аднавяскоўцаў. Асабліва каштоўны дыялог адбыўся паміж Хведарам Пятровічам Макарчыкам, 70-гадовым жыхаром Мінявіч, і вучнямі Гудзевіцкай СШ.

— Дзеду, ці ведалі вы Міхася Явара? — звярнуліся мы да Хведара Пятровіча.

— З Мішам Карасём (такое прозвішча Явара) я сябраваў, — сказаў дзядуля. — Гэта быў сапраўдны патрыёт, часта чытаў нам беларускія і рускія кніжкі, а таксама свае вершы. У іх паэт заклікаў да барацьбы за зямлю, за беларускія школы. Часта да яго чапляліся паліцманы, арыштоўвалі, катавалі. Моладзь пад кіраўніцтвам свайго паэта наладжвала самадзейныя выступленні. Выручаныя грошы ішлі на падпольную работу. Міхась быў членам Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Вельмі прыгожа спяваў. Асабліва любіў песні «Нёман» на словы Янкі Купалы, «Люблю наш край», «Зорка Венера». Аднойчы на бе-

разе Нёмана я вудзіў рыбу. У гэты час плыў на чоўне Міхась. Ён натхнёна спяваў. Калі праплываў каля мяне, спытаў: «Як, Федзя, атрымліваецца ў мяне крыху?» — «Што ты, Міша, — адказаў я. — Ты ж цудоўна спяваеш!» Па беразе ішлі дзве багатыя дачніцы. Адна з іх папрасіла: «Заспявай яшчэ, дам залатоўку». Міша адразу ж адказаў: «Дам дзве, каб толькі не спяваць для вас. Песні нашы не прадаюцца». Міхась быў горды, мужны, свабодалюбівы і праўдзівы чалавек. Ён часта гаварыў сялянам пра тое, чаму на свеце існуюць няпраўда і няроўнасць, гаварыў, як дабівацца сваіх правоў. Карасі жылі бедна. Сям’я была вялікая: бацька і маці, малодшы брат Вася, сёстры Люба і Вольга. Але Міхась быў заўсёды акуратна апрануты, любіў парадак і ахайнасць. Задумаў стаць рыбаком, ды не было свайго чоўна. Знайшоў недзе ствол крывога дрэва, прывёз пад хату і пачаў яго абчэсваць. «Міша, што ты робіш?» — запытаў я, праходзячы каля яго. «Думаю човен выштукаваць». — «Дык матэрыял у цябе крывы». — «Павінна што-небудзь атрымацца». І праўда, атрымаўся нават добры човен. Залатыя рукі і разумную галаву меў наш Міша. За што возьмецца, бывала, усё зробіць. За злоўленую рыбу купіў радыё з навушнікамі.

Вечарамі да паэта збіраліся моладзь і старэйшыя, а Міхась уключаў Мінск. Людзі слухалі голас Саветаў з асалодай, лавілі кожнае роднае беларускае слова.

Асабістыя няшчасці і хвароба давялі хлопца да самагубства. На пахаванне прыйшло мноства народу. Добры быў хлопец, то і шкадавалі ўсе.

У вёсцы і цяпер стаіць хата, у якой жыў Міхась. Толькі саламяную страху змянілі шыферам. Зараз у доме жыве Пётр Дадушка. Сялянская хата зацікавіла людзей. Тут жыў мужны, таленавіты, настойлівы паэт-змагар. У руках хлопчыкаў з’явіліся фотаапараты. Жытло старэнькае, вечна стаяць не будзе. Трэба захаваць здымак хаты на памяць.

Большасць аднавяскоўцаў сцвярджала, што памёр Міхась Явар у 1933 годзе, але некаторыя не маглі дакладна ўспомніць

час смерці Явара. Пошукі трэба было працягваць. Паляцелі лісты ў Мінск і Вільню, Гродна і Мінявічы.

Нарэшце ў часопісе «Шлях моладзі» за ліпень–жнівень 1933 года нам удалося знайсці некралог на смерць Міхася Явара:

«24 чэрвеня с. г., седзячы над берагам Нёмана каля роднае вёскі Мінявічы Луненскай гміны Гродзенскага пав., выстралам з рэвальвера перарваў свае жыццё малады беларускі паэт Міхась Явар (Карась).

Родная сястра паэта, відаць, прадчуваючы нешта кепскае, сачыла за братам і, калі пабачыла, што ён хоча сабе абарваць жыццё, хацела яму ў гэтым перашкодзіць. Але было ўжо запозна, бо скіраваны ў грудзі рэвальвер выстраліў. І хоць куля ў сэрца не папала, то аднак прычынілася да таго, што 27 чэрвеня Міхась Явар сканаў у Горадні, куды перавезены быў на лекі. Міхась Явар з'яўляўся нашым сталым супрацоўнікам. Ягоныя творы былі друкаваныя на бачынах часопіса "Шлях моладзі". Апроч таго маем яшчэ некалькі вершаў недрукаваных... Прадчасная смерць паэта з'яўляецца для нас вельмі балючай.

Паходзіў Міхась Явар з небагатае беларускае сялянскае сям'і. Ён глыбока перажываў сучасны стан і цяжкае палажэнне беларускага народа. Здароўе меў слабое і доўга хварэў на сухоты. Апошнім часам папаў ён у цяжкія жыццёвыя абставіны. І гэта так забойча дзейнічала на ягоную маладую душу, што нервы больш не маглі вытрымаць.

Смерць М. Явара ставіць прад вачыма кожнага, а асабліва маладога беларуса (беларускі) абраз жудаснага жыцця нашага народа ў сучаснасці, што даводзіць да роспачы і трагічных канцоў, як толькі што апісаны. Вынік гэтага бязмежнага абяднення і ўтраты веры ў жыццё і свае собскія сілы. Над паправай быту нашага народа і над узмацненнем у ім веры ў жыццё мусіме дзеля таго яшчэ сільней працаваць, каб гэткія і ім падобныя здарэнні не паўтараліся.

Вернаму ж сыну народа хай лёгкая будзе родная зямелька!»

(Шлях моладзі. 1933. № 7–8)

Пачаліся новыя пошукі. У выніку перапісак з пісьменнікамі і журналістамі нам удалося знайсці вершы паэта «Шляхам цярністым», «Гукі далёкія», «Вечар», «Зімой», «Ружы і салавей», «О Нёман мой мілы» і паэмы «За сэрцам» і «Думы ў адзіноце».

Праз год гудзевічане зноў наведалі Падбараны. Там на могільніку пахаваны Міхась Явар. Гэта адзіная магіла беларускага паэта на Мастоўшчыне. Аднак тады ніхто дакладна не мог паказаць месца пахавання Міхася Явара.

Толькі ў 1970 годзе жыхар в. Падбараны Яўген Канстанцінавіч Петрашэвіч дакладна паказаў магілу паэта. Вучні нашай школы на магіле пасадзілі кветкі, дагледзелі яе. Нас хвалявала, што на магіле няма помніка, мы баяліся, каб на тым месцы не пахавалі каго-небудзь. У 1974 годзе школьнікі зноў наведалі могільнік каля Падбаранаў, аправілі магілу паэта.

Гэтыя ж вучні пры дапамозе настаўніка Гудзевіцкай школы зрабілі манументальны абеліск з таўшчэзнага дуба, а 1 чэрвеня 1976 года устанавілі гэты абеліск на магіле Міхася Явара. Каля магілы паэта быў праведзены ўрачысты збор, прысвечаны памяці Міхася Явара. Дзеці чыталі яго вершы, спявалі яго любімыя песні, расказвалі пра жыццё і дзейнасць паэта. На сходзе прысутнічала сястра паэта Любоў Андрэеўна Карналюк, якая толькі нядаўна вярнулася з Крыма ў Беларусь.

Пасля гэтага вучні яшчэ раз прайшлі па мясцінах паэта. У зборніку «Сцягі і паходні» Уладзімір Калеснік не здолеў змясціць фатаграфіі М. Явара, бо не меў яе. Нашы вучні адшукалі некалькі здымкаў паэта, а адзін з іх нават з аўтографам Міхася Явара. На адваротным баку фатаграфіі прыгожым почыркам размашыста напісана: «Знімаўся 7-га ліпня 1928 г. М. Карась».

У літаратурна-краязнаўчым музеі Гудзевіцкай сярэдняй школы ўстаноўлены бюст М. Явара ў натуральную велічыню. Такі ж бюст падораны нашым настаўнікам Музею баявой славы Луненскай СШ.

У літаратурна-краязнаўчым музеі аформлены стэнд «Мастоўшчына і літаратура». Тут змешчаны матэрыял пра Міхася Явара.

*1976*

## З ЖЫЦЦЯ ПЕСНЯРА

Адзін з вучняў нашай школы, Мечыслаў Палавеня, аднойчы на ўроку беларускай літаратуры даведаўся, што ў Мінску жыве і працуе сын коласаўскага «дарэктара». Праз музей Якуба Коласа ён адшукаў яго адрас і пачаў з ім перапіску. Гэта быў вядомы беларускі вучоны, доктар хімічных навук, член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР Мікалай Іванавіч Міцкевіч.

Мечыслаў Палавеня атрымаў ад М. І. Міцкевіча некалькі пісьмаў, у якіх расказаў пра лёс Яські — «дарэктара», пра шчодрасць і чалавечнасць Якуба Коласа, пра яго адносіны да людзей, да працы. Аўтару пісьмаў давялося жыць у доме беларускага песняра, быць членам яго сям'і.

Успаміны М. І. Міцкевіча пра Якуба Коласа — адзін з каштоўных экспанатаў школьнага літаратурна-краязнаўчага музея. Гэты матэрыял мае пэўную каштоўнасць для літаратуразнаўцаў. Пра гэта расказвае супрацоўнік музея М. Базарэвіч у газеце «Звязда» за 14 кастрычніка 1971 года. Нам прыемна, што нашу даследчую работу высока цэняць у рэспубліканскім друку.

Хочацца сказаць, што нашымі вучнямі, членамі літаратурна-краязнаўчага гуртка, юнымі даследчыкамі роднай літаратуры праведзена вялікая работа па зборы матэрыялаў пра Я. Коласа. Аматары краязнаўчай работы школы даўно займаюцца даследаваннямі. Пісьмы з тытульнымі лістамі літаратурна-краязнаўчага музея Гудзевіцкай школы ідуць у Гродна і Брэст, Мінск і Вільнюс, Львоў і Ерэван, Беласток і Лодзь, Лондан і Сант'яга, Рым і шмат яшчэ куды.

Што ж нам дае гэтая перапіска? У выніку яе сабрана многа даследаванняў і перакладаў, артыкулаў і выказванняў, успамінаў і старадрукаў. Сярод іх ёсць і такія, якія маюць лічаныя музеі. Усе матэрыялы выкарыстоўваюцца ў выхаваўчай рабоце.

Цікавы верш Якуба Коласа даслаў музею школы былы вучань паэт Мікалай Сцяпанавіч Мініч. Гэты верш нідзе не друкаваўся, а запісаў яго М. Мініч па памяці.

Шмат дапамагаў нам у стварэнні музея прафесар Фёдар Янкоўскі, вядомы беларускі вучоны-мовавед. Шэраг каштоўных

матэрыялаў даслалі іншыя пісьменнікі, мастакі, кампазітары, артысты, літаратуразнаўцы і вучоныя.

Прапаную ўвазе чытачоў кнігі пісьмо Мікалая Іванавіча Міцкевіча да вучня школы М. Палавені, дзе расказваецца многа пра Я. Коласа.

## Пісьмо вучонага да вучня

Паважаны Мечыслаў! Атрымаў другое пісьмо. Праўда, затрымаўся з адказам, бо быў у камандзіроўцы. Пастараюся адказаць падрабязна, каб аказаць нейкую дапамогу вашаму музею. Вельмі рад, што вы збіраеце матэрыялы пра жыццё Я. Коласа.

Я. Колас са сваёй вялікай сям'ёй жыў у 1926 годзе на кватэры, якую здымаў у прыватнага гаспадара. Краіна наша тады была бедная, і нават Я. Коласу, такому вядомаму пісьменніку, не было дзяржаўнай кватэры. Я. Колас быў вымушаны будаваць свой дом на Вайсковым закулку (зараз — гэта тэрыторыя парка імя М. Горкага, у першыя дні вайны дом згарэў). Мне давялося жыць у 1928–1933 гадах у гэтым доме на другім паверсе разам са старэйшым сынам пісьменніка Данілам Канстанцінавічам Міцкевічам (зараз ён — дырэктар літаратурнага музея Якуба Коласа). Даніла Канстанцінавіч замяняў мне старэйшага брата (хоць мы і аднагодкі). Пад яго ўплывам я рос і стаў хімікам. За нашым прахадным пакоем быў рабочы кабінет Я. Коласа.

У гэтыя гады Канстанцін Міхайлавіч пісаў вельмі многа. Я раскажу пра тое, што мала апісана ў літаратуры: пра рабочы дзень вялікага пісьменніка. Уставаў Я. Колас вельмі рана. У доме было пячное ацяпленне, і таму ён праводзіў зранку нешта накшталт фіззарадкі — пілаваў дровы і калоў іх (купляліся і завозіліся ў двор звычайныя метровыя дровы). Пачынаў гэту работу Я. Колас звычайна адзін, потым прыходзіў хто-небудзь са старэйшых сыноў (Даніла, Юрка) ці я і дапамагалі яму пілаваць. Затым Я. Колас толькі сам калоў дровы на ўвесь дом, разносіў іх па пакоях і запальваў печку ў сваім кабінеце. У гэты час у доме ўжо ўставалі. Канстанцін Міхайлавіч снедаў і ішоў у свой пакой,

альбо ехаў па неабходнасці па справах у якую-небудзь установу (гэта адбывалася звычайна ў 11–12 гадзін).

Пасля абеду Канстанцін Міхайлавіч заўсёды адпачываў, а потым зноў працаваў у кабінеце да вячэры.

Вялікім другам і дарадчыкам Я. Коласа была яго жонка — Марыя Дзмітрыеўна, якая ўсю энергію аддавала сям'і і выхаванню дзяцей.

Канстанцін Міхайлавіч не быў гаваркім, але жартаўлівы і гасцінны. Ён любіў больш слухаць. Часта ў яго былі беларускія пісьменнікі і паэты, асабліва Я. Купала, з якім яны гулялі ў шахматы.

Бывала, вечарам (звычайна не часцей, чым раз у тыдзень) Канстанцін Міхайлавіч чытаў (у час вячэры) урыўкі з напісанага, тое, што яму здавалася найбольш удалым. Слухаць было вельмі прыемна.

Я. Колас быў чалавекам вялікай душы. Адным з такіх прыкладаў — яго пісьмо, адрасаванае мне на фронт. Я, шукаючы адрас маці, атрымаў з Масквы паведамленне, што Я. Колас жыве ў Ташкенце, і напісаў адразу пісьмо. Канстанцін Міхайлавіч зараз жа мне адказаў. Гэтае пісьмо ў мяне захавалася, я яго чытаў на фронце землякам. Пасля вайны я перадаў яго ў Літаратурны музей Я. Коласа. Адбітак пісьма высылаю. Высылаю таксама фота магілы бацькі.

Амаль ніякія даваенныя фота ў мяне не захаваліся. Ды маіх фота з сям'ёй Я. Коласа, мабыць, і не было.

З прывітаннем

*М. І. Міцкевіч*

## УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ І ГУДЗЕВІЧЫ

14 траўня 1967 года адбылася сустрэча гудзевіцкіх вучняў з Ларысай Геніюш, Васілём Быкавым, Вольгай Іпатавай, Данутай Бічэль, Аляксеем Пяткевічам і журналістам Алесем Жалкоўскім. Партыйныя ўлады тады гэта называлі «зборышчам беларускіх нацыяналістаў у Гудзевічах». Сустрэча прайшла надзвычай цікава, але не пра гэта гаворка.

Калі я вёз на гэтую сустрэчу Васіля Быкава, то па дарозе абмяркоўвалі тыя цяжкія ўмовы, у якіх тады мучылася беларуская літаратура.

— Цяжка ж вам, Васіль Уладзіміравіч, цярпець усе папрокі, выдумкі, абвінавачванні, якія ўвесь час не сходзяць са старонак перыядычнага друку ў ваш адрас, — паспачуваў я.

— Крытыка — гэта таксама прапаганда: чалавек, прачытаўшы пасквіль на Васіля Быкава, пацікавіцца ягонымі творамі, купіць ягоную кнігу. І калі ён не замбіраваны, то разбярэцца што да чаго. Значна цяжэй Валодзю Караткевічу: пра яго маўчаць, як быццам яго няма на свеце. Замоўчванне — самы ганебны спосаб праследу.

У Гудзевіцкай школе кожны вучань перапісваўся з тым ці іншым пісьменнікам. Вось вучань Міхась Белакоз па маім заданні папрасіў у Караткевіча-патрыёта для Гудзевіцкага музея ручку, якой ён, аўтар, напісаў раман «Каласы пад сярпом тваім», які мне вельмі спадабаўся гістарызмам, патрыятызмам. Часта здавалася, што пісьменнік нейкім цудоўным чынам падслухаў мае думкі і выказаў іх у сваім творы. Такія сугучныя былі нашы погляды.

Уладзімір Караткевіч, напэўна, разважаў так:

— Хтосьці з даследчыкаў калісьці будзе вывучаць фонды Гудзевіцкага музея і падумае, што Караткевіч, стварыўшы раман, тут жа ручку, якой пісаў гэты твор, выслаў у музей. Ці сціпла гэта?

Караткевіч, сціплы чалавек, папрасіў у свайго суседа Адама Мальдзіса:

— Ты сябруеш з Гудзевічамі, быў у іх, прадказаў Гудзевіцкаму музею бліскучую будучыню, карыстаешся ў іх бязмежным даверам і велізарнай пашанай. Пашлі ты ім ручку, якой я напісаў раман «Каласы пад сярпом тваім». Мне рабіць гэта не выпадае.

Адам Мальдзіс прыслаў нам самы дарагі падарунак, аднак мы захацелі, каб Караткевіч-праўдалюб пацвердзіў, што гэта тая самая ручка.

На наш запыт пісьменнік адказаў, што калі гэтая ручка пластмасавая, чырвоная, з белым металічным наканечнікам і калі яе прыслаў Адам Мальдзіс, то менавіта гэтай ручкай напісаны раман «Каласы пад сярпом тваім».

Цяпер гэтая ручка экспануецца ў аддзеле нашага музея «Паўстанне 1863–1964 гадоў». Экскурсанты з цікавасцю разглядаюць, фатаграфуюць яе, запісваюць звесткі пра яе ў свае блакноцікі. Пытаюцца, ці быў у Гудзевічах Караткевіч, патрыярх нашай гістарычнай прозы. Адказваю:

— Не, не быў. У канцы ліпеня 1967 года мы збіраліся хрысціць малодшага сына Міхаська. У той час Караткевіч, рэдактар зборніка Ларысы Геніюш «Невадам з Нёмана», гасцяваў з Міколам Прашковічам у Геніюшаў. Я ім усім паслаў запрашэнне на хрысціны. Уладзімір Караткевіч даў тэлеграму: «Калі Вы жадаеце, каб мы былі на хрысцінах, то прыедзьце ў гасціну да Геніюшаў».

Перад хрысцінамі было шмат клопатаў, бо запрасілі мы тады каля 100 чалавек. Не мог я ў такі адказны час узваліць усё на Веру Ігнатаўну, а сам адпачываць хоць нават з такімі вядомымі людзьмі, як Ларыса Геніюш ці Уладзімір Караткевіч. Вядома, сёння я шкадую, што тады не прыдумаў нейкага кампраміснага ходу. Я тэлеграмай адказаў: «Сардэчна ўсіх запрашаю на хрысціны. Прыехаць не магу».

На хрысціны прыехалі Ларыса Антонаўна, Янка Пятровіч, Мікола Прашковіч, а Караткевіч не прыехаў.

Пазней запрашалі мы яго на сустрэчу з гудзевіцкімі вучнямі, але ліст зайшоў у Мінск тады, калі Караткевіч быў у доўгатэр-

міновым ад'ездзе, а пазней запрашэнне страціла сілу з-за сваёй даўнасці.

У музеі маем шмат лістоў ад Уладзіміра Караткевіча. Калі мы рыхталіся да 70-годдзя пісьменніка, падрыхтавалі для наведвальнікаў нават і тыя лісты, якія пакуль не знаходзяцца ў экспазіцыі. Якраз зайшлі ў рабочы кабінет сантэхнікі. Кажу:

— Пачытайце. Калісьці хваліцца будзеце, што трымалі ў руках лісты, напісаныя самім Караткевічам, класікам беларускай літаратуры.

Хлопцы ўважліва прачыталі лісты, а выйшаўшы, вярнуліся і папрасілі:

— А ці можна іх сфатаграфаваць? Мы заўтра зойдзем.

Я падумаў, што калі гэта так цікава людзям, то, можа, варта надрукаваць іх у газеце.

У 1965 годзе я быў у Рэспубліканскім інстытуце ўдасканалення настаўнікаў на курсах кіраўнікоў раённых секцый беларускай мовы і літаратуры. Там пераканаўся, што Міністэрства асветы і ЦК КПБ робяць усё для знішчэння беларускай мовы, а значыць і беларускага народа. За тое, што я арганізаваў сустрэчу нашых курсантаў з 46, а пазней яшчэ з пяццю пісьменнікамі, мяне выклікалі ў Міністэрства асветы і там тры з палавінай гадзіны распіналі на крыжы, пужалі, дапытвалі, пагражалі.

Вярнуўшыся з курсаў, я стварыў гурток беларускай літаратуры, у якім дзеці вучыліся пісаць вершы, збіраць фальклор, шукаць легенды пра нашы тапонімы і мікратапонімы, збіраць экспанаты па этнаграфіі. Мы пачалі выдаваць літаратурна-краязнаўчы часопіс Гудзевіцкай сярэдняй школы «Праменьчык», тыраж якога быў 4 або 5 экзэмпляраў, аб'ём 300–600 і нават больш друкаваных на пішучай машынцы лістоў. У ім былі раздзелы: лірыка, сачыненні, проза, драматургія, крытыка, гумар, дапаможнік для экскурсавода, фальклор, тапаніміка і антрапанімія, лісты пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, артыстаў, вучоных і інш. Здаралася, што ў некаторых нумарах былі не ўсе гэтыя раздзелы. Лісты ад Ларысы Геніюш, Дануты Бічэль, Вольгі Іпатавай, Валянціны Коўтун, Аўгінні Кавалюк і іншых

пісьменнікаў былі вельмі змястоўныя. Многія з іх друкуюцца ў шматлікіх выданнях.

Вось што 8 лютага 1966 года пісаў вучаніцы 9-га класа Гудзевіцкай сярэдняй школы Ліліі Янушцы Уладзімір Караткевіч:

«Дарагія вучні!

Вельмі ўзрадаваны, што ваш гурток займаецца такой добрай справай. Рабіце яе і надалей. Вывучайце, ведайце, любіце нашу літаратуру.

Кніга наша за апошнія часы вырасла да сапраўдных вышынь. Літаратура наша пастунова выходзіць у рады лепшых літаратур свету. І я веру, што пройдзе час, і яе паважаць і любіць будуць на ўсёй зямлі, магчыма, нават на народнай, на жывой нашай мове.

Бо літаратура наша адна з тых рэдкіх літаратур, якая, нягледзячы на інтэлектуалізм, ніколі не губляла сувязі з чалавекам працы, з яго мовай, а значыць моцная не толькі розумам і прыгажосцю, а і сілай, чысцінёй, прастатой, непадробнай народнасцю.

Я даволі шмат чытаю, многімі нашымі паэтамі і празаікамі мог бы ганарыцца кожны на зямлі народ. Ганарыцеся і вы, ганарыцеся сваімі літаратурай і мовай.

Ваш Уладзімір Караткевіч».

## ЦІКАВАЯ І ВЕЛЬМІ «ІНТАРЭСНАЯ» ТЭМА

Не лічу сябе вялікім знаўцам беларускай мовы, аднак усё жыццё і з калгаснікамі, і з сакратарамі ЦК КПБ, і з міністрамі, і па радыё, і па тэлебачанні размаўляю толькі па-беларуску. У канцы сямідзясятых ці пачатку васьмідзясятых з Масквы прыехала група супрацоўнікаў тэлебачання, каб у перадачы «Время» даць матэрыял пра наш музей. Яны загадалі размаўляць па-руску, а я адказваў на пытанні па-беларуску. Перадачы не зрабілі і ў эфір не далі:

— Нам приказано делать передачи только по-русски.

Лухта гэта. Амерыканцы ці немцы або палякі выступалі па-свойму, і ніякіх праблем не мелі. А то прыехала з Астанкіна група тэлежурналістаў, каб зрабіць перадачу пра Гудзевіцкі му-

зей народнай медыцыны. Тады падумалася, што ў выніку гэтай перадачы народнымі сродкамі многія вернуць здароўе, захаваюць жыццё, а дзеля гэтага можна загаварыць хоць па-кітайску. Перадачу паўтарылі тройчы, а мне многія казалі:

— А я думаў, што ты не ўмееш размаўляць па-руску!

А як тут было не ўмець? Пасля вайны з усіх навакольных раёнаў восьмы клас, у які мне трэба было паступаць, быў толькі ў Ваўкавыскай рускай сярэдняй школе № 1. Дарэчы, у Ваўкавыску беларускай школы зусім не было, хоць гэта зусім не дарэчы. Хоць я ў Гарадзенскім педагагічным інстытуце вучыўся на беларускім аддзяленні, але нам усе прадметы, акрамя беларускай мовы і літаратуры, выкладалі па-руску. Нават родную беларускую мову мы вывучалі па падручніках для МГУ, у якіх усё, акрамя прыкладаў, было па-руску.

Сёння некаторыя кажуць:

— А камуністы не забаранялі беларускай мовы.

Так, не забаранялі, толькі мяне выклікалі ў КДБ і казалі:

— Белорусский язык должен исчезнуть, а вы нам мешаете.

А калі я адмовіўся разам з імі знішчаць родную мову, то мне арганізавалі такі «кантроль», што ўся школа завыла. А колькі алкаголікаў бясконца выхоўвалі мяне, каб зрабіць да іх падобным!

Дзіўлюся, што сёння, калі многія тыя мае выхавацелі самі сталі «беларускімі патрыётамі», калі за беларускае слова не пагражаюць цябе пабіць ці вызваліць ад працы, большасць журналістаў, дыктараў, нават пісьменнікаў не цікавяцца роднай мовай, не вывучаюць беларускай стылістыкі, лексікі, марфалогіі, нават фанетыкі. Нават прозвішчы свае паперакручвалі на замежны лад. Разумею, што Шаўка хацеў бы, каб ягонае прозвішча гучала далікатней. А вось якая розніца, Швайка ці Швайко? Нават Шаліхін патрабуе, каб пра яго пісалі Шэліхін. Але ненацiскная літара «э» ў нашай мове ўжываецца толькі ў іншамоўных прозвішчах неславянскага паходжання. Атрымліваецца, што Шэліхін не славянін, бо нават сам ён вымаўляе сваё прозвішча з націскам на другім складзе. Дарэчы, мы не маем права пісаць СвёнтЭк, СмулЭк, бо калі ў польскім прозвішчы пішацца «э», то яно абавязкова ў на-

шай мове націскное. Тады трэба казаць і пісаць Свянтэк, Смулэк. Мяне здзіўляе, што ўсе СукачЫ парабіліся СУкачамі. Хутчэй за ўсё, што слова «сукАч» утварылася ад «сук» (магчыма, цвёрды, як сук), а вось СУкач можа быць толькі ад «сУка». Часам нават пяшчотнае прозвішча Хомка (Хомачка) ад Хама цяпер гучыць Хамко. Першы склад такога варыянту абражае ягонага носьбіта. Амаль усе ЦенкушЫ, КлімуцІ, ТрайгелІ парабіліся ЦЕнкушамі, КлІмуцямі, ТрАйгелямі. Праўду сказаў Янка Купала, што нашыя людзі «ў скуру чужацкую лезуць жыўцом», бо бачыце, у польскай мове націск амаль заўсёды падае на перадапошні склад. Нават прафесары, настаўнікі ідуць на тое, каб скалечыць бацькава і дзедава прозвішча. А то такія паэтычныя прозвішчы, як Галоўка, Ручка, Праўда сёння ператвораны ў Галаўко, Ручко, Праўдо. Яшчэ можна пагадзіцца з дзяўчынай з прозвішчам Кішка. Яна імкнецца яго хоць крыху змяніць, і атрымліваецца Кішко. Аднак каб яна больш цікавілася гісторыяй, то ведала б, што род Кішкаў быў адным з самых славутых сярод магнацкіх родаў Беларусі. І нікому з гэтых магнатаў не прыходзіла ў галаву мяняць сваё прозвішча. Ім ганарыліся, імкнуліся незаплямленым перадаць нашчадкам. Уся гэтая навала на нас абрынулася таму, што нас здолелі пераканаць, быццам бы ўсё наша — дрэннае, а прозвішча сведчыць пра беларускае паходжанне. Вось абмежаваныя людзі імкнуліся адгарадзіцца фальшывым націскам ці перайначаным гукам ад бацькоў, дзядоў ды прадзедаў. Вось чаму ў беларускім Вярхоўным Савеце антыбеларускія настроі выяўляюцца на кожным кроку: то ветэранам «Пагоня» не падабаецца, то чырвоны сцяг мілейшы за бел-чырвона-белы, то іншы і не ветэран перакрывіць старшыню Вярхоўнага Савета за тое, што часта размаўляе па-беларуску, то раптам камусьці захочацца, каб мова суседняга народа стала дзяржаўнай і ў Беларусі, то нават старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь не размаўляе па-беларуску і нават робіць замах на суверэнітэт сваёй дзяржавы… Адкуль усё гэта? Ад выхавання ў духу нацыянальнага нігілізму, ад манкурцтва, ад рэнегацтва, ад няведання сваёй гісторыі, сваёй культуры, ад місіянераў ды іншых духоўнікаў, што з захаду ды ўсходу ідуць

ды ідуць на наш народ, каб паланізаваць ці русіфікаваць яго, каб знішчыць нас.

І сёння ні ўрад, ні Нацыянальная акадэмія навук Рэспублікі Беларусь нічога не робяць, каб ратаваць родны край, нашу мову чароўную.

Сёння на нас праз радыё, тэлебачанне, перыядычны друк льюцца рэкі розных памылак або злоўжыванняў.

Можа, не больш за год прайшоў з таго часу, як нейкі невук замест слова «цікавасць» ужыў слова «інтарэс». А сёння ўжо можна пачуць замест «цікавы» — «інтарэсны». Не абавязкова быць мовазнаўцам, каб заўважыць, што слова «цікавы» значна прыгажэйшае, мякчэйшае, карацейшае за «інтарэсны». Але ж адзін малапісьменны высокі чын сказаў «інтарэс» замест «цікавасць» — і многія пачалі ўжываць гэты ідыятызм, як калісьці пісьменнікі пачулі ад Шамякіна замест прыгожага «вядома» рускае «канешне» і пачалі малпаваць русіфікатара. У нас ужывалі слова «канечне» замест агульнавядомага «абавязкова».

У апошнія гады ў карэспандэнтаў ды дыктараў з'явіліся словы «Германія» замест «Нямеччына», «базар» замест «рынак» ці «кірмаш», «рад» замест «шэраг», «сорт» замест «гатунак». Мы здаём захопнікам адно слова за другім, а яны крычаць, што нацыяналісты дыскрымінуюць рускую мову, што ідзе прымусовая беларусізацыя. А на самай справе русіфікацыя працягваецца.

Лічу, што Міністэрства інфармацыі павінна мець аддзел, які б сачыў і дбаў пра чысціню мовы, які б папярэджваў безадказных журналістаў і нават пісьменнікаў, а пры злосным паўторы памылак — караў парушальнікаў моўнага рэжыму. Думаю, што ў гэтых адносінах маглі б штосьці рабіць і адпаведная камісія Вярхоўнага Савета, і Саюз пісьменнікаў Беларусі, і Саюз журналістаў, і Таварыства беларускай мовы. Сёння мы ўсе так скалечаны, што паасобку з гэтай багны не выцерабімся.

*1992*

# САША РЫЖКО
# І ГУДЗЕВІЦКІ МУЗЕЙ

Часта ў газетах, часопісах, па радыё ды тэлебачанні паведамляюць, што Белакоз стварыў Гудзевіцкі музей. Гэта не так: стваральнікаў каля паўтары тысячы вучняў.

Сёння распавяду пра майго былога вучня Сашу Рыжка. Не быў Саша выдатнікам, але галаву на плячах меў, а чацвёркі ды пяцёркі былі частымі ў ягоным дзённіку. Хоць, як і ўсе дзеці ў вёсцы, вельмі шмат у чым дапамагаў бацькам, аднак ад працы ў музеі ніколі не адмаўляўся. Збіраў экспанаты, дапамагаў абсталёўваць сялянскую хату-музей XVIII стагоддзя, перапісваўся з пісьменнікамі, у тым ліку з дзядзькам Юзікам, родным братам Якуба Коласа. Чатырнаццацігадовы хлопчык запытаўся ў яго, што было з тою новаю зямлёю. У паэме Міхал памёр, і ўсё скончылася. Але ж прататыпы засталіся жыць. Ці яны купілі «Новую зямлю»? Вось што адказаў дзядзька Юзік:

«Смольня 9/IV-71 г.

Паважаны Саша Рыжко!

Адказвае на тваё пісьмо брат Якуба Коласа Юзік. Хачу задаволіць Вашу просьбу, але ці здолею: вочы мае зусім сапсаваліся. З левым вокам быў на аперацыі. Правае таксама закрываецца. Дзяцінства маё апісвае Колас: “А гэты Юзік-шаляніца малы зусім, яшчэ дурніца…” Гадаваўся на адзіноце, сярод лясных абшараў і сярод свёей мнагалікай сям’і. Ранняе маё дзяцінства праходзіла ў Альбуці (Парэччы). Радзіма наша — вёска Мікалаеўшчына, чатыры кіламетры ад Парэчча. У Мікалаеўшчыне ўжо існавала царская школа (народная).

Дарос на адзіноце да школьнага ўзросту, быццам звярок. Мяне сталі рыхтаваць у школу. Гэта быў мой найвялікшы страх. І не дзіва: дзікара кінуць у людзі. Я плакаў і пытаў дзядзьку Антося: “Чаму вы мяне аднаго выпраўляеце? Няхай бы разам з сястрой Гэляй!” Дзядзька Антось адказаў: “Гэлю няграматную замуж возьмуць!” А я ў сваю чаргу адказаў: “А я няграматны

ажанюся”. І падняў агульны смех. За Коласа я малодшы амаль на 13 гадоў. Колас мяне вучыў і трос за вушы. У 1905 годзе, у час рэвалюцыі ў царскай Расіі, Колас мяне браў у Пінкавіцкую школу. У гэтай школе Колас быў заўважаны як рэвалюцыянер і пераведзены сярод зімы ў Вярхменьскую школу на Ігуменшчыне. Тут мы засталі настаўнікаў Анціповіча і Хрыпача. Аб іх лёсе я нічога не ведаю. Уяўляю, што Анціповіч быў ветлівы і спакойны чалавек. Хрыпач быў заядлы п’яніца, бо п’янага і засталі. Ліда Мураўская (Мурашко) і яе брат Мікалай Мурашко. Гэта былі вучні. Ліда вучылася ў трэцім класе, была рослая і прыгожая дзяўчына. Колас аб ёй многа піша ў трылогіі. А калі піша, то магчыма, што Ліда мела магніт. Але ў той час я мала кеміў. Зямлю, якую куплялі ля Слуцка, Колас аб гэтым піша: “Агляд зямлі. Дык так! Тры тысячы, Фядосе…” Зямля была куплена. Бацька ў скорым часе памёр. Старэйшыя браты Коласа не захацелі перабірацца на купленую зямлю. Дзядзька Антось мусіў прадаць гэту зямлю. Пасля гэтага дзядзька мусіў узяць у арэнду ў князя Радзівіла так званую “пустошную зямлю”. Зямля гэта складалася амаль з трыццаці кавалкаў, якія перамешваліся паміж сялянскіх палосак. Самы большы кавалак гэтай зямлі носіць назву Смольня. У гэту Смольню і прыйшоў Якуб Колас пасля астрога. Тут жыву я і цяпер. Жыву ўжо 60 гадоў і ў гэтай жа хаце, дзе жыў некалі Колас. Агульны лік гэтай зямлі складаў 48 га. У часе польскай акупацыі, пасля смерці дзядзькі Антося ў 1918 годзе, я быў змушаны купляць гэту зямлю па 30 пудоў жыта за 1 га. Вось кароткі адказ. Прабачце, бачу, як праз палатно. Пішу амаль на памяць. Баляць вочы. Жадаю дабра.

З павагай

*Іосіф Міцкевіч.*

Адсылаю на памяць фотакарткі. Ёсць многа фотакартак, а вось якой трэба — няма» (вопіс 1, № 45).

Ліст я перадрукаваў з захаваннем усіх сінтаксічных знакаў, арфаграфіі, лексікі. Здзіўляе, што прайшло больш за 60 гадоў,

як вучыўся дзядзька Юзік у пачатковай школе, але ягонай пісьменнасці мог бы пазайздросціць іншы студэнт.

Лічу, што гэты ліст, як і тысячы іншых экспанатаў нашага музея, мае велізарнае літаратуразнаўчае, гістарычнае і коласазнаўчае значэнне. Вось з такіх крупінак, якія сёння сталі гіганцкімі мармуровымі плітамі, узведзены наш музей, а ягоныя стваральнікі — колішнія вясковыя дзеткі. Жорстка абышоўся лёс з Алесем Рыжком. Ён займаў такую пасаду, што нават старшыні калгасаў ездзілі да яго на паклон. Сёння ён інвалід па стану здароўя, адышлі тыя сябры, што кляліся ў вечным братэрстве, а вось у Гудзевіцкім музеі на кожнай экскурсіі гучыць прозвішча Сашы Рыжка. Пачулі пра яго больш за 100 000 наведвальнікаў Гудзевіцкага музея. Яно, прозвішча Сашы Рыжка, стала неўміручым. Пра іншыя ягоныя заслугі перад Беларуссю скажу ніжэй, а цяпер вернемся да дзядзькі Юзіка.

Мне асабіста пашчасціла сустракацца з дзядзькам Юзікам, і не проста, а разам з ім частавацца. Тады я пытаўся ў яго:

— У падручніку па беларускай літаратуры па «Новай зямлі» аўтар робіць выснову: «Селянін пры царызме не мог выблытацца ад панскай залежнасці». Ці праўда гэта?

— Так, мы, сяляне, асабліва беззямельныя і малазямельныя, вельмі залежалі ад пана, аднак мы мелі магчымасць браць панскую зямлю ў арэнду, а пазней паступова выкупляць яе. Я меў 48 гектараў малаўраджайнай зямлі, аднак я ўжо ад пана амаль не залежаў і нізка кланяўся пану Радзівілу не са страху, а таму, што яму быў удзячны за ўсё тое, што ён зрабіў для нашай сям'і. Іншая справа, што той лад дазваляў аднаму валодаць тысячамі гектараў зямелькі, а другі не меў нават некалькіх гектараў, але ж і сёння адзін на «Волзе» катаецца, а другі з хворымі нагамі амаль паўзком рухаецца па дарозе, бо Бог няроўна дзеліць. Так было, так і будзе. Задача ўрада ў тым, каб абяздолены мог жыць па-чалавечы.

Дзядзька Юзік і ягоная жонка ўспамінаюць, што калі ганялі плыты ў Прусію, то часта спыняліся на начлег у Мастах. Тады

гэта была вёска. Абое абяцалі прыехаць да нас у госці, аднак гэтаму не суджана было здзейсніцца.

Памятаю, напачатку 1990-х гадоў прыйшоў да мяне былы вучань Міхась ды кажа, што паступае завочна вучыцца, а заўтра будзе першы экзамен.

— Дапамажыце мне добра напісаць сачыненне. Праз тры гадзіны я павінен ехаць у Гродна.

— Як жа я дапамагу табе за тры гадзіны? — забедаваў я. — Часта на экзаменах даюцца сачыненні па «Новай зямлі». Тэмы бываюць такія: «Вобраз Міхала», «Вобраз Антося», «Вобразы сялян у паэме “Новая зямля”», «Побыт сялян у паэме “Новая зямля”». У Гродне сёння з падручніка паўтары названыя тэмы. Успомні тое, што вучылі на памяць, падрыхтуй некалькі цытат ды зараз жа напішы з паўстаронкі ці больш пра перапіску Сашы Рыжка з дзядзькам Юзікам. Там, дзе не ведаеш, які паставіць знак прыпынку, раздзялі складаны сказ на некалькі простых. Не ўпэўнены, ці правільна напісаў, — замяні іншым словам ці сказам або зусім пра гэта не пішы. Падрыхтуй іншыя тэмы, хоць пачытай па падручніку. Могуць быць тэмы «Патрыятычная лірыка Максіма Багдановіча», «Беларускія пісьменнікі пра родную мову».

Міхась пісаў на тэму «Беларускае сялянства ў паэме “Новая зямля”». Атрымаў 4/5. Сачыненне насілі па кафедры, па аўдыторыях: экзаменатару вельмі спадабалася спасылка на ліст Сашы Рыжка. Нашы выпускнікі нават пры адказах спасылаюцца на гэты ліст — і гэта падабаецца настаўнікам, бо школьнік ці студэнт не паўтарае завучанае з падручніка, а выкарыстоўвае сваё, з роднай школы. Дзясяткі, а магчыма, і сотні вучняў, студэнтаў удзячны Алесю Рыжку, што той у 1971 годзе напісаў ліст да дзядзькі Юзіка.

Варта было б напісаць пра іншыя лісты да Сашы Рыжка, пра тое, як ён, Саша Лявусік, Тадзік Багдан, Міхась і Мікалай Белакозы і іншыя не толькі сабралі шэраг экспанатаў для Гудзевіцкага музея, але ў 1980 годзе з сабраных раней экспанатаў

абставілі старажытнай сялянскай мэбляй хату-музей канца XVIII стагоддзя.

Або такое: у пачатку 1970-х гадоў я даведаўся, што ў брата Міхася Явара Васіля ёсць буфет, які ўласнаручна ў 1932 годзе зрабіў Міхась Явар. Знайшлі брата, а ён кажа:

— Купіце ўзамен шафу або дайце 110 рублёў.

Тады музей ствараўся выключна з беднага сямейнага бюджэту, і я не мог зноў і зноў аддаваць месячную зарплату, каб набыць адзін, хоць і вельмі важны, экспанат.

У пачатку 1980-х гадоў Саша ўзначальваў брыгаду электрыкаў, якая вяла высакавольтныя лініі. У гэтай брыгадзе працаваў мой сын Мікалай. Пад вечар пад'язджае грузавая машына. Саша Рыжко і Мікалай Белакоз з кузава асцярожна здымаюць шафку і паведамляюць:

— Гэтую шафку ў 1932 годзе зрабіў Міхась Явар.

Гэта быў буфет, але ніжнюю частку з'еў шашаль.

— Як вы здабылі гэты каштоўны экспанат? Я яшчэ ў 1970 годзе хацеў выжабраваць гэтую шафку для музея, аднак не меў столькі грошай, каб набыць яе.

— Мы ў Горадні знайшлі сына Васіля Карася, роднага брата Міхася Карася-Явара. Ён перакапаў матулю, жонку Васіля, каб яна дазволіла забраць для Гудзевіцкага музея гэты экспанат, зроблены Міхасём Яварам. Нам сказалі, што цётка Ганна на ферме.

— Пачакайце, пачакайце! Як гэта вы забралі машыну прадпрыемства электралініяў Гродзенскага раёна, кінулі працу ды катаецеся па вобласці?

— Нашы напарнікі пасля п'янкі прыхварэлі. Нам удвух нацягваць электралініі цяжкавата. Мы і вырашылі, каб дзень не прапаў дарма, зрабіць добрую справу. Заехалі мы на ферму, а цётка Ганна кажа, што ёй трэба для цялят накасіць падкормкі, а тады накарміць іх, і толькі пасля гэтага яна можа ехаць з намі па шафку. Мы ўзяліся касіць. Цётка Ганна захацела, каб падкормкі хапіла на некалькі дзён, дык касілі мы да абеду. Павазілі падкормку ды просім ахвярадаўцу ехаць па шафку. «Што вы, хлопчыкі, жартуеце? Я яшчэ цялят не паіла малаком». Напаілі мы цялят.

«О, цяпер паедзем», — кажа цётка. Паехалі, пагрузілі шафку ды ў Гудзевічы. «Хлопцы, ужо сонца заходзіць, а вы нават не абедалі. Зойдзем у хату, павячэраем, я вам на дарогу дам рублёў з 20, тады і паедзеце». Мы адказалі: «Вы хіба жартуеце? Нас у Гродне, магчыма, з міліцыяй шукаюць. А грошы ў нас ёсць». Так і не зайшлі, галодныя ў Гродна паехалі.

А шафка Міхася Явара ў трэцяй зале літаратурнага аддзела займае цэнтральнае месца і цяпер. Відаць, што рабіў яе не сталяр, а паэт: тут у промнях узыходзячага сонца выпуклая пяціканцовая зорка: пасля разгрому польскімі ўладамі Грамады многія нашы мясцовыя камуністы працягвалі патрыятычную дзейнасць.

У 1981 годзе інспектар пажарнай аховы Заяц аб’явіў, што ён вымушаны будзе штрафаваць мяне за тое, што аголеныя электрычныя правады нацягнуты над хатай-музеем, якая накрыта саломай. Капітан Заяц павінен быў аштрафаваць адразу, але ён цешыўся, што мы здабылі такую старажытную хату аж XVIII стагоддзя, і адносіўся да нас добразычліва. Я яму паабяцаў, што нацягнем над хатай ізаляваныя правады. У калгасе такіх правадоў не было. Інжынер-будаўнік не спяшаўся шукаць іх, а спадар Заяц настойваў:

— Або нацягвайце ізаляваныя правады, або разбурайце хату.

Даведаўся пра нашу бяду Саша Рыжко. Ён дастаў 300 метраў ізаляванага дзесяціміліметровага кабелю і ў халодны ветраны дзень (мароз быў 17 градусаў) з Мікалаем Белакозам да ночы нацягнулі ўсе чатыры правады. Хлопцы пачарнелі ад холаду, папрымарожвалі рукі, але працу зрабілі выдатна.

— Сёння субота, пойдзем, хлопцы, павячэраем, сагрэемся крыху, бо ад сённяшняга перахалоджання можна дастаць запаленне лёгкіх.

— Хіба ж мы за плату так шчыравалі? Вы і так на кожным кроку выкладваеце свае грошы. Дык няхай і мы крыху дапаможам.

З таго часу прайшло амаль чвэрць стагоддзя, а Саша і да сёння ніколі не зайшоў у нашу хату: баіцца, каб не пачаставаў. Я заўсёды адчуваю сябе вінаватым перад ім, перад сотнямі іншых

людзей, якія дарам, часта хаваючыся, укладвалі сваю працу і сродкі, каб дапамагчы ў стварэнні Гудзевіцкага музея. Добрым словам успамінаю Міхася Янушчыка, Пятра і Зміцера Іваноўскіх, Івана Зубко, Веру Белакоз, Яўгена Куліка, Міколу Купаву, Аляксея Марачкіна, Зоську Верас, Юлію Бібілу, Ларысу Геніюш, Уладзіміра Вашко, Марыну Камінскую, Мікалая Белакоза, Веру Іваноўскую і яшчэ каля дзвюх тысяч вучняў, калгаснікаў, пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, артыстаў, вучоных… Калі б гэтыя святыя людзі сталі ў калону па два, то было б некалькі кіламетраў.

У 1984 годзе нам трэба адчыняць залу рамёстваў. Як жа не паказаць нашых мясцовых ветракоў, якія ўсе былі спалены казакамі ў 1915 годзе. У радыусе нейкіх двух кіламетраў ад Гудзевічаў было шэсць ветракоў. Паміж Ляткамі і Гудзевічамі дзень і ноч малолі збожжа два ветракі, якія стаялі побач.

— Саша, — звярнуўся я да Рыжка, — намалюй нашы ляткоўскія ветракі: яны ж стаялі за нейкіх 500 метраў ад нашага музея. Як іх не паказаць!

— Алесь Мікалаевіч, не ўмею я маляваць.

— Саша, трэба, каб засталася памяць, што яны былі тут: гэта ж наша мінуўшчына. Разумею цябе, але мастакі не могуць намаляваць нашых ветракоў: для іх яны чужыя. Паспрабуй, можа, і атрымаецца.

Я ў мастацтве не разбіраюся, але мне найбольш спадабаўся абраз Сашы Рыжка. Ён яшчэ ў 1984 годзе змешчаны ў зале рамёстваў і займае тут пачэснае месца.

Не меў Саша гуашы ці акварэлі, тым больш алейных фарбаў. Былі ў яго толькі каляровыя алоўкі. Ён тут паказаў сялянскія палоскі, маладзенькі беразнячок, таўшчэзную вярбу, сенажаць і рэчачку Бурчак, якую сёння чыноўнікі называюць «Гудевкой». А між іншым назва Бурчак гістарычная. На гэтай маленькай рэчачцы ў XVIII–XIX стагоддзях быў вадзяны млын, у якім малолі жыта не толькі на хлеб, але часта ў млынскія жорны-камяні пападала буйная пшанічка. Малолі яе мякка, прасявалі

праз сіта, і атрымліваліся з гэтай мукі такія пірагі, як сёння з вышэйшага гатунку. Кажуць, што майстар млынарства Піліп Ваўчок так умеў змалоць ячмень, крыху падняўшы камяні, што пасля апалання атрымліваліся першагатунковыя крупы ці куцця. А якія крупы ды муку вырабляў з грыкі дзядуля Піліп! І грычаная каша, і аладкі-грычанікі матулі пяклі такія смачныя, што апісаць гэта амаль немагчыма. Я ў дзяцінстве часта ласаваўся такімі грычанікамі: і крупы, і муку з грыкі матуля малола ў жорнах. Укусіш такую аладку — смаката неапісальная, а яна растае ў роце. Чаму цяпер нельга купіць грычанай мукі — не разумею. Ракеты ўмеем рабіць, а як змалоць грыку, забыліся і ўспомніць не можам.

Дык там, дзе стаяў вадзяны млын, засталася плаціна з вялікіх камянёў. Каменная сцяна паступова разбуралася, а камяні перагароджвалі рэчышча ракі, якая, прарываючыся праз перашкоду, галасна бурчэла. Таму і Бурчак, а не «Гудевка».

І гэтую рэчачку Саша паказаў на сваёй карціне. Як я яму ўдзячны!

Яны, Сашы, Міколкі, Верачкі, Ганначкі, Лёдзечкі, Міхаські, Людачкі, Валечкі, Віцечкі, Тадзікі, Волечкі і іншыя, стварылі Гудзевіцкі дзяржаўны літаратурна-краязнаўчы музей, які сёння мае пятнаццаць экспазіцыйных залаў, тры фондавыя, тры дапаможныя.

Нізка схіляю галаву перад табой, Саша Рыжко, бо ты і ёсць заснавальнік, стваральнік і абаронца фенаменальнага Гудзевіцкага музея. Вялікі табе дзякуй, дарагі дружа!

***2005***

## АДКАЗЫ НА ПЫТАННІ «РАДЫЁ СВАБОДА»

— *Што для Вас свабода?*

— Для мяне свабода — гэта магчымасць рабіць усё, што патрэбна для Беларусі.

— *Што найбольш абмяжоўвае Вашу свабоду?*

— Маю свабоду абмяжоўваюць нахабная паланізацыя і русіфікацыя мае Беларусі.

— *Што для Вас шчасце?*

— Для мяне шчасце — гэта працаваць для Беларусі, рабіць людзям дабро.

— *Чаго Вы найбольш баіцеся?*

— Найбольш баюся паланізацыі і русіфікацыі роднага краю, бо гэта забойства беларускага народа, гэта крымінальнае злачынства.

— *Які талент Вы хацелі б мець?*

— Я хацеў бы мець магутны пісьменніцкі талент, каб даць народу «такой вадзіцы ды з такой крыніцы, што як хто нап'ецца, дык вольным стаецца…».

— *Кім з сучаснікаў Вы захапляецеся?*

— Захапляюся Алесем Астроўскім, Радзімам Гарэцкім, Нілам Гілевічам і многімі іншымі.

— *Што Вы найбольш любіце рабіць?*

— Найбольш люблю апісваць жыццё патрыётаў свайго рэгіёну, невядомых людзей-патрыётаў…

— *Калі б можна было пражыць жыццё яшчэ раз, што б Вы змянілі?*

— Ствараючы музей, выхоўваючы патрыётаў, дзейнічаў бы асцярожней, згадзіўся б на настойлівую прапанову кіраўніцтва стаць дырэктарам Гудзевіцкай сярэдняй школы, бо дырэктар школы можа зрабіць для роднай Беларусі больш за настаўніка,

змагаўся б са сваёй беларускай сціпласцю не лезці наперад, а заставацца ўсярэдзінцы. Мы, беларусы, свядома аддаём кіруючыя пасады рознай навалачы, а пасля крыўдуем, што нас прыгнятаюць акупанты з усходу і захаду.

— *Якую найлепшую параду Вы атрымалі?*

— Найлепшыя парады я атрымліваў ад экскурсантаў. Прыязджае экскурсія з якой-небудзь школы і вітаюцца: «Здравствуйте! Мы приехали посмотреть ваш музей». А калі ад’язджаюць, то кажуць: «Да пабачэння! Мы не думалі, што ў Беларусі ёсць такі цікавы музей! Дзякуй вам! Мы прыедзем яшчэ раз!» Вось яны і былі маімі найлепшымі дарадчыкамі, бо за нейкія 2–3 гадзіны яны загаварылі па-беларуску. Значыць, тое, што я раблю, дае плён, яно патрэбна людзям.

— *Які Ваш улюбёны дэвіз?*

— Мой дэвіз пра усё жыццё адзін — УСЁ ДЛЯ БЕЛАРУСІ!

— *У якой палітычнай сістэме Вы хацелі б жыць?*

— Хацеў бы жыць у любой палітычнай сістэме, у якой ухваляўся б беларускі патрыятызм, дабрыня, праўда.

— *У якой краіне Вы хацелі б жыць?*

— Патрыёты не выязджаюць у Амерыку. Яны імкнуцца Беларусь зрабіць Амерыкай.

— *У якую эпоху Вы хацелі б жыць?*

— Як і кожны чалавек, хачу паглядзець, што будзе, але мне ідзе дзявяты дзясятак. Гэта й добра — дажыць да такога веку. Каб быў старэйшым, то ў маладосці падтрымліваў бы бальшавікоў, а пазней змагаўся б з імі, вёў бы барацьбу з польскай акупацыяй, з савецкай русіфікацыяй, з нямецкімі расстрэламі. У любы іншы час мяне знішчылі б. Пакуль мая эпоха для мяне была найбольш спрыяльнай.

— *Калі б Вы сталі кіраўніком Беларусі, што б зрабілі найперш?*

— Калі б я стаў кіраўніком Беларусі, то зрабіў бы тое, чаго патрабаваў 14 траўня 1965 года са сцэны актавай залі Саюза

пісьменнікаў БССР на сустрэчы ўсіх кіраўнікоў раённых секцый беларускай мовы і літаратуры з 46 пісьменнікамі Беларусі і студэнтамі Мінска. Ганаруся, што названую сустрэчу арганізаваў я. Тады я патрабаваў, каб 80% школ у Беларусі былі беларускімі, кааб усе вышэйшыя і спецыяльныя навучальныя ўстановы былі беларускія, кааб беларуская мова была адзінай дзяржаўнай мовай у Беларусі. Іван Шамякін, якому Пятрусь Броўка даручыў весці сустрэчу, жахнуўся і закрычаў: «Хопіць! Хопіць! Тушыце святло, паказвайце фільм, сустрэча скончылася». Я лічыў, што кадэбісты там мяне і арыштуюць, але якраз у той час Брэжнеў змяніў Хрушчова і яны не разабраліся, каго трэба арыштоўваць.

— *Якія адносіны Беларусь павінна мець з Еўразвязам?*

— З Еўразвязам мы павінны мець добразычлівыя, але насцярожаныя адносіны, бо Еўропа марыць стварыць магутную Польшчу, якая бараніла б іх ад расейскага мядзведзя, а таму яна можа ахвяраваць інтарэсамі Беларусі, Украіны і нават Прыбалтыкі ды Чэхіі.

— *Якія адносіны Беларусь павінна мець з Расеяй?*

— З Расеяй мы павінны захоўваць добрасуседскія насцярожаныя адносіны, бо яна стагоддзямі імкнецца праглынуць Беларусь і іншыя суседскія народы. Паводле расейскага меркавання нават праваслаўныя чарнаскурыя ў Афрыцы — расейцы. Мы цягнемся да расейцаў, як да братоў, а яны цягнуцца да нас, як драпежнік да ахвяры.

— *Некаторыя думаюць так: «Хай дыктатура, абы свая». А Вы?*

— Я супраць любой дыктатуры.

— *Калі і як у Беларусі зменіцца ўлада?*

— Я дакладна называў дату, калі разваліцца Савецкі Саюз, а цяпер прадказваць цяжка. Але гэта здарыцца тады, калі канчаткова разваліцца расейская імперыя, бо ўсе імперыі развальваліліся. Здарыцца гэта нечакана, але не надта хутка. На жаль, я да гэтага не дажыву.

*— Калі беларусы загавораць па-беларуску?*

— Беларусы загавораць па-беларуску, калі прэзідэнтам, прэм'ерам, міністрамі, ваяводамі стануць такія беларусы, як Алесь Астроўскі, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч.

*— Што будзе, калі беларусы не загавораць па-беларуску?*

— Беларусы абавязкова загавораць па-беларуску… Беларусь будзе жыць вечна, хоць нас знішчаюць ужо шэсць стагоддзяў.

***7 красавіка 2010 года***

## ЯК ЗАХАВАЎСЯ МУЗЕЙ

Неяк спытаўся ў жонкі:

— Як гэта здарылася, што наш музей у смяротэльным змаганні з камуністычным ладам выжыў, перамог, і цяпер прываблівае да сябе тысячы экскурсантаў, нават часта з іншых краін?

— Я думаю, што нам Бог дапамагаў, — упэўнена адказала Вера Ігнатаўна.

— Я з табою згодзен. Але ж як дапусціла да гэтага партыя камуністаў, якая знішчала ўсё патрыятычнае, беларускае, наша роднае? У той час можна было беспакарана разваліць калгас, не выдаць за працадні ніякай платы, голадам знішчыць мільёны людзей, расстраляць ні ў чым не вінаватых найлепшых, найсумленнейшых, самых працавітых, нават адданых Саветам камуністаў, марыць голадам і цяжкай працай у канцэнтрацыйных ленінска-сталінскіх лагерах смерці дзясяткі мільёнаў працаўнікоў-патрыётаў, пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, настаўнікаў, інжынераў, рабочых, сялян, інтэлігентаў, але дапусціць, каб у школе, кузні «сталінскіх сакалят», з'яўляліся парасткі патрыятызму, ні КДБ, ні мясцовыя ўлады, ні кіраўніцтва «народнай» адукацыі не маглі, бо за гэта расстрэл або турма.

Я моцна задумаўся, як гэта здарылася.

Яшчэ ў 1949 годзе мяне, настаўніка пачатковых класаў Гудзевіцкай сямігадовай школы, вызвалілі з працы за тое, што я на Вялікдзень пайшоў у царкву. Праўда, пазней удалося даказаць,

што я хадзіў у царкву, каб даведацца, хто з вучняў майго класа веруючы, каб весці адпаведную антырэлігійную прапаганду. Загадчыкам Ваўкавыскага РАНА быў былы наш дырэктар школы, нават мой класны кіраўнік. Ён быў чалавек добры, але на данос вымушаны рэагаваць. А тут паступіла ад мяне апраўдальная тлумачальная запіска, і ён палічыў, што гэтага дастаткова, каб вярнуць мяне на працу.

Дык у той змрочны час прыйшла мне ў галаву неразумная думка скончыць жыццё самагубствам. Узяў ружжо (я быў паляўнічым, хоць ніколі не выстраліў ні па зайчыку, ні па лісу, ні па барсуку, бо шкадаваў іх), зарадзіў самым буйным шротам, якім страляюць па ваўках ды мядзведзях ці ласях. У апошні момант, відаць, мой анёл-ахоўнік падкінуў такую думку: «І дурань жа ты, Алесь: быў адзін барацьбіт за незалежнасць Беларусі, і той збіраецца самазнішчыцца. Во радасці будзе бальшавікам. Ты ж можаш зрабіць шмат добрых учынкаў, змагацца з русіфікацыяй і паланізацыяй Беларусі».

Пасля гэтага я лічыў, што маё жыццё належыць не мне, а Беларусі. Ішоў на вялікую рызыку: друкаваў і распаўсюджваў антысавецкія лістоўкі, як мог шкодзіў баяздольнасці Савецкай Арміі, перад вучнямі і настаўнікамі ў замаскаванай форме паказваў імперскую палітыку бальшавікоў, рабіў дробныя дыверсіі, выхоўваў беларускіх патрыётаў, наладзіў перапіску вучняў з беларускімі патрыятычнымі пісьменнікамі, мастакамі, кампазітарамі, дзеячамі Грамады, КПЗБ, выданне школьнага музейнага часопіса «Праменьчык», пачаў ствараць патрыятычны музей, вучыў дзетак прыгожаму пісьменству: напісанню вершаў, нарысаў, абразкоў, артыкулаў, п’ес, рэпартажаў, збіраў з вучнямі фальклор, запісваў звесткі па тапаніміцы, этнаграфіі, праводзіў патрыятычныя літаратурныя і этнаграфічныя вечары, выступаў па гісторыі вёсак перад насельніцтвам, кожны вучань запісваў звесткі з гісторыі свайго роду. Усё гэта ў 1950–1980-х гадах лічылася злачынствам, а я даказваў, што, каб выхаваць з дзіцяці камуніста, патрэбна падрыхтаваць яго да патрыятычнай дзейнасці, выхаваць патрыётам. Рабіў выгляд, што выхоўваю

будаўнікоў камунізму, але КДБ і РАНА разумелі, што мая праца накіравана на развал бальшавіцкага ладу, а таму па маёй персоне за пяць гадоў чатыры разы збіраліся саветы РАНА, справу давялі да суровай вымовы з апошнім папярэджаннем. Уся мая дзейнасць у 1975 годзе была прызнана шкодніцкай, накіраванай супраць савецкай улады. Шчасце, што тады ўжо не садзілі ў турмы, а непакорлівых высылалі з Савецкага Саюза, змяшчалі ў псіхіятрычныя шпіталі, вызвалялі з працы, асуджалі на сходах. Мяне мясцовыя ўлады баяліся вызваляць, бо ведалі, што мяне ў Мінску падтрымліваюць Янка Брыль, Фёдар Янкоўскі, Пімен Панчанка, Уладзімір Караткевіч, Іван Мележ, Максім Танк і многія іншыя. Нават найлепшыя мае былыя сябры ды сваякі на людзях баяліся загаварыць са мной ці нават адказаць на маё прывітанне. Вакол мяне стварылі варожую атмасферу, вакуум, у якім цяжка было выжыць. Двойчы лекар па загаду кадэбістаў выклікаў да мяне псіхіятраў, якія казалі:

— Калі лекар псіхічна хворы, то да пацыента выклікае псіхіятра.

Гэта былі сумленныя людзі. Кадэбісты бясконца дапытвалі, чаму я стаў на шлях варожай дзейнасці, чаму хачу разваліць Савецкі Саюз.

Мушу прызнацца, што вынікі маёй дзейнасці прыносілі мне шмат радасці, бо я бачыў, што большасць вучняў падтрымлівае мае патрыятычныя дзеянні: дзеткі нават на прывітанні настаўнікаў «Здравствуйте» адказвалі «Добры дзень». Хоць выкладчык тлумачыў і пытанні ставіў па-руску, вучні адказвалі па-беларуску. Гэта даводзіла русіфікатараў да шаленства. Усё беларускае ў школе называлі «белокозовщиной».

Толькі адліга другой палавіны 1980-х гадоў прынесла ветрык некаторай свабоды для патрыятычнай дзейнасці, але нават у гэты час інспектары лямантавалі:

— Белакоз у школе стварыў падпольную друкарню і робіць, што хоча…

Аднак пакаранні ў мой адрас перасталі сыпацца бясконцым патокам.

Відаць таму, што маё жыццё ўжо больш за паўстагоддзя належыць не мне, а Беларусі, я, нават хворы на рак, ужо 24 гады змагаюся з гэтым страшным захворваннем і насуперак дыягназам прафесароў-анколагаў жыву, працую і адчуваю сябе шчаслівым, хоць поўнага шчасця ніколі не ведаў, бо мой народ у няволі, ён знішчаецца: русіфікуецца, апалячваецца, забіваецца.

І ўсё ж камуністы знішчылі б і музей, і мяне, але ім у гэтым перашкодзіла Ларыса Геніюш. У 1979 годзе, пасля пахавання Івана Пятровіча Геніюша, я, пасядзеўшы хвілін 15 на памінках, заспяшаўся дахаты, бо мне абавязкова трэба было трапіць назаўтра, у панядзелак, на першы ўрок. Дабег да аўтобуснага прыпынку і паспеў на аўтобус, які ішоў на Гродна, каб дабрацца да Луны. Касірка чамусьці дае білеты праз маю галаву, а мне білета не дае, а пасля аб’яўляе, што білеты скончыліся. Я да аўтобуса. Там кандуктар пускае людзей, але мне не дазволіла зайсці.

— Няма больш месцаў, — заявіла яна.

Кажу касірцы, што з-за яе прадузятасці да мяне я не сеў у аўтобус. Але яна прыязна супакойвае:

— На Гродна хутка мае ісці наступны аўтобус.

Я першы заняў месца каля касы, аднак, калі прыйшоў аўтобус, то касірка зноў абілечвала пасажыраў праз маю галаву, а мне білета не давала. Я пачаў абурацца паводзінамі касіркі, патрабаваць кнігу скаргаў. Тады падышоў малады чалавек у паліто кававага колеру і пастрашыў, што арыштуе мяне за парушэнне грамадскага парадку. На маю скаргу, што касірка чамусьці не дае мне білета, кадэбіст не адрэагаваў. Тады я выйшаў на трасу і хацеў даехаць да Ваўкавыска ці Луны на спадарожных машынах, але кадэбісты пачалі затрымліваць увесь транспарт, які ішоў на Ваўкавыск. Я, прастаяўшы з паўгадзіны на марозе ды ветры, вымушаны быў вяртацца на аўтобусную станцыю. На наступныя аўтобусы касірка мне зноў білета не давала. І толькі позным вечарам, калі ўсе госці з памінак, якія прыйшлі ў касу, пачалі браць білеты, я здолеў разам з усімі дабрацца да Ваўкавыска. Больш аўтобусаў на Гродна не было, і я вымушаны быў мерзнуць да раніцы, каб у пяць гадзін сесці на гарадзенскі аўтобус ды даехаць

да Луны. Тут на марозе ды ветры я вымушана чакаў да сёмай гадзіны аўтобус «Масты–Семірэнкі», якім даехаў да Гудзевічаў. Дырэктар школы, стукач ды алкаголік, вельмі здзівіўся, што я паспеў на першы ўрок: ён ужо ведаў, што я спазнюся.

Я ўсё гэта выказаў у лісце да Ларысы Геніюш. Відаць, менавіта гэты мой ліст Ларыса Антонаўна паслала Машэраву. Я чакаў новых рэпрэсіяў, аднак на гэты раз чарговага савета РАНА па маёй персоне не арганізавалі, а дырэкцыя школы перастала беспрычынна чапляцца да мяне. Дробныя ўкусы здараліся, але я ўжо навучыўся адбівацца ад іх, і дырэкцыя школы і РАНА нібы забыліся пра маё існаванне. Ужо летам 1979 года Уладзімір Іванавіч Вашко дапамог мне ўгаварыць старшыню калгаса перавезці з Семірэнкаў у Гудзевічы хату XVIII стагоддзя, а ў 1981 годзе, калі стараннем Уладзіміра Іванавіча Вашка ў Гудзевічах была пабудавана новая школа, а будынкі старой былі перададзены музею, пачаўся рамонт залаў для размяшчэння ў іх Гудзевіцкага музея, а ў новым будынку школы мне нават быў выдзелены пакойчык для захавання экспанатаў ды музейнай дзейнасці з вучнямі. Дапамагло тое, што пісала Ларыса Антонаўна Машэраву пра Гудзевічы:

«Яшчэ далучаю Вам ліста, якога ўчора атрымала. Піша гэта настаўнік з Гудзевічаў Гродзенскай вобл., які арганізаваў там добры літаратурна-краязнаўчы музей. Я абяцала дапамагчы яму, але людзі, напалоханыя тымі паховінамі, ужо і пісаць мне баяцца, не толькі дапамагчы. Зноў надзея толькі на Вас. Чалавек гэта разумны, вартасны і цяжка хворы...

Застаюся з глыбокай павагай да Вас і з вераю, што абаім нам дапаможаце.

Ларыса Геніюш. Зэльва, 31.III.1979» (газета «Новы час» («Літаратурная Беларусь») № 12–13 ад 31 снежня 2007 г.).

Я тут напісаў толькі пра невялікую частку тых шляхоў, якімі ўдалося прыйсці да Гудзвіцкага дзяржаўнага літаратурна-краязнаўчага музея. Яны былі надзвычай складаныя і цяжкія.

Мне аднойчы старшыня нашага калгаса Леанід Цітавіч Драбскі ў час сяброўскай гутаркі паведаміў:

— Мне супрацоўнік КДБ «параіў», каб я вам не даваў сотак пад бульбу, сена для каровы, нават саломы на падсціл. Праўда, я не выконваю гэтага загаду, але ёсць людзі, якія напамінаюць мне пра гэта.

Леанід Цітавіч у хуткім часе быў вызвалены з працы без права заставацца ў Гудзевічах. Новы старшыня калгаса да апошніх дзён свайго старшынства рабіў мне свінства за свінствам. Спачатку старшыня калгаса Міхась Стэфанавіч прыхільна ставіўся да маёй дзейнасці і музею дапамагаў. Змяніліся адносіны да мяне пасля таго, як я паскардзіўся Проньку, што ў нашым рэгіёне амаль усе кіруючыя пасады займаюць палякі. А можа, і яму кадэбісты загадалі змяніць адносіны да Белакоза? Дапамога музею амаль спынілася, хоць за гэтым пільна сачыў старшыня выканкама Уладзімір Іванавіч Вашко, а вось да ўсіх маіх асабістых патрэб заўсёды ставіўся адмоўна.

Хату, у якой я жыву, пабудаваў тата ў 1934 годзе. У прымне сцены паабіваныя. Вырашыў я абшыць іх дрэваплітой. Схадзіў на склад, а там дрэвапліты лістоў, можа, з тысячу. Людзі купляюць, грузяць на машыны, на вазы. Папрасіў і я ў Міхася Стэфанавіча прадаць мне чатыры лісты.

— Няма ў нас дрэвапліты, — адказаў старшыня.

— На складзе дрэвапліты процьма, можа, з тысячу лістоў, — запярэчыў я.

— То няхай інжынер сходзіць да вас, памерае, колькі вам патрэбна.

Вядома, інжынер не прыходзіў, і купіў я дрэвапліту праз многа гадоў, калі Проньку вызвалілі з працы. Вось такія і шмат іншыя прыніжэнні даводзілася цярпець дзясяткі гадоў.

Калі пачалася перабудова, а мяне абралі дэпутатам абласнога Савета дэпутатаў, то з усіх бакоў пасыпаліся прапановы дапамогі. Аднак за гады адлігі я не пашыраў музей: калі кожны пачне цягнуць коўдру на сябе, то Беларусі век не выратавацца ад жабрацтва, але калі зноў пачало забівацца ўсё беларускае, я працягваў пашырэнне музея, бо разумеў ягонае выхаваўчае значэнне.

Шчыра дзякую новаму старшыні райвыканкама Аляксандру Уладзіміравічу Апалоніку, які вельмі прыхільна ставіўся да пашырэння беларускасці.

Але наступныя старшыні райвыканкама музею не дапамагалі. Зноў з’явіліся клопаты, перашкоды, пераслед.

Сумленнае жыццё — гэта бясконцая барацьба.

*2010*

# ЗМЕСТ

Аўтар шукае фундатараў на выданне наступных кніг успамінаў.
Тэлефон (801515) 387-87.

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Белакоз** Алесь Мікалаевіч

МУЗЕЙ У ГУДЗЕВІЧАХ

*Гісторыка-краязнаўчыя артыкулы*
*Кніга першая*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Сяргей Чыгрын*
Набор і вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 9.11.2012. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Друк на рызографе.
Ум. друк. арк. 10,5. Ул.-выд. арк. 8,72.
Наклад 113 ас. Зак. 817.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.